УДК 821.161.2-3
ББК 84(4Беи)-44
К33

*Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў
«Кнігарня пісьменніка». Выпуск 74.
Заснаваная ў 2009 годзе.*

**Кеда, А.**

К33 Пра тое, што люблю : кніга прозы / Альжбета Кеда. — Мінск : Кнігазбор, 2016. — 296 с. — (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка» ; вып. 74).
ISBN 978-985-7144-18-1.

Заяўлены ў назве матыў любові праходзіць праз усю кнігу Альжбеты Кеды (Алы Петрушкевіч), гарадзенскай пісьменніцы, кандыдата філалогіі. Гэта любоў да мясцінаў яе дзяцінства і юнацтва, да Гародні, да літаратуры, якая стала сэнсам жыцця, да тых асобаў, што пазначаны талентам.
Адрасавана студэнтам, настаўнікам, выкладчыкам ВНУ, усім аматарам беларускага прыгожага пісьменства.

**УДК 821.161.2-3
ББК 84(4Беи)-44**

**ISBN 978-985-7144-18-1**

# ЧЫТАЮ ЖЫЦЦЁ, ЯК ВЕРШЫ
## ЗАМІЖ УСТУПУ

З назвай маёй роднай вёскі Шчонава, што ў Карэліцкім раёне, з яе невытлумачальнай этымалогіяй мне перагукваецца шмат сэнсаў: шчаслівая навіна, шчырая радасць, шчодрасць і шчымлівы смутак, бо няма ў сённяшнім Шчонаве шчаслівых навінаў, як амаль няма каму шчыра радавацца. Памірае наша вёска, як многія на нашай зямлі. Усё шчыльней засяляецца апошні шчонаўскі прытулак на вялікай гары, што была якраз насупраць хаты — маёй равесніцы, якое ўжо таксама няма. Мо таму заўсёды цягне мяне да вышыняў. Не, не гораў, а ўзвышшаў, такіх, як наша, Наваградскае, між схілаў якога і прымасцілася мая вёска. Мо таму такой каханай сталася Гародня — назаўсёды мой горад, бо тут таксама скрозь вышыні, зрэзы, абрывы. Спадзяюся, што каханне гэтае ўзаемнае.

Прачытала аднойчы: калі б усе людзі былі лютаўскімі рыбамі, то на зямлі не было б вайны. Не бяруся сцвярджаць за ўсіх, але мне (нарадзілася 27.02.1960) стан не тое што вайны, а нават лёгкай канфрантацыі шкодны да невыноснасці. Мэта — дасягнуць гармоніі з сабою і светам, пэўна, і прывяла мяне ў літаратуру, якая стала не толькі прафесіяй (працавала на кафедры беларускай літаратуры Гродзенскага дзяржуніверсітэта імя Янкі Купалы), але і сродкам пазнання свету, і спосабам кантакту з іншымі і з сабою, і гаючым лекам ад крыўдаў, страху, болю.

Першы верш прыйшоў да мяне ў пятым класе. Не памятаю ні аднаго радка, але цудоўна памятаю адчуванне, якім поўнілася маё сэрца. Гэта быў яркі подых вясны, што ўварваўся ў раскрытую насцеж душу дзіцяці і патрабаваў выйсця. А зімы тады былі зімамі! І раптам: ручаі, сонца, на якое ў тым часе магла глядзець і яно не сляпіла мне вочы. Іду са школы і рыфмую, рыфмую. У хаце бяру ліст з альбома, прыгожа запі-

сваю сваю рыфмаванку і малюю вясну. У дзяцінстве нашы таленты багатыя, featured разнабаковыя. Праўда, мама, гледзячы на мае акварэлькі, прарочыць: «Ніякім мастаком ты не будзеш. Я ў дзяцінстве таксама малявала, а пасля пакінула. І ты пакінеш». Збылося. Пра што шкадую. Мне вельмі не хапае ўмення перадаць уяўленне пра свет і сябе яшчэ і фарбамі. Шкадую таксама, што не мела мажлівасці навучыцца танцаваць, хоць у дзяцінстве была лепшай танцоркай між іншых вясковых дзяўчынак. Як і спяваць...

Тры мае школы (пачатковая Шчонаўская — 1967–1970, васьмігадовая Машэвіцкая — 1970–1975, сярэдняя Райцаўская — 1975–1977) далі мне дастаткова ведаў, каб быць першай на беларускім аддзяленні філфаку Гродзенскага дзяржуніверсітэта (1977–1981), дастаткова радасці, шчасця, каб часам думаць: мо ягоны ліміт там і закончыўся, дастаткова болю і здрадаў, каб назаўсёды застацца адзінокай.

Што буду філалагіняй, ніколі не сумнявалася. Мама настаўніца. У вёсцы ў тыя часы гэтая праца была шанаванай. Нават не ўяўляла, што магу абраць нешта іншае. Дакладных навукаў не любіла і баялася як нечага бяздушнага, каменнага, што не давала ніякай прасторы для фантазіі, мрояў, уяўленняў. Да гэтага часу прыходзяць сны жахаў: трэба рашаць кантрольную па матэматыцы ці фізіцы. Затое маю заўсёдную радасць вяртання ў рэальнасць, дзе мяне акружаюць кнігі зусім не з матэматычнымі формуламі.

Па заканчэнні гарадзенскага філфака мела прапанову застацца на кафедры. Адмовілася з дзвюх прычынаў: я ж нічога не ведаю, як буду выкладаць?! Пасля школы мела зусім іншае пачуванне: ведаю ўсё за нейкім невялікім выняткам, без чаго можна і абысціся. І яшчэ было непераадольнае прыцягненне школы, жаданне вучыць дзяцей (тут неяк не думала, што ведаю мала), прыйсці першага верасня ў новую для мяне (абавязкова вясковую) школу, прайсці маміным шляхам. Да сёння не магу без хвалявання чуць першы школьны званок. Амаль восем гадоў працы ў школе былі і намарнымі і змарнаванымі. Тры мае школы: васьмігадовая Амбілеўская ў Шчучынскім раёне (два восеньскія месяцы 1981 г.), васьмігадовая Вялікаслабодская

(1982–1985) і сярэдняя Райцаўская (1985–1989). Далёка не заўсёды мне было там утульна...

Не толькі са мною, але таксама і з маімі трыма братамі здарылася ў жыцці тое, чаго хацела мама. А яна настойліва прарочыла: «Не месца табе ў школе, ты павінна працаваць на кафедры ў універсітэце». Мы вучыліся з ёю ў адной ВНУ ў адным часе. Яна, зразумела, на завочным аддзяленні. Тыя ж выкладчыкі, ад якіх чула пра дачку выключна ўхвальнае. І не хацела мяне зразумець, чаму адмовілася ад прапановы застацца на кафедры. Зрэшты, восем гадоў рэальнай савецкай школы было мне больш чым дастаткова, каб здаволіцца. Мама выправіла мяне ў аспірантуру, узяўшыся даглядаць маю дачушку Сняжану.

Тры гады (1989–1992) аспірантуры пры Інстытуце літаратуры Акадэміі навук — час не проста шчаслівы, час узлётны, творчы, плённы. У Мінску ў Інстытуце паліталогіі (колішняя партыйная школа) вучыўся мой муж. Усе тэатры, кінатэатры былі нашы. У тэатрах не хапала рэпертуару. Не мінала ні адной імпрэзы ў Доме літаратара. Пэўна, гэта быў новы адпушчаны мне ліміт шчасця. З таго часу баюся яго яркага праяўлення, бо тое незразумелае адчуванне радасці жыцця цёплай кветкавай восенню 1991 года, калі так ярка квітнелі астры, цыніі, аксаміткі вакол мамінай хаты, абарвалася несуцешным горам: раптоўна не стала мамы. Яна не дачакалася майго вяртання ў Гародню.

Колькі сябе памятаю, столькі мару. Заўсёды чагосьці чакаю. Сённяшняя мая мара — прыпыніць час. Банальна. Але мне гэта ўдаецца. У двух месцах. У маім кветкавым Раі (лецішча каля лесу непадалёк ад Нёмана з прыгожай назвай Зарыца), калі ў вольную хвіліну ад яго ўдасканалення прыпынюся, убіраючы ў сябе колеры, водары, і моцна трымаю ў руках нітку часу. Адпускаю па сваёй волі. І ў Радоне. Гэта санаторый, дзе бываю штолета, дзе вяртаю сябе на год, гледзячы на ваду, якая заўсёды па маёй волі плыве ў мінулае лета.

Я — гэта суцэльныя супярэчнасці.

Баюся замкнутай прасторы. Мая клаўстрафобія не дазваляе спаць ля сцяны, на другой паліцы плацкартнага вагона, бо

нават у сне пакутую ад таго, што мяне штосьці душыць. Сярод сноў-жахаў — замураваная ў нейкай сцяне, трубе, склепе, дзе нельга паварушыцца. Мо — у магіле? Часам думаю: мо мяне і сапраўды калісьці пахавалі жывой? Баюся паўтору.

І разам з тым страшэнна не люблю прыязджаць хоць куды. Выходзіць з машыны, вагона, аўтобуса, тралейбуса для мяне таксама пакута. Бо трэба пакідаць абжытую прастору, прастору замкнутую. З якой павінна была б прагнуць выйсці пры маёй клаўстрафобіі. Прыязджаць — кудысьці вяртацца — люблю. Але выходзіць з транспарту, якім прыехала, — не.

Страшэнна баюся вышыні. На фізічным узроўні адчуваю, як мяне цягне ўніз. Баюся глядзець з балконаў (уяўляю, як пацягнула зямля Жэню Янішчыц, Юру Гуменюка), чортавага кола (раней, бо зараз — ніякіх чортавых колаў і блізка мне не патрэбна). Больш у мяне вышыняў і не было. Самалёт. Гэта не вышыня. А хуткасць. Ды і гэта было даўно.

Але вельмі люблю ўздымацца на вышыні, глядзець на неба, удалечыню. Зрэшты, пра гэта ёсць эсэ ў кнізе.

Самы ўлюбёны мой сон — лячу над зямлёй. І не баюся ніякай вышыні. І чым вышэй — тым лепей і лягчэй. Усё радзей прыходзіць да мяне гэты сон. Калі раней лётала над дарогамі, лясамі, лугамі, то апошнім часам — над Гародняй. З Савецкага пляца да ўніверсітэта на Ажэшкі. Але не над заўсёды тлумнай цэнтральнай вулкай, а збоку, па Давіда Гарадзенскага, бліжэй да Гараднічанкі. Яшчэ і падумала ў сне: навошта ж я кружу, можна ж было б прасцей.

З дзяцінства марыла жыць або ў лесе (не зусім у лесе, у глыбіні ягонай, а на ўскрайку), або ў горадзе. Колік Велькі, мой старэйшы брат, смяяўся з гэткага полюснага, узаемавыключнага жадання. Зараз так і ёсць. Спадзяюся, і будзе. Жыву ў Гародні і ў лесе, у кветкавым Раі. Але людзей у маім свеце няма ні тут, ні там...

*P. S.* І яшчэ колькі словаў пра назву кнігі. Яна несучасная, нямодная. Бо ў сённяшнім свеце нянавісці і лухты для любові няма месца. Але ў кожным моры ёсць выспы. І ў кожным сэрцы, запоўненым нянавісцю, жыве памяць пра светлае.

# З чаго пачынаецца горад?..

Наша Гародня для многіх пачынаецца з выявы святога Губерта — залатога аленя на блакітным фоне. Найпрыгажэйшае спалучэнне і колераў (нябеснае, шляхетнае, лекавае), і грацыёзных ліній, і высокага сэнсу. І гэта цудоўна: гарадзенцы становяцца сапраўднымі месцічамі, што ведаюць ці імкнуцца ведаць гісторыю каралеўскага места, бо ўжо адчулі сябе нашчадкамі слаўнай даўніны. Як цудоўна і тое, што для кагосьці Гародня пачынаецца з Каложы, да якой упершыню быў прывезены мамай у дзіцячым вазку. А пазней прыходзіў, трымаючыся за яе руку. Калі ж з Каложы — то абавязкова і з каралеўскіх палацаў, і з колішняга тэатра Тызенгаўза, сённяшняга Тэатра лялек. Для кагосьці — з роднай вуліцы і роднага дома, ці то амаль вясковай хаты, ці шыкоўнага асабняка, ці цаглянай або панельнай шпакоўні. Для кагосьці — з імёнаў тых славутых, каго памятаюць вулкі: Давіда Гарадзенскага, Тызенгаўза, Жылібера, Кастуся Каліноўскага, Элізы Ажэшкі, Максіма Багдановіча, Зоські Верас... Для кагосьці — з Нёмана. Для многіх — з універсітэта. А для кагосьці — з усяго гэтага і шмат яшчэ чаго разам. Гэтак было для мяне, пакуль не трапіла ў адначасна і святое, і балюча-пякельнае месца, дзе з'яўляюцца на свет людзі. Яны вырастаюць, і хтосьці стане славутым. Тады з ягонага імя для многіх будзе пачынацца горад. Хтосьці пабудуе палацы, храмы, узвядзе помнікі — і для многіх гэта будзе пачаткам... Таму горад для мяне зараз пачынаецца з раддома.

## Брама

Брама — па сучаснай тэрміналогіі — прыёмны пакой, праз які пакутніца трапляе ў рай, пекла ці ў чысцец. Для тых, чыё дзіцятка ўжо ўзгадавана ў мацярынскім улонні, падрыхтавана, каб прыйсці ў гэты свет, стукаецца і патрабуе, брама раскрываецца даволі хутка. Але, на жаль, вельмі мала сёння ёсць кабетаў, якія не мусяць з'явіцца сюды значна раней, каб

захаваць у сабе не даспелае яшчэ зернейка. Нашы жанчыны гэтак жа хворыя, як і ўсё грамадства.

У ролі Пётры, які адкрывае браму, медсястра ці санітарка. Яны і вырашаюць, быць ці не. Могуць закрыць перад няшчаснай дзверы, бо супраць казённа-жалезнага «месцаў няма!» — што зробіш? Перада мною ж дзверы ледзьве не зачыніліся з-за... беларускай мовы.

Адказваю на казённа-анкетныя пытанні санітаркі. Зрываецца на крык: «Говорите на русском языке!» У адказ: «Чаму я ў Беларусі не павінна гаварыць па-беларуску?» Праявы пагарды і нянавісці да нашай мовы — спрэс. Але не думала, што і ў раддоме давядзецца сустрэць вялікадзяржаўную расейскую шавіністку з тутэйшых. З нянавісцю гледзячы на мяне, яна выпаліла: «А мы вас не положим. У нас — мест нету!» І тут жа вывела на маім накіраванні прысуд: «Отказать». Медсястра, якая прачытала гэтую паперу, запярэчыла: «Тут гэткі дыягназ, што да хаты не дойдзе, дзіця страціць. Тады мы вінаватыя будзем. Паклічам доктара. Хай робіць, што хоча...».

## Дактары

Гэта быў першы доктар, з якім давялося сустрэцца тут. Для мяне і майго дзіцятка — праўдзівы анёл-выратавальнік. Яшчэ зусім малады чалавек, а ў руках ягоных — столькі адратаваных жыццяў. Загадаў адразу ж пакласці мяне ў радзільную залу. Месцаў у палатах і сапраўды не было.

Дактары ў радзільным доме — гэта людзі, далучаныя да найвышэйшай таямніцы: прыходу ў гэты свет дзіцяці. Таму, пэўна, усе яны пазначаны нейкай незвычайнай пячаткай. Усе надзвычай прыгожыя. Ад твараў і постацяў жанчынаў не адвесці вачэй. Упэўнена: гэта эліта лекарскага складу ўсяго нашага горада. Высокаадукаваныя спецыялісты. Але ў кожным з іх маецца нешта, што нельга атрымаць толькі праз адукацыю. Сапраўдны талент, што дапамагае прадказаць, адчуць. Пачуццёвыя камп’ютары ў кончыку кожнага пальца. Тут нельга быць інакшым: надта ж сур’ёзную справу даводзіцца рабіць штодня, штогадзіны. І ў гэтай справе — заўсёды рызыка, бо

часам нават самыя дасканалыя веды і дзеянні не здольны адхіліць наканаванае...

Ахвярнасць іх у працы здзіўляе і захапляе. Часам у гэтых, на першы погляд, кволых і далікатных кабетаў з'яўляецца такая сіла, што мяжуе з чымсьці нерэальным. Калі доктар, бачачы крывавыя пакуты рожаніцы, хапае яе на рукі і сама бягом імчыць у радзільную залу, не чакаючы на дапамогу санітарак, — хіба гэта не цуд? У звычайным стане яна проста не змагла б падняць такую вагу. Жанчыны моляцца на сваіх дактароў. Як гэта хараша, калі і сярод іх сустракаеш шчырых вернікаў, што перад кожнай важнай справай просяць дапамогі ва Усявышняга, бо — усё ў Ягоных руках.

І як жа недарэчна тое, што паважаная, надзвычай высокага класу доктар, што шмат гадоў працавала за мяжой, маючы сапраўды залатыя рукі, вымушана браць начныя дзяжурствы...

## Сёстры міласэрныя і санітаркі

Зрэшты, гэты назоў — сёстры міласэрныя — не ўжываецца сёння. А дарэмна. Складанаскарочанае — медсястра — не мае таго высокага сэнсу, што патрабуецца ад людзей гэтай прафесіі. Быць сястрой кожнаму, каму баліць. І не толькі прафесійна дапамагчы, але і ад усяго сэрца дарыць міласць і спагаду. Са стратай гэтага тэрміна страціўся і сэнс. Невыразныя, усе на адзін твар, нават згадаць кагосьці цяжка. Адшліфаванымі рухамі ўстаўляюць у вены іголкі кропельніцаў, шпіляюць уколы быццам не ў жывое цела, якому ж — баліць. Дарэчы, у якім бы стане ні была жанчына, мусіць ісці на пост і стаяць у чарзе па той укол. Гэтак я, стоячы пад дзвярмі, звалілася на падлогу, страціўшы прытомнасць, бо чамусьці рэзка ўпаў ціск.

Не, яны зусім не дрэнныя. Яны проста абыякавыя. Часам жанчына ўсю ночку ходзіць па калідоры і крычыць ад болю, а медсястра не падыдзе да яе. Няўжо можа спаць? Зрэшты, гэтыя жанчыны крычаць ледзьве не кожную ноч. Дзе на ўсіх набярэшся міласці? Напэўна, так яны думаюць.

Усеагульная нястача захапіла і раддом. Уколы, кропельніцы — усё гэта мусіш мець сваё. У той страшны вечар мне

якраз неабходны былі кропельніцы. У дзяжурнай аптэцы, на Ажэшкі, не аказалася, адзіная ж, на Фолюшы, дзе былі, зачынялася праз 15 хвілінаў. Як муж паспеў туды, цяжка ўявіць. Для яго не існавала ні святлафораў, ні паставых, ні слізкай зімовай дарогі...

Дык вось, першую выратавальную кропельніцу медсястра паставіла ўдала, з другой амаль усё лякарства вылілася на падлогу. І ёй зусім не было сорамна...

Санітаркі — добрыя вясковыя бабулі. Усіх шкадуюць, усім спачуваюць. Вучаць, як прасцей, лягчэй даваць сабе рады ў такім стане. Набожныя і прымхлівыя адначасна. Любяць пагаварыць, згадаць мінулае. Многія не забыліся сваёй мовы. Так і не перавучыліся на манерна-гарадскіх.

Санітарка замывае на калідоры крывавы след і прычытае: «Бедная, крывёю сцякае... А ён, такі-сякі, скажа — сука, б...».

## «Д-е-е-во-о-очки, у-у-жи-и-на-а-ть!..»

Уявіце сабе, як гэта гучыць, калі голас — як у народнай спявачкі, зычны, выразны і адначасна пяшчотны. Гэткі голас у раддоме мае толькі адна з гаспадыняў сталоўкі, кабета незвычайнай дабрыні. Ніхто з пацыентак, зразумела, не прэтэндуе ў раддоме на нейкія далікатэсы. Лёгкія кашы — зусім нядрэнная ежа. Але чаму б не прыправіць іх такім задушэўным, мяккім, хатнім (мамы ці сястры) воклічам? Чаму б гаспадыням у іншых сталоўках, на іншых паверхах не навучыцца дабрыні ў той жанчыны, чый голас чуваць нават на вуліцы?..

## Кнігі

І медсёстры, і кабеты ў раддоме шмат чытаюць. Звычайна гэта кнігі ў сучасным крыклівым афармленні без сур’ёзнага зместу, затое з займальным сюжэтам. Мыльныя оперы, тыя ж серыялы, толькі на паперы. Глытаюць гэтыя кнігі, як атруту ў салодкіх абгортках. Літаральна за дзень. Бегаюць у пошуках новых, такіх жа. Тады я якраз пісала пра кветкі Ларысы Антонаўны. Таму на тумбачцы ляжаў апошні па тым часе збо-

рнік «Белы сон». Уляцеўшы ў палату, чарговая кнігаманка ў белым халаце хапала маю кнігу і звычайна з пагардай адкідала: вершы, дый яшчэ па-беларуску? І таму, калі аднойчы працэдурная медсястра папрасіла ў мяне кнігу, я папярэдзіла: «Гэта вершы на беларускай мове». Як жа мне было дзіўна пачуць: «Мне гэта цікава. Я ведала Ларысу Геніюш».

Тое яе «ведала» было, праўда, не зусім дакладным. Бо была толькі адна выпадковая сустрэча. Але як прыемна і нечакана было пра гэта даведацца...

Ранні зімовы прыцемак. Галаледзіца. Па вуліцы Зэльвы павольна рухаецца паважанага веку жанчына. Ступаць па слізкай дарозе ёй было надта цяжка. Заўсёды зараз уяўляю гэта, калі перачытваю апошні верш Ларысы Геніюш «За вокнамі гасне дзень»:

Няспынны наш кожны рух,
і крок старэчы павольны,
і цемень паўзе наўкруг,
упарта паўзе, няўмольна.

Яе, весела бегучы, абганяе дзяўчынка-падлетак з недалёкай ад Зэльвы вёскі, што па нейкіх справах апынулася ў райцэнтры. Жанчына просіць: «Дзяўчынка, дапамажы мне дайсці да хаты». Калі тая прыводзіць яе да веснічак, чуе: «Запомні мяне. Я — паэтка Ларыса Геніюш».

Гэта было толькі аднойчы. Каля дваццаці гадоў мінула, а пра той выпадак не забылася, узгадала, сустрэўшы кнігу.

Як зразумець тыя словы Ларысы Антонаўны? Пэўна ж, ведала, якой магутнай сілы яе паэзія. Як ведала і тое, што жыве ў рэзервацыі і вершы яе невядомыя беларускаму люду. Яна звярталася не проста да гэтай невядомай дзяўчынкі. Да будучыні Беларусі, у якую верыла:

Ударыць гром, ярмо нявольнік скіне,
Жывы народ падымецца з калень,
Загіну я, ўсё ж край мой не загіне,
Крывіцкі, слаўны рассвітае дзень!

## «Такое жыццё...»

Усё недарэчнае, злое, што ёсць у грамадстве, у той ці іншай ступені прысутнічае і ў раддоме. Брудная лаянка, з-за якой нельга спакойна прайсці па нашых старажытных вулках, чуваць часам і з вуснаў будучых маці...

У палату да суседкі, маёй былой каляжанкі-філалагіні, заходзіць сяброўка, якая лечыцца ў гэтым жа аддзяленні. Размаўляюць. Ледзьве не праз кожнае слова — мат. Стрымаць сябе не магу. Тым болей, што па колькасці гадоў я значна багацейшая. Імкнуся давесці жанчыне, што ўсё гэта ўжо чуе яе дзіцятка, што яна праз колькі дзён стане сапраўднай Мадоннай. Што яна не павінна гэткімі словамі забруджваць сваю мову, бо яна — жанчына, бо ёй —выхоўваць дзіця...

Выслухала. У адказ: «Такое жыццё, таму і гавару гэтак». І стала ўспрымаць мяне як ворага.

А між тым, такому жыццю мы і самі спрыяем.

## Святкуюць

У тым часе, калі спакутаваная маці сплывае болем, бацькі святкуюць нараджэнне нашчадка. Па-featureрознаму. Згодна з традыцыямі. Часцей — з сябрамі і гарэлкай. Калі б толькі яны ведалі, як непакоіцца жанчына, уяўляючы гэтае «свята», то... нават вельмі шануючы яе, усё пакінулі б гэтак жа. І гэтак жа ледзьве не штодня чарговы шчаслівы бацька нападпітку стаіць пад акном і прызнаецца ёй у каханні.

Сцямнела. Пад самыя вокны падкаціла іншамарка. Акно той маці было якраз над нашым. Таму ўвесь спектакль, не хочучы, убачыш. Выйшаў з машыны. Такі шчаслівы! Кліча:

— Танька!

— Чаму ж так позна?

— А мы тут з Сяргеем, Сашам... Я цябе люблю!..

— А я цябе — заб’ю!

І акно зачынілася. Бацька са таварышы з’ехаў дапіваць...

## Сыход і пачатак

Калі яны ўсе разам (шчаслівы бацька з найдаражэйшым пакункам на руках, шчаслівая маці з кветкамі, шчаслівая радня) выходзяць з дзвярэй раддома, падаецца, што ўсё цяжкае, балючае засталося за дзвярыма. Аднак не. Гэта толькі пачатак самай вялікай і адказнай працы, што дадзена людзям, — выгадаваць, выхаваць дзіця. Шчыра радуюся за ўсе тыя сем'і, дзе з'яўленне дзіцяці — найвялікшае шчасце. Шчыра смуткую разам з тымі, хто страціў надзею на гэта. І — з болем думаю пра дзетак, што прыйшлі ў гэты свет, а іх тут — не чакалі...



# У Гародні каштаны цвітуць...

Канец верасня. Восень убіраецца ў сілу. Цудоўны пачатак, не тое што сёлетні летні. Быццам месцамі памяняліся. Сонечна, цёпла. У зман уведзены каштаны: зацвілі. Цуд ці абсурд, што, зрэшты, адно і тое ж, толькі з розным эмацыйна-ацэначным знакам. Поруч з калючымі зялёнымі вожыкамі, у якіх схаваліся бліскучыя гладкія кругляки, — свечкавыя суквецці далікатна-бэзавага колеру. Кветкі каштанаў — дэкарацыя восені. Абсурд, калі змяняецца адведзены лёсам час, калі пачатак суседнічае з канцом, калі завязка пераплятаецца з развязкай. Так і хочацца спытаць разам з паэтам: «*Гэй, хто там знаёмы да болю фільм / з канца пачынае круціць?*» Зрэшты, гэты парадокс цалкам і зусім нецікава вытлумачаны навукоўцамі.

Але — «*пачнём дакапывацца самі...*».

Квецень каштанаў — згадка пра вясну. Насуперак холаду, што ўжо блізка. Але ж — пустацветы. Доля пяшчотным пялёсткам — упасці, ператварыўшыся ў пыл. І па сабе нічога не пакінуць. Не наліцца жывільнай сілай, каб стаць асновай новаму жыццю. Няплодная краса. Гордыя, ганаровыя. Як Багдановічаў Страцім-лебедзь: «*Па ўсіх нашчадкі ёсць, / няма толькі адных Страцімавых*». Мне ж заўсёды гучыць: «Няма толькі адных Максімавых». Кветкі пакараныя будуць за сваю гардыню, бо «шчаслівыя ўбогія духам». Квецень не ў пару — гэта нядобры знак, папярэджанне пра бяду. Навошта зацвілі? На звод? На хаўтуры? Усё прыгожае ў сваім часе. Не да твару паважанага веку пані юнацкія строі.

Але глядзіш на гэты цуд, падымаючы вочы ўгору, і адкідаеш усё нядобрае. Бо ў мроях ляціш услед ці насустрач вясне, што прыйдзе ж, вернецца!



У Гароднi каштаны цвiтуць,
пераблытаўшы верасень з траўнем.
Ў свет адводзяць прывiдны, уяўны.
У Гароднi каштаны цвiтуць.
Вестку добрую людзям нясуць,
ў неба свечкi ўздымаючы спраўна?
У Гароднi каштаны цвiтуць,
пераблытаўшы верасень з траўнем.

. . . . . . . . . . . . . . .
*Верасень 2008 г.*

# Гарадзенскія казкі

## Чаму ў Гародні паміраюць дрэвы

— Ах, якія прыгожыя, далікатныя гэтыя сястрычкі Ліпы! — не пераставалі захапляцца шляхетныя Каштаны на вуліцы Ажэшкі, паглядаючы на юных суседак. А іх пляменнікі, маладыя Каштаны, што жылі праз дарогу, былі безнадзейна закаханымі ў прыгажуняў-сясцёр. Яны ж і насамрэч, красуні, былі заўсёды сумнымі, бо не маглі адвесці вачэй ад ганаровых Ясакараў, што вылучаліся нетутэйшым харастбом між іншых дрэваў і здаўна жылі ля Гараднічанкі ў скверы Жылібера. А тыя, нібы Нарцыс з антычнага міфа, былі закаханымі толькі ў сябе.

Няшчасце прыйшло нечакана. Няшчасце прынеслі людзі.

Загудзелі, заскрыгаталі пілы, прагна ўпіліся ў жывыя, дасканала прыгожыя целы. З глухім гулам упалі Ясакары, зашапацеўшы галінамі. Іх вочы ўпершыню глянулі ў вочы маладзенькіх Ліпаў, угледзелі ў іх тое, чаго ніколі не зведалі ў жыцці, — вялікае, шчырае, пяшчотнае каханне, якое — не памірае, бо як жа не верыць Караткевічу: ён ведаў пра каханне ўсё:

Калі памірае каханне... Але каханне не памірае.
Яно вечна застаецца ў грудзях лікуючай тугою слоў,
Безнадзейным болем і непатольнай пяшчотай,
Калі нічым не дапаможаш, хаця сэрца аб зоры разбі.

Каханне не памірае. Паміраюць ад кахання. Крывавым болем напоўніліся сэрцы маладых Ліпаў. Нядоўга пражылі яны сваіх каханых. Прастаялі змрочную гарадзенскую зіму, застыўшы ў скрусе, каб так і не прачнуцца вясной, засталіся хмурнымі і чорнымі. І маладыя Каштаны, якія ўжо пачалі былі выпускаць да жыцця са сваіх галінаў зялёныя лісточкі, засохлі ад нечаканай страты...

Чорныя-чорныя дрэвы, што цягнуць у неба мёртвыя галіны на вуліцы Ажэшкі ў Гародні, — гэта ахвяры страчанага кахання, гэта і папрок людской жорсткасці. Іх пакуль не ссеклі. Людзі занятыя іншым вынішчэннем...

*14–15 чэрвеня 2007 г.*

## Сто крокаў па пунсовых кроплях

Ніхто не ведаў, адкуль Ён з‘явіўся ў Гародні. Ды і ведаць асабліва не хацеў ніхто, бо кожны быў стомлены змрочнай зімой, незразумелай вясной і раптоўнай спякотай. Ён з’явіўся напрыканцы траўня, калі яшчэ пышна красавалі каштаны. Зрэдку гарадзенцы звярталі ўвагу на Ягоныя нетутэйшыя строі, белую льняную хламіду, акаймаваную чырвонай вышыўкай. Але ніхто і ніколі не глянуў у Ягоныя вочы, а яны выпраменьвалі такую глыбокую пяшчоту, такую шчырую цікавасць да ўсіх, хто ішоў насустрач...

Аднойчы яшчэ здалёку Ён угледзеў каля педагагічнага каледжа (ведаў гэты будынак, бо адсюль звычайна пачынаў свой шлях па старым месце) юную паненку. Незвычайнай падалася яму гэтая дзяўчынка. І Ён зразумеў: менавіта яе шукаў, дзеля яе з’явіўся тут. Гарадзенцы ніколі б не заўважылі гэтую зусім звычайную дзяўчыну, па тутэйшых мерках, зусім непрыгожую, занадта сціплую, каб спыняць позіркі гарадзенцаў. Але ж Ён гарадзенцам не быў. Бачыў, як слёзы, бы празрыстыя пярлінкі, спадалі з доўгіх вейкаў, цяклі па твары ручаінкамі, падалі і знікалі. Прычына была вельмі простай: юная віяланчэлістка чарговы раз не здала залік. Як ёй здавалася, несправядліва. Ім заўжды так здаецца...

Ён не ведаў пра гэта. Як не ведаў, што здарылася з ім самім. Але здагадаўся: той шалёны стук сэрца, якое хоча вырвацца з грудзей, і гарачыня, што запоўніла ўсяго, — гэта і ёсць каханне — тое загадкавае пачуццё, пра якое, па парадзе Настаўніка, які калісьці сам прызямляўся ў Гародні, чытаў у вершах Караткевіча, калі збіраўся на гэтую зямлю. Ён не ўмеў гаварыць пра каханне, падышоў і... хіба ўпершыню гэтыя вуліцы пачулі такое палымянае, Караткевічава:

О каханне маё бясконцае,
Не ўцякай ад мяне, пашкадуй!
За табой, як за светлым сонцам,
Па штодзённай дрыгве іду.

Слёзы перасталі сыпацца з вачэй дзяўчынкі. Здзіўленая, збянтэжаная, яна быццам знямела на імгненне, глянула ў

Ягоныя вочы, чамусьці вельмі спалохалася, павярнулася і хутка знікла.

Штодня Ён прыходзіў да каледжа, чакаў яе, бачыў у гуртку гэткіх жа юных паненак. Відавочна, яна ўнікала сустрэчы з ім. Чаму?.. І Ён таксама баяўся падысці да яе, баяўся зноў убачыць страх у ейных вачох.

І ўрэшце, якое шчасце! Яна з явілася адна і ціха прашаптала: «Сёння апоўначы тут...». Гэта быў самы шчаслівы дзень у ягоным зямным жыцці. Ягоны апошні дзень у Гародні. Шчаслівы, Ён не задумваўся нават, чаму такі незвычайны час абраны ёю. А зрэшты, Ён і не ведаў, калі прызначаюць спатканні. Затое ведаў: трэба набыць кветкі. Грошай у Яго не было. Доўга стаяў каля вазаў з ружамі на Рынку (гарадзенцы чамусьці назвалі цэнтральны пляц Савецкім). І калі дзяўчына-кветніца пачала збіраць свой тавар, з надзеяй гледзячы ёй у вочы, папрасіў: «Шаноўная пані, ці не маглі б Вы падараваць мне адну ружу? На жаль, я не маю чым заплаціць». Не так часта гарадзенскіх гандляркаў называюць пані. Відаць, штосьці было ў гэтай нясмелай просьбе, бо яна без словаў літасціва падала, як яму падалося, самую вялікую, самую прыгожую, самую пунсовую ружу. Ён і не здагадваўся, што гэты дзень быў апошнім і для ружавай кветкі...

Яна з‘явілася апоўначы. Злосна глянуўшы ў твар (не ў вочы), прашыпела: «Чаго ты ходзіш сюды? Мне сорамна, з мяне смяюцца, не хачу, каб хоць хто ўбачыў нас. Знікні! Назаўсёды!..»

І знікла. І знікла шчасце. А каханне, якое жыло ў ім, як і ружа для яе, пачалі аблятаць пунсовымі пялёсткамі. Яму здалося, што ружа памірае ад кахання. А яна была проста безнадзейнай, якімі часта бываюць кветкі ў гарадзенскіх гандляркаў. Ён нават не зразумеў, што здарылася з ім. Адчуў толькі страшэнны боль. А гэта сэрца Ягонае не вытрывала, разарвалася ад нясцерпнай пакуты і літаральна ўсё цела, як ніколі не бывае ў тутэйшых, пачало сцякаць крывёю. Ён пайшоў уніз па Сафійскай вуліцы (пра тое, чаму яе цяпер называюць — Леніна, думаць ужо не быў здольны), а пунсовыя кроплі падалі

на асфальт няроўна, бо ішоў Ён хістаючыся, нічога не бачачы перад сабой. У глыбокай трызне шаптаў Караткевічава:

Чарада нада мной жураўліная,
Пада мною — балот віры.
Журавінамі, журавінамі
Кроў мая на куп'і гарыць.

На шляху толькі чорная лотаць,
А за мной, ад маёй крыві,
Утрапёна квітнеюць балоты
Смолкай песень, пярэснай любві.

Кроў сплывае. Няма спакою...

Ён прайшоў роўна сто крокаў і ўпаў на зямлю. І знік. Ён пакінуў Гародню...

А назаўтра мне давялося ісці па Ягоным крывавым шляху і бачыць, як гарадзенцы не бачаць, па чым ідуць...

*16 чэрвеня 2007 г.*

## Каложа

Каложа была вельмі ганаровай. Стаяла на высокай кручы, зрэдку кідала позірк на Нёман, які падыходзіў да самага падножжа гары-цокаля, і не дазваляла сабе заўважаць, як прагна ён ловіць гэтыя позіркі, з якой надзеяй імкнецца заглянуць у яе каменныя вочы.

У сэрцы Нёмана, а ён, канешне ж, быў безнадзейна закаханым у Каложу, пасялялася то пяшчота, калі здавалася, што яна хоць крыху ласкавей глянула на яго, то пякучая нянавісць, калі бачыў, як дазваляе яна легкадумнаму Ветру зусім не цнатлівыя абдымкі. Пачуццё Ветра было як усё ў яго: то гарачае, калі здавалася, што здольны спапяліць любую агнём свайго кахання, то раптам ён абыякава адварочваўся і імчаў насустрач новым прыгодам. Але здрады не трываў, бо сам быў здрадлівым, няверным.

Нёман даўно выспельваў у сабе помсту, што вужакай сціскала ягонае сэрца. Ссохлы ад рэўнасці, то пачынаў мялець, то наліваўся жорсткай сілай, бушаваў, круціўся вірамі, але заставаўся бездапаможным: надта моцнымі былі каменныя берагі-абцугі, а яна, недасяжная, узвышалася надта высока.

І тады Нёман, добра ведаючы нораў свайго шчаслівага суперніка, вырашыў скарыстаць яго ў сваёй помсце. Калі аднойчы апоўначы Вецер чарговы раз вяртаўся да Каложы, узбуджаны, ап'янелы прадчуваннем хуткай сустрэчы, Нёман крыкнуў яму:

— Гэй, Вецер! Ці не надакучыла табе, такому выкшталцонаму кавалеру, вяртацца да гэтай здрадніцы? Хто толькі не зведаў яе гарачыя ласкі...

Вецер не даслухаў словы Нёмана, узляцеў, узвіўся да чорных Хмараў. А ноч, красавіцкая, чорная, была страшнай, сапраўды — ноч помсты. Хмары, узбуджаныя Ветрам, праліліся магутным шквалам, зліліся з Нёманам, і ўся гэтая знішчальная лавіна абрушылася на Каложу. Абуджаны злосны Пярун загрукатаў усімі сваімі грамамі, сыпануў у самае сэрца Каложы пякучымі маланкамі, асвяціўшы ўсё навокал. Вецер рваў і крышыў яе прыгожае цела, шпурляў каменныя глыбы ў халодныя воды, а Нёман прагна хапаў іх, абдымаў усімі сваімі хвалямі: нарэшце яна была ягонай!..

Бедная Каложа ўпала на калені і ўзмалілася да Неба, узняўшы ўвысь усе свае каляровыя крыжы, што заіскрыліся ў водсвеце маланкаў. Клікала на дапамогу свайго Анёла-ахоўніка, які падаў руку няшчаснай, і яна змагла ўтрымацца над самай прорвай. Не рухнула, засталася, жорстка пакараная, распалавіненая, стаяць на сваёй таксама разбітай гары...

Назаўтра ранкам людзі з жахам глядзелі на вынікі рабінавай ночы. Каложа чакала ратунку. Але што могуць людзі? Падгладзілі, абабілі дошкамі скалечанае цела, так і пакінулі...

Няма ў Гародні той ганаровай прыгажуні Каложы. Ёсць толькі яе палавіна. Як усё распалавінена сёння ў каралеўскім месце. Як і тутэйшы люд.

А Нёман так і не займеў шчасця ад тае злое помсты. Схаваў дзесь у сваіх глыбінях аскепкі Каложы. Яна так і засталася

для яго недасяжнай. І таму ён з кожным годам усё больш марнее і сохне.

*22 чэрвеня 2007 г.*

## Нёман

Нёман нарадзіўся вольным. Як усё, што з'яўляецца ў гэты свет. Цешыўся воляй, гойсаючы па шырокіх абшарах. Асабліва шалеў у паводку, выбраўшыся з-пад лядовых аковаў, быццам прачнуўся, добра выспаўшыся, і не можа нацешыцца маладой сілай. Разліваўся на некалькі вёрстаў, а часам, як сведчыць Якуб Колас, які вырас на Нёмане і добра ведаў ягоны нораў, мяняў сваё рэчышча...

Так было да таго часу, пакуль на ягоным беразе не нарадзілася Гародня. Напачатку, пакуль яшчэ не ўвабралася яна ў сілу, Нёман не надта зважаў на гэтую шляхетную паненку. Часам не зусім далікатна заляцаўся да яе, імкнучыся штосьці падмачыць, штосьці змыць.

Нядоўга трывала Гародня. Як жа: Нёман пагражаў нават каралеўскім замкам, што паўсталі на высокіх кручах. Свавольніка пачалі закоўваць у каменныя аковы. Няўтульна, вузка, цесна і мала. Пазбавілі волі. Бушаваў, вырываўся з берагоў-аковаў, пратэставаў. Але сілы былі надарваныя. Некалі вольны, зазнаў ён хваробу, што мае наравістую назву: клаўстрафобія. Нёман пачаў марудна канаць.

Маладзенькія крынічкі сцякаліся з усіх прынёманскіх ваколіцаў, несучы сваю свежую акавіту — дабравольную даніну гаспадару абшараў. Але нішто не здольна было дапамагчы, ажывіць, бо вярнуць страчаную вольнасць было немагчыма. А без волі ўсё асуджана марнець і гінуць. І волат пачаў траціць сваё імя. У ім не чулася ўжо высока-разгульнага — *Нё-ё-ё-ма-а-н*, а толькі абарвана-безнадзейнае — *няма*. І нават згадкі пра колішнюю мінулую славу пачалі гучаць прыкра-горка — *мана*...

*3 кастрычніка 2007 г.*

# Перад белаю фараю

Фарны касцёл у самым цэнтры Гародні сваёю цнатліва-велічнаю красою заўсёды вабіць вока. Гісторыкі папраўляюць: правільна не Фарны, а Касцёл Святога Францыска Ксаверыя. Але паслухаем паэтаў. Пройдземся па Гародні, зазірнуўшы спачатку ў не такі ўжо і даўні час — у вясну 1965 года, следам за Данутай Бічэль і яе мінскім госцем Уладзімірам Караткевічам. Блукаюць яны па самых знакавых мясцінах, ды не толькі ў прасторы гарадзенскай, але і ў часе: у даўніне Баторыя, Аўгуста Трэцяга, бліжэйшай эпосе Тарашкевіча, Дварчаніна, Пестрака, даходзяць да Фарнага касцёла, дзе гаспадыня-гарадзенка кажа мо самы лепшы камплімент, які паэту пры жыцці чуць даводзілася:

У фарным касцёле апосталы
пяты век выступаюць на сходзе.
Каторы з раскрытай кнігай,
да цябе падобны, Валодзя.

Чым падобны? Знешне? Столькі разоў углядалася. Наўрад ці. Кніжнік! Бясспрэчна. І між апосталамі яму месца. Апосталамі беларускага Адраджэння. Ды й неаднойчы ўслед за Хрыстом у Гародні прызямляўся.

Але гэта лірычнае дзейства ўсё ж у мінулым. У параўнальна нядаўнім вершы Дануты Бічэль «Анёлы Гародні» лірычная гераіня, на першы погляд, звычайная назіральніца, што знаходзіцца па-за тлумным жыццём места, па-за штодзённымі клопатамі:

Сяджу перад Фарным касцёлам
На лаўцы.
Гародня віруе наўкола
На пляцы.

Адасобленасць, засяроджанасць на іншым, зусім не тым, што проста, без відавочнае мэты, віруе тут, вядзе да заглыб-

ленасці ў праблемы вечныя: часу, чалавека ў ім, зямнога і нябеснага, якое тут, у гэтым незвычайным месце незвычайнага места, праступае на кожным кроку:

Стараецца час незваротны.
Яму не належаць
Анёлы спрадвечнай Гародні
На вежах.

Паэтка таксама не належыць часу. Яна не толькі высока лунае ў сваіх мроях. Душа творчай асобы ўбірае ў сябе ўвесь разнастайны бязмежны свет. Далёкі і блізкі. Яна здольна бачыць тое, што вакол, і суперажываць кожнай жывой істоце, пакінутай, няшчаснай. Лірычная гераіня далучана да тых, што кінуты на самае дно жыцця, да пакрыўджаных і абражаных. І ў гэтым праява вышэйшае, хрысціянскае любові — бачыць у кожным родную душу:

І выгнаны з дому сабачка
І люд гэты просты...
І я, і пад Крыжам жабрачка —
Мы сёстры...

Але гэтае самапрыніжэнне не ёсць прыніжэннем свае чалавечае, мастакоўскае вартасці. Наадварот. Бо сказана: «Апошнія будуць першымі». І разуменне гэтага жыве ў ёй, як жыве і адчуванне творцам свае далучанасці да высокага, боскага:

Але прыбядняцца чаго там!
Мая гэта лаўка.
Звініць ва мне боская нота
І ласка.

Жывое чалавечае пачуццё пульсуе ў «фарным» трыялеце Юркі Голуба «Спатканне». Лірычнае дзеянне таксама па-за асабістым аўтара. Ён — глядач, але не просты назіральнік, а мудры суцяшальнік, які імкнецца спалучыць высокае і звычайнае:

Гадзіннік на Фарным касцёле
Не лічыць спазненне за грэх.
І хоча чаканне сагрэць
Гадзіннік на Фарным касцёле.

Добра заўважна ледзьве ўлоўная ўсмешка аўтара, бо ведае ён: нішто не змяняецца ў гэтым свеце. Заўсёды нехта некага чакае, а нехта заўсёды спазняецца на спатканне. Але ўсё гэта толькі імгненні жыцця, кароткага, як час красавання-гарэння восеньскага лісця. Толькі марная марнасць. А Фара, гадзіннік на ёй у параўнанні з жыццём чалавечым, тым болей з каханнем-чаканнем, вечныя:

Спяшаецца восень згарэць,
Шпурляючы лісце пад колы.
Гадзіннік на Фарным касцёле
Не лічыць спазненне за грэх.

Едрусь Мазько не быў гарадзенцам па нараджэнні. Як і большасць з гарадзенскіх паэтаў. Але гэты горад стаў для яго местам вялікага кахання, местам, куды заўсёды вяртаўся як да сябе. А вяртаючыся, як жа Фару абмінуць? Зроку лірычнага героя адкрываецца незвычайнае, тая вечная варта, што пільнуе спакой Фары, спакой места і ягоных жыхароў:

Святы анёл са шпілю пекнай Фары
Штоночы шпацыруе па Гародні.
І я патрапіў на яго сягоння,
Калі вяртаўся да цябе з вакзала.

Творцу дадзена бачыць, «камунікаваць» з сіламі іншасвету, паразумецца моўчкі, без словаў. Той незвычайны начны праменад ёсць і самамэтай, бо што можа быць лепей, прыемней за вандроўкі па ўлюбёным горадзе? І пошукам скарбаў, якія паўсюль захаваныя ў каралеўскім горадзе:

І скрозь святло неонавых рэкламаў
Мы моўчкі з ім па вуліцах блукалі
І тое, што не страцілі, шукалі
На польскім бруку, у вітрынах крамаў.

Прыцягальнае месца для паэтаў гэтая белая Фара.

І для празаікаў таксама. У рамане Аляксея Карпюка «Карані» ягоны герой дзядзька Лаўрэн Маркевіч, цікаўны, дапытлівы, зразумела ж, не праходзіць паўз Фарнага касцёла. Паведамляе чытачам пра колькасць трубаў у аргане. Было б недарэчна, каб у вусны не вельмі адукаванага селяніна была ўкладзена дакладная лічба. Пэўна, ён не мог яе ведаць. Аляксей Карпюк ужывае прыём аўтарскага ўдакладнення, тактоўна папраўляючы свайго героя ў зносцы: «Дзядзька Лаўрэн памыляецца. Арган у фарным касцёле (фірмы «Вацлаў Бернацкі, Вільна») мае 30 рэгістраў і аж 2184 трубы і трубачкі». Але важна тут іншае — страчаная традыцыя вайсковых спеваў, якую аднаўляе ў сваёй згадцы герой. Лаўрэн прыпамінае, як звонка, шматгалоса гучала песня, калі па горадзе маршыраваў іх стралковы полк. А было тое ў далёкія трыццатыя гады: «Мелодыя на розныя галасы атрымлівалася ў іх магутнай і складнай — бытта на ўсю вуліцу грымелі на свае сто дваццаць трубаў арганы з фарнага касцёла».

Герой старамесцкіх апавяданняў Сяргея Астраўца — тыповы інтэлігент, што ўвесь час у пошуку. Тэмаў, матэрыялаў (працуе журналістам), месца для працы (марыць быць пісьменнікам), урэшце — сябе. Бо заўсёды чымсьці незадаволены, змрочны. Так, падставаў больш, чым трэба. Але выклікае толькі шкадаванне няздольнасцю выбраць з горшага лепшае, з цямнейшага святлейшае. Не ўмее сябраваць, не ўмее ўсміхацца, няздольны быць шчаслівым. Нават не самотнік. Змрочнік. Ягоныя вандроўкі па месце Кладна (яшчэ адна літаратурная назва Гародні) часта праходзяць паўз Фару. Герой не бачыць яе прыгажосці, не заўважае святла. Але здольны часам узняць свой зрок у неба, дзе таксама святло не пануе. Як у апавяданні «Партрэт Ягамосьці»: «Купалы Фары са сьпічакамі шылавата працінялі паўцемру неба». Часам гэта

толькі канстатацыя, калі публіцыстычны погляд пераважае над мастакоўскім: «Унікальны алтар. Вежавы гадзіннік на высознай званіцы. Колькі мне пра гэта апавядаў адзін краязнаўца» («Сэрца места»). Герой заўсёды знойдзе прычыну для незадаволенасці. Не тое, што ён не мае рацыі, але на кожную з'яву можна зірнуць з іншага боку, на што ён няздольны: «Статуі на фасадзе касцёла памаляваны бляклa-зялёнай фарбай. Гэта ня можа падабацца. Прынамсі, мне яны цяпер не даспадобы. Бо нагадваюць, не, не нябожчыкаў, але кранутыя цвільлю выстаўленыя на дождж гіпсавыя помнікі эпохі росквіту сталінізму» («Заступнік Губэрт»). Калі б размова ішла не пра мастацкі твор, можна было б казаць пра некарэктнасць параўнання. Што да іншага погляду, то ўжо лёгкая колеравая карэкцыя (бледна-зялёны можна ўспрыняць як далікатна-зялёны, свежы) дапаможа змяніць успрыманне. І тады зусім інакшымі паўстануць статуі на фасадзе. Але такі ён — герой Сяргея Астраўца, што малюе свет вакол сябе толькі праз шэрае, змрочнае. І сам такім бачыцца.

Вернемся да назвы горада. Кладна. Аптыміст расчытае — клад. Скарб. Іх безліч у нашай Гародні. Песіміст — клады, могілкі.

У апавяданні Альжбеты Кеды «Фара» (назва не да гэтае Фары адносіны мае, а да Фары Вітаўта) сустракаем Паэтку, у вобразе якое зразумела каго пазнаем. Моліцца яна ў Фарным касцёле. Ацаляе сваю душу малітвай: «Яе бачу ў касцёле — Белым Птаху. Яна падоўгу стаіць перад алтаром Маці Божай Кангрэгацкай, часта сама не разумее, што пераступае мяжу. Тады, калі з любоўю ўглядаецца ў Прачысты Лік, калі падоўгу разглядае кожную кветачку на алтары. Не думае, не ведае, адкуль бяруцца сілы ісці далей. Сілы, якія амаль пакінулі яе хворыя ногі. Выходзіць з касцёла абноўленай. Бо той дазвол ступіць за мяжу, каб набрацца моцы, з усяго горада дадзены толькі ёй. Яна яшчэ не ўсё сказала. У яе яшчэ ёсць Слова. Ёй яшчэ быць тут».

Белы Птах — гэта і ёсць Фарны касцёл.

# Зямля і снег Вікторыі Ільіной

У мастацкай галерэі «KRYQA» мільганула (16.02–04.03) выстава гарадзенскай мастачкі Вікторыі Ільіной «Зямля пад снегам». Карціны, створаныя, натхнёныя сёлетняй незвычайнай зімой са снегам, завеямі, маразамі. Такія зімы адно і памятаюцца людзям сталага веку з далёкага дзяцінства.

Гэтыя карціны магла стварыць толькі мастачка, для якой Гародня — святло і свет. Дасканала прыгожы без усялякага прыхарошвання, натуральны, самадастатковы.

Белы снег Вікторыі Ільіной мае мноства колераў. Не таму, што ён перастаў быць белым, а таму, што многія мастакі-сутворцы перафарбоўваюць яго. То сіні вечар шчодра разліе па наваколлі ярка-валашковыя, ліловыя адценні, то ранняе зімовае змярканне падзеліцца пяшчотна-ружовым, то месяцовыя водбліскі пакінуць свой цёпла-залацісты або халодна-срэбны (ад настрою залежыць) адбітак.

«Домік генерала» ў зацішным кутку горада, якія яшчэ засталіся ў самым цэнтры места. Дом (былы) мала каму вядомы вядомага ў Беларусі генерала (генералы былымі не бываюць), ужо не гарадзенца. Запрашаю перайсці на правы бок. Там узвышаюцца калоны. Не вельмі так высока ўзвышаюцца, але ўсё ж вылучаюцца пэўнай, хай сцішанай прэтэнзіяй на веліч у гэтым ціхім закутку Гародні. Там лаўка, ля якой стаіць дзіцячы вазок. Маленькі хлопчык соладка спіць, удыхаючы марознае паветра. Хлопчыка назвалі Максімкам у гонар Паэта, што жыў у гэтым горадзе ў мілым дзяцінстве больш чым сто гадоў таму. Ягоная мама чытае вершы:

Закалыхалася —
гуленькі-гушкі...
Сеюць муку нябачныя мельнікі.
Лётаюць, лётаюць
лёгкія гускі,
белалобыя і гуменнікі*.

---

* Тут і далей вершы Дануты Бічэль.

І гэтыя вершы (жанчына ўвесь час змыляецца, змяняючы безаблічна *нябачных* на ўзвышана *нябесных*), і светлы настрой у яе душы афарбоўваюць белы свет у колеры ўлюбёных кветак яе мамы — бэзу. А ён, бэз, бывае, як вядома, бясконца розным, як колер снегу на карціне «Домік генерала».

Лёгкія гускі ператвараюцца ў круглыя гратачкі, што таксама ўтвараюць круг над гэткім жа круглым, як сама зямля, гарадскім краявідам. «Снег над горадам» — цэнтральнае палатно выставы.

Карціна «Зімовы сквер» пераносіць у іншы час, у іншую зіму. Готыка храмаў і готыка дрэваў. Графічныя лініі, штрыхі. І людзі. Але людзей тут і няма. Гэта выявы тых, хто жыў калісьці ў Гародні, хто ездзіў у брычках, у вольны час хадзіў гуляць у сквер. Ім пачувалася вельмі натуральна і, хочацца думаць, утульна ў нашым горадзе. Яны не вылучаюцца з гэтага зімовага гарадскога пейзажу. Бо таксама галінкі. На дрэве жыцця. Гэта карціна, наогул, выглядае помнікам колішняй далёкай Гародні. Калі былі сапраўдныя зімы, як сёлетняя. Мастачка, і сапраўды,

> ...горад сабе збудавала,
> збудавала альтанкі і лаўкі.
> І дамоў — самы раз, і людзей — сама мала,
> і аблокі цвітуць, бы імшалкі.

*Людзей — мала*, праўда, тое не да гэтай карціны. Да ўсіх астатніх. Іх тут папросту няма. Але яны ёсць, бо за тымі ветлымі акенцамі, што свецяцца на многіх карцінах, менавіта яны запалілі святло. Як на трох сэнсава і вобразна звязаных акварэлях з назвай «Шэрань». Трыпціх, бо мала было ўгледзець усё гэта з аднаго боку, бо трэба было паказаць, што гэта дзівосна, адкуль ні паглядзіш. Злагоджаныя часам і падкарэктаваныя снегам гарадзенскія кручы, да якіх так пяшчотна прытуліліся амаль вясковыя хаты, а вакол іх вазоны дрэў і кустоў. І нават цёмна-хмурная яліна ў шэраневых гратках не выглядае змрочнай. А як прыязна свецяць ласкавым золатам вокны хацінаў, дзе таксама ўтульна. І над усім гэтым светам

красы і пяшчоты — залаты рагалік месяца. Як і на многіх іншых карцінах. Месяц — сэнсавы цэнтр квадры «Фазы месяца». Поўня, сходня, маладзік, ветах — кожны па-іншаму размаляваў неба і снег. Поўня падзялілася з небам светлым золатам, сходня, паміраючы месяц, разліў сваю чырвань, і неба стала ружовым, ярка-залаты маладзік змыў чырвань, неба стала колеру марской хвалі, а ветах ізноў вярнуў небу золата, але ўжо мяккае, пясчанае. Адначасна змяняецца і колер снегу, і стрэхі хатаў, нязменныя толькі прыветныя вочы-вокны, бо нязменна свецяць яны камусьці, нязменна чакаюць, каб сагрэць, няхай нават праз далёкі час, праз памяць.

На карціне «Снежань» глянем на мосцік над Гараднічанкай. Колькі такіх масткоў засталося ў нашым горадзе, што злучаюць берагі і людзей, што выводзяць на вузкія вулкі і шырокія праспекты. І вяртаюць назад.

Масток ля вусця, ля Нёмана. Яго (Нёмана) якраз і няма між іншага як самага гарадзенскага, пазнавальна-знакавага. Як і Каложы. Мяркую, таму, што гэтым знакамітым «гарадзенцам» і так шмат увагі. Таму і прывабілі мастачку іншыя вобразы. Някідкія, як домік пад снегам. Амаль хутар. А яшчэ пад золатам месяца, што адлюстроўваецца ў залатым свеце вакенца. Незвычайна густая, насычаная сінь зімовага вечара. Найпрыгажэйшае спалучэнне колераў: сіні і залаты. Пануе першы, бо золата не павінна быць многа.

Ад усяго гэтага вее надзвычайнай сцішанасцю, калі ні адзін чужы, іншародны гук не ўрываецца ў прастору твайго ўлюбёнага горада, а пануе толькі мелодыя, што адпавядае табе, твайму настрою, якую хочаш слухаць. Пад белым снегам — *«Край, які я маю, / не заснуў, а дрэмле...».*

*Сакавік 2010 г.*

# Музей Януша Паруліса ў Гародні

У самым цэнтры нашага горада, на ціхай вулічцы Лермантава (колішняй Базыльянскай), у доме пад нумарам 25 размясціўся незвычайны музей. Сціпла названы музеем быту, праўда з тлумачэннем: гісторыя Гродна. Бо гэта і літаратурны, і мастацкі, і музей-аптэка, і спорту, і шмат чаго яшчэ. Усяго, што было калі-небудзь у нашым месце, у нашым Краі. І не толькі.

Здзіўляе велізарная колькасць экспанатаў, злічыць якія немагчыма. Яны паўсюль: застаўленая падлога, пакінуты толькі нешырокія пляцоўкі, сцены ўвешаныя ад падлогі да столі. А яшчэ ж двор, прыбудоўкі, у перспектыве — драўляная хатка.

Але самы цікавы «экспанат» ён сам — Януш Паруліс. Мастак, музыка, марак, вандроўнік, антысаветчык... Чалавек незвычайнага лёсу. З кагорты тых знакамітых гарадзенскіх стылягаў канца 50-ых гадоў, якія нарабілі-такі вэрхалу ў нашым ціхім абласным горадзе. Ён і сёння, у сваім паважаным веку, выглядае вельмі стыльна. Слухаць яго — задавальненне.

Здагадайцеся, дзе быў Януш Паруліс у лістападзе 1989 года? Правільна, у Берліне. Неістотна, што апынуўся там выпадкова. Бо нічога выпадковага не бывае. Аж два тыдні. Дзёўб берлінскую сцяну. Смачна дадае: «І рабіў гэта з асалодай!» І вельмі няблага зарабіў на гэтым: купіў мерс. Дадае: «Не толькі мерседэс, але яшчэ шмат якіх рэчаў». Аповед пра тыя падзеі авантурна-прыгодніцкага зместу. Як і многія з ягоных аповедаў. Але разам з тым пан Януш заставаўся чалавекам прагматычным, умеў сваю выгаду не ўтраціць. Дзяўбці той мур было вельмі цяжка: пухлі рукі, крывавілі мазалі. Тады ён зрабіў амаль тое ж, што і знакаміты герой Марка Твэна: купіў малаток, зубіла і за неблагія грошы здаваў у кароткатэрміновую арэнду гэтыя сродкі працы прагным да экспанатаў турыстам з Амерыкі, Англіі, Францыі: «Бяры і дзяўбі сам». Пасля яшчэ і фотаапарат купіў. Зразумела, здымкі таксама

нятанна каштавалі. І нават фатаграфаванне іх тэхнікай бясплатным не было.

Між незлічоных экспанатаў аскепкі таго муру розных памераў.

А хіба нецікава паглядзецца ў люстэрка незвычайнае красы, бо з палаца. Вісіць на сцяне ў выштукаванай пазалочанай рамцы. Гэта мой самы ўлюбёны экспанат. Госці з Санкт-Пецярбурга надумалі пахваліцца: у нас у Эрмітажы такіх поўна! У адказ пачулі: «Не дзіва, што поўна. Вы ж усё наша вывезлі. А ў нас да пажару было 118 палацаў. І ў кожным не адно такое. І не толькі гэта. Ці не пара вяртаць?..» Сціпла прамаўчым, адкуль такое шыкоўнае люстэрка ў прыватным музеі. А побач яшчэ адно, у чорнай рамцы. Не менш прыгожае. З хаты дзядулі...

На пытанне, які экспанат самы дарагі для гаспадара, паказвае на сямейную экспазіцыю, дзе здымкі, партрэты, асабістыя рэчы продкаў. Таксама аж да столі. І яшчэ ложак, на якім спаў маленькім пры матулі. Ложку тому больш за сто гадоў. І тая ж самая аксамітная капа-доўгажыхарка.

Не вельмі ўглядайцеся ў партрэт Элізы Ажэшкі ў цэнтры: ён не зусім удалы. Прыглядзіцеся да здымкаў, што вакол яго ў сціплых рамках. Так, гэта сама Вялікая Пані Гародні, так, гэта пісьменніца, прыгажуня Зоф'я Налкоўская, якая пяць гадоў жыла ў нашым горадзе. Здымкі — арыгіналы. З тых часоў! У якіх музеях ёсць? Яны віселі на сценах у доме дзядулі пана Януша, гарадзенскага пажарніка Францішка Райко. А побач стаіць кансолька. Ведаеце, што гэта? Невялікі столік, хутчэй падстаўка для далікатных рэчаў. На вядомым здымку салоніка, што ў доме Элізы Ажэшкі, дакладна такая ж. А мо тая ж?

Ды і сам дом № 25 — знакаміты. Тут жыў Станіслаў Жыўна, заснавальнік музея прыроды ў Гародні, экспанаты якога і сёння радуюць наведнікаў.

У 1949–1950 гадах гэты дом стаў адным з прытулкаў для нашага вядомага пісьменніка — змагара з усялякаю няпраўдаю Аляксея Карпюка. Цяпер тут жывуць ягоныя кнігі. І тыя, даўнія, з ягоных часоў, і новая, апошняя, «Развітанне з ілюзіямі».

Прывяла сюды студэнтаў. Прыйшлі сапраўдныя. Такія заўсёды ёсць на беларускім аддзяленні. Праўда, з кожным годам іх усё меней. У іх заўсёды бракуе часу. Але ніхто не заікнуўся нават, што пара развітвацца. А рамантычная паэтка Вікторыя Смолка напісала светлы верш, які прапаную чытачам:

Сцяжынку да Лермантава, 25
Кляновыя ружы заслалі.
Дзе Януш і Хата — Музейны Палац
Нас ўчора у госці чакалі.
Ў пакойчыках цесных скарбаў тамы
Ад верху ляжаць да нізу,
Там моўчкі на нас паглядалі Яны,
Бы сонейкі, Вочы Элізы.
Духмянілі морам вусы кіта,
Што ворага некалі білі.
Абраз Багамаці, Распяцце Хрыста
Гародню дабраславілі...
Мне хочацца верыць: пад светлыя промні
У небе лістота закружыць —
Да Януша Хаты шлях людзям Гародні
Засцелюць кляновыя ружы...

# Гарадзенскія могілкі

Старыя гарадзенскія могілкі — не проста месца памяці, а надзвычай цікавая культурная спадчына. Даўняя назва — фарныя, заснаваныя ў 1792 годзе. «Пасля Росаў у Вільні і могілак Лычакоўскіх у Львове яны з'яўляюцца трэцяй некраполіяй на ўсходзе Рэчы Паспалітай», — сцвярджае дасведчаны даследчык Юры Гардзееў. Праводзячы экскурсію «Сцяжыны літаратурнай Гародні», заўсёды запрашаю на могілкі, якія знаходзяцца ў цэнтры нашага горада, на стромым беразе Нёмана. Вузкая дарога, што дзеліць каталіцкую і праваслаўную часткі, лёгка пераадольваецца наведвальнікамі-беларусамі, бо тыя, хто служыў нашаму Краю, спяць па абодва яе бакі.

## «Маці Марыя на гродзенскіх могілках спіць»

Магіла Марыі Апанасаўны Багдановіч у самым цэнтры праваслаўных могілак. На паперці, каля ўваходу ў царкву. Мо камусьці падасца дзіўным, што звычайная гараджанка, асоба ў тым часе зусім невядомая, была пахавана на такім шанаваным месцы, дзе традыцыйна знаходзілі апошні прытулак святары. Тым жа, хто ведае характар і намеры Адама Ягоравіча Багдановіча, гэты факт дзіўным не падаецца. Быў асобай шматбакова адоранай, але не настолькі, каб праславіцца, дабіцца шанавання і пасля сыходу. Будучы амбітным, быў пэўны, што сын Марыі Апанасаўны перасягне сваімі поспехамі бацьку, таму яе магіла не мусіць быць страчанай. Бо ўдзячныя нашчадкі абавязкова, хай праз многа гадоў, знойдуць месца спачыну маці вялікага чалавека. Таму і дамогся, выкарыстаўшы свой немалы аўтарытэт у горадзе, каб пахаваць каханую Марыльку насупраць царквы. Мо аргументам было тое, што між яе продкаў былі святары? Праўда, не праваслаўныя, а ўніяцкія, што, хутчэй за ўсё, замоўчвалася. Цэрквы мусяць стаяць калі не вечна, то вельмі доўга. Дакладна апісаў месца,

вымераў, колькі метраў ад уваходу ў храм і пад якім кутом магіла знаходзіцца. Пакінуўшы наш горад у хуткім часе пасля пахавання, не збіраўся ніколі наведацца сюды. Шанаваў сябе. А ўспаміны жалобныя шчасця, здароўя не дадаюць. Ведаў, што магіла, якую не даглядаюць родныя, хутчэй за ўсё будзе страчана. Так і здарылася.

Праўда, праславіў род Багдановічаў не той сын, на якога спадзяваўся амбітны бацька. Адзінае, у чым памыліўся.

Магіла была страчанай. Справай заняліся гарадзенскія творцы. Адшукалі. Пачалі збіраць сродкі на помнік. Данута Бічэль згадвала: «У 1987 годзе студэнты будаўнічага атрада імя Максіма Багдановіча “Нашчадкі” частку зробленых на раскопках замка грошай пералічылі на надмагільле Маці Паэта». Праўда, тутэйшыя ўлады не выказалі асаблівага імпэту, каб дапамагчы аднавіць магілу. Гарадзенскай паэтцы давялося пачуць ад тутэйшае гарвыканкамаўскае бюракраткі: «А кто она такая? Вы тоже потребуете, чтобы горисполком поставил памятник Вашей матери!» І ўсё ж помнік паўстаў. Просты і велічны. Камень з крыжом. Хіба першы на беларускіх могілках такі помнік на магіле вядомай асобы. Хоць былі перасцярогі: «Мастакам прастата недаспадобы, ім хочацца прыдумваць нешта адметнае, штучнае...». Гарадзенскі скульптар Уладзімір Панцялееў нічога прыдумваць не стаў. Надпіс на помніку лаканічны, ні аднаго лішняга слова: Марыя Багдановіч, маці паэта 1869–1896.

Сюды заўсёды нехта прыходзіць, хоць беларусаў у Гародні няшмат. Калісьці нехта з іх прынёс кветкі і абвязаў іх стужкай. Тонкім пояском. Бел-чырвона-белага колеру. Тыя, што прыходзілі пазней, выкідалі ўжо завялыя букеты і абвязвалі пояском свае. І мае белыя астры таксама абвіла тая стужка-эстафета.

Падыдзем да магілы, услухаемся ў радкі верша Алеся Чобата «Марыя Багдановіч», у якіх паэт вядзе аповед пра месца пахавання, прамаўляючы словы стрымана, без жадных эмоцый, лаканічна паведамляючы, каментуючы, каб урэшце ў фінале страфы ўзвысіць голас:

Маці Марыя на гродзенскіх могілках спіць,
Камень паставіў па ёй Панцялееў Валодзя.
Надпіс і крыж. І ніякае медзі — і годзе.
Маці душа і без медзі на Небе звініць.

Незвычайнае месца помніка звязваецца паэтам з нябеснай апекай, бо тут сышліся два вялікія імёны, якія захоўваюць людзей ад няшчасцяў, ратуюць ад духоўнага нябыту, успрымаюцца як перасцярога ад новых напасцяў:

Камень стаіць каля сцежкі ля белай царквы.
Злева Ісус, а направа спіць Маці Марыя.
Праз два імёны Гасподзь нас ратуе і крые —
каб мы не трапілі ў новыя ямы й равы.

Зразумела, што аўтар не мог не згадаць трэцяе імя, сына нашае Маці Марыі. Думка ляціць у тую далеч, дзе ён спачывае. І хай тое не заўсёды збываецца ў зямным жыцці творцы, але знакавыя месцы яго душа, як лічыць паэт, усё ж праходзіць:

Трэйцім у Тройцы Святой — сын Марыі Максім.
Ён пахаваны далёка. На неба узняты.
На пілігрымку выводзіць дарога да Ялты.
Праўду казалі, праходзіць Паэт Крым і Рым.

Самотны, але надзвычай светлы настрой верша Дануты Бічэль «На магіле Марыі Багдановіч, маці паэта» падкрэсліваецца заключным рэфрэнам. У ім глыбокае шкадаванне абарванага ранняй смерцю жыццёвага шляху і разуменне велічы таго, што паспета ў кароткім зямным жыцці жанчыны — споўнена місія мацярынства. У кожную пару месца спачыну адлюстроўваецца праз адпаведныя часу вобразы, напоўненыя станоўчай энергетыкай, што супрацьстаяць ранняму зімоваму змроку і выклікаюць да жыцця парасткі вясновае квецені:

Апошнім
снег у вечным змроку тае,
дзе пахавана маці маладая.

Зямля
Святым барвенкам зацвітае,
Дзе пахавана маці маладая.

Таму нішто змрочнае не можа сыходзіць з гэтага светлага месца:

І чорных
птахаў вырай не ўзлятае,
дзе пахавана маці маладая.

На старых гарадзенскіх могілках пахавана маладая маці самага маладога нашаніўскага класіка.

## Няма ў Гародні анёла

*6 лістапада спаўняецца 125 гадоў з дня нараджэння паэта Лёйба Найдуса, жыццё якога было цесна звязана з Гародняй. Адзін з пачынальнікаў новае яўрэйскае паэзіі, да якога, як вобразна напісаў паэт, крытык Якаў Глатштэйн, паэтычная дыкцыя вершаў на ідыш «была ў пялюшках».*

Лейб Найдус з тых творцаў, хто назаўсёды застаўся маладым. Пайшоў з жыцця ў 28 гадоў. Гэта адзін з самых яркіх лірычных талентаў новага часу, што ўзгадаваныя ў гарадзенскім Краі. «Сын гарадзенскай зямлі», — так пісала пра яго Іна Анатольеўна Карпюк, адна з даследчыкаў спадчыны паэта, што ўслед за Аляксеем Карпюком дбайна клапаціліся пра вяртанне ягонага імя на Радзіму.

Пачатак жыцця Лейба Найдуса звязаны з фальваркам Кусцін, што непадалёк ад Кузніцы Беластоцкай, які ў тым часе належаў калежскаму саветніку Мікалаю Апехціну. У наш час гэта ўжо замежжа, на гэтым месцы размясцілася польская вёска Выжгі. Арандаваў сядзібу Ісаак Найдус. У ягонай сям'і 6 лістапада 1890 года і нарадзіўся будучы паэт. Дзеці, а іх было

сямёра, пачыналі навучанне вельмі рана, у тры гады. Дзеля гэтага быў запрошаны настаўнік, які рыхтаваў іх да здачы штогадовых экзаменаў экстэрнам у гарадзенскай школе. Асаблівую ўвагу звярталі бацькі на вучобу Лейба, які меў добрыя здольнасці. Ён быў самым малодшым. Астатнія дзеці ўжо выраслі, і яго вырашылі адправіць у школу ў Гародню. Хлопчык вучыўся ў розных гарадах: Радаме, Беластоку, Коўне, Вільні. У 1911 годзе насуперак волі бацькі пакінуў вучобу, абвясціўшы, што «з літаратуры таксама можна жыць. Калі ж прыціскала бяда, вяртаўся ў Кусцін» (Валянціна Найдус).

Пісаць Лейб Найдус пачаў вельмі рана. Пляменніца паэта Валянціна Найдус падае цікавыя звесткі, разважаючы пра няпросты выбар маладога творцы: «На якой мове пісаць? Адказ быў не з лёгкіх. У двары жыла польская сям'я конюха. З ганка можна было зазірнуць у пакоік старэйшай сястры-яўрэйкі. Блізка па суседству жыла сям'я беларусаў. Непадалёку знаходзіліся таксама беларускія вёскі Вызгі і Даўгасельцы. Крыху далей — польскія вёскі Кавалі і Мерашкоўцы. Няпоўныя тры кіламетры было да Кузніцы з касцёлам на плошчы, царквой на ўзгорку і дзвюма-трыма бажніцамі». Дамінуючая ў тагачасным грамадстве моўная паліфанія паспрыяла таму, што вершы паўставалі на трох блізкіх яму мовах: яўрэйскай, польскай і рускай. Некаторыя крыніцы, тая ж вікіпедыя, сцвярджаюць, што пісаў ён і па-беларуску. На жаль, тыя творы не захаваліся. Але ў хуткім часе для творчасці была абраная выключна мова ягонае душы — ідыш, дэбют на якой адбыўся ў 1907 годзе ў варшаўскім часопісе «Романцайтунг». Справа ў тым, што вялікі ўплыў на яго аказала юная асоба — Ніна Табачнік, шчырая аматарка яўрэйскае культуры, патрыётка. Каханне да гэтае дзяўчыны, што разгарэлася ў душы юнака, сталася для яго вялікай трагедыяй: Ніна памерла ў маладым веку. З часу тае страты пісаў толькі на мове свайго роду, друкаваўся ў варшаўскіх і віленскіх яўрэйскіх перыёдыках. На ідыш паэт не толькі пісаў, але і пераствараў творы сусветнае класікі: Гётэ, Шэлі, Гейнэ, Міцкевіча, Пушкіна, Лермантава, По, Бадлера, Верлена і інш., што было вельмі важным для невялікіх крэсовых цэнтраў, бо, як слушна сцвярджае Валянціна Найдус,

дапамагала супрацьстаяць правінцыяльнасці, культурнай адасобленасці. «Лейб Найдус не толькі даў магчымасць доступу да твораў передавых паэтаў заходняга свету сваім чытачам, але і сам выразна эвалюцыянаваў пад іх уплывам».

Адной з крыніцаў, што наталялі душэўную смагу творцы, былі старыя яўрэйскія песні, якія чуў з маленства. Захапленне іх красою выказаў у вершы, дзе найперш звярнуў увагу на спалучэнне ў іх багацця, разнастайнасці жыццёвых перажыванняў, калі гора і радасць натуральна спалучаюцца між сабою, ураз змяняючы адно другое:

Яўрэйскія песні мне мілы,
тут радасць і боль пераплецены скрозь,
тут горкія слёзы сірот ля магілы
змяняе нястрыманая весялосць*.

У апошнія гады жыцця цалкам аддаўся літаратурнай працы. Быў шырока вядомым і шанаваным у яўрэйскай грамадзе. Ягоныя вершы ведалі, вывучалі ў школе, іх клалі на музыку. Лейб Найдус шмат рабіў дзеля папулярызацыі паэтычнага слова, выступаў з лекцыямі перад аматарамі паэзіі. Быў адным з самых шанаваных аўтараў літаратурнага штомесячніка «Literarische Monatsschriften», што ў тым часе пачаў выходзіць у Вільні. Там жа ў 1915 годзе выйшла першая кніга паэта з традыцыйнаю назвай «Лірыка». Апошнія гады жыцця правёў у Гародні, дзе падрыхтаваў яшчэ дзве кнігі: «Флейта Пана» (1918 г.), выхаду якой паспеў парадавацца, і «Інтымныя песні» (1919 г.), што пабачыць свет ужо пасля сыходу паэта.

Фінальны час ягонага жыцця быў вельмі няпростым. Вайна, спусташэнне, голад. Ягоная сям'я ў Кусціне таксама мела вялікія страты. Не стала магчымасці атрымліваць дапамогу з дому. Да таго ж, у Краі панавалі хваробы. У часе аднае вандроўкі, калі паэт вымушаны быў вяртацца дамоў у перапоўненым вагоне, ён захварэў на дыфтэрыю, што для аслабленага арганізму сталася фатальным. Лекара адразу не выклікаў, мяркуючы, што гэта звычайная прастуда. Побач з

* Пераклад наш праз пераклад з польскай Алены Найдус. — *А. П.*

ім быў ягоны сябар літаратурны крытык Абрам Зак. Як сведчыць Валянціна Найдус, ён адвёз паэта ў шпіталь, але было ўжо вельмі позна.

Лейб Найдус быў пахаваны на Новых габрэйскіх могілках. Захаваўся здымак з адкрыцця помніка паэту. Шматлікая грамада людзей прыйшла ўшанаваць паэта, адзначыць гэтую падзею. Праўда, пра сам помнік ведаем толькі з апісанняў.

З лёгкай рукі гарадзенскага творцы, літаратуразнаўца Анатоля Брусевіча, аўтара найбольш дасканалага артыкула пра жыццё і творчасць «Месца Лейба Найдуса ў беларускай культурнай прасторы», яўрэйскага паэта параўноўваюць з Максімам Багдановічам: той жа ранні сыход, у адным і тым жа годзе — літаратурны дэбют, тая ж мізэрная колькасць выдадзеных пры жыцці кнігаў, тое ж наватарства ў айчыннай паэзіі, тое ж імкненне перанесці ў родную літаратуру ўсё лепшае з чужое глебы, тыя ж жыццесцвярджальныя, аптымістычныя матывы, з аднаго боку, а з іншага — смутку, адзіноты, эстэтызацыі смерці. І легкаплыннасць, іскрыстасць паэтычнага радка, што асабліва выразна выяўляецца ў перакладзе на беларускую мову верша «Дождж і сонца» Максіма Танка. Па сутнасці, гэта адзіны больш-менш вядомы беларускім аматарам верш яўрэйскага паэта. Зроблены ён праз пераклад на польскую мову Алены Найдус, пляменніцы Лейба Найдуса:

Дождж і сонца, дождж і сонца.
Кроплі ў залатых праменнях
У сваім палёце ззяюць,
Быццам злучаныя іскры.

Захопленасць красою жыцця, нястрымная радасць існавання, сугучнасць чыстае, незамутнёнае жыццёвымі нягодамі чалавечае душы прыроднаму свету, той жа Багдановічаў позірк на свет «дзіцячымі вачыма» перададзеныя ў паэтычных радках:

Дождж і сонца, дождж і сонца.
Аж калышуцца ўсе кветкі
Пад ласкавым цёплым ветрам,
У слязах смяюцца дзеці.

Паэтычны паўтор і ў пачатку кожнае страфы, і ў межах пачатковага радка, у якім спалучаны самыя жыццядайныя прыродныя з'явы, паўстае радасна-ўзнёслым зачынам, настрой якога нязменна трымаецца ва ўсёй вершаванай прасторы. Лірычнае дзеянне не замкнутае, не абмежаванае нейкімі пэўнымі рамкамі. Ягоны вектар скіраваны ў неабсяжныя далі:

Дождж і сонца, дождж і сонца.
Рэчка ў берагах гайдае,
Звонка кроплі толькі б'юцца,
Іх кругі нясуцца ў далеч.

Не абыйдзены творцам вобраз нябеснага цуду — вясёлкі, што паўстае выключна ў часе сугучнага панавання дажджу і сонца. Тут можа выклікаць збянтэжанасць каляровае вырашэнне, прапанаванае Максімам Танкам. У перакладзе Алены Найдус, відавочна, больш дакладна — прамяністы, а блакітныя — глыбіні, што ў папярэднім радку:

Дождж і сонца, дождж і сонца.
Адбіваецца на небе
Каляровы мост блакітны,
Шчасця вечнага дарога.

І ў фінале, як бачым, той жа нястрымны рух, той жа вектар, які скіраваны ўжо ў неабсяжныя глыбіні часу. Сапраўды, «Лейб Найдус, — як слушна сцвярджала ягоная пляменніца Валянціна Найдус, — быў песняром радаснага аптымізму. Ён прынёс у яўрэйскую паэзію непаўторную прыгажосць прыроды, багатую палітру фарбаў і неспатыканую да яго выключную сентыментальнасць да прыроды».

У згаданым вышэй артыкуле Анатоль Брусэвіч падае свой пераклад верша Лейба Найдуса праз парадковік гарадзенца Рыгора Хасіда, які, як прызнаецца перакладчык, быў здзейснены ім у адначассе:

Я сэрцам сонца п'ю нектар.
Мой зрок у небе тоне.

Я — малады, прыгожы цар,
Хоць голаў не ў кароне.

У апошні перыяд свае творчасці Лейб Найдус усё часцей адыходзіць ад рыфмаванага верша. Тлумачыць гэта ў паэтычным:

Дазволіць легкаплыніць строфам вольна,
не сціснуць сэрца ў ямбы ці харэі,
без межаў хай ліецца мова, проста.
Не стану шліфаваць у вершах словаў,
найперш такіх, як боль і шчасце*.

Пасля смерці паэта было шмат зроблена дзеля ўшанавання ягонае памяці. Невялікая вулка ў цэнтры места, якая здаўна называлася Пясчанай, атрымала імя Лейба Найдуса. Менавіта тут у невялікім доме ў пакоі на першым паверсе жыў паэт. Тут ён пайшоў з жыцця. Праз пяць гадоў, у 1923-м, на ягонай магіле быў адкрыты помнік аўтарства варшаўскага скульптара Абрама Астжэгі. Апушчаныя, надломленыя белыя крылы, якімі прыкрыты твар анёла... Захаваўся здымак: мноства людзей на могілках, што прыйшлі ўшанаваць паэта. Але помнік, што бялее ўдалечыні, на здымку разгледзець немагчыма. Ён захаваўся толькі ў памяці людзей. Так, І. А. Карпюк згадвала, што гэты помнік быў нетыповым, вылучаўся між іншых.

У вялікім свеце сляды Лейба Найдуса былі захаваныя. У розных мясцінах, па якіх воляю лёсу была параскідана яўрэйская грамада. Так, на яўрэйскіх могілках у Парыжы ёсць пастаўлены Гарадзенскім зямляцтвам помнік, на цокалі якога высечаны барэльеф паэта. Тут ушанаваны гарадзенскія яўрэі, што загінулі ў гады Другой сусветнай вайны. І няхай фармальна дапушчана памылка, бо Лейб Найдус памёр значна раней, усё ж ён па праву належыць да гэтае грамады — гарадзенскага яўрэйства. У 1995 годзе на яўрэйскіх могілках у Варшаве на сімвалічнай магіле паўстаў помнік паэту.

Але самае галоўнае для творцы — жыццё ягонага Слова, літаратурная спадчына. У 20-я гады было зроблена няма-

---

* Пераклад наш праз пераклад з польскай Алены Найдус. — *А. П.*

ла дзеля яе захавання. У Варшаве дзякуючы намаганням Камітэта імя Лейба Найдуса да дзясятых угодкаў сыходу паэта былі выдадзены пяць тамоў яго твораў: «Кніга паэмаў», «Лірыка», «Літоўскія арабескі», «Свет Парнаса», «Расейская паэзія». Астатняе захоўвалася ў Габрэйскім навуковым інстытуце ў Вільні. У гады вайны загінула ў пажары. У далёкай Аргентыне ў 1958 годзе былі выдадзены выбраныя творы. Перавыдадзеныя ў 1972 годзе, сталі апошняй на сённяшні час кнігай паэта. Менавіта там апынуўся Абрам Зак, які такім чынам сплаціў доўг свайму сябру. Яму належыць артыкул, прысвечаны жыццю і творчасці Лейба Найдуса, у якім крытык пісаў: «Віртуоз габрэйскай страфы — гэта заслужанае акрэсленне паэтычнага аблічча Найдуса... Верш яго быў у сучасным яму грамадстве ўзорам рытму і высокага ўзроўню мэладычнасці. На чале плеяды габрэйскіх паэтаў стаяў у тым часе Д. Эйнхорн, які пісаў ціхія, мройныя песьні пра белыя бярозкі, і тут прыйшоў Л. Найдус, загучаў смелымі акордамі, выверанымі тонамі, і гэта было новым кірункам і цалкам новай тэматыкай. Яго паэзія заіскрылася нязвыклым багаццем мовы і рэдкай музычнасцю. Што да мовы і формы, то тут Найдус быў недасягальным віртуозам...».

Але самае прыкрае тое, што новыя яўрэйскія могілкі пры звычным маўчанні гарадзенцаў былі зруйнаваныя ў 1960-я гады. На іх месцы пабудаваны стадыён. Як напісаў Андрэй Адляніцкі, «на працягу 80 гадоў пасля яго смерці было шмат намаганняў, каб памяць пра Найдуса знікла разам з гісторыяй усяго габрэйскага Гродна. Яго вершы спалілі фашысты, а магілу знішчылі камуністы...».

Няма анёла на той магіле.
Няма й магілы.
Няма анёла і над Гародняй.
Зламаны крылы
былі на ўзлёце.
Згарэў ў палёце
да сонца й зораў.

*2015*

# Веру ў слова

Мая вера звязана з любоўю.

Калі бывае невыносна, горка, адзінока, балюча, згадваю тых, каго люблю, хто трываў і верыў, хто ўмеў перамагаць боль, а нават прыручаць яго. Часта ратавальнай акавітай прыходзяць радкі незабыўнай Ніны Мацяш:

Так, як некалі, толькі ў харошае веру.
Так, як колісь, пяшчотай заходзіцца сэрца.
Толькі белая замець, ні болю, ні смерці.
Белы вір раўнавагі, ні звягі, ні здрады.
Не канчайцеся, вейце, мае снегапады!

Яна, прыкаваная да інвалідскага вазка, верыла, што ўстане і пойдзе са сваімі сяброўкамі ў лес... Прыязджала ў Гародню на лячэнне, бо верыла лекару. І ён верыў, што зможа... Што мой боль і мае пакуты ў параўнанні з тым, што трывала яна!

Веру, што невыпадкова блакітным васільком мільганула ў нашай Гародні дзяцінства — анёльскі век — Максіма Багдановіча, каб адгукнуцца пасля ў перакладзе менавіта гэтага ўрыўка з «Слова...»: «Трубы трубяць гарадзенскія...». Каб праз дзесяцігоддзі паўстаў тут музей, які і сёння — адзін з цэнтраў нашай культуры.

Веру, што недарэмна Ён прызямліўся ў Гародні. Як неаднойчы прызямляўся тут аўтар незвычайнага рамана, і дзеля таго таксама, каб назаўсёды застацца ў паэтычным слове Дануты Бічэль. У вершы «Вандроўка па Гародні з Уладзімірам Караткевічам вясной 1965»:

У фарным касцёле апосталы
пяты век выступаюць на сходзе.
Каторы з раскрытай кнігай,
да цябе падобны, Валодзя.

Веру, што і сама паэтка недарэмна стала гарадзенкай, каб між мноства іншага прамовіць: «Горад мой — бяссонніца мая...» — гэты радок стаў крылатым, і яго паўтараюць нават тыя, што ніколі (мо толькі на пачатку 90-х) не былі прыхільнікамі беларушчыны.

І няхай найвялікшы храм нашага каралеўскага места Фара Вітаўта быў зруйнаваны вандаламі, веру, што ён паўстане з нябыту.

Веру, што недарэмна сто гадоў таму ў нашым горадзе ўзнік Гарадзенскі гурток беларускай моладзі, пра што мы даведаліся з успамінаў Зоські Верас. Кветкавая вера і вернасць у гэтым псеўданіме. Веру, што і яе імем будзе названа вуліца Гародні, як і паўстануць тут некалі вуліцы Антона Луцкевіча, Браніслава Тарашкевіча, Ларысы Геніюш, Васіля Быкава, Аляксея Карпюка...

Мае снегапады сёння, у найпрыгажэйшы час травеньскага росквіту, — гэта квецень каштанаў, пялёсткі, што сыплюцца долу. Веру, што невыпадкова назаўсёды засталася ў Гародні вялікая Пані Эліза Ажэшка, каралева жывога Слова, якая насуперак сцверджанаму тысячагоддзямі прамовіла: «Gloria victis». Прамовіла для тых, хто і сёння мае сілы змагацца, ведаючы, што будзе пераможаным. Падаравала найпрыгажэйшай вуліцы Гародні сваё імя.

Веру, што чыюсьці душу ў часе каштанавага снегападу сагрэюць гэтыя радкі:

Нібы кветкі каштанаў,
белай хваляй плывуць твае словы,
ападаюць на вочы і вусны
далікатнай, празрыстаю явай.
Нешта светлае і чаканае
заварожвае, ап'яняе.
То не словы твае.
То проста —
белай хваляй плывуць каштаны.

Усё, што сказала, ізноў пра Слова... Веру ў Слова.

# Людзі і кветкі мае Карэліччыны

Эліза Ажэшка так назвала свой нарыс: «Людзі і кветкі над Нёманам». Ужо ў самой назве гучыць узнёслая паэзія. Тут — і надзвычайнае багацце краю над Нёманам, і вылучэнне найпрыгажэйшага ў прыродзе — кветкі. Але самае значнае — людзі, чалавек-творца, які здольны гэтую, на першы погляд, някідкую красу ўбачыць і як належыць ацаніць, апавіць у дасканалую моўную форму, дзе і сэнс — відавочны, і гучанне — музыка. А над усім найвышэй ужо ў назве адчуваем тое шчырае пачуццё любові, якое мела ў сваім сэрцы аўтарка і да гэтага краю, і да ягонага люду.

Самыя светлыя згадкі пра край майго маленства — Карэліччыну — таксама звязаны з найдаражэйшымі людзьмі і найпрыгажэйшым, што стварыла прырода, — кветкамі.

## Мамін бэз

Ярка-зялёны светлы травень. Росны і дажджлівы. Мама ўваходзіць у хату з вялікім букетам бэзу. Пакой напаўняецца незвычайным водарам. Для гэтых кветак мама купіла паліваны збанок такога ж, бэзавага, колеру. Ён і дагэтуль ужываецца мною аднойчы ў годзе — у часе, калі цвіце бэз. Тады ў маю памяць вяртаецца той незабыўны бэзавы водар і яшчэ зусім маладая мая мамачка — настаўніца Шчонаўскай пачатковай школы Валянціна Пятроўна Барэйка.

Была ў нас, шчонаўскіх дзяўчынак, такая гульня-забава: шукаць у бэзе шчасце. Кветкі бэзу былі звычайна чатырохпялёсткавыя. І толькі зрэдку можна было знайсці ў гронцы пяці- ці нават большпялёсткавую кветку. Вось яна і была шчасцем. І яе трэба было з'есці. Так чаравалі, бо верылі, што будзем шчаслівымі. І зараз памятаю той гаркавы смак. З вышыні гадоў дакладна ведаю: шчасце і насамрэч мусіць быць не толькі салодкім.

Бэз — спрадвечнае ўпрыгожанне беларускіх сядзібаў. Бы ў шыкоўных вянках, у бэзавых прысадах выступалі нашы мілыя драўляныя хаты перад зрокам падарожніка. Кароткі, але які ж непаўторна прыгожы гэты час — час бэзу. Пералівы колераў ад чысцютка-белага да цёмна-барвовага, а між імі — мноства адценняў фіялкавага і ружовага... І столькі ўспамінаў, і столькі пачуццяў. Як у цудоўным вершы Ірыны Багдановіч «Час бэзу»:

Бэз безупынны, бязлітасны, бэз летуценны.
Бэз як бязмежжа памкненняў, пачуццяў іграння.
Бэз каралеўскі, сармацкі, бухмата-праменны,
Бэз як прэлюдыя лета, фарцісіма траўня.

## Флёксы і язмін бабулі Мані

Самы лепшы фотаздымак маёй антанёўскай бабулі — у кветках, між кустоў флёксаў, якімі быў запоўнены яе гародчык. І ў руках — кветачка. Гэтае суквецце фіялкавых зорачак крыху нагадвае бэз. Напэўна, таму бабуля называла флёксы сірэняй. З рускамоўным ухілам, бо, відаць, сказвалася школьнае навучанне ў далёкім Пецярбурзе. А з другога боку хаты рос куст язміну.

Свежая цёплая травеньская раніца. Бабуля ціхенька заходзіць у пакой і расчыняе акно. Водар язміну — яе ўлюбёны, хацела, каб і ўнучцы падабаўся. Падабаецца заўсёды. І калі цвіце язмін, гляджу на яго з-пад прыадкрытых павекаў і бачу маю бабулю Марыю Рыгораўну Бандарык.

## Зёлкі і ажыны бабулі Волі

А другая мая шчонаўская бабуля Вольга Сымонаўна Барэйка была знахаркай-зёлачніцай. Уся яе хата была завешана сушанымі кветкамі, травамі, у гаючую моц якіх яна верыла. Веру і я. «*Прыроджаная вера ў зёлкі / Радзімы*», як у гераіні нізкі Дануты Бічэль «Водар і шолах». У вобліку яе прабабулі пазнаю сваю дарагую зёлачніцу:

Нядзелькай светлаю хадзіла.
Бальсан, сармацкае кадзіла,
казельчыкі,
каціну мяту
сушыць закідвала на мату.

Заўсёды, калі прыходзіла ў яе бедную хаціну, удыхала той зёлкавы водар, які не выветрываўся ніколі, бо і зёлкі ніколі не пераводзіліся. І заўсёды бабуля рупілася чым-небудзь пачаставаць мяне: яблычкам, *цукерачкам, пячэнікам*...

Вось жа, праз многа гадоў пасля бабулінага сыходу, калі ўжо і мамы маёй не стала, выбралася я на яе котлішча. Хаты ўжо даўно не было. Спілавалі і клён, што стаяў ля дарогі, адзінае дрэва перад хатай. Пакінулі толькі стары здзічэлы бэз...

Падыходзім мы з маёй дачушкай да яе колішняй сядзібы, а там — ці не з дзясятак маладых дрэўцаў, дзяцей таго клёніка. Так і растуць па сёння. Спадзяюся, іх ужо ніхто ссякаць не будзе.

І падалося мне, быццам насамрэч чую голас: «Чым жа мне цябе, унучачка, пачаставаць?» І бачу вакол спелыя, буйныя сінія ажыны з дымкавым налётам, што параслі якраз там, дзе стаяла хата. Тыя ажыны былі апошнія, якіх я ўволю наелася. З таго часу ніколі больш не сустракала я гэтых ягадаў. Вывеліся чамусьці ў нашых ваколіцах. А на бабуліна котлішча ў часе, калі спеюць ажыны, ужо хіба ніколі і не патраплю.

## Лотаць

Вялізарны луг у цёплых лужынах увесь пакрыты жоўтай лотаццю. Лотаць — гэта тыя ж гарлачыкі, толькі драбнейшыя, бо лугавыя. Але ваду таксама любіць. Збіраем букеты. Мая стрыечная сястра Лена Лядэцкая складвае кветку да кветкі і прыгаворвае: «У мяне букет павінен быць прыгожы. Што людзі скажуць, як будзем вяртацца? Я ж не такая малая, як вы». Яна і сапраўды была дарослая: старэйшая за нас, шасцігодак, на цэлы год.

А букеты такія вялікія, што і скласці цяжка. Трымаем адной рукой, ахапкам, бо ў другой абутак: луг заліты вадою. Ступаць басанож цёпла і мякка. І хоць лотаці вакол вельмі многа, ніхто з нас ніколі не наступіў на твар кветкі. Таму так зразумелыя мне радкі з верша Максіма Танка:

Як жа ісці па вуснах пявучых траў,
па жывых, адкрытых вачах лотаці?
Дык вось чаму птушкі лётаюць!

### «Рахі»

На нашым надворку заўсёды было многа кветак. А яны, прыгажуні, любяць, каб іх даглядалі, каб гаспадыня з ранняй вясны да позняй восені рупілася ля кветнікаў. Просіць мая мама сваю ўнучку, маю тады зусім маленькую дачушку Сняжану дапамагчы. Пытаецца ўнучка:

— Навошта столькі кветак?

— Без кветак будзе непрыгожа. Будуць ісці людзі і скажуць: «Тут жывуць нярахі».

Стараецца ўнучка, поле кветачкі і кажа:

— Будзе ў нас хараша. Будуць ісці людзі і скажуць: «Тут жывуць Рахі»...

Штоdoes, калі прыязджаю на Радзіму, сустракаюць мяне кветкі, што цвітуць на надворку. З імі наша цёця Зіна размаўляе, быццам з жывымі.

*2011*

# Мае вышыні

У дзяцінстве любіла кнігу «Чацвёртая вышыня» пра савецкую гераіню (хіба што прыдуманую) Гулю Каралёву. Праўда, у той кнізе мяне асабліва прываблівалі прыгожыя фотаздымкі вельмі прыгожай дзяўчынкі. Мне не надта было блізкім яе разуменне вышыняў, прага дасканаласці. У мяне, вясковай беларускай дзяўчынкі, былі іншыя вышыні, натуральныя, зразумелыя...

## Шчонаўская вышыня

Мая родная вёска Шчонава хараша прытулілася між двух ланцугоў праўдзівых гораў, схілу Наваградскага ўзвышша. А наша хата, мая равесніца, стаяла якраз насупраць дарогі, што спускалася з гары. Гэта і была мая першая вышыня. Глядзела на яе знізу ўверх і падавалася сабе такой маленькай, бо наперадзе толькі гара, гара і дарога, дарога. Цяжкая як для маіх маленькіх ног. Але не памятаю, каб хоць калі павярнула я назад. Сілы падымацца ўсё вышэй даваў мне мой жыццёвы досвед: ведала, што даволі стромы пад'ём хутка закончыцца. Можна будзе перадыхнуць на роўнай дарозе на вяршыні гары, аглянуцца. Карціна, што адкрывалася, здавалася мне такой вялікай, як увесь свет. Бо там было ўсё Шчонава, рэчка за вёскай, лугі абапал яе, лес з левага боку, калгасны двор: канюшня, кароўнікі, кузня, сушылка, дзе трапалі лён. І маленькія, маленькія людзі ўнізе. Усё гэта акаймоўвалася другой гарой, насупраць той, на якой я стаяла. У тыя хвіліны я ўжо не была маленькай і стомленай, а вялікай, дужай і лёгкай, бо стаяла вышэй не толькі за ўсіх людзей, за ўсе дрэвы і за старую ліпу каля Грышкавых, але за ўсе хаты і нават за школу. Бо ногі ўжо адпачылі, пакуль глядзела на ўсё гэта. Бо далей ісці было лёгка: дарога спускалася з гары, калі ўжо можна было бегчы, пакінуўшы яе, па сцяжыне праз поле да бабулінага хутара. А яшчэ,

стоячы над маленькай вёскай, я глядзела на неба, якое было ўсё роўна вельмі далёка. Але ўсё ж бліжэй, чым там, унізе. Здаецца, ужо ведала, што такое гарызонт, яго лінія, бо ў школу хадзіла колькі сябе памятаю. А там пра гэта расказвала дзецям настаўніца, мая мама Барэйка Валянціна Пятроўна.

І мама, і бацька, ды і большасць тых шчонаўцаў, што жылі ў вёсцы ў маім дзяцінстве, ужо ўзняліся на тую вяршыню. Каб застацца там назаўсёды. Бо, як гэта звычайна бывае ў нашых вёсках, могілкі размясціліся на самым высокім месцы, на той маёй гары. З аднаго боку, недарэчна і смутна, бо мёртвае над жывым. З другога, зразумела і лагічна: вечнае над штодзённым.

## Антанёўская вышыня

А вось Антанёва, бабуліна вёска, радзіма маёй мамы, схавалася ў Налібоцкай пушчы. Яна размясцілася на вялікай паляне між лесу. І ніякіх гораў, і нават узгоркаў. Але і тут я здолела задаволіць сваю прагу вышыні.

Весніцы, што выводзілі на вясковую вуліцу, трымаліся на вельмі шырокім (сантыметраў сорак) і высокім (метра паўтара) квадратным шуле. А калі ўлічыць, што дарога, убітая праз стагоддзі людскімі нагамі, жывёлай, павозкамі, тады яшчэ даволі частымі грузавымі машынамі, знаходзілася з паўметра ніжэй ад узроўню нашага двара, то тое шула ўздымалася вельмі высока. Залазіла на яго па весніках і гадзінамі праседжвала,назіраючы зверху за тым, што рабілася на вуліцы. Ішлі людзі, цягнуліся з лесу напасвеныя кароўкі, імчаў табун коней, якія ніколі не стамляліся, хоць працаваць ім, бедным, даводзілася шмат. Мне было шкада, калі коні ішлі спутаныя. Ім было вельмі цяжка. Даводзілася скакаць, адначасна падымаючы пярэднія ногі. Іх путалі, каб не пагубляліся ў лесе, каб лягчэй было пасвіць. Коні былі калгасныя.

Маленькая дзяўчынка, жывы помнік майго антанёўскага мінулага, сядзела на сваім шуле, нібы на цокалі, падабраўшы пад сябе ногі, каб не звісалі, каб ніхто не ўбачыў. І ніхто ніколі не ўгледзеў яе, бо людзі ішлі, не падымаючы галоваў, звычайна

гледзячы сабе пад ногі. Ішлі даяркі на ферму даіць (уручную) кароў, ішлі мужчыны на калгасны двор, ішлі ў краму і з крамы. Праўда, у краму хадзілі не так і часта. Не ведаю, якімі былі заробкі ў антанёўцаў, а вось пенсія ў бабулі і дзеда была па 12 рублёў. Зрэшты, якімі заробкі ні былі, іх ніхто траціць не збіраўся, як і пенсію. Ашчаджалі, збіралі, клалі на кніжку...

Бачу з сваёй вышыні, як выходзіць з двара цётка Галя, мама Брыганнавай Каці, маёй аднагодкі. Яна таксама даярка. Ідзе на абедню дойку. Ідзе проста на мяне. І цяпер бачу, як прыгожа яна ідзе... Горача. Кульмінацыя лета. Жанчына вырашыла распрануць з сябе ўсё магчымае, бо жара невыносная. На ёй чорная, крыху за калена, спадніца, што хораша аблягае статную фігуру, безумоўна, бюстгальтар (у нас казалі «станік») памеру мо якога пятага, і вельмі прыгожая, ружовая, уся ў карунках, камбінацыя. Багатая каса, укладзеная вакол галавы. І такая яна мне прыгожая, як з нейкай карціны, якую я ніколі не бачыла. Сказала пасля бабулі, што мама Каціна вельмі прыгожая. Бабуля на тое адказала: «Прыгожая, бо маладая», што мяне вельмі здзівіла: як гэта цётка Галя — маладая? Было ёй тады гадоў трыццаць...

## Райцаўская вышыня

Ужо само мястэчка Райца для мяне было і засталося недасяжнай вышынёй. За нейкія тры кіламетры ад майго Шчонава, яно падавалася мне далёкім і вельмі вялікім і значным, бо там былі дзве крамы, клуб, кантора, сельсавет, пошта, сярэдняя школа, куды ішлі дзеці з усіх прылеглых вёсак па сканчэнні сваіх пачатковых. Таямнічым, бо над усёй прасторай мястэчка змрочна навісалі разваліны велічнай калісь царквы, а бальніца месцілася ў старасвецкім парку ў будынку колішняга маёнтка, дзе мне пашчасціла нарадзіцца. Тут мяне найбольш уражвалі калоны, драўляныя сходкі, па якіх трэба было падымацца на другі паверх, каб трапіць у стаматалагічны кабінет, і брукаванка насупраць галоўнага ўваходу. Ды і сама назва (зразумела, што лейтматывам у ёй гучала — *рай*), таксама вабіла сваёй нетутэйшасцю, незямной светласцю.

Шмат захавала дзіцячая памяць аб паходах-паездках са Шчонава ў Райцу. Бо ўсе яны былі звязаныя з цікавымі падзеямі: наведванне навагодніх ранішнікаў, дзе нам, чужым дзецям, таксама давалі падарункі, ускладанне да помніка Мікалаю Гастэлу вянкоў да Дня Перамогі, якія мы, школьнікі разам з настаўнікамі, плялі з дзеразы і ўпрыгожвалі жывымі кветкамі, уступленне ў акцябраты, у піянеры, канцэрты і спектаклі ў парку і ў клубе, куды запрашаліся і мінскія тэатры.

Але ўся гэтая слодыч не абышлася без лыжкі дзёгцю. Аднойчы мама дазволіла мне з сяброўкамі пайсці ў райчанскую краму. Купілі цукерак, па бутэльцы напітку. Ідзем праз парк, несучы ўсё гэта ў руках. І раптам з кустоў выскокваюць нейкія хлопцы, хапаюць з маіх рук той напітак і гэтак жа імгненна знікаюць. Маёй роспачы і крыўдзе не было межаў...

Райцаўскую вышыню асвоіла ў вельмі прыгожым веку. У юнацтве, у дзявятым класе, калі жыла на кватэры ў бабулі Лушы якраз каля той таямнічай царквы. Мой сябра, аднакласнік Коля Ждан, паказаў напалову знішчаны ход-пад'ём, вінтавую лесвіцу, на званіцу разбуранага храма. Там, на вышыні, была невялікая пляцоўка, дзе мне адной было вельмі ўтульна. З таго часу гэта месца стала мне самым улюбёным. Маёй таямніцай. Гадзінамі сядзела на той званіцы, гледзячы на райчанскія вуліцы, дарогі за мястэчкам, узгоркі, лес удалечыні. Там чытала кнігі, вяла дзённік. Але галоўнае — марыла. У думках была ўжо далёка, бо школьныя гады, месяцы, дні сплывалі, а наперадзе было ўсё жыццё, такое цікавае, шчаслівае, бясконцае...

Райцаўская царква ўвайшла ў жыццё маіх продкаў, у наша сённяшняе, таму і ў маю творчасць. У апавяданні «Фара» тут бярэ шлюб Агата — вобраз, спісаны з мае прапрабабулі.

Сёння царква ажывае. Бо з'явіўся святар, які не проста працуе тут, а ўсяго сябе аддае служэнню дабру, ісціне. Бацюшка Аляксей Шышкір піша вершы. Даведаўшыся пра мае мроі на райцаўскай вышыні, уявіў вялікай верніцай, якою не была. Але мары пра тое, каб царква паўстала і з'явіўся сапраўдны святар, перадаў дасканала. Далучыў і мілае прысвячэнне: «Дзяўчынцы Але, будучай паэтцы Альжбеце»:

Пачуў Гасподзь мальбу адной дзяўчынкі,
Калі шаптала Богу ля царквы:
«Хачу адказнай быць за ўсе свае учынкі,
Каб тут сумленныя служылі святары.
Каб зноў царкву ўсім светам будавалі
Ў памяць аб тых, хто ў вечнасць адышоў,
Каб абразы ўсе золатам заззялі,
Ды каб прытулак кожны тут знайшоў.
Каб кожнае маё маленне
Пачута Госпадам было,
Каб зберагла сваё сумленне
І не сышла з крыжа свайго!»

Двойчы зводзіў мяне лёс з гэтым прыгожым мястэчкам. Другі раз вярнулася туды разам з мужам і дачушкай. Пяць гадоў настаўніцкай працы ў халоднай савецкай школе. Дзе не ўсё было дрэнна, але нямнога добрага. Мне было цесна ў тых межах, лётала ў снах, але ніколі не паднялася на сваю пакінутую ў юнацтве вышыню. Сотні разоў прайшла паўз яе, памятала, што яна блізка, але штосьці невытлумачальнае не давала падысці, узысці, вярнуцца...

А нядаўна атрымала ад яшчэ аднаго сябра той юнацкай пары сённяшняга масквіча Вані Ждана копію акварэлі Напалеона Орды з выявай Райцаўскай царквы. Не пакідае мяне і гэтая мая вышыня.



# Прыказкі ў маім жыцці

Ёсць некалькі прыказкаў, якія суправаджаюць мяне праз усё жыццё. Пачутыя ад блізкіх людзей у розны час, яны ўсплываюць у памяці, нагадваючы і тых дарагіх мне асобаў, якіх ужо няма на свеце, і абставіны, у якіх былі імі прамоўлены.

## Блізка відаць

Лета, 1965 год. Мне пяць гадоў. Выбраліся з бабуляй Маняй у далёкую дарогу з яе ляснога Антанёва ў Лядкі, вёску, дзе яна нарадзілася. Няблізкі свет, кіламетраў мо з восем будзе. Як на мае маленькія ногі, то пераадолець той шлях было вельмі няпроста. Але першая палова дарогі асабліва цяжкаю не была, бо толькі выйшлі з лесу, пайшлі праз наднёманскую Сіняўку, дзе часта прыпыняліся. Бабуля сустракала знаёмых каля іх хатаў, размаўляла з імі пра апошнія навіны, паказвала ўнучку, якой усе тыя размовы былі вельмі цікавыя. Як і хаты, на якіх віселі розныя шыльды з надпісамі, што паведамлялі то пра партызанскую сям'ю, то пра героя, які загінуў у вайну, то папярэджвалі: «Асот, лебяда — палям калгасным бяда». Думалася: праўда, што калгасным, бо калі лебяды і на сваіх сотках хапае, то асот гаспадары на свае не дапусцяць...

А вось калі выйшлі за Сіняўку, перайшлі мост праз Нёман і пачалася не такая ўжо цікавая дарога, ножкі мае добра прысталі. Па дарозе завярнулі да сціплага помніка па забітых у вайну яўрэях з Ярэмічаў. Бабуля расказала, што было гэта амаль на яе вачох, бо і тым днём ішла яна ў свае Лядкі з малою тады маёю мамай. І чула той страшны лямант няшчасных, калі яны ўжо зразумелі, што прыйшлі да свае магілы, і стрэлы, ад чаго хутчэй старалася ўцячы, каб дачка не чула, не бачыла...

Калі прайшлі тую магілу, то ўгледзелі хаты Пагарэлкі, а за ёю і Лядкі блізка. Кажу бабулі: «Блізка ўжо». А яна ў адказ: «Блізка відаць, ды далёка дыбаць». І тлумачыць, што гэта толькі падаецца блізка, аісці яшчэ і ісці.

Калі ў сваёй Гародні гляджу з каложскае гары на другі бок Нёмана і так блізка бачу Францішканскі касцёл, новыя высотныя дамы, заўсёды згадваю бабуліна: «Блізка відаць, ды далёка дыбаць». І не толькі тут, а паўсюль, дзе вочы мінаюць адлегласць значна хутчэй, чым ногі.

## Не дасі — не сусед, або Аддай рукамі

І гэта прыказка таксама прыйшла ў маё жыццё ад бабулі Мані: «Не дасі — не сусед, а дасі — самому нет», — часта любіла яна паўтараць, навучаючы ўнучку, як жыць. Была ашчаднай, дбайнаю гаспадыняй. Усё сваё імкнулася мець. І не любіла нікому нічога пазычаць. Зрэшты, ведаючы пра гэта, антанёўцы не надта ёй такімі просьбамі надакучалі. Але прыйшла, памятаю, суседка прасіць матыку. Бачу, не надта лоўка бабулі не даць. Цэлы допыт наладзіла: «А навошта? А дзе твая?» Калі прастадушная кабета паведаміла, што зламала, бабуля адрэзала: «То і маю зломіш, дзе я тады вазьму?» Так і пайшла тая ні з чым. Калі я, малая, заікнулася, што аддадуць жа, катэгарычна адрэзала: «Аддай рукамі, а забяры нагамі». Добра тое зараз ведаю. Праўда, зараз мы жывём у зусім іншым свеце, маем магчымасць аддаючы папярэджваць, што вяртаць не трэба. Але ніякіх суседзяў, з якімі мелі б штодзённыя стасункі, даўно ўжо не маем.

## Мінулагодні лёд

Другая мая бабуля Воля засталася ўдавою. Неаднойчы з дзецьмі галадала. Але больш за ўсё даймаў яе холад. Хатка была благая, глінай абмазаная. Мерзла ў ёй гаспадыня страшэнна. Не магла дачакацца вясны. Як найлепшую госцю, усім сэрцам вітала. Ды колькі таго цяпла ў нашым краі бедным людзям адмерана? Не паспееш агледзецца, а ўжо восень на парозе.

Вось жа, калі новыя халады набліжаліся, моцна бедавала бабуля. Прыходжу на яе хутар, а яна кажа: «Дакраніся да мае рукі, глянь, якая халодная». Са скрухай неаднойчы скардзіла-

ся: «Дзе тое лета падзелася? Я й аглянуцца не паспела. У маіх руках яшчэ мінулагодні лёд не растаў, а ўжо новая зіма йдзе».

## Абы воду відало

Дзявяты клас, 1975 г. Райцаўская школа. Жыву ў сваее няні цёці Ганны на шчонаўскіх хутарах. У яе важная справа — мыццё бялізны, якая мокне з учарашняга вечара. Не пранне. Ніхто так у Шчонаве не казаў. Пакуль прыйшла са школы, бялізна ўжо сохне на вуліцы. Каб памыць яе, трэба нанасіць вады з няблізкага, суседскага калодзежа, ваду тую ў печы ў чыгунах нагрэць, а белае, бруднае, то ў тым жа чыгуне і выварыць. А пасля мыць у балеі, шараваць, сагнуўшыся, моцна прыціскаючы да дошкі — тагачаснай пралкі. У цёці Ганны металёвая дошка — пралка, якою карысталася ўсё жыццё. На лепшую не ўзбілася. Ды асабліва і не хацела.

Вось жа, пытаюся ў цёці Ганны, ці стамілася яна, такія белыя льняныя ручнікі на сонцы сохнуць. А яна ў адказ: «Бяло ні бяло, абы воду відало».

Заўсёды смакую гэтую прыказку, калі развешваю сваю бялізну, якую мые пралка. І з задавальненнем бачу: вельмі нават *бяло*. Мяркуеце, цёця Ганна так не думала? Яшчэ як думала! Бо вымыць добра адмоклую бялізну на той хвалістай металёвай дошцы, адшараваць, спраўна прыціснуўшы яе, было задавальненнем для гаспадыні. Толькі б спіна не балела.

## Далежыць лён шоўку

Наогул, многія прыказкі цёці Ганны з налётам пальшчызны. То і не дзіўна. Яе дзяцінства прайшло за Польшчаю.

Усялякія дробныя справы нам рабіць дапамагала. Аднойчы мама папрасіла быць «экспертам» у ваўнянай справе. Воўна тая доўга ляжала ў каморцы, злямцавалася, зжаўцела, моль яе пераела. Але мама не хацела яе выкідаць. А ў тым падтрымку думала ад цёці Ганны займець. Тая ж, крытычна агледзеўшы прадмет, вынесла катэгарычны прысуд — выкінуць. І дадала: «Далежыць лён шоўку, а вуўна — г...на». Апошняе слова такса-

ма на польскі манер казалася. Бо, падавалася, так далікатней. Ды і рыфма таго патрабавала. А рыфма ў прыказцы — далёка не апошняя справа.

## Нарадзілася паняю

У цёці Ганны былі прыгожыя рукі. Маленькія, зграбныя. Яны не пераносілі тую брудную цяжкую вясковую жаночую працу, якую даводзілася рабіць штодня. Асабліва калі рукі трэба было мачыць у халодную ваду. Тады пальцы трэскаліся і відаць былі вузкія крывавыя расколіны. Яны моцна балелі. Заўсёды купляла ёй крэм для рук. Гэта не надта памагала, бо праца тая была бясконцаю. «Чым жа Вам памагчы?» — пытаюся неяк. — «Нічым. Рабіць не трэба». І з усмешкаю дадавала: «Нарадзілася паняю, ды Бог маёнтка не даў».

## Як сем

Мая рэфлексійная натура заўсёды давала пра сябе знаць. Праймалася на кожнае няласкавае слова, перажывала ўсялякую крыўду як трагедыю. Глядзіць на мае пакуты мама і са скрухаю кажа: «Як сем, то і доля ўсем, а як адна, то нікуды не гадна». Добра ведаю, што зусім мама не думае, быццам яе дачка «нікуды не гадна». Але наракаць на лёс нашым вясковым жанчынам неяк звычна. Пашкадаваць сваю дачушку такім чынам. Хоць у часе майго дзяцінства ўжо ніякіх сем і блізка ні ў кога не было. Трое, чацвёра дзетак у хаце. Але была я адна дзяўчынка між трыма хлопчыкамі. То і падавалася маме, што мае праблемы ў тым, што адна я ў яе дачушка. Праўда, забывалася мама ў такія хвіліны, што суседская дзяўчынка, у якое тых праблемаў ніколі не было, бо лёгка яна жыццё ўспрымала, таксама адна была, таксама трох братоў мела.

## Дарма ніц!

Нішто не даецца дарэмна — маміна навука. Яна прыводзіла шматлікія прыклады таго, што здабыць нешта можна толь-

кі праз вялікія высілкі, праз працу, стараннасць. І заўсёды дабаўляла гэтую прыказку: «Дар за дар, дарма ніц!» Другое слова вымаўлялася разам з прыназоўнікам, на які падаў націск. Наогул, прыказка гучала выразнай скорагаворкай, кожнае слова быццам страляла, успрымалася як удар, як загад.

Штогоду аналізуючы для студэнтаў апавяданне Якуба Коласа «Нёманаў дар», гаворачы пра трагічную гібель героя Васіля Падбярэзнага, падводжу да гэтай высновы: нішто не даецца дарэмна. І згадваю маміну прыказку.

## Мая Сора

Колькі сябе памятаю, столькі ў вольную хвіліну нешта шыю-перашываю-падшываю. У дзяцінстве працоўным месцам «краўчыхі» была печ, дзе ствараліся модныя сукенкі для лялек. Прыходзіць неяк бацька з працы, згледзеў мяне з швейнымі прычындаламі і кажа: «Што мая Сора то шые, то пора». Прамоўлена гэта было калі нават і з усмешкай, то вельмі добразычлівай, лагоднай. А «мая Сора» дык наогул — з мілай бацькоўскай пяшчотай.

Многае з нашага жыцця незваротна сплывае ў няпамяць. А святло бацькоўскае любові застаецца назаўсёды.

## За таткам

У нашай мачахі цёці Зіны не было бацькі. Загінуў у вайну. Гадавала мама. Нельга сказаць, што галадалі ці чагосьці неабходнага не мелі. Але ўсё ж бацькоўскае апекі, мужчынскай спіны, за якою маглі б схавацца, не было. Сям'я без гаспадара безабаронная ад ліхіх людзей, адкрытая на крыўды. І дастукацца ёй да ўладных асобаў хоць нейкага ўзроўню ў патрэбе няпроста. А патрэбаў тых процьма. Бо куды наш чалавек ні ступіць, на ўсё дазволу спытаць мусіць, на ўсё паперу атрымаць павінен.

Цёця Зіна была разумнай, даволі здольнай да навукі. А закончыла ў свой час толькі школу. Замуж у васямнаццаць гадочкаў пайшла. Тэхнікум сельскагаспадарчы ў Навагрудку ўжо ў сталым веку адолела. А ўсё таму, што пакіраваць ёю не было

каму, падказаць, дапамагчы. Таму і пачула ад яе аднойчы такое скрушнае, мо нават не без зайздрасці, але зайздрасці нязлое, белае: «За таткам і галоўка гладка». А гэта так і ў літаральным сэнсе. Бо ці мела магчымасць сіраціна дагледзець сябе, каб выглядаць належна, так, як яе сяброўка, што за таткам і капейку мела на тыя дзявочыя ўборы?

### Курачка ў гняздзе

А гэтая прыказка прыйшла да мяне з хаты свёкраў, з шляхецкага засценка Рукаўчыцы, што недалёка ад Цырына. Навучаныя горкім досведам, ведалі добра гаспадары, колішнія нашчадкі багатых сядзібаў, што азначаюць усялякія абяцанкі. Асабліва ад тых, хто ўладу на розных узроўнях з рук выпусціць баіцца. Слухаюць, бывала, такога агітатара за лепшае жыццё для нікому не вядомага народа, і з іроніяй свёкар вымавіць: «Курачка ў гняздзе...», а свякроў дапоўніць: «а яечка...». Далей ужо шляхецкі гонар працягваць не дазваляў, бо прыказка заканчвалася не надта гжэчна. Прыказка цалкам сінанімічная іншай: «Абяцанка-цацанка, а дурню радасць». Мае ж свёкры былі людзьмі мудрымі і гаспадарлівымі. І добра ведалі, што не заўсёды курыца, што на гняздо сядзе, яйка знясе.

### Злазь з даху!..

Як хлёстка гучыць гэтая прыказка, як лаканічна, дакладна перададзены сэнс: «Злазь з даху — не псуй гонту!» Гэта зварот да тых, хто нешта і хацеў бы зрабіць, ды рукі не адтуль растуць. Дакладней, не зварот, а прыказ — катэгарычны, які трэба выконваць без размоваў.

Чую гэтую моўную пярліну і згадваю аповед Віктара, майго мужа. Палез ён, яшчэ зусім малады хлопец, на бацькоўскую хату рамантаваць дах. І ніяк у яго той рамонт не атрымліваецца. Глядзеў бацька знізу, маўчаў, але ўрэшце выдаў: «Злазь з даху — не псуй гонту!» І сам на стрэху палез. Майстар быў — залатыя рукі. Любіў, каб усё было зроблена дасканала.

І прыказку гэтую любіў.

## Якая ўласць

Прыказка «Якая ўласць, такая масць», што мела прысмак палітычны, таксама часта казалася ў хаце маіх свёкраў, якія былі заўзятымі антысаветчыкамі. І гэта зразумела, бо нічога добрага ад чырвоных ўладаў не атрымалі.

Нядаўна даведалася ад мужа цікавую гісторыю, што адбылася ў суседняй з маім Шчонавам вёсцы Даўгінава і ледзьве не мела для вострага на язык мужчыны трагічных наступстваў. Было тое недзе ў 50-я гады. Ля Даўгінава працавала свінаферма. Летам свіней ганялі ў няблізкі выгул, што быў зроблены ў лесе. Там яны павінны былі здабываць сабе харч. Вось жа, пакуль тых небаракаў гналі пад пякучым сонцам, ды і на той лясной паляне таксама не было дзе свінням схавацца, сонца так напальвала іх, што няшчасныя мелі колер такі, як у савецкага прапара.

Прыехаў аднойчы чарговы правяральшчык з раёна (а мо з вобласці), дзівіцца на свіней і пытае, чаму яны такія чырвоныя. На што даглядчык і выпаліў: «Якая ўласць, такая масць». Ад такога адказу ўкормлены твар савецкага начальніка таксама прыняў колер дзяржаўнага сімвала...

Расправа пачалася ў хуткім часе. Няшчаснаму вяскоўцу прышпілілі палітыку. Навісла пагроза суда, зняволення. Трэба было ратаваць чалавека. Добра, што калгаснае кіраўніцтва паставілася спрыяльна, падказалі звярнуцца да псіхіятра. Ад таго дасталі даведку, што чалавек мае адхіленні. Толькі тады пакінулі яго ў спакоі...

Ці не адзіны гэта выпадак, калі савецкая псіхіятрыя выявілася гуманнай, дапамагла чалавеку.

## Адною костачкаю падавіцца

Якая з сямейных кабетаў з багатым стажам можа пахваліцца, што пражыла жыццё і ніколі не ўзнікла жаданне ўсё кінуць, памяняць, сысці? Хоць куды. Упрочкі, як казала мая мама. Але хіба дзесьці будзе лепей? Калі сам такое перажыў, перайшоў і пайшоў далей па той жа дарозе, то нічога. А калі такое з тваімі дзецьмі, то ўспрымаецца значна больш балюча.

То і пачула аднойчы ад нашае Таццяны, стрыечнае сястры мужа, якая па ўзросту нам як маці: «Дай Божа адною костачкаю падавіцца». Успомніла, як аднойчы засела ў маім горле рыбіная костка. А сталася тое ў суботу, і была я далёка ад дому. Трываць давялося аж два дні, да працоўнага панядзелка. А каб там ды яшчэ дзве костачкі заселі? Не, лепей ужо адною падавіцца.

# Антанёва
## Легенды і былі лясной вёскі

Антанёва — вёска ў глыбіні Налібоцкай пушчы, дзівосная казка майго дзяцінства, Радзіма матулі. Мая светлая радасць, але і глыбокі смутак: Антанёва памірае. Даўно няма ні бабулі, ні дзеда, і назаўсёды пайшла мая мама. Усё тут для мяне — адна цікавая, таямнічая легенда, што вырасла з аповедаў бабулі і мамы.

### Пачатак

Пра заснаванне Антанёва ў нетрах вялікай, тады не абжытай пушчы расказвае легенда, у аснове якой — рэальныя падзеі. Было тое ў XIX ст. Гаспадар тых абшараў, не задаволены паводзінамі сваіх прыгонных, беларусаў, што яшчэ здольны былі прагнуць волі, вырашыў выселіць з недалёкай вёскі пяцярых самых непаслухмяных мужыкоў разам з сем'ямі. Выбраў у пушчы паляну, яе пазней расшырылі, павысякаўшы дрэвы (лес у большасці сваёй хваёвы), прыказаў перасяліцца туды Бандарыку, Ульянку, Клаўсуцю, Жуку, Васілеўскаму. Усе паляўнічыя, народ працавіты, гаспадарлівы, у кожнага дзетак поўная хата. Паціху пабудаваліся, землі падзялілі, гэткія ж паляны між лесу, і сталі жыць. Зрэшты, у гэтай легенды два варыянты: у аснове сваёй песімістычны, антыгуманны і, наадварот, светлы, гуманны, аптымістычны. Быццам адсяліў пан у лес мужыкоў па іх волі, дапамагаючы працавітым і самастойным мужчынам стаць на ногі, адчуць сябе гаспадарамі, пазбавіцца цеснаты і беззямелля — спрадвечных прычынаў нядолі беларускага народа. А яшчэ жадаючы, каб гэтая непраходная пушча ажыла, каб загучалі тут чалавечыя галасы. Гэтак і сталася. Да сярэдзіны XX ст., апроч Антанёва, існавала мноства лясных хутароў, маёнткаў, цэлыя паселішчы, такія як Рудня,

Чорная, Ціхова. У 30-я гады пабудавалі нават шашу — прамы шлях да Стоўбцаў. Гэты варыянт легенды мне асабліва блізкі.

А звалі таго пана Антон. Адсюль — Антанёва. З пашанай і ўдзячнасцю да мудрага гаспадара.

## Дзякуй табе, сястрычка...

Гэта таксама было ў трыццатыя гады. У адной сям'і нарадзіўся хлопчык. Прыгожы тварык, разумныя вочкі. Але заміж ручак і ножак — неразвітыя кульці. Вырашылі бацькі: не мусіць ён жыць, бо і сам будзе пакутаваць і ім гэткае гора перад вачыма трываць праз усё жыццё. Няхай Божанька забярэ яго. Вырашылі не даваць ні есці, ні піць.

Хлопчык увесь час плакаў. Засынаў, знямогшыся. Пасля ізноў. Сыходзілі з хаты, каб не чуць. Была ў той сям'і маленькая дзяўчынка. Дзіцячае сэрца спагадлівае. Калі ніхто не бачыў, падышла да брацика і дала яму з лыжкі вадзічкі напіцца.

Дзіцятка памерла на трэція суткі.

А ноччу прыснілася яно дзяўчынцы. Маленькі брацік сказаў: «Дзякуй табе, сястрычка, што вадзіцы мне дала. Адна ты мяне пашкадавала...».

Вось жа гэткім было ў антанёўцаў разуменне гуманізму.

## Айцец Віталь

Гэтае імя мелі многія хлапчукі не толькі ў Антанёве, але і ў іншых вёсках Ярэміцкай парафіі. Так назвалі і майго дзядзьку. Праўда, у вёсках іх клікалі Віцямі.

Гэтак звалі святара Ярэміцкай царквы. Вельмі шанаваў тутэйшы люд свайго бацюшку. Ласкавым, спагадлівым быў. Віталь Арсенавіч Жалезняковіч, родны брат праслаўленага Янкам Брылём Паўла Арсенавіча Жалезняковіча, героя нарыса «Сэрца камуніста». Рознымі шляхамі пайшлі браты. На долю айца Віталя выпала шмат выпрабаванняў. І ГУЛАГаўскія пакуты таксама.

Вельмі сумавалі вернікі, калі перавялі яго ў далёкія ад нашай Карэліччыны Гудзевічы.

Мама згадвала, як аднойчы яны з бабуляй правініліся. Мелі ладны кавалак зямлі далёка ад Антанёва, кіламетраў дзесяць будзе, між Турцом і Ярэмічамі. Бабуліна пасажнае поле, недалёка ад яе родных Лядак. Было тое ў разгар жніва. Жалі пры самай дарозе, старадаўнім шляху між двума мястэчкамі. За пільнай працай бабуля, шчырая верніца, зусім забылася, што на той дзень выпадала вялікае хрысціянскае свята. Разагнулі спіны і застылі на месцы: па шляху ідзе цэлая працэсія святароў з Ярэмічаў у Турэц. Да іх набліжаюцца. І хавацца ўжо не выпадала. Які сорам, ганьба, грэх! І найперш няёмка перад шаноўным айцом Віталем. А ён, параўняўшыся з збянтэжанымі жнеямі, толькі са скрухай спытаў: «Няўжо вы не праваслаўныя людзі?» Гэтае яго ціхае пытанне-ўшчуванне было для маіх родных горшым за ўсякую абразу ці крык. Такога ярэміцкі святар не дазваляў сабе ніколі. Бабуля казала мне: «Хай бы ён лепш накрычаў на нас, то лягчэй было б».

Колькі еду па гэтым шляху, столькі перад вачыма маімі стаяць пры дарозе ў недажатым збожжы дзве дарагія мне жнейкі: прыгожая, статная, моцная, тады яшчэ зусім маладая, якой мне яе ведаць не давялося, мая бабуля Маня і зусім яшчэ маленькая, дэбютантка на жніве, кволая дзяўчынка гадоў сямі з маленькім сярпом — мая мама Валя, будучая настаўніца Валянціна Пятроўна Барэйка.

## Партызанка

Самая страшная трагедыя адбылася з Антанёвам у гады апошняй вайны. Вёска, ваколіцы былі партызанскай зонай. Яны тут цалкам гаспадарылі. Але калі фашысты ішлі ў наступ, партызаны пакідалі вёску і адыходзілі ў глыбіню пушчы, дзе непраходныя балоты рабілі іх недаступнымі. Так было тройчы. Страшнае слова «блакада» ўвайшло ў мову жыхароў. Першым разам не ўсе антанёўцы падаліся ўслед за партызанамі. «А мо' як абыдзецца? У чым мы вінаватыя? А як усё кінуць?» — пэўна, думалася ім. Не пайшоў з усімі і родны брат дзеда Петрыка Іван, які жыў разам з братавай сям'ёй: «Я ж тут кожны кусцік ведаю, кожнае дрэўца. Хіба ж яны мяне не

схаваюць?» Не схавалі. Карнікі ішлі з сабакамі. Не ўбярогся ніхто. Вёску спалілі дашчэнту. Калі блакада была знятая, антанёўцы вярнуліся на свае котлішчы. Гэта было агульнае вялікае гора. Амаль у кожнай сям'і — забіты. Прытулку ніякага. Увесь скарб згарэў. Вось тады і паўсталі на ўскрайку Антанёва часовыя могілкі. Не да таго было людзям, каб выпраўляць сваіх родных за пяць кіламетраў у Сіняўку. Нават апрануць у апошнюю дарогу ў лепшае не было магчымасці. Тым болей абуць. Дзед Іван быў шляхетным кавалерам. Амаль ніколі не хадзіў босы. А да свайго Вечнага Дому выправіўся басанож. Прысніўся маме, сваёй улюбёнай пляменніцы, са скаргай, што мерзнуць ягоныя ногі. Праз усё жыццё мама пра тое памятала.

Антанёва палілі тры разы. Першы — хаты, два астатнія — зямлянкі. Упершыню тое здарылася 25 верасня 1942 года. Людзей вывелі да Сіняўскай Слабады, загадалі ўсім легчы на зямлю. Антанёўцы ўжо развітваліся з жыццём. Як сцвярджае Арсень Лядэцкі, ад немінучай смерці іх выратаваў камендант паліцыі з Турца Серафімовіч.

Першую блакаду маміна сям'я перажыла, захаваўшы кароўку. Дзед Петрык зрабіў намызнік з лазы, каб Красуля не выдала людзей. Так і ўбераглася. І людзям з голаду пухнуць не давялося. Зіма 1942/43 г. выдалася цёплай, бясснежнай. Праз увесь час у лесе касілі сухую траву, бо сена не было. Усё апагарэла. Елі і коні, і каровы, у каго захаваліся. На памяці антанёўцаў у тыя часы гэта была самая цёплая зіма.

Другім разам у мамінай сям'і цудам уцалела свіння. Уцякла ў лес. Вярнулася, калі людзі былі ўжо ля сваіх спаленых зямлянак. Карміць «блакадніцу» вымушана была мама. Збірала траву. Самі крапівой, шчаўем, ягадамі і грыбамі карміліся. Свіння схуднела страшэнна. Адзін хрыбет ды скура. Калі ж травы не стала, і зусім бяда прыйшла. І забіваць не выпадае: цёпла яшчэ, а да ўсяго — скура ды косці. У суседняй Сіняўцы ў знаёмых захавалася бульба. Схаўрусавалі: завезлі свінню на адкорм, каб на Каляды падзяліць свежаніну. Перад святам паехаў дзед Петрык па сваю долю. Дзялілі гэтак старанна, сумленна, каб ніхто ў крыўдзе не застаўся. Нават хвост здолелі ўздоўж распаласаваць. Пароўну. На тыя Каляды гэта была

адзінаая свежаніна на ўсё Антанёва. Бабуля спякла на снядананак крывянку. Наеўшыся, мама пабегла гуляць да сяброваак. Да канца вуліцы дайшла, а ўсё здавалася ёй, што водар тае багатае стравы чутны.

Асабліва страшна было пасля трэцяй блакады. Не засталося нічога. Выбавіла з галоднай смерці жабрацтва. Жабраваць хадзіла бабуля. Дзед Петрык не мог. Сядзеў з дзецьмі дома. Чакалі. Бабуля вярталася амаль з поўным мехам прадуктаў: сухары, бульба, часам і вараная. Так і перазімавалі. Напэўна, з тых часоў засталося ў бабулі спачуванне да тых, хто ў дарозе. У сцюжны час яна заўсёды згадвала пра тых, хто далёка ад дому. Давялося ёй, беднай, тыя лютыя дарогі ў непагадзь неаднойчы адолець.

З таго часу словы «партызанка» і «блакада» ўспрымаліся бабуляй як роднасныя. Як самае страшнае з пражытага за нялёгкае жыццё.

## Дзеці і партызанка

Праз доўгі час мне не давала спакою расказаная мамай гісторыя пра загубленае ў блакаду дзіцятка. Відавочна, Янка Брыль, блізкі зямляк мамы, якому давялося самому стаць партызанам, ведаў пра многія такія выпадкі. У апавяданні «Адзін дзень» пісьменнік-гуманіст паказаў трагічныя рэаліі партызанскай вайны. Блакада ў Налібоцкай пушчы. «...Пайшла па людзях гаворка пра вялікую, нечуваную бяду, якая называецца зусім новым і вельмі страшным словам — блакада...». Гэтая ўсеагульная трагедыя падсвечваецца трагедыяй маці з дзіцём-немаўляткам на руках. У балоце, у смяротным коле, пад бамбёжкай, абстрэламі. І вось у гэты момант раздаецца плач дзіцяці, які можа стацца загубай для іншых. Аднак чалавечнасць, што перамагае страх і маладушнасць, дапамагае выратаваць і дзіця, і маці. Фінал апавядання светлы, шчаслівы. Даследчыкі творчасці народнага пісьменніка адзначаюць уплыў на распрацоўку характараў герояў і фінал твора прынцыпаў сацыялістычнага рэалізму. Янка Брыль «не адкідваў іх як нешта ў прынцыпе заганнае, а спачатку выпрабоўваў,

імкнуўся прымераць да сваёй мастацкай манеры. Сяды-тады гэта сябе апраўдвала. Так, у апавяданні “Адзін дзень” можна заўважыць вынікі ўплыву сумнавядомай “тэорыі бесканфліктнасці”. Калі ў першай яго рэдакцыі (1946) баязлівец Серада быў асуджаны канчаткова, то ў апошняй (1952) ён “выпраўляецца”, сам дакладвае камбрыгу, як, спалохаўшыся, павёў партызан хавацца, а не шукаць сваіх». Адзначаецца, што і шчаслівы фінал таксама не ў апошнюю чаргу абумоўлены такой перапрацоўкай. Але самым істотным з’яўляецца перагляд маральнай канцэпцыі твора. Верх бяруць гуманістычнае, высокамаральнае стаўленне герояў да маці і дзіцяці. Страху, які авалодаў дарослымі мужчынамі, партызанамі, «супрацьстаіць самаахвярнасць маладой маці. Яна абудзіла ў людзях сумленне, пачуццё ўласнай годнасці, і нават Серада з яго адносна невысокім духоўным узроўнем зноў становіцца чалавекам. Добразычлівы смех і жарты партызан у фінале замацоўваюць агульную перамогу чалавечнасці над страхам, духоўнай няволяй. Такім чынам, Я. Брыля прывабіла зусім не “бесканфліктнасць”, а магчымасць данесці да чытача найважнейшую гуманістычную ідэю: чалавек ёсць чалавек, ён можа памыліцца, але можа і авалодаць абставінамі сам ці з дапамогаю іншых».

А здаралася такое, што кабета сваё дзіця душыла.

З успамінаў маёй мамы. Ёй было тады каля дзесяці гадоў. Антанёўцы схаваліся ў балоце. Гэта была не першая блакада. Але хіба самая страшная. Партызанскія сем’і — недалёка. Дзіцятка, відаць, галоднае, плакала ўвесь час. А немцы набліжаліся. Кожны гук мог выдаць прысутнасць людзей. Быццам камандзір прыказаў... Не ведаю. Яна сама зрабіла гэта. І літаральна ў той момант было абвешчана: блакада знятая, немцы адыходзяць... За трункай дзіцяці яна, чорная, ішла, не галосячы, як тутэйшыя маці, якім даводзілася хаваць сваіх дзяцей...

Мама не памятала, чаму жанчына падалася ёй чорнай. Не адзеннем і не колерам валасоў. Казала: «Мы не маглі на яе глядзець. Ад яе ўсе адварочваліся».

Чаму Янка Брыль, апісаўшы той страшны выпадак, гэтак кардынальна змяніў яго? Відаць, усё ў ім, пісьменніку, гуманісту, пратэставала супраць той праўды. Гэта, пэўна, пярэ-

чыла б ягонаму разуменню сутнасці чалавека, жанчыны, маці. У душы, магчыма, жыў пратэст: такога не магло быць. І не было. Павінна было стацца так, як у творы. Ды і ці можна было надрукаваць апавяданне з тым, жыццёвым фіналам?

Не мог пісьменнік «пусціць» у свой твор такі жахлівы ўчынак, бо любоў маці, яе вернасць дзецям ставіў вельмі высока. Подзвіг жанчыны, якая ратуе чужых сыноў, ахвяруючы сваім жыццём, апісаны празаікам у вядомым апавяданні «Маці».

Зрэшты, такая сітуацыя ў блакадныя часы здаралася неаднойчы. І не заўсёды заканчвалася гэтак пачварна-трагічна.

Наведваючы Антанёва вясной 2008 года, даведалася яшчэ пра тры падобныя выпадкі.

Дзівоснае выратаванне Анжынавай (так у вёсцы ўсе называлі Клаўсуця Івана Фаміча) дачкі Зоі адбылося літаральна на вачах цёткі Веркі. Яны ўсе сядзелі ў балоце, у кустах. Толькі галава наверсе, а часам і галаву трэба было ў багну хаваць. А недалёка дарога. Па ёй ехалі трое вершнікаў. Не немцы, антанёўцы ведалі тое пэўна. Чамусьці ўпэўнены, што латышы. Каго толькі не было ў тыя злавесныя часы ў Беларусі!

Запомнілася, што коні былі белыя. Пад'ехалі да таго месца, дзе сядзела Анжынава Люба з дзіцем і (цётка Верка кажа, як бы гуляючы, не цэлячыся, адчэпнага, а ўсіх іх бачылі і лёгка маглі расстраляць) далі чаргу з аўтамата. На няшчасце, тая чарга і трапіла ў Любу. Жанчына загінула, а дзяўчынка засталася. Маці прыціскала яе да сябе, ножку прастрэлілі, сцягенца, косць не была закранута. Дзіцятку было каля года, яшчэ кармілася матчыным малаком. Антанёўцы сцвярджаюць, што поўзала ля мёртвай маткі і ссала грудзі. Так яе і знайшлі суседзі. Дзяўчынка вырасла, стала доктарам.

А другі выпадак уражвае гуманнасцю, міласэрнасцю звычайнага вясковага чалавека, партызана Уладзіміра Васілеўскага, які не даў маці, жонцы партызана Колі Мацко Мані, родам з Лядак, задушыць дзіця, якое плачам магло выдаць іх немцам. Выратаваў, аказаўся больш міласэрным, чым родная маці.

У кнізе ўспамінаў пісьменніка з недалёкай ад Антанёва Сіняўскай Слабады Уладзіміра Калесніка «Доўг памяці» знаходзім праўдзівыя звесткі пра падобныя выпадкі. Але ўспры-

маліся яны людзьмі па-рознаму. Так, аўтар згадвае аповед колішняга партызана, які «з пахвальбой прывёў жахлівы факт, як яго жонка ў часе блакады ўтапіла сваё немаўля». Чалавек, бацька дзіцяці, гаворыць пра гэта маладым людзям, студэнтам, такім чынам выхоўваючы будучых маці і бацькоў. Ацэнка гэтага выпадку пісьменнікам-гуманістам, безумоўна, не супадае з пазіцыяй апавядальніка: «Пра той факт я ведаў, у свой час мы гаварылі пра яго, пра жахлівую выключнасць, да якой могуць давесці чалавека нелюдзі». А як можна ацаніць такую пазіцыю партызана, «народнага змагара»?

Уладзімір Калеснік прыгадвае і іншы выпадак, калі іншая маладая маці з партызанскага лагера з дзіцём на руках, ратуючы сваё немаўля, адбілася ад людзей і страціла розум. Доўга блукала адна па лесе. «Знайшлі яе тыдні праз два, дзіця на руках было даўно мёртвае, а бедная маці не магла гэтага зразумець». Гэтая карціна нагадвае сцэну пажару ў драматычнай паэме Янкі Купалы «Сон на кургане», калі маці вар'яцее, страціўшы ў часе пажару дзіця, носіць на руках галавешку, люляючы яе, быццам сваю крывінку. Абедзве сцэны з жахлівага тэатра абсурду, у які нялюдскія ўмовы ператвараюць чалавечае жыццё.

Вяртаючыся да ўчынку жонкі партызана, якая не змагла супраціўляцца ахопленым панікай партызанам і людзям з сямейнага лагера і знішчыла сваё дзіця, пісьменнік дае адназначную ацэнку ўчынку жанчыны і тых, хто падштурхнуў яе да гэтага. Але страшней, відавочна, іншае. Гэта аповед бацькі і ягонае стаўленне да забойства: «Выпадак, як на тыя ваенныя часы, жахлівы, а бацька таго дзіцяці, які сам быў у тым панічным гурце, расказваў пра ўсё гэта без скрухі, як бы гэта быў гераічны ўчынак, а яму і яго жонцы належыцца за гэта ўзнагарода».

Напісаўшы гэтую кнігу, Уладзімір Калеснік сплаціў доўг не толькі свайму краю, свайму роду, але і тым трагічным падзеям, якія адбываліся на нашай зямлі ў часы вайны.

## Пачатак канца

Ім для шматлюднага на той час Антанёва, мноства сядзібаў у Налібоках, на жаль, стаў верасень 1939 года. Мама добра памятала той дзень — 17 верасня. Прыбегла зранку да сваёй сяброўкі, дачкі даволі заможнага гаспадара-асадніка, выйшаў ейны бацька і даў маме цэлую жменю манетаў — грошаў, наказаўшы бегчы дахаты і сёння больш не прыходзіць. Пабегла, схавала нечаканы скарб. А тады праз вакно ўбачыла, як па антанёўскай вуліцы пайшлі адна за другой наладаваныя хатнім скарбам фурманкі асаднікаў, паноў з маёнткаў. А ўжо па абедзе праз вёску прайшлі чырвонаармейцы. Тыя польскія грошы пераcталі быць скарбам.

Вядома, чырвоная прапаганда і раней даносіла звесткі пра шчаслівае жыццё ў Савецкай Беларусі. Беларус, гэты Хомка няверуючы, як дакладна заўважыў яшчэ Максім Гарэцкі, не надта спяшаўся верыць. Заўсёды чакаў, каб на свае вочы ўбачыць. Вельмі цікава ўспрымала тую прапаганду мая мама. Прыход саветаў уяўляўся ёй святам з такімі наступствамі: у кожнай вясковай хаце на падваконніках будуць стаяць вялікія, купляныя (не сшытыя, як у яе, а сапраўдныя) лялькі, і ўсе людзі ў вёсцы будуць есці белыя булкі, як на Вялікдзень. Штодня.

Здзічэлыя бэзавыя кусты ў Налібоцкай пушчы, згаданыя Янкам Брылём у яго мініяцюрах, — гэта памяткі, помнікі, адзінокія і адзіныя сведкі таго, калісь жывога, прыгожага свету, пачаткам знішчэння якога стаў 1939 год, а кульмінацыяй — лютая зіма 1940 года.

Мама ўспамінала, як неяк яшчэ з вечара бацьку загадалі з'явіцца з падводай. (Мой дзед Петрык — гэта той жа Купалаў тутэйшы Лявон Гарошка, якога кожная новая ўлада, «абскубанты», гнала ў абоз, не надта пытаючы згоды, адрываючы ад сваіх сялянскіх справаў). Вярнуўся на раніцу. Здубянелы. Хоць быў у кажуху і валенках. Яго трэсла як у трасцы. Не ад холаду. Ад жаху: «Што ж яны вырабляюць?! Усіх вывезлі. Дзеці малыя. А на падводу не дазволілі нават саломы падаслаць. На голыя драбіны садзілі. У гэткі мароз. Яны не выжывуць. І загадалі: нікому ні слова, дзе быў ноччу...».

І гэта сёння таксама можна назваць знішчэннем «носьбітаў польскага нацыянальнага духу»? Але найперш гэта было знішчэнне мірных людзей, іх дзяцей. На гэтай зямлі так усё пераплецена, такія нацыянальныя вузлы завязаныя, што кранаць іх заўсёды балюча. Ды і ці патрэбна? Асабліва тым, хто не жыў у Заходняй Беларусі. А хто ў такім разе Адам Міцкевіч? А Эліза Ажэшка? А Алаіза Пашкевіч? А Ларыса Геніюш? Да бясконцасці можна доўжыць гэты спіс. Усе яны — прадстаўнікі спрадвечнай ліцвінскай шляхты, якая была спаланізаваная, але былі сапраўднымі інтэлігентамі, што з глыбокай павагай ставіліся да беларускага люду, прамаўлялі пра яго і аб ім, аб ягонай знявечанай душы, пра скарбы гэтай душы (Адам Міцкевіч, Эліза Ажэшка), станавіліся ягонымі апосталамі, бо дайшлі да праўды — кім ёсць і кім ёсць іх народ (Францішак Багушэвіч, Алаіза Пашкевіч, Ларыса Геніюш), мецэнатамі (Магдалена Радзівіл). А ўявіце, каб давялося той спаланізаванай шляхце жыць у незалежнай Беларусі — цывілізаванай еўрапейскай дзяржаве. Ці ёсць пэўнасць, што сталі б яны ворагамі такой краіны? Дзеляць люд гэтай зямлі на палякаў і беларусаў, тым самым, на жаль, льюць ваду на тую ж мельніцу: беларусы — нацыя не шляхетная, мужыцкая. А як жа Купала — нашчадак шляхецкага роду, што пачынаў пісаць па-польску, а браты Луцкевічы, а найвялікшы — Максім Багдановіч, род якога па маці быў шляхецкім, меў герб «Курч», а Карусь Каганец — з той жа старадаўняй гербавай шляхты, а пан Аляксандр Уласаў — гаспадар Мігаўкі, а Ядвігін Ш. — гаспадар Карпілаўкі, што давала прытулак дзецям-сіротам у гады Першай сусветнай вайны, а Вацлаў Іваноўскі, чыя спадчынная сядзіба Лябёдка на Шчучыншчыне захавалася да сёння, а сто гадоў таму стала калыскай нашага вольнага беларускага слова — першага перыёдыка XX стагоддзя з такой знакавай назвай — «Свабода»... Бясконца можна доўжыць аповед пра творцаў, пісьменнікаў, музыкаў, гісторыкаў, філолагаў — нашых беларускіх паноў. А заглянем у XIX ст. Усе яны — шаноўнае панства. І ўсе з польскіх сем'яў...

Ад маёй бабулі праз увесь час чула: «Ранейшыя паны былі лепшыя, чым цяперашнія». Мела на ўвазе калгаснае кіраўніц-

тва. Ніколі нічога благога пра «даўнейшых» паноў не казала. Працаваць на панскім полі было выгадна. Разлічвалі кожны вечар залатоўкамі. Працавалі жанкі так старанна, што, калі хустка спадзе, не папраўлялі: «Пакуль разагнешся, перавяжаш, ад суседак адстанеш. Назаўтра не возьмуць». Працоўных рук хапала. Згадвала бабуля такі выпадак. Стаміліся жнучы. Вырашылі адпачыць. Леглі на траўцы ў цяньку. Тут якраз пан з эканомам пад'язджаюць. І хавацца позна, бо ўжо ўбачылі «лайдачак». Вырашылі: хай будзе, што будзе, прытварыліся, што спяць. Пад'ехалі паны і будзіць кабетаў не сталі. Ціха паехалі далей. А збянтэжаныя, здзіўленыя кабеты пачулі панскія словы: «Глядзі, пане эканоме, ляжаць гэтыя сялянкі на сырой зямлі і не захварэюць. Уяўляеш, што было б, каб нашыя пані на халоднай зямлі паляжалі?»

А ў маім родным Шчонаве з асаблівай цеплынёй згадвалі пра маладых паненак, дачок пана Жука. Кабета, што была ў іх пакаёўкай, мела фотаздымкі. Малілася на іх, як на ікону. Муж іранічна называў тую кабету Панскім Пантофлем.

Што да варанчанскай пані Чарноцкай, то яна наогул была вельмі шанаванай між нашага люду. Лекарка, асветніца, адкрывала школы для тутэйшых дзетак. А ў 39-м і не думала ўцякаць у Польшчу, гэта была яе зямля, яе Радзіма, яе народ, які любіла. Ніколі нікому не зрабіла благога. Загінула ў вайну пакутніцкай смерцю. Разам з свякроўю, сынам, нявесткай, якая чакала дзіцятка. І ніхто з тутэйшых ніколі ні слова благога не чуў ад яе ні пра беларусаў, ні пра мову нашу. А жыла яна, нагадаю, у адноўленай Рэчы Паспалітай. То кім павінна была сябе лічыць? Ці не можна ўявіць, што тое ненароджанае дзіцятка, якое таксама загінула ў пажары, стала б носьбітам беларускага духу, бо жыло б ужо не ў Польшчы? А мо стала б новым Міцкевічам ці Манюшкам, бо незвычайным талентам музыкаў быў пазначаны гэты род?

Разгадка прыязнасці многіх з нашага вясковага люду да колішніх паноў не можа хавацца ў рабскай пакорлівасці, прыняцці як справядлівай эксплуатацыі з боку панства, а ў шанаванні адукаванасці, шляхетнасці, прыстойнасці, спагаднасці, чаго, на жаль, і блізка не знайшлі ў «новых панах». І ў тым,

што лепшага яны ніколі не бачылі, бо жыццё ў створаных саветамі калгасах было вядома якім. Саветызацыя для нашага люду была ці не страшнейшай бядой за паланізацыю.

На жаль, беларусы дайшлі да таго, што нават такія прыгожыя, натуральныя беларускія словы-звароты — *пані, пан, панства* — дыскрымінавалі, адкінуўшы па сацыяльнай і нацыянальнай прыкмеце, дыскрэдытавалі, напоўніўшы зместам цалкам адмоўным: пан — эксплуататар, дэспат, гультай, злодзей. А яшчэ — паляк.

Усе мы — людзі гэтай зямлі, носьбітамі якога б нацыянальнага духу ні былі.

## Калгаснік

Да вайны калгаса ў Антанёве стварыць не змаглі. Не паспелі. Наступ на «ўласнікаў», «адшчапенцаў» пачалі на пачатку пяцідзясятых. Мама ў тым часе ўжо вучылася ў Наваградскім педвучылішчы. Першая і тады адзіная з усяго пасляваеннага пакалення антанёўцаў.

Завіталі агітатары з раёна і ў Антанёва. На сход загадалі ісці. Бабуля, адзінаўладная гаспадыня ў хаце, якая ніколі ў сваёй малалікай сям'і не трывала ніякай дэмакратыі, грамадскія, свецкія, спрадвечныя законы паважала: на сходы заўсёды выпраўляла дзеда. Антанёўцы ведалі, з чым завіталі «госці». Сур'ёзна яшчэ да калгаснай пагрозы не ставіліся. Ніхто і не думаў у той калгас уступаць...

А гэтую сцэну, адначасова трагічную і камічную, можна ўявіць, толькі калі ведаеш маіх бабулю Маню, жалезную ледзі нашага роду, якая ніколі не дазваляла сабе ніякіх эмоцыяў, ніколі не бачыла я на ейным твары ані ўсмешкі, ані слязы. Ведала адно — праца, прыстойнасць, сіла... А дзядуля Петрык — гэта Пятрок з рамана Васіля Быкава «Знак бяды». Добры, ціхі, спакойны, ніколі не чула ад яго не тое што грубага, але нават громка прамоўленага слова. Слова і ад пачатку, і да канца было ў бабулі. Да таго ж дзед быў маленькім, худзенькім, але дужым, цягавітым, жылістым. А бабуля — «шэсць пудоў сама меней важыць». Дык вось. Вяртаецца дзед Петрык

дахаты пасля сходу позна. Бабуля чакае. «Ну што, колькі ўступіла?» — «Двое». — «Адзін вядома хто. Гультай гэты, абібок, няўдаліца, галота. (Прысуды бабуліны былі дакладныя, адназначныя, неаспрэчныя. Ніхто і не спрачаўся ніколі.) А хто ж гэта другі такі дурань у Антанёве знайшоўся?..»

Тут зноў жа трэба толькі ўявіць, што адбылося, калі дзед (мой бедны, мой дарагі, мой няшчасны (тады) дзядуля Петрык) нерашуча, са страхам прамовіў: «Я». Напачатку была нямая сцэна. Бабуля анямела ад жахлівага гневу, ад нечаканасці. Дзядуля чакаў. Ведаў, што будзе. Ведаў, што перад вялікай бурай у прыродзе заўсёды бывае кароткае зацішша. І чым цішэй спярша, тым страшней пасля. А баба Маня — гэта і была тая магутная прырода, стыхія, якая валодала і громам, і маланкай. У параўнанні з дзедам, тонкім, але магутным дрэўцам, гэта была сама пушча. І сам Пярун быў ёй падуладным. Бо беларускае слова «ўперыць» ад яго паходзіць, ад імені паганскага бога грому. Кулакі ў бабулі былі моцныя. Праўда, біла толькі мужа і толькі ў спіну. Грумяка давала, а ён стаяў, сутуліўшы плечы. Была я гэтаму сведкай неаднойчы...

Дык што ж здарылася? Чаму дзед Петрык асмеліўся пайсці не толькі супраць волі бабулі, але і супраць сваёй волі? Усё вельмі проста. Тыя ўпаўнаважаныя былі падрыхтаваныя, супроць дзеда мелі бяспройгрышны козыр. Адводзяць дзеда ўбок перад сходам і ўльтыматум яму, не прыняць які нельга: «Не ўступіш, не падпішашся, Валю з педвучылішча выкінем!» Можна толькі ўявіць, якія пякельныя пакуты перажыў мой бедны дзед на тым сходзе: «Не ўступлю! А як не ўступіш? Валю выкінуць. А гэтак вучыцца ж добра. Гэтак настаўніцай хоча стаць... Што ж мне Маня скажа? А як людзям у вочы глядзець? Але ж — Валя...». Ніхто яму, малапісьменнаму, законапаслухмянаму селяніну-беларусу, не мог падказаць: «Не бойся, не выкінуць». Большасць у педвучылішчы былі дзецьмі аднаасобнікаў. Праўда, на сходах камсамольскіх ушчувалі за бацькоў несвядомых. А маму хвалілі за «свядомасць» бацькоў-калгаснікаў...

## Вір

Яшчэ адным антанёўскім цудам-легендай для мяне быў Нёман. Дакладна як у нашай гарадзенскай паэткі Дануты Бічэль: «У дзяцінстве доўга думала, што Нёман — гэта не рэчка, а нешта зусім іншае. Рэчкай у маім уяўленні была Гаўя. Як растлумачыць? Гэта быў Нёман! Нешта такое неабдымнае, святое. Нёман — гэта бяссмерце маіх продкаў».

Для мяне рэчкай была наша маленькая звілістая Зямчатка ў родным Шчонаве. А неабдымнасць Нёмана ўспрымалася літаральна, натуральна. Бо давялося аднойчы пераязджаць Нёман у разводдзе. Зараз такога няма. Нёман змялеў. Не здольны нават сарваць мост. А ў той час мост на час разводдзя здымалі. Вада даходзіла амаль да Ярэмічаў. Хіба месяц да Антанёва можна было дабрацца, толькі параплыўшы Нёман у лодцы. Мы з бабуляй вярталіся з Мінска ад дзядзькі Віці. Як зараз, бачу вакол тую бясконцую, неспакойную ваду. Страшна і неяк незвычайна радасна. А холадна, а вецер калючы...

Зрэшты, да Нёмана ад Антанёва яшчэ было ісці ды ісці. Кіламетраў пяць будзе. У дзяцінстве бабуля не надта дазваляла хадзіць на Нёман купацца. Гэтая радасць стала даступнай мне пазней, у юнацтве...

Вось жа, Нёман хваляваў, вабіў і страшыў чымсьці загадкавым, што хавалася за словам «вір». Мо яшчэ таму, што ўжо надта сугучнае з іншым страшным, якраз у той час зведаным — «Вій» (ішоў фільм, экранізацыя гогалеўскіх «Хутароў...»). Бабуля часта ў адказ на мае просьбы адпусціць на Нёман расказвала легенду: «У Ярэмічах (а мо ў Сіняўцы) жылі дзяўчына і хлопец. Кахалі адно аднаго. Шлюб меліся ўзяць. Перад тым пайшлі на Нёман. Шчаслівыя, радасныя. Купаліся, весяліліся. Дзяўчына пачала клікаць: “Вяртаемся ўжо. Дахаты пара”. А суджаны яе ў адказ: “Яшчэ толькі адзін крок ступлю і вярнуся”. Ступіў адзін крок і трапіў у вір. І пацягнула яго страшная сіла. Кінулася за ім дзяўчына. І яе закружыла, бо з вірам не пазмагаешся. Калі ў яго трапіш, не вернешся. Выснова заўсёды была адна: “Вось і ты ступіш у вір, а ён цябе і пацягне”». І таму вір уяўляўся не бяздонным месцам у рацэ, а страшнай вадзяной пачварай.

Апошні прытулак маіх бабулі і дзеда (а пайшлі амаль у адзін час, спачатку дзед, зімою, а праз паўгода, летам, і бабуля) — каля самага Нёмана, у Сіняўскай Слабадзе. Бо сталых могілкаў у Антанёве не было ніколі. Спяць мае родныя каля тых самых страшных віроў. Якіх сёння ўжо хіба і няма. І віры, відаць, паміраюць.

## Замiж эпілога

Хоць раз у годзе стараюся наведаць Антанёва, могілкі ў Сіняўцы і Ярэмічах. Ад бабулінай хаты засталіся толькі «дзверы, склеп і калодзеж, пацямнелыя сходкі-ўваходкі, што вядуць толькі ў памяць». Гэта з майго верша на Свабоду. Да болю развярэдзяць душу ўспаміны. Пачастуе мяне бабуля салодкімі вусаткамі, якія пасадзіла ў гародчыку пад кухонным акном. Для мяне пасадзіла, бо трэба было ў суседзяў прасіць, дзе цэлыя зараснікі выраслі. А прасіць бабуля не любіла. «Праз пару гадоў і свае будуць, прыедзеш, пачастуешся», — здалёку чую яе голас...



# Ціхова

Алесь Адамовіч пра апавяданні «тонкага пісання» Максіма Гарэцкага: «Нечая ўказка» наўгад як бы датыкаецца да кропкі на «карце жыцця» — з разуменнем, з перакананнем, што ўсюды жыццё, людзі... «Засекчы» жыццёвы рух на нейкай кропцы і, наблізіўшы яго «буйным планам», прыглядзецца, паказаць, а затым «адпусціць».

Вось жа, стаўлю на мэце — прыглядзецца, наблізіць, паказаць адну кропку на «карце жыцця», адну згадку, адзін цуд з майго маленства — Ціхова, якога ўжо даўно няма і ніколі не будзе.

Ціхова — ужо сама назва гучыць, як песня. Назву сядзіба атрымала ад назвы ракі Ціхай, што працякае побач. Таямнічае, загадкавае месца. Колішні багаты маёнтак у Налібоцкай пушчы, непадалёку ад роднай мамінай вёскі Антанёва, што ў Карэліцкім раёне. Мне ў дзяцінстве давялося пабачыць толькі сляды былой велічы: здзічэлыя кусты бэзу, зарослая сажалка, падмурак палаца, склеп, у якім жыў чалавек — апошні жыхар Ціхова, яго верны слуга, дакладней, служанка, украінка Ганя, што магла вартаваць толькі мінулае. Яна не пажадала сысці адсюль, калі, пакінуты гаспадарамі ў 1939 годзе, маёнтак пазней быў разрабаваны і знішчаны.

Мы з бабуляй, Марыяй Бандарык, хадзілі туды па сон — яшчэ адзін цуд, таямнічая кветка, дасканала прыгожая, колеру няяркага блакіту, што цвіце толькі там, дзе няма тлуму, галасу, дзе заўсёды спакой і ціш. Таму ўсялякія спробы перасадзіць сон у гародчык — марныя. Ціхова ж было месцам ідэальным для кветкі сон. Мне прыкра чуць «правільную» назву — «сон-трава», бо гэта ніякая не трава, а менавіта кветка. Ніхто і ніколі ў Антанёве не абазваў сон травою. У параўнанні з іншымі першымі вясновымі краскамі гэтая ўяўлялася мне велічнай княгіняй ці соннай царэўнай між сціплых пралесак-пакаёвак ці жоўтай лотаці-ахмістрыні.

У 30-я гады Ціхова належала слаўнаму доктару-мецэнату, што быў спецыялістам хіба ва ўсіх галінах медыцыны. Мама

ўспамінала, як прыйшлі яны аднойчы з бабуляй да пана доктара. Мама — маленькая, вельмі кволая. Прызнаў залатуху. Сказаў лячыць праз добрае харчаванне. Даў пігулкі, вітаміны. І да бабулі: «У Вас прыгожыя зубы. Але — камні. Давайце здыму». І тут жа зрабіў гэтую стаматалагічную працэдуру. Глянуў у вакно: «А вось ідзе чалавек, усе праблемы якога знікнуць, калі ажэніцца». Развітаўшыся, мама з бабуляй сустрэлі ў двары старога вясковага кавалера. Які, і праўда, хутка ўзяў шлюб. І стаў здаровым. Мама ўсё дзівілася, як лекар, не ведаючы чалавека, толькі глянуўшы здалёк, гэткі своеасаблівы дыягназ паставіў і лячэнне вызначыў. За лячэнне доктар грошай не браў. Клікаў вяскоўцаў на працы ў поле. Ішлі з ахвотаю, бо кожны быў удзячны добраму пану лекару.

Ціхова было набыта для хворага на сухоты малодшага лекаравага брата (яго ў Антанёве называлі Гаўлікам, ніхто мне імя, прозвішча не падказаў), бо сасновы бор — найлепшыя мясціны для сухотнікаў. Каб падоўжыць жыццё любаму брату. Аднак ад лёсу не ўцячэш. Тут лекараў брат знайшоў сваю пагібель.

У Антанёве ў тым часе (30-я гады) у школе працавала вельмі прыгожая маладая настаўніца. Пані Ядвіга Маеўская, пра якую згадвае Уладзімір Калеснік у сваёй кнізе «Доўг памяці». Антанёўцы любілі тую незвычайную дзяўчыну. На ўсе вяселлі запрашалі яе як ганаровую, жаданую госцю. Казалі: «На вяселлі самымі прыгожымі былі маладая і пані вучыцелька». Гэтая прыгажуня і стала згубай для лекаравага брата. Яна жыла ў ягоным маёнтку. Маміна стрыечная сястра цётка Верка і ейны муж дзядзька Арсень Лядэцкія гэтак далікатна казалі мне: «Не ведаем, ці з ім жыла, казаць пра тое не будзем». У халоднае надвор'е ён шторазу падвозіў пані Ядзю на працу ў вазку, а ў добрае яна ездзіла на ровары.

Пані настаўніца падабалася ўсім тутэйшым кавалерам. Прэтэндэнтамі на яе руку і сэрца былі настаўнік музыкі з Ярэміч Кожыч, афіцэр Урбановіч, які выкладаў фізкультуру. Гэты прыгожы малады чалавек неаднойчы прыязджаў у Антанёва на спатканні з пані Ядвігай. Гаўлік (так звалі лекаравага брата) быў закаханы безнадзейна. Невядома, як ставілася да яго настаўніца. Падаецца, гэта было шчырае шкадаванне.

Была шляхетнай, прыстойнай дзяўчынай. Падабалася ёй падабацца. Праўда, у Ярэмічах просты люд не вельмі шанаваў яе. Але ж местачкоўцы не ведалі настаўніцы так, як антанёўцы.

Трагічная смерць маладых людзей абрасла чуткамі, стала мясцовай легендай. Упершыню пра гэта пачула ў дзяцінстве ад мамы. Быццам быў у пані Ядвігі каханы, вайсковец, дзесьці далёка. І гэта цалкам магчыма. Бо ці адзін мужчына кахаў яе? Даставала ад свайго суджанага лісты. Сама атрымлівала на пошце ў Ярэмічах. Відаць, баялася, каб не трапілі ў чужыя рукі.

Вось жа, тут пачынаецца легенда. Быццам тым разам пайшла па чаканую вестку. Узяла ліст і пачала чытаць. А ў гэтую хвіліну на пошту літаральна ўрываецца той, хто кахае яе, хто без яе не ўяўляе свайго жыцця. Вырывае з яе рук ліст, чытае. А там — мары пра будучае, размова пра шлюб, дамова пра ад’езд... Дастае рэвальвер і страляе ў сваю каханую, якая і гіне на месцы. А сам вяртаецца ў Ціхова. Адна з сосен стала ягонай шыбеніцай...

Па версіі дзядзькі Арсеня Лядэцкага, Гаўлік таксама застрэліўся. Апошнія антанёўцы добра памятаюць тыя падзеі. Цётку Верку (1928 г. н.) пані Ядзя вучыла: «Заплюшчу вочы, і здаецца, як жывую яе бачу: прыгожая вельмі, валасы русыя, андуляцыя, сукенка ярка-сіняя, валашковая». Пра гэтую сукенку і дзядзька Арсень згадвае. Праз многа гадоў (16) пасля мамінага сыходу нарэшце даведваюся, адкуль у ейнай памяці той рамантычны вобраз, пра які неаднойчы чула: «Найпрыгажэйшы ўбор — валашковая сукенка. Перад маімі вачыма — маладая дзяўчына, што ідзе па дарозе, апранутая ў такую сукенку. А вакол — залатая восень... Не ведаю, хто яна і дзе я гэта бачыла, а помню. Пашый сабе такую сукенку...».

Пахавалі пані Ядзю і Гаўліка побач на Ярэміцкіх могілках. Гэта па версіі цёткі Веркі, якая была на тым пахаванні. Уся школа была. Памятае, што прыязджала маці пані Ядзі, гэткая ж прыгожая, як дачка, і вельмі, як на вочы сялянскай дзяўчынкі, маладая.

Многае з тых даўніх падзеяў перайначана. У Ярэмічах жыве незвычайная жанчына, колішняя настаўніца Ганна Уладзіміраўна Бандарык, якая мае фенаменальную памяць.

Трагедыя разгортвалася амаль на яе вачох. Амаль, бо як застрэліў Гаўлік пані Ядвігу, яна не бачыла, але прыбегла адразу ж, як і многія местачкоўцы, на месца здарэння.

Вось жа, у той летні дзень дырэктар школы Берначэк святкаваў свой дзень нараджэння. Былі запрошаны настаўнікі з усяе ваколіцы. Зразумела, што пані Ядвіга прыехала таксама. Зразумела, — з Гаўлікам. Але ён быў вельмі смутны. За стол не пайшоў. Ядзя весялілася разам з усімі, а Гаўлік сядзеў на ганку. Выходзіла гаспадыня, выходзіў гаспадар, запрашалі ў дом, але ён застаўся самотна сядзець на вуліцы. Калі ж пачыналіся танцы, Ядзя выйшла на вуліцу, Гаўлік дастаў рэвальвер і некалькі разоў стрэліў ёй у жывот. Узняўся вэрхал. Усе кінуліся да дзяўчыны, перанеслі у пакой, паклалі на ложак. Але раны былі смяротныя. Яна памерла.

Гаўлік тым часам пайшоў да царквы, і на тым месцы, дзе сёння сквер, стрэліў сабе ў галаву. Ганна Уладзіміраўна бачыла, як ляжаў ён, увесь акрываўлены, на зямлі. Бачыла, як памірала Ядвіга. Прыпамінае вельмі скрушны момант. Местачковец Віктусь Клаўсуць, які таксама быў у хаце, сказаў абразлівыя словы: «Сабацы сабачая смерць». Разгневаны, Урбановіч схапіў таго за шкірку і выкінуў на вуліцу.

Іх целы ляжалі ў трунах у будынку, дзе размяшчаліся школьныя майстэрні. З маёнтка перадалі касцюм для Гаўліка, бо ягоны быў увесь у крыві. Ядзя была апранута ў сукенку цытрынавага колеру. Жывот быў моцна ўздуты.

На другі дзень, бліжэй да вечара, у Ярэмічы прыехала машына. Гэта быў першы аўтамабіль, які бачылі людзі на вуліцах свайго мястэчка. Прыехаў брат Ядзі з Варшавы, каб забраць цела. Ганна Уладзіміраўна сцвярджае, што яны былі сіротамі, маці не мелі. Пахаваная Ядвіга Маеўская ў Варшаве, Гаўлік — у Ціхове.

Здзічэлыя бэзавыя кусты ў Налібоцкай пушчы, згаданыя нашым слынным земляком пісьменнікам Янкам Брылём у яго мініяцюрах, — гэта памяткі, помнікі, адзінокія і адзіныя сведкі таго, калісь жывога, прыгожага свету.

Не заўсёды ў Ціхове было ціха.

*2008–2015*

# Ярэмічы

Мястэчка на беразе Нёмана. Сёння звычайная вёска у беларускай глыбінцы. У большасці — сп’янелы люд, які выжывае. І які ведаць не хоча, што было тут раней, якім было жыццё ягоных продкаў. Але адноўленая царква. Мо яна дапаможа ажыць, адрадзіцца мястэчку, што ўсё больш занепадае.

А калісьці віравала тут цікавае, прыгожае жыццё. Так, люд тутэйшы працаваў шмат, каб мець хлеб і да хлеба. Трываў розныя нястачы. Але і адпачываць местачкоўцы ўмелі.

«А Нёман наш які быў! Што ж цяпер наш Нёман!?» — з захапленнем пра мінулае і болем за сённяшняе гаворыць Ганна Уладзіміраўна Бандарык. Была рака паўнаводнаю, была чыстаю-чыстаю. Кожны каменьчык пры беразе відаць быў. Іх, бялюсенькіх, выкарыстоўвалі ў якасці пемзы, шаравалі пяты, счарнелыя ад басаногае хады.

Штовесну, як сыходзіў снег, па Нёмане ішла машына, якая збірала ўвесь бруд, чысціла ваду. Ні аднае смяцінкі не пакідала, ні аднаго карэньчыка. Было тое за Польшчаю. З 1939 года, калі ў наш Край прыйшлі саветы, такая машына не прайшла ні разу. Нёман зрабіўся сухадолым, брудным. Заліўныя лугі зараслі кустоўем, дробнымі дрэвамі. Рака перастала разлівацца. А раней у разводдзе залівала лугі на кіламетры.

Ля Ярэмічаў быў прыгожы мост, які не толькі выконваў непасрэдную місію сувязі берагоў, але і быў месцам спатканняў, збору, куды вечарамі ці ў святы сыходзіліся людзі, спявалі песні.

А колькі байдаркаў плыло! А плытоў! Агні на іх гарэлі, песні плытнікаў няслісяў наваколле. Раз на тыдзень плыў на Нёмане параход, паглядзець на які збягалася дзетвара, падыходзілі дарослыя.

Было ў Ярэмічах у тыя часы ажно 12 (!) крамаў і дзве каварні. Зразумела, трымалі іх яўрэі. Некалькі мураваных будынкаў тае пары захавалася да нашага часу.

Доўгая смерць мястэчка распачалася ў 1939 годзе. Але за два тыя перадваенныя гады змянілася не асабліва многа. Жарт ёсць такі: «Чаму першыя саветы былі добрыя? — Бо хутка сышлі». Не паспелі як след разгарнуцца.

Неспакойна было ў Ярэмічах у вайну. У першыя дні акупацыі немцы сабралі ўсіх на плошчы. Запатрабавалі, каб выйшлі камуністы. Такіх не было. Камсамольцы — выйшлі два хлопцы. Забралі іх, вывезлі кудысьці. Ніхто так і не ўведаў пра іхні лёс.

І тут, як па ўсёй Беларусі, ішла грамадзянская вайна. Праўда, лік быў не на карысць лясным змагарам: у партызаны пайшлі 9 чалавек, у паліцыю — 24. Жылі апошнія ў Турцы: там было больш бяспечна. А ў 1944-м выехалі ў Германію.

Цікава мне было даведацца пра беларускую пісьменніцу-эмігрантку Іну Рытар, якая ў гады вайны жыла ў Ярэмічах. Ганна Уладзіміраўна і яе памятае. Называе Рытарыхай. Жыла яна з дачкою. Выдзялялася між іншых нетутэйшымі, гарадскімі строямі. Хадзіла ў прыгожым паліто і не так, як іншыя кабеты, завязвала хустку. Паказвае на сабе, як перакінутыя былі канцы тае хусткі. Прыгожая была, высокага росту. З’ехала пазней у Наваградак: вельмі неспакойна было ў Ярэмічах з-за партызанаў.

Праз нейкі тыдзень новыя акупанты ўзяліся за яўрэяў. Арганізавалі гета. Але нядоўга тое трывала. Чацвёртага лістапада сабралі ўсіх яўрэяў на пляцы перад царквою, сказалі мець пры сабе толькі самыя каштоўныя рэчы. Быццам вывозіць павінны былі ў Стары Свержань на працу. Многія местачкоўцы паверылі, яўрэі — не. Іх выстраілі ў шарэнгу па чатыры чалавекі і сказалі ісці да Нёмана. Ішлі яны ціха-ціха. Ні слова не было чуваць. Ішлі на сваю Галгофу. Адтуль ужо, з недалёкага ад Нёмана месца, чулі местачкоўцы роспачны плач. Між іншых быў тут сын Абрам-Элі Гаркавага, чый дом стаяў на рагу вуліцы. Руба — так звалі таго маладога яўрэя, які з сям’ёю прыехаў да бацькоў з Варшавы. А быў ён знакамітым хірургам. За жонку меў польку. Вось жа, прапанавалі ёй: «Ты не яўрэйка. Можаш не ісці з імі. І дзіця можаш забраць». Не пагадзілася. Пайшла разам з мужам, разам з усімі да таго

страшнага месца. Яшчэ адзін прататып да апавядання Янкі Брыля «Memento mori».

Летам 1965 года мы з бабуляй ішлі з Антанёва да Лядак.

— Хадзем, пакажу табе нешта.

Звярнулі з дарогі, падышлі да невялікага помніка, агароджанага штыкетнікам.

— Тут ляжаць ярэміцкія яўрэі. Ледзь не на маіх вачох тое было.

І распавяла бабуля, як ішлі яны з мамаю, як сёння са мною, тым восеньскім днём па гэтай дарозе. Убачылі вялізны натоўп, пачулі страшэнны лямант. Бабуля зразумела, што адбываецца нешта жудаснае, схапіла маму за руку, каб хутчэй пакінуць гэтае страшнае месца. Наўздагон водгукі стрэлаў чула.

— Ніколі не прамінаю гэтае месца. Ніколі не забуду той страшны лямант. Ні ў чым людзі не былі вінаватыя...

Сёння на месцы гібелі ярэміцкіх яўрэяў стаіць новы, даволі дагледжаны, агароджаны помнік. Як сцвярджае надпіс, 97 чалавек ляжыць у той магіле. У раённай кнізе «Памяць» названа 71 імя. Імёны трох жанчынаў не названыя. Відаць, страчаныя. Пададзены толькі прозвішчы. Між іх тая, што магла б застацца жыць, — Гаркавая (жонка Рубы).

Як сцвярджаюць сведкі, некалькі дзён зямля ў тым страшным месцы варушылася. Закопвалі і жывых таксама...



# Краіна знішчаных мрояў

Патэлефанаваў брат. Устрывожаны, усхваляваны фільмам, які толькі што паглядзеў. Фільм пра Варончу, пра знакаміты ў нашых мясцінах род Чарноўскіх. Але не ведаў ні назвы, ні стваральнікаў, бо натрапіў выпадкова і глядзеў не з пачатку. Пачала шукаць гэты фільм.

Наша роднае Шчонава за нейкіх пяць кіламетраў ад Варончы. Ранняе дзяцінства прабегла менавіта там. Мне было дзесяць гадоў, калі пераехалі з гэтай вёсачкі. Таму, безумоўна, добра памятаю і сляпога музыку, і аповеды пра трагедыю ягонай сям'і. Даўно збіралася напісаць пра тое. Не ведала, што хтосьці яшчэ цікавіцца той гісторыяй, тым больш — працуе над стварэннем фільма.

Сёння, 28 лістапада, паглядзела гэты фільм. Зразумела, не ў кінатэатры. У нашай Гародні яго паказвалі ў невялічкай зале, без якойсьці рэкламы. Але ўсё роўна гэта было надзвычайна. «Краіна светлых мрояў» — так называецца фільм рэжысёра Юрыя Гаўрулёва, які сам прысутнічаў на паказе. Болей за тое: у зале была і адна з гераіняў фільма, стрыечная сястра Антонія Чарноўскага, якая прыехала з Варшавы. Варонча і для яе ў шчаслівым маленстве была краінай светлых мрояў.

Праўдзівы і надзвычай кранальны твор пра тое, як нялюдскі час перакрэсліваў людскія лёсы, вынішчаючы прыгожых, добрых, міласэрных, адукаваных людзей — найлепшых прадстаўнікоў спрадвечнай ліцвінскай шляхты, адзінкі з якой засталіся на нашай зямлі пасля 1939 года. Вайна наогул — час ахвяраў і стратаў. Але калі страты ў часе змагання, баёў неяк можна вытлумачыць, то як зразумець знішчэнне тых, хто не толькі не быў ні ў чым вінаватым, ні для кога не быў ворагам, а меў вялікія заслугі перад людзьмі і перад нашай зямлёй.

Добра памятаю аповеды пра пані Вольгу Чарноўскую, апошнюю гаспадыню Варанчанскай сядзібы. Была адукаванай, шляхетнай і надзвычай гуманнай да простага люду. Вучыла, лячыла, дапамагала, чым магла. Была асветніцай, стварыла

школу для вясковых дзетак. У той школе нейкі час вучылася і мая свякроў Ядзвіга Іосіфаўна Гарбатоўская. Згадвала толькі добрым словам і пані Вольгу, і з асаблівым захапленнем — яе сына Антонія, які ўжо ў тым часе іграў для іх на скрыпцы. Памятала яна і тыя цікавыя батлейкі, што ладзіліся ў часе Калядаў, дзе дзяўчынцы давялося іграць ролю Смерці.

Вось жа — у тым 1939 годзе сям'я вырашыла не выязджаць з Варончы, як гэта зрабілі большасць суседзяў, сваякоў. «Я ніколі і нічога дрэннага не зрабіла гэтым людзям. Я люблю сваю зямлю. Чаму я павінна пакідаць яе?» — гэтыя словы пані Вольгі я ведала праз пераказ маёй мамы. А яна чула іх яшчэ ад кагосьці. Мой брат, пра што згадана напачатку, быў усхваляваны яшчэ і тым, што на адным з фотаздымкаў у фільме пазнаў маму. Так, яна добра ведала Антонія Чарноўскага, неаднойчы была на тых вяселлях, дзе ён іграў. Пільна ўглядаючыся ў твары маладых кабетаў на тых здымках, я шукала маму. Не знайшла. Яе там не было. Але... яны — мама і сляпы музыка — ёсць на адной бачыне маёй памяці. Вяселле ў нашым Шчонаве. Танцы ў старой хаце Параскі. Канец 60-х. Мама сядзіць побач з музыкам і размаўляе з ім у часе перапынку між танцамі. Гаворыць пра тое, што хутка і гаспадыня гэтай хаты будзе аддаваць замуж дачку. Чую словы пана Антонія: «Ведаю Зіну. Вельмі прыгожая дзяўчына». Я яшчэ падумала тады: напэўна, ён хоць крыху бачыць, раз ведае, што Зіна — Харашуха. Гэта было маміна слова — Харашуха. Калі я спытала, а хто Харашуха, яна назвала нашу суседку цёцю Фаню Сцяпанаву і Зіну Парасчыну. З гэтым нельга было не згадзіцца. І хоць нясціпла, але дадам тое даўняе маміна: «А трэцяй Харашухай будзеш ты, як вырасцеш».

Калі на вяселлі не іграў Чарноцкі (а гэтае прозвішча не толькі ў Шчонаве, але і ўсёй ваколіцы гучала менавіта так), то і вяселле было як не вяселле, нецікавае, неганаровае. Усе стараліся запрасіць менавіта яго. Часцей за ўсё ён іграў, заплюшчыўшы вочы. Мне, малой, было дзіўна, як ён ведае, на якія клавішы акардэона націскаць, калі ж не бачыць. Старалася, калі была магчымасць, бліжэй сесці ля яго і паглядзець у вочы. І калі ён уздымаў павекі, адно вока было

белым, а другое здавалася жывым. Была пэўнай, што музыка мяне бачыць.

Менавіта з фільма даведалася пра тое, што сталася прычынай ранняй слепаты маладога паніча: нядбайнасць медсястры, што пераблытала дозу атрапіну, які закапвалі малым дзецям для прафілактыкі. Вакол гэтага былі створаны праўдзівыя міты, як тое здараецца вакол кожнай незвычайнай падзеі. Аднойчы чула, што нарадзіўся сляпым, іншы раз — быццам аслеп у часе той страшнай трагедыі, што адбылася на ягоных вачох.

Здарылася тое ў красавіку 1943 года. Партызанскі атрад выконваў адзін з пунктаў дырэктывы, спушчанай зверху, што загадвала вынішчаць маёнткі. Пані Вольга, пэўна ж, адчувала, што бяда набліжаецца да яе дому, да яе і так ужо напалову знішчанай сямейкі. У 1939 годзе быў арыштаваны яе муж, а сын, малады юрыст, пайшоў следам, каб ратаваць бацьку, старога і нямоглага. Прапанаваў сябе ўзамен. Як жа ён памыляўся, той мілы, светлы юнак! Як жа не разумеў ён, да каго ідзе. Гэта былі не людзі, што ў жыцці кіруюцца катэгорыямі дабра, справядлівасці. Яны чакалі ад сына іншага — адрачэння ад бацькі, «ворага народа». Бо ў савецкай краіне тое сталася звыклым. Ягоная ахвяра прынята была. Але ў іншым сэнсе — маладога Чарноўскага знішчылі, як і ягонага бацьку. Без следу. І ўсе намаганні родных знайсці звесткі пра іх засталіся марнымі.

Вось жа, пані Вольга неаднойчы дабіралася ў няблізкі Наваградак, каб знайсці прытулак для сям'і. І ў той апошні свой дзень таксама была ў Наваградку. Назад вярталася пешшу, знаёмыя прапаноўвалі ёй застацца нанач. Не пагаджалася, спяшалася да дзяцей, старой маці. Хто ведае, мо несла ім добрую вестку: знайшла прытулак у горадзе, што магло б стаць выратаваннем?

Яны прыйшлі ноччу. Баявая група. Пра што была тая апошняя размова у графскім палацы, ніхто не ведае. Пані Вольгу, яе маці, сына з нявесткай, што чакала дзіцяця, расстралялі, а пасля падпалілі маёнтак. Чула раней, што не ўсіх расстралялі, людзі імкнуліся выбрацца праз вокны, а іх сустракала кулямётная чарга. Антонія пакінулі. Гэткі своеасаблівы акт «гуманізму»:

сляпы, і так пакараны. Кідаўся ў агонь. Не пусцілі. Па адной з версіяў, цалкам аслеп якраз той ноччу з-за страшнага ўзрушэння. Быццам, калі палаў маёнтак, у якім гарэлі ягоныя родныя, забойцы прымусілі хлопчыка іграць на скрыпцы. На пытанне, чаму яго, аднаго з усёй сям'і, пакінулі жыць, ёсць яшчэ адна версія адказу, якую пачула ад вядомага даследчыка беларускай даўніны, цікавага, духоўна багатага жыцця нашай спрадвечнай шляхты прафесара А. Т. Федарука з Мінска. Ягонае выступленне «Наваградскія краявіды ў памяці, душы і творчасці Яна Булгака» на міжнароднай навуковай канферэнцыі, прысвечанай знакамітаму фотамастаку (Гародня, лістапад 2007 г.), літаральна зачаравала ўсіх прысутных. Маршрут ягонай завочнай экскурсіі ўключаў, зразумела, і Варончу. Дык вось, спадар Федарук чуў пра тое, быццам хлопчыка не было дома, начаваў дзесьці ў людзей, у якіх працаваў. Людзі заўсёды ствараюць міфы, калі адбываецца штосьці незвычайнае.

Апошняя частка фільма — «Антоній і Вацлава». Усе, хто ведаў Чарноцкага, ведалі і Вацю. Жанчына, што дала сляпому музыку прытулак у сваёй беднай хатцы, як магла, дапамагала яму. Не, ён ніколі не быў без працы. Музыкі заўсёды няблага зараблялі. А Ваця на тых танцах-канцэртах заўсёды была побач: барабаніла. Хораша і светла згадвае яна пра тое ў фільме.

У новым, дарослым жыцці мне давялося сустрэць Вацлаву ў смутным часе: на пахаванні свекрыві. Яна была пеўчай — гэтак у нас называюць жанчынаў, што адпяваюць нябожчыкаў. У той апошні вечар, які гаспадыня правяла ў сваёй хаце, Ваця і спявала разам з іншымі жанчынамі, і гаварыла. Згадала тое, што была пакаёўкай у пана Гарбатоўскага ў ягоным маёнтку ў Горбатавічах, прыслужвала якраз нябожчыцы. А былі амаль аднагодкамі. То і называла яе Ядзяй. Хоць іншыя казалі ёй: «Як гэта ты паненку Ядзяй завеш?» Ядзя ж ніколі не пярэчыла. «А цяпер вось спяваю ёй, апошні раз служу». Падумалася зараз: гэта ж аб'ектам на вынішчэнне мог стаць і маёнтак у Горбатавічах...

Я папрасіла Вацю згадаць пра пана Антонія. Менавіта тады пачула ад яе словы, якія ўзрушылі мяне надзвычайна. Ведала, што ў фільме кабета павінна была згадаць іх. Бо ў іх — разу-

менне, якім светлым, якім высакародным, шляхетным заставаўся гэты чалавек праз усё жыццё, нягледзячы на тое, што давялося перажыць. На пытанне Ваці: «Антоній, а ці маеш ты ў сэрцы злосць на тых, што цябе так скрыўдзілі, ці хацеў бы ім адпомсціць?», ён адказаў: «Не, не маю, і помсціць не хачу, бо іначай **я стаў бы такім, як яны**». Апошняя фраза, якая мне падаецца надзвычай важнай, у фільме не прагучала. Антоній Чарноўскі быў з тых, хто ўмеў маліцца за сваіх ворагаў.

Імёны забойцаў вядомыя. Яны рабілі справаздачы. Тое жудаснае забойства было праведзена ў адпаведнасці з планам да свята — 1-га Мая. Якраз з гэтай даты — 1 мая 1943 года група «Золатава» была ўключана ў Першамайскую брыгаду і атрымала назву — атрад імя 1-га Мая. Відавочна, патрэбен быў яшчэ адзін «подзвіг», каб «апраўдаць давер».

Гэты страшны ў сваёй абсурднасці, бесчалавечнасці і цынізме дакумент, які ўдалося знайсці стваральнікам фільма, уражвае не менш, чым сведчанні жыхароў Варончы паважанага веку, што памятаюць Чарноўскіх, што, як умеюць, шчыра асуджаюць тое жахлівае злачынства. Вельмі цікава, як успрымуць тыя падзеі сённяшнія маладыя жыхары колішняга шляхецкага мястэчка, што, на жаль, вельмі мала ведаюць пра не такое ўжо і далёкае мінулае.

На Веранчанскіх могілках, дзе знайшлі прытулак апошнія з сям'і Чарноўскіх, пахаваная і радзіна майго мужа. Нашых родных адпявалі ў нядаўна адноўленым касцёле, які велічным белым птахам узвышаецца над наваколлем. Напрыканцы фільма з вышыні птушынага палёту аглядаем мы варанчанскія прасторы, уздымаючыся над тым страшным часам і ўзносячы малітву пра вечны супакой для тых светлых душаў, што праз трагедыю сышлі з жыцця. Але, маю надзею, не ў нябыт.

*28 лістапада 2008 г.*

# Ці можна сёння прамаўчаць?

Калісьці, у мінулым стагоддзі, дакладней, у 1998 годзе, напісала тэкст з такой назвай. Ратавала «выкінутых» са школьнае праграмы Арсенневу, Геніюш, Сяднёва. Мой артыкул стаўся адзіным. Спадзявалася, што будзе між многіх. Яго надрукавалі. Адразу ж. У «ЛіМе». Зразумела, тады ў «ЛіМе» быў іншы рэдактар, іншыя парадкі. Праўда, назву змянілі — «Ці дажывём?»

Сёння таксама не магу прамаўчаць.

Пачыналася, як здавалася аўтарам, з бяскрыўдных вершыкаў, такога моладзевага «сцёбу»: «Мой родны кут, як ты мне мілы! Стаяць ў табе не маю сілы». А далей былі хлопчыкі-копчыкі. Бо як жа мы — такія маладыя, такія геніяльныя ды не выправім іх! Што нам тыя замшэлыя класікі?! Яны ж яшчэ і Сталіна ўхвалялі! І вось ужо паўстае «Гамбургскі рахунак», супраць якога ў сваю чаргу рахункі выстаўляць пачалі. Так, аўтар таленавіты. Так, ён з іншага, новага ракурсу глянуў на айчынную класіку. Але мяне, літаратуразнаўцу з багатым досведам, бянтэжыла наступнае: як аўтар можа за адзін тыдзень прачытаць усяго Купалу, Гарэцкага, Чорнага і выдаць свой тэкст-прысуд? Бо інакш нельга. Па сваім досведзе ведаю: на стварэнне хай сабе невялікага эсэ, якое прэтэндуе на ацэнку творчасці пісьменніка, падрыхтоўчая праца мусіць заняць некалькі месяцаў. А калі гэта яшчэ і ацэнка асобы... Перачытаць адно тое, што напісана Купалам і пра Купалу, не хопіць і года. «А навошта мне гэта лухта?» — напэўна, запярэчыць Бахарэвіч. — «Каб ведаць, што было да Вас», — усміхнуўшыся з вышыні сваіх гадоў і літаратурнага досведу, адкажу яму. Усміхнуўшыся, бо зусім не маю перад сабою ворага, а беларускага пісьменніка.

Але ж — аўтарскае права на сваё бачанне іншых аўтараў. Яны ж усяго —таксама аўтары. А ніякія не геніі. Можна іх з п'едэсталаў пасунуць... Што на такое скажаш? Можна было і

прамаўчаць. Праўда, не зразумелая пазіцыя РС, якое быццам мэту мела высакародную — абудзіць цікавасць да беларускай класікі. Абудзілі? Апытанні гавораць пра іншае. Пра тое, што тутэйшыя нават і не прыкмецілі таго рахунку. Бо большасць з іх і РС не прыкмячае. Затое балюча разануў ён па беларусах, якія і без рахунку класіку чытаюць. Увесці ў вушы тутэйшаму зносаку такую «праўду» пра Купалу — тое самае, што скінуць яго яшчэ раз з высокага паверха ў лесвічны пралёт. Тутэйшыя будуць супраць? Хорам крычаць будуць: распяць! Як мне балюча чуць ад тых, што не так і даўно з усіх бакоў савецкае імперыі ў Гародню панаехалі, пагардлівае, вуснаўкрыўлянае — Калупала. Гэта тое ж, што і Каян Лупака. Толькі РС яны не слухаюць. То самім «вобраз» тварыць давялося.

Адказ на пытанне, адкуль столькі нелюбові, якая скразіць з кожнага тэксту і якую аўтар не збіраецца хаваць, ва ўступе «За што нас палюбіць бібліятэкар». Тут няпроста знайсці адказ на пастаўленае пытанне, затое лёгка зразумець, адкуль такія тэксты. Бо пачыналася ўсё не з любові. Пачыналася з агіды. Да Жабы. Як я разумею Альгерда Бахарэвіча! Якая ж шчаслівая, што маёй настаўніцай беларускай літаратуры была не Жаба, а мама. І ў прамым, і ў пераносным сэнсе. Бо вучыла нас яшчэ задоўга да школьнага ўзросту, чытаючы завейнымі зімовымі вечарамі творы Купалы, Коласа, Маўра. Колькі слухалі «Бандароўну», столькі плакалі. А тут — Жаба. Бо нічога, апроч агіды, і ў маёй душы гэтыя істоты не выклікаюць. Не змагла змяніць стаўленне да іх нават казка «Царэўна-жаба».

Прапаную звярнуцца да крытыкі Купалы асобай, супраць якое і ў «Гамбургскім рахунку» злога слова не знайшлося. Ларыса Геніюш прапанавала праўдзівую паэтычную дыскусію, у якой выказала нязгоду з некаторымі матывамі творчасці песняра. Асабліва ў гэтым плане вылучаецца верш «Купала, ты з цемры нас вёў да святла...», напісаны ў пачатку 80-х гадоў, адшуканы ў адным з лістоў. У пачатку твора паэтка выказвае глыбокую пашану народнаму песняру, разумеючы, што ягоная творчасць стала той яркаю паходняй, што асвятляла шлях у цемры нацыянальнага нябыту, нядолі народнай:

Купала, ты з цемры нас вёў да святла,
над доляй народнаю плакаў,
я сёння табе пакланіцца прыйшла,
схіліць сваю голаў з падзякай.

Але далей Ларыса Геніюш супрацьпастаўляе слёзнай жалейцы народнага песняра сваю жыццёвую пазіцыю, той стэрэатып паводзінаў, які быў выпрацаваны з маленства і якому не здрадзіла, нягледзячы на надзвычай суровыя выпрабаванні, што выпалі на яе долю:

Я змалку прывыкла дастойна ісці,
ды ўсё ж не заплачу з табою.
Мне — іншая доля ў нялёгкім жыцці,
Купала каханы, я — з бою!

Гэтая думка асэнсоўваецца, падкрэсліваецца паэткай у адным з лістоў: «Вось розніца між Купалам і мною. Я — задзіра, і я не стагну і ня плачу». А Купалава ліра і сапраўды часта плакала, енчыла, стагнала, часам збівалася на крык.

Калі Ларыса Геніюш не згаджалася з тым, што пісалі пра Вялікага Паэта, смела кідалася ў схватку. Не ў літаральным сэнсе, зразумела. Пісала пра тое ў лістах. Абараняла, абуралася: «Кароткія рукі..., каб дакранацца імі да генія Купалы. Ён сам пра сябе гаворыць сваімі творамі. Гаворыць дастойна». Не ведала пра ягоную творчасць 30-х гадоў? Ведала. Але была мудрай, была сапраўднай верніцай, ведала: не судзіце! Не тое, што сённяшнія крытыкі Купалы. Няма на іх Ларысы Геніюш. Не ведаюць яны ды й ведаць не хочуць яе паэтычны тастамент:

Верны будзь слову,
якім Купала,
прарок народны,
сэрцы ўзварушыў.

Сёння з'яўляецца ўжо нешта такое, пра што маўчаць ніяк не выпадае. Бо жахліва. Бо балюча. Чаму? Асобы, якія ёсць сябрамі Саюза БЕЛАРУСКІХ пісьменнікаў, для якіх Беларусь —

святое, раптам пачынаюць зневажаць адзін аднаго, быццам у іх не адзін вораг — сілы антыбеларускія, ворагі беларушчыны. Быццам усе яны не беларусы. Размова, не пра мову. Яна можа быць і польскай, і літоўскай, і рускай... Мы, беларусы беларускія, талерантныя. Размова пра іншае, пра шанаванне духоўных скарбаў, праз якія мы прад светам сцвярджаем сваё, пакаленнямі да нас створанае. Не ведаю, якім патрэбна быць невідушчым (не пра зрок ідзецца), каб не бачыць красы нашых вышыванак.

«Новае слова ў літаратуры» — якая Беларусь? Палігон! Чаму маладому, ні ў чым не дасведчанаму аўтару, якому давялося «мэтра» наймаць, каб гістарычныя даведкі атрымліваць, менавіта ў грэка-каталіцкую царкву каменем кінуць захацелася? Вось жа, сёння гэта адзіная беларуская царква ў Беларусі. Падаецца, адказ у гэтым.

Я літаратарка, разумею ролю ўмоўнасці, домыслу, шаную права аўтара тварыць, бачыць і разумець па-свойму тое, што было і што магло б быць. Але чаму павінна Беларусь была б стаць палігонам? Ды з такімі героямі?

Але калі так пойдзе і далей, то тут будзе палігон. Ці Расія-Кітай, як у рамане Марціновіча «Мова». І размаўляць будуць адпаведна, як у гэтым рамане. Думаеце, аўтар выдумаў, што мова беларуская можа стаць наймацнейшым наркотыкам, без якога жыцця не ўявіць? Не. Сведчу пра тое. Калі выступаю на розных імпрэзах, падыходзяць людзі з тварамі прасветленымі, з усмешкай такою шчыраю і гавораць пра незвычайную прыгажосць мовы нашае, пра тое, як кранае яна іх. Ці ж не той стан у герояў Марціновіча? Ды што пасля імпрэзаў? Там усё ж людзі не выпадковыя. На вуліцы колькі захопленых словаў на адрас мовы нашае. Які цуд! Гэта ў Беларусі яшчэ нехта гаворыць?! Як хораша!

Шчаслівая, што мела аўдыторыю, якой шмат гадоў даводзіла, хто мы, што ёсць нашым Скарбам, як шанаваць яго трэба. Бо інакш у каго ператворымся? У тутэйшых, што забыліся, кім ёсць. І словы мае, надзею маю, не на каменную глебу падалі. Сведчаннем таму верш мае былое студэнткі Вікторыі Смолкі:

Не Беларусы, тутэйшыя проста,
Плачка па вас слёзы ліла —
Тая, што ў бела-блакітных нябёсах
Над Беларуссю самотна плыла.

Хто Яна? Птушка з журботнага краю,
Божы Анёл ці Радзімы душа?
Горка спявала Яна: «Паміраю.
Толькі паплачу па вас я спярша.

Будзе сляза мая дождж ыкам змыта...
Так, я памру, як Хрыстос на Крыжы,
Дзеля таго, каб тутэйшы Мікіта
Не забіваў Беларускай Душы —

Ў лёсе сваім на зямлі і пад Богам,
Там, адкуль вочы валошак глядзяць,
Там, дзе ля Светлай на Неба дарогі
Колас, Купала і Чорны стаяць...»

Могуць запярэчыць мне сталічныя мэтры, якія прапіску мінскую спрадвеку маюць: чаго той пані з нейкае правінцыйнае Гародні ды ў нашу «дыскусію» ўмешвацца. І рацыі мець не будуць. Мы, гарадзенцы, жывем у каралеўскім месце. І не лічым, што мінская прапіска ёсць перавагай прад кожнаю іншаю: наваградскаю, шчонаўскаю, вілейскаю... Мінск ператварыўся ў пачварнага монстра, які паглынае ўсё навокал, які ссе кроў з беларускіх абшараў. І ўжо хіба захлынаецца. І баліць мне, што беларускія пісьменнікі таксама захлынаюцца ад нянавісці да беларускага. Можна маўчаць?..

# Перад Купалам

Перад Купалам пачуваюся вінаватай.

У сваёй выкладчыцкай працы мела няпростую мэту: знішчыць у свядомасці студэнтаў стэрэатыпы-штампы, навязаныя школай. А іх безліч. Пра просты беларускі народ, які жыў у галоце і быў вызвалены. Пра тое, як быў «вызвалены». Пра тое, што ў беларускай літаратуры тры зоркі: першай велічыні — Купала, другой — Колас, трэцяй — Багдановіч. Ды яшчэ з урачыста-пафасным запевам: «На небасхіле беларускай паэзіі...». Так яны пачыналі свае адказы на ўступных экзаменах. «Ніякіх першых-другіх-трэціх! — даводзіла з першае лекцыі. — Усе яны — вялікія і роўнавялікія. Усе класікі. Кожны адметны. Як і іншыя класікі». Імкнулася, каб мае студэнты любілі іх усіх. А сама больш любіла Максіма. Бо такі незвычайны, бо такое ў нашу паэзію прынёс, бо такое на нашу глебу перасадзіў!.. Наша імкненне да красы вечнае, да формаў выкшталцоных, да пачуццяў, што аж да неба ўзнятыя, у зоркі ўвасобленыя, Максім Багдановіч задаволіў на стагоддзі.

А лёс які! Калі б хто з маіх студэнтаў не плакаў (хаваў слёзы), калі расказвала пра лёс Страцім-Лебедзя, пра сыход Марылькі, лічыла б гэта прафесійнай паразай. Сама слёзы хавала.

Таму і вінаватай пачуваюся, што да значна больш трагічнага Купалы такіх пачуццяў выклікаць была не здольна. А ён жа быў маёй першай вялікай літаратурнай любоўю. Ад самага ранняга дзяцінства. Ад сцюжных зімовых вечароў, калі плакала па Бандароўне, па Гусляру, калі лятала да неба разам з Алесяй. А ў бабулі-зёлачніцы бачыла сваю бабулю Вольгу.

Трагедыя Купалы ў тым, што ён застаўся жыць. Што выжыў у пачатку 1920-га, перанёсшы тры аперацыі, некалькі месяцаў правёўшы ў шпіталі. Якім бы Паэтам ён застаўся, каб не выжыў. Тлумачу: застаўся б для тых, хто сёння яго за жахлівыя трыццатыя, у якія нічога чалавечага не засталося, ганьбіць. Ні ў якім разе не азначае гэта тое, што шкадую пра

тыя гады, якія Купалу яшчэ адведзены былі. Няўжо хтосьці так здольны зразумець? Якім бы ні было жыццё, усё ж яно лепей за нябыт. Усё ж — факт: Багдановіч памёр вясною 1917-га, каб застацца. Бо дзе б ён быў 15–17 снежня таго ж года? На 1-м Усебеларускім Кангрэсе. Няўжо хто сумняваецца? Дзе быў бы 25 сакавіка 1918-га? Жахліва ўявіць, што было б, каб дажыў да 30-х. Самае «гуманнае», што ўяўляецца — аналаг лёсу Уладзіміра Жылкі. Тыя ж сухоты. Гаворачы пра гэта, цытавала студэнтам верш Людмілы Рублеўскай:

Бядуем: смерць —
зладзюга...
Не! Яна
Была тваёй збавіцелькай,
магчыма, —
Адных хрысціла вязніцы сцяна,
Другіх Сібір ад розуму лячыла.

Тое ж пра нашу Алаізу Пашкевіч. Дазволю тут самацытаванне з першае свае кнігі «Іду па слядах»: «Снежань, 1917 год. Калі б Цётка дажыла да гэтага часу, а ёй не хапіла меней года, то ніякія доказы яе рэвалюцыйнасці не дапамаглі б ёй застацца ў беларускай літаратуры ў савецкія часы. Бо ўсё, што звязана з арганізацыяй і працай 1-га Усебеларускага кангрэса, замоўчвалася так надзейна, што цэлыя пакаленні беларусаў нічога не ведалі нават пра гэты сапраўды народны Вялікі Сход.

...Яна, паплечніца Луцкевічаў, Вацлава Іваноўскага, бачыцца мне ў прэзідыуме з'езда. Калі б я не ведала, што на той час яе ўжо не было, то ў вобразе гераіні апавядання Максіма Гарэцкага "1-ы Усебеларускі з'езд 1917 года" ўяўляла б яе — беларуску, патрыётку, палітычную дзяячку, якая так палымяна агітуе за вольную Беларусь, з якое пасля чыняць здзек бальшавіцкія каты. Удзел у гэтым з'ездзе — найпершы доказ варожасці да савецкай улады, што не дароўвалася».

Вось жа, і Максім Багдановіч, і Алаіза Пашкевіч, напэўна, раздзялілі б лёс Алеся Гаруна, Максіма Гарэцкага, Вацлава Ластоўскага і іншых нацыяналістых (чытай — вялікіх патрыётаў), хто памерці не паспеў. І былі б яны выкінутыя, схава-

ныя ад вачэй беларускіх у тых сховах, з якіх частку твораў Гарэцкага крыху раней вызвалілі, Гаруна, Ластоўскага вельмі позна. «Прабыў у немаце ўдвая болей, чым ён пражыў на свеце», — Васіль Быкаў пра Алеся Гаруна. Пра Багдановіча трэба было б напісаць — утрая. Уявіць немагчыма, што школьныя і студэнцкія гады маглі б прайсці без вершаў Багдановіча. Неба ведае, што робіць.

Купала быў пакінуты «няпоўны», правільны. І яго вяртаць давялося. Асабліва скрушна з-за «Тутэйшых».

Не была безумоўнай апалагеткай Купалы, не прыхарошвала класіка. Пра характар ягоны няпросты казала. Эпіграму Багдановіча чытала. Плямы на сонцы бачыла, пра што сведчыць артыкул «Ці з-пад Купалавага крыла?» (у кнізе «Пра творы і творцаў»). Пра мастацкія недахопы ранніх вершаў казала. Але ніколі не ўсумнілася, што Купала вялікі. Як і вялікая трагедыя ягонага жыцця, ягоных песняў-думаў, што былі ўсё ж скаваныя ланцугамі.

«Вінаваты» Купала, што ў 1930-м рука ягоная, аслабелая, харакіры выканаць як належыць не здолела. Не нашая традыцыя. Хай нават хтосьці блазнуе, быццам не збіраўся Купала сябе насамрэч забіваць. Хай той скажа, хто жыў у тым часе і зведаў жах смерці. Думаючы пра ягонае самагубства, згадваю спробу самагубства Сама, героя паэмы «Сон на кургане». Вар'ятка, што поўніцца нянавісцю да яго, кідае сякерай, каб забіць. Сякера пераразае пятлю, што ўжо накінута на шыю героя. Якім чынам лёс не даў магчымасці зацягнуцца ягонай вяроўцы перад вар'яцкімі 30-мі? Што б ні было, не дзеля таго, каб тымі 30-мі яго сёння ўпікалі. Гэта калі лёс міласэрны. А беларускі лёс міласэрным да беларусаў бывае рэдка. То мо беларусы разумнейшымі быць павінны?

І не было б тады таго, што з паэтам сталася ў страшныя 30-я гады. Заўсёды, пра той злавесны час расказваючы, чытала верш Рыгора Барадуліна «Чакалі». Вельмі дарагі мне верш. І таму, што атрымала яго калісьці даўно ад майго незабыўнага Настаўніка Івана Якаўлевіча Лепешава. На друкарцы аддрукаваў, падпісаў, прынёс: «Вам спатрэбіцца...». Ніхто так трагедыю лёсу творцы ў паэзіі не асэнсаваў, як перадапошні Народны паэт.

Купала вялікі. Згадаем, як ён у далёкія часы ўбачыў свет, дзе пануе няволя. Тая ж паэма «Сон на кургане». У цэнтры такога свету — Чорны, што моцаю нялюдскай трымаецца, усё ў сваіх руках трымае. Трымае скарб, які так вабіць Сама — адзінотніка. Дык чаму ж ён адзін? А дзе ж людзі, для якіх той скарб шукае? І пра людзей Купала гаворыць з болем:

Людзі!.. Што людзі?
Ці ёсць дзе між іх
Годны адзін хоць у людзі:
Мутнасцяй, трупам нясе ад усіх,
Пошасцей поўныя грудзі.

Затое Чорны не адзін. Яму верна служаць відмы, якім кідае залатоўкі. Служаць, бо плаціць. Ведаюць: «Цемра тут закон і права». З пятлёю на шыі таварышы відмаў і вырвацца з гэтай пятлі няздольны. І ўся гэта злачынная хеўра нябачная герою. Ён перад ёю безабаронны.

Не дзеля сябе шукаў Купалаў Сам скарб, дзеля таго, каб змяніць свет і чалавека ў ім:

Скарб дастаць мушу я гэты;
Ласкай павее тады ад людзей,
Неба і цэлага свету.

Хіба не той жа скарб шукаў і сам Купала? Хіба гэта не мара Купалы? Але калі чорныя сілы цалкам запанавалі ў Краі, усіх ператварыўшы ў сваіх слугаў, то што хацець ад песняра? Ён сваю місію выканаў. «Зваў з путаў на свабоду», як мог, калі мог. Ці быў пачутым?

Перад Купалам пачуваюся вінаватай. І за няўдалую спробу абараніць, якая, на жаль, была ўспрынята як жаданне кагосьці абразіць, пакрыўдзіць. Нават ворагаў сваіх, якіх не маю, крыўдзіць ніколі не жадала. Дрэнны я адвакат. Ды Купалу адвакат непатрэбны. Бо колькі адведзена нам, беларусам, у гэтым свеце, столькі Ягонае Слова будзе пра нас казаць іншым. І да волі клікаць.

# Незвычайныя музы паэта
## Вершы-прысвячэнні Янкі Купалы

Жанчына ў лёсе Майстра. Вечная тэма, мноства сюжэтаў. Вельмі рэдка са шчаслівым фіналам. Шчаслівым у звычайным вымярэнні, у разуменні звычайных людзей. Але ж вялікі Майстар такім не бывае. З'яўленне жанчыны на ягоным шляху — гэта з'яўленне музы. Згадаем тых, якія сустрэліся на шляху вялікага Купалы.

### Алаіза Пашкевіч

Голас Францішка Багушэвіча, аўтара зборнікаў «Смык беларускі» і «Дудка беларуская», быў пачуты, падхоплены. Новы майстра змайстраваў «Скрыпку беларускую». Тым майстрам суджана было стаць Алаізе Пашкевіч — першай беларускай паэтцы XX ст. Тварыла з надзеяй, у чаканні вялікага «артыста, каторы збярэ ўсе нашы беларускія інструменты і наладзіць гранне як мае быць». Такім вялікім артыстам стаў Купала. Пясняр стварыў вобраз паэткі ў вершы-прысвячэнні «Аўтарцы "Скрыпкі беларускай"», якім адразу ж, у тым жа 1906 годзе, адгукнуўся на выхад яе зборніка. Янка Купала адзначыў музычна-песенны лад, рамантычную ўзнёсласць паэзіі Алаізы Пашкевіч:

Чутка йграеш, гулка йграеш
Ты на скрыпачцы сваей,
К небу з думкай падлятаеш,
Шчасця зычыш для людзей.

Купала захоплена пісаў пра магутную сілу эмацыянальнага ўздзеяння вершаванага слова паэткі на чалавечыя душы, бо творчасць яе была цесна злітавана з людскімі марамі і памкненнямі, стала выразніцай народных спадзяванняў. Менавіта ў гэтым вершы аўтарка паўстае ў вобразе музыкі-скрыпа́чкі,

што дасканала валодае талентам, што ўкладвае ў сваё слова-песню ўсю душу. Асоба, моцная найперш сілай духу, тут яна бачыцца і сапраўдным волатам з старадаўніх народных казак:

Крэпкі струны тваёй скрыпкі,
Ў тваёй скрыпцы душа ё,
Ў руцэ сільнай смычок ліпкі
Лёгка ходзіць, як пярцо.

Яна і сама была душой усялякай справы. Кватэра паэткі ў Вільні стала праўдзівым клубам беларускай інтэлігенцыі, дзе неаднойчы бываў і Янка Купала. Алаіза Пашкевіч была душой гэтых сустрэчаў, як і яе курсістка Зялёнка ў аднайменным апавяданні.

## Уладка Станкевіч

Яна была далікатнай і мілай дзяўчынай — Уладка Станкевічанка. Яны возьмуць шлюб 23 студзеня 1916 у маскоўскім Петрапаўлаўскім касцёле. Прыгожы фотаздымак таго часу: ён у вайсковым, яна — у мілым, безумоўна модным тады капялюшыку. Уяўляю: было вельмі холадна. І нават не столькі таму, што зіма, а таму, што вайна і чужына. І так патрэбна было цяпло роднай душы, каб ратаваць сваю. І яму, і ёй.



Яна была моцнай жанчынай — Уладзіслава Францаўна Луцэвіч, жонка вялікага Паэта. Бо сам ён, Янка Купала, моцы ў сваім характары не меў. Быў чуйным і занадта далікатным, каб даць сабе рады ў свеце злым і няветлым. І таму добры лёс даў яму добрую жонку, каб клапацілася, каб дапамагала, а часам і бараніла. Каб заўсёды была побач. Але не паклапаціўся, каб у той жа Маскве ў змрочным 1942-м яна ўратавала паэта.

Іншай, далікатнай, пяшчотнай ведаем яе мала. Была такою ў гады ранняй маладосці. З знакамітага роду Манэ французскіх мастакоў-імпрэсіяністаў, выхоўвалася ў адпаведнай атмасферы, валодала французскай мовай. Да дня нараджэння дзяўчыны 13 снежня 1914 г. Купала напісаў два вершы. «Ўспомні!..», у якім паэт-прарок прарокам не стаў. Бо не прарочыў сабе долі быць з ёю побач назаўсёды:

Ўспомні, не ў хвілю радасці дзіўнай,
З іншым раздзеліш радасць сваю,
І не мяне ты ўспомні, дзяўчына, —
Ўспомні, от... гэту думку маю!

Другі верш — «Гэй ты, дзяўчына, кветка-лілея...» Бадай, адзін з самых прыгожых вершаў-прысвячэнняў у айчыннай лірыцы. Захоплена-ўзнёслы зварот, у якім шчырая любасць і любаванне:

Гэй ты, дзяўчына, кветка-лілея,
Вольная птушка сумнай зямліцы!
Сееш ты слёзы, думак уроду,
Слёзы-брыльянты яснай крыніцы.

Не абышоў у гэтым творы Купала матыў нашай нівы, роднай Беларусі, якой і словам сваім таксама слугавала гэтая незвычайная дзяўчына (у газеце «Наша Ніва» друкаваліся яе вершы). Яна была з той маладой руні, што прабівалася на нашай зямлі, верачы, што жніва быць павінна. Хай нават нямала слёзаў пральецца, хай нават злая нечысць будзе перашкодай:

Буйнай расіцай сыплюцца, льюцца,
Ніву багацяць... а што за жніва?!
Крыўда іх топча, гора марозіць,
Ведзьма-насмешка п'е іх лапчыва.

Гэта яна стварыла музей Паэта, была ягонай гаспадыняй да самага свайго сыходу.

## Паўліна Мядзёлка

А ў Маскве ў часе апошняга трагічнага палёту Купалы была іншая жанчына. Тая, якой Купала напачатку прысвяціў сваю славутую «Бандароўну», але прысвячэнне «Паўліне Мядзёлцы» ў белавым аўтографе было закрэслена. Чаму? Дакладна сёння ніхто не адкажа. Тая, чыім імем назваў адну з самых прыгожых літаратурных гераіняў айчыннай драматургіі.

Муза, сны якой ён разгадваў у вершы «Снілася дзяўчыне», дзе напрарочыў і яе долю. Але надта змрочную. Збылося амаль усё. Апроч самага апошняга:

Снілася дзяўчыне
Дома жыць да смерці,
А наяве выйшла
Ў чужакоў памерці.

Памерла яна на Радзіме.

Як слушна заўважыў Янка Сіпакоў, у творы — «тая ж здаленасць, той жа спакойны, амаль безуважны тон... І хоць бы які намёк на свае пачуцці. І толькі ўжо ў вершы "Таей даўгажданай" закрычала сама душа». І праўда, суму, болю, бязмежнага гора — да адчаю многа, аж праз край, што выклікана безнадзейнасцю такога доўгага чакання:

І бліснe першая слязіна,
За ёй апошняя заблісне,
Абедзве па табе, дзяўчына,
Што я чакаў так бескарысне!..

Вяршыняй інтымнай лірыкі Купалы стаў верш «А яна!..» І чытаецца як узор класічнай паэзіі, а сёння ўжо і спяваецца сучаснымі «Песнярамі». Супернікам зорам і нават самому сонцу (а сонца для Купалы — гэта той жа Бог!) паўстае тут лірычны герой:

Гэткім шчырым каханьнем яе атуліў,
З гэткай ласкай глядзеў ў яе сумныя вочы, —
Як і сонца .ня туліць расквечаных ніў,
Як і зоры людзям не ўглядаюцца ўночы!

Каму ён прысвечаны, хто выклікаў такую завіруху пачуццяў у душы паэта? Паўліна Мядзёлка? Напэўна. Але нават укладальнікі Поўнага збору твораў не палічылі магчымым «узаконіць» гэты факт: у каментарох ні слова пра музу. Пагаджаюся з Янкам Сіпаковым, які задае тое ж пытанне. Адказвае, што, магчыма, і Паўліне Мядзёлцы, па якой сумаваў, і Уладцы Станкевічанцы. «Ці, можа, каму іншаму? Але навошта ў гэтым разбірацца? Навошта высвятляць?

Верш прысвечаны Ёй — той, каго паэт абагаўляе, загадзя ведаючы, што перад ім звычайная жанчына».

Ды ўсё ж — яны былі незвычайнымі! Бо ён стварыў для іх незвычайныя троны, каранаваў, схіляўся ў паклоне.

# Янка Купала ў паэтычным свеце Наталлі Арсенневай

Шмат неразгаданых таямніцаў маем у нашым прыгожым пісьменстве. Найперш праз іх — вялікіх і непаўторных, што на пачатку ўжо прамінулага XX стагоддзя тварылі не толькі літаратуру, але і саму нацыю. Загадка Янкі Купалы, загадка Максіма Багдановіча. Такой жа загадкавай паўстае на ніве беларускай паэзіі і постаць Наталлі Арсенневай, разважаючы пра якую, даследчыкі найперш адзначаюць: яна з роду тых Арсенневых, што па мацярынскай лініі даў свету рускага паэта М. Ю. Лермантава. Здавалася б, нішто не прадказвала з'яўленне ў звычайнай сям'і рускага вайскоўца паэткі з беларускай душой. Яе шлях да Беларусі быў не зусім звычайным і, як падаецца на першы погляд, выпадковым, бо надта далёкім было асяроддзе, дзе ўзгадавалася, ад таго, што стане лёсавызначальным.

Жыла ў Вільні і нават не ведала, што жыве ў Краі, які на пачатку XX стагоддзя стала займеў назву Беларусь. Але штосьці падштурхнула юную навучэнку Віленскай Марыінскай гімназіі прачытаць у школьным падручніку геаграфіі не абавязковы для вывучэння, набраны дробным шрыфтам тэкст, з якога «яна ўпершыню даведалася, што ёсць Беларусы, і ў іх ёсць літаратура, дзе найбольшы паэта Янка Купала» (А. Адамовіч). А гэта азначае, што ні разу ў тым часе не трапіла ёй у рукі не тое што ні адна беларуская кніга, якіх ужо выйшла нямала, але і ні адзін нумар перыёдыкаў, многія з якіх і выдаваліся тут, у Вільні. Ніколі не давялося ёй прайсці каля беларускай кнігарні, звярнуўшы на яе ўвагу, каб даведацца пра тое, што ў месце адбываюцца беларускія вечарыны, ставяцца беларускія спектаклі. І ці ж не цуд гэта — менавіта ёй дадзена будзе стаць паэткай, вытокі творчасці якой «пачынаюцца з чыстых крыніц красы і любові да Беларусі», а паэзія яе будзе «прасякнута адной ідэяй — нацыянальнае адраджэнне, уваскрасенне

Бацькаўшчыны-Беларусі — адвечнага ў Сузор'і Сусвету Зніча, які не павінен знікнуць ніколі» (Л. Савік).

Такім чынам, менавіта Янка Купала стаў першым беларускім паэтам, чыё імя ёй давялося прачытаць і якое запала ў душу юнай Наталлі Арсенневай назаўсёды.

Апроч шматлікіх, параскіданых па розных творах вобразаў-успамінаў у позняй лірыцы Наталлі Арсенневай ёсць цэлая нізка вершаў, аб'яднаных характэрнай назвай — «Прывіды», эпіграфам да якой аўтарка невыпадкова абрала заключнае чатырохрадкоўе з вядомага Купалавага верша «О так! Я — пралетар!», напісанага ў 1924 годзе, якім па сутнасці была падведзена рыса пад рамантычнаю марай вялікага паэта пра Адраджэнне Беларусі, што сталася ўсяго толькі балючым сном, прывідам:

Мне Бацькаўшчынай цэлы свет,
Ад родных ніў я адвярнуўся —
Адно... не збыў яшчэ ўсіх бед:
Мне сняцца сны аб Беларусі!

Чаму менавіта гэтыя радкі вылучаныя Наталляй Арсенневай з мноства класічных твораў беларускіх аўтараў патрыятычнага гучання? Відавочна, таму, што, трапіўшы ў далёкую Амерыку, у той вялікі свет, паэтка якраз і займела ў якасці Бацькаўшчыны цэлы свет. І таму асабліва балюча ўспрымала Купалаў боль, «бяду» заставацца верным той Беларусі, што высненая, выпакутаваная найлепшымі яе сынамі, была адкінута новымі «царамі». Асабліва адпаведна ўпісваецца ў гэты кантэкст апошні радок: «*Мне сняцца сны аб Беларусі!*» Наталля Арсеннева ўсім зместам сваёй нізкі пратэстуе супраць заганнай пазіцыі героя-антыгероя Купалавага верша, што адвярнуўся ад родных ніў. Трапіўшы ў вялікі свет, яна засталася вернай сваёй адзінай Бацькаўшчыне. Уваскрашоная на чужыне ў прывідах Беларусь — вось чым ёсць гэтая нізка, таму што паэтка ўспрымала прастору не як нерухомы фон, а як грунт, падказку дзеля стварэння іншай прасторы, не новай — абуджанай праз успамін. А перад зрокам лірычнай гераіні паўставалі вобразы далёкай Бацькаўшчыны, што вярэдзілі душу, вярталі ў далёкі

свет маладосці: касцёл святой Ганны ў Вільні, драўляны дамок, цесная вулка, бяроза.

У зачынным вершы «Заміж прадмовы» — яшчэ скарынаўскі матыў птушкаў і гнёздаў, выраю і вяртання. Але гнёзды рэальныя, звітыя тут, на чужыне, у выраі, яны, заблуканыя птушкі, мараць змяніць на іншае — «сусьвет прынад». Аж цэлым сусветам, бясконцасцю (гэтак здольна паэтка расшырыць мастацкую прастору) ёсць для яе ўсяго толькі «*мяжа ў траве / й паснулая над ёй бабулька-йгрушка, / якой маленства наша давялося гушкаць*». Паэтка не толькі супастаўляе розныя часава-прасторавыя пласты, але і перастаўляе іх, мяняе месцамі, далёкае робіць блізкім і наадварот. І ўсё гэта — з пэўнай, дакладна акрэсленай у прадмове мэтай: «*...а гэта ж Бацькаўшчыну мы адно шукаем / у зьмерклай далечы, ў расьцьвілай блізіні...*».

У спадчыне Наталлі Арсенневай ёсць верш «На матыў хаўтурнага маршу», які быў высока ацэнены яшчэ ў 20-я гады. Так, па выхадзе першай кнігі паэткі савецкі крытык Мікола Байкоў пісаў у палымянскім артыкуле: «Па глыбокай натхнёнасці жывога пачуцця смутку бязмежнага, па музычнасці і бездакорнасці рытмікі гэты верш магчыма было б назваць найлепшым вершам Арсенневай і разам з тым адным з найлепшых у беларускай паэзіі». Паэтычная антытэза нябеснае — зямное выразна прагучала ў гэтым творы. Меладычнасць, узнёслая малітоўнасць робяць гэты твор праўдзівай песняй, светлым развітаннем з жыццём. Тут адлюстравана не столькі імкненне ў край сценяў і нябыту, колькі да нябеснай гармоніі:

Гукі ўрачыстага маршу хаўтурнага
ціха ў паветры імглістым плывуць.
Сэрцы ад сьвету няветлага, хмурнага
ў сьвет неспазнаны, таёмны вядуць.

Твор уражвае тым болей, што напісаны ён быў у 1921 годзе, калі аўтарка мела ўсяго васямнаццаць гадоў. Што падштурхнула яе, юную дзяўчыну, з такім захапленнем апець хаўтурную мелодыю? Напэўна, гэтаму спрыяла адметнае ўспрыняцце

жыцця, замкнуты характар асобы-інтраверта, любоў да адзіноты, рамантычнае ўспрыняцце ўсяго невядомага, таямнічага. А смерць якраз і ўяўлялася такою таямніцай. Можна выказаць меркаванне, што з'яўленне верша было выклікана не ў апошнюю чаргу і творам польскага паэта Карнеля Уейскага «Хаўтурны марш», пераклад якога з польскай мовы зрабіў Янка Купала. Упершыню гэты пераклад пабачыў свет у зборніку «Наша ніва» (кніга 1) у 1920 годзе, што выйшаў у Вільні. Верш датуецца 9 красавіка. Наталля Арсеннева, у тым часе навучэнка Віленскай беларускай гімназіі, канешне ж, была знаёма з гэтым выданнем, бо і сама друкавалася ў газеце «Наша ніва». Больш за тое, яе верш «На матыў хаўтурнага маршу» ўпершыню быў надрукаваны ў гэтым перыёдыку 16 лістапада гэтага ж года. Па сутнасці ўслед за Купалавым перакладам.

Твор польскага паэта ўражвае надзвычайным трагізмам. У ім адлюстраваны боль чалавека, выкліканы стратай каханай дзяўчыны, з чым ён прымірыцца няздольны. Таямніца смерці, пераходу ў іншасвет таксама моцна хвалюе героя:

Ах, мой Божа! Ка мне пхнецца
Дамавіна-скрыня!
Там майго загадка быту,
Там — у дамавіне.

Непрыняцце свету з ягонымі жорсткімі законамі, несправядлівасцю лёсу, як лічыць герой, дае яму падставу выказваць свой гнеў, скіраваны да неба. Выразна гучаць у творы багаборчыя матывы. Смутная хаўтурная мелодыя выклікае ў душы героя нясцерпныя пакуты:

Гэтым словам б'е звон, вые...
Як вароны тыя!
Як жа мучыць гэты звон,
Гэты звон! Звон!

Верш Наталлі Арсенневай «На матыў хаўтурнага маршу» прасякнуты цалкам іншымі настроямі. Выказваецца пакора

лёсу, успрыняцце жыцця як недарэчнага, за якое не варта трымацца, бо напоўнена яно смуткам, абсурднымі з'явамі:

Што нам з жыцьця недарэчнага, сумнага,
з лішняга дня, што, як рэшта, не згас?
Ляж адпачні, дзіцянё неразумнае,
з доляй змагацца не моц і не час.

Менавіта Янку Купалу і Наталлі Арсенневай належаць самыя яркія творы беларускай духоўнай лірыкі. Гэта знакамітая «Мая малітва» Янкі Купалы і «Малітва» Наталлі Арсенневай. Многае лучыць гэтыя творы. Гэта і зварот да магутнага Бога, і ўзнёслая, велічная інтанацыя. Але самае галоўнае — нацыянальна-патрыятычны пафас твораў:

Я буду маліцца і сэрцам і думамі,
Распетаю буду маліцца душой,
Каб чорныя долі з мяцеліцаў шумамі
Ўжо больш не шалелі над роднай зямлёй.

Гэты твор народнага паэта сёння шырока вядомы. Радкі яго хоць «выяўляюць хрысціянскі светапогляд паэта, але ў розны час і рознымі аўтарамі тлумачыліся супрацьлегла. Эстэтычныя погляды Янкі Купалы фармаваліся ў перыяд пострамантызму пад значным уплывам ідэй і прынцыпаў не толькі яго вялікіх рамантычных папярэднікаў, але і сучаснікаў-сімвалістаў... Місію паэта ў народным жыцці яны лічылі выключнай, абраніцкай. Але Купала як сапраўдны арыгінальны творца ніколі не наследаваў гатовых формаў і эстэтычных канцэпцый. Паводле іх асновы ён ствараў сваё, новае, бачанне свету» (Г. Тычко).

Славутая «Малітва» Наталлі Арсенневай была створаная ў гады вайны, у час, як ахарактарызаваў яго адзін з першых даследчыкаў творчасці паэткі нашага часу М. І. Мішчанчук, калі «мацнела вера Н. Арсенневай не толькі ў свой народ, але і ў роднае слова. Яна стала паратункам для паэткі і вылілася ў адточаныя радкі, атрымала надземны, касмічны характар». Гэта ўзвышаны зварот паэткі-патрыёткі да магутнага Бога з літаннем-надзеяй на ўваскрашэнне Краіны праз духоўны ўздым

народа. Мае рацыю Арнольд Макмілін, які сцвярджае: «Гэтая ўзнёслая малітва са спецыфічнымі культурнымі спасылкамі (напрыклад, земляробчымі) больш нагадвае нацыянальны гімн, чым царкоўны спеў, і не ёсць тыповым вершам на выпадак...». Для кожнага, хто ведае гэты твор, вершаваныя радкі ўжо даўно не ўспрымаюцца зрокава. Яны гучаць велічнай мелодыяй, што здольна ўскалыхнуць нават самыя чэрствыя сэрцы:

Магутны Божа! Ўладар сусьветаў,
вялізных сонцаў і сэрц малых,
над Беларусяй ціхой і ветлай
рассып праменьне Свае хвалы.

Як сведчыць Антон Адамовіч, «Малітва», «напісаная на просьбу некаторых царкоўных дзейнікаў, але адразу ж імі адкінутая, і толькі з часам, ужо на эміграцыі, прынятая як нацыянальна-рэлігійны гімн “Магутны Божа”». Чаму так здарылася? Рэлігійных дзеячаў не задаволіў менавіта нацыянальна-патрыятычны пафас верша, пра што згадвае і сама аўтарка: «Па прычыне сваёй беларускасці і быццам бы “палітычнасці” верш не быў прыняты Сінодам як малітва». У артыкуле «Арсеннева Наталля» біябібліяграфічнага слоўніка «Беларускія пісьменнікі» няма згадкі пра гэты верш. Бібліяграфія абрываецца 1941 годам, што, бясспрэчна, ёсць поўнай недарэчнасцю.

Толькі аднойчы давялося Наталлі Арсенневай сустрэць народнага паэта. Не ў лепшым часе. У 1940 годзе, калі паэтка ў складзе дэлегацыі заходнебеларускіх творцаў прыязджала ў Мінск. Іх прымалі ў Саюзе беларускіх пісьменнікаў. Уражанні пра Купалу засталіся даволі змрочныя: «Купала здаўся мне нейкі як быццам не ў сабе. Маўклівы, сумны». Народны паэт быў такім, якой была ягоная Беларусь, што зведала жудасныя рэпрэсіі трыццатых гадоў. Яны не перапыніліся і з пачаткам другой сусветнай вайны. Па вяртанні з сталіцы паэтка з сынамі таксама была арыштаваная. Купала разам з іншымі паэтамі як мог імкнуўся дапамагчы ёй, падпісваючы лісты ў абарону.

# Неба Максіма Багдановіча

У Беларусі 2011 год быў абвешчаны годам Максіма Багдановіча. 9 снежня споўнілася 120 гадоў з дня нараджэння гэтага наймаладога нашаніўскага класіка, дзякуючы якому не на адно дзесяцігоддзе, а, відавочна, назаўжды быў прадвызначаны шлях нашай айчыннай літаратуры — да скарбаў сусветнай культуры, да высокай Красы.

Максіма Багдановіча невыпадкова называюць госцем высокага Неба, пасланцом з тых вышыняў, адкуль на зямлю прыходзяць геніі.

Прыгледзімся да герба Мякотаў, нашчадкам якога быў паэт. Курч — гэтая назва, як падае даследчык радаводу Максіма Багдановіча Зміцер Яцкевіч, паходзіць ад прозвішча праўнука князя Гедыміна Канстанціна Курча. Уяўляе сабою чырвоную тарчу, «на якой выява адмысловай срэбнай фігуры кшталту лацінскай літары *ігрэк* на падмурку з узнятымі бакамі, перакрыжаваная пасярэдзіне, з правага боку — шасціканцовая залатая зорка, з левага — залаты маладзік». Зорка і месяц — скразныя вобразы паэзіі класіка. Зорка і месяц раздзеленыя суцэльнай лініяй, якая не перарываецца, якую не перайсці. Хіба тут не зашыфравана ягоная знакамітая «Зорка Венера». «*Кожную ночку на зорку дзівіцца / буду ў далёкім краю*» — хіба не сімвалічна, што менавіта радкі з гэтага верша напісаны на ягонай магіле ў далёкай Ялце? Гэта ён быў адзінокім месяцам, што марыў пра сваю недасяжную зорку.

Загадку імя паэта разгадаў гарадзенскі творца Юрась Пацюпа. Ягонае эсэ «Імя» з нізкі «На вольную тэму» пачынаецца раскрыццём гэтага коду, шыфру. Сёння гэта на слыху, і хто толькі не гаворыць пра значэнне імя паэта. А дваццаць гадоў таму, калі пісалася эсэ, тое ўспрымалася як адкрыццё: «Найвялікшы дадзены Богам — Максім Багдановіч. Менавіта так даслоўна перакладаецца яго імя. Але ці ж мала

на Беларусі Багдановічаў, ці ж мала Максімаў! А гэты — Максім Багдановіч».

Праўда, ніяк нельга пагадзіцца з Юрасём Пацюпам у тым, што ад Багдановіча «мала бралі нашчадкі». Бо хіба б мелі мы сёння найпрыгажэйшую паэтку XX стагоддзя Наталлю Арсенневу, каб не яго паэзія? Яна гэтак жа пакланялася красе, як і ён, гэтак жа захоплена глядзела ў сіняе неба, гэтак жа была закахана ў беларускія пейзажы. Нізка «Зачараваны кут» — у многім адбітак ягонай «У зачарованым царстве». Прыклады гэтага прыгожага шляху Наталлі Арсенневай — услед за ўлюбёным паэтам, можна доўжыць бясконца. Назва першага зборніка Ларысы Геніюш «Ад родных ніў» — паэтычная апплікацыя са знакамітага верша «Слуцкія ткачыхі». Беларускія пісьменнікі-эмігранты Алесь Салавей, Рыгор Крушына і ў многім Масей Сяднёў ішлі ягоным следам, узгадоўваючы на нашай ніве лепшыя ўзоры класічных формаў. З'яўленне зборніка трыялетаў «Зажураны камень» гарадзенскага паэта Юркі Голуба адбылося таксама дзякуючы покліччу Максіма Багдановіча. Сучасную літаратуру нельга ўявіць без уплыву на яе маладога нашаніўскага класіка.

Паэт асабліва любіў вячэрняе, начное неба. Ягоныя вершы літаральна перасыпаны астральнымі вобразамі, якія ўспрымаюцца па-рознаму. Да прыкладу, верш «Блішчыць у небе зор пасеў...». Тут не столькі астральны вобраз, колькі гармонія зямнога і нябеснага, іх паўтарэнне, адлюстраванне аднаго ў другім. І зямная рака, і нябесная зорная плынь паяднаны ўспрыняццем паэта, ягоным разуменнем адзінства прасторы: неба і зямлі, адзінства часу: хуткаплыннага імгнення напоўненай жыццём летняй ночы і нязменнай вечнасці зорнага свету. А між імі — не нямая нерухомая бездань, а асветленая душэўным парывам прастора募 мараў і летуценняў, узлётаў і расчараванняў:

Блішчыць у небе зор пасеў,
У полі — рунь і ў небе — рунь.
Да рэчкі лецячы, ўзляцеў
Між імі марай белы лунь.

Белы лунь, першапачатковы напрамак лёту якога — рака, узлятае да неба, бо мара заўсёды мае крылле, што ўзносяць увысь.

Вянок з чырвоных макаў у гэтым кантэксце бачыцца згаданым паэтам момантам купальскага абраду, які набывае тут новы сэнс: вянок мусіць знікнуць у рачных хвалях, бо ўсё, што на іх гладзі, урэшце тоне ў глыбінях. Але ж гэтак, як палявая рунь адлюстроўваецца ў руні зорнай, так і вянок чалавечай долі адлюстраваны ў нябеснай прасторы.

Гэта і вянок надзеі на хуткае шчасце, на новае, яшчэ загадкавае, нязведанае. Таму заключныя радкі верша можна ўспрыняць як пытанне: ці могуць спраўдзіцца надзеі ў гэтым плывучым сне? А мо яны будуць знішчаны, мо рака жыцця не будзе асветлена небам:

Ці ж загубіў плывучы сон
З чырвоных макаў свой вянок?

Баль-танец нябесных свяцілаў распачынае лірычнае дзеянне верша «Змяіны цар», ключавым кампанентам якога харавод — старадаўні масавы танец, што суправаджаецца песнямі і драматычным дзеяннем: «*У цёмным небе — хараводы / Сіняватых зорак...*». Харавод — дзеянне зладжанае, прыгожае, дасканалае. А нябесны харавод можна ўспрымаць як вышэйшую, ужо дасягнутую гармонію, да якой імкнецца ўсё зямное. «Вяршынны пункт паэзіі Багдановіча знаходзіцца ў касмічнай высі (як цэнтры ідэалу)...» (В. Максімовіч). Таму краса нябеснага хараводу і вабіць-кліча срэбраных змеек «з цесных, душных, падзямельных норак» у шлях да цёплага выраю. Гэты шлях — імкненне наблізіцца да вечнага нябеснага хараства, гармоніі — паўстае ў вобразах срэбных стужкаў, што пралеглі па лясах, палях. Гэта — вектар, што мае пачатак і бясконца імкнецца да завяршэння, да хараводу, што сімвалізуе кола, якое не мае ні пачатку, ні канца. Сімвал бясконцага руху, вечнага жыцця, жыцця ў раі.

З асаблівым сантыментам ставяцца прыхільнікі паэзіі да Максіма Багдановіча ў Гародні. І няхай час жыцця сям'і паэта

ў нашым горадзе быў не надта працяглым (усяго пяць гадоў), няхай яго маленства, як пісаў літаратуразнаўца А. М. Пяткевіч, мільганула тут блакітным васільком, усё ж у памяці паэта Гародня жыла і ягоная прысутнасць і сёння грэе душы тых гарадзенцаў, хто неабыякавы да лепшых узораў нашага прыгожага пісьменства.

«Славу гораду, як і зямлі, робяць славутыя людзі. У гэтым сэнсе Гародні пашэнціла — у ёй жыло нямала выдатных, славутых людзей і сярод іх — наш першы інтэлігент у літаратуры, тонкі і трагічны Максім Багдановіч», — гэтыя словы належаць Васілю Быкаву — знакамітаму пісьменніку, які доўгі час жыў у Гародні і таксама спрычыніўся да ўзвелічэння яе славы. Ягонае эсэ «Максім Багдановіч — наш апостал» дасканала раскрывае сутнасць таго, кім ёсць нашаніўскі творца для беларускай літаратуры. Сапраўды, першы інтэлігент у літаратуры, што быў узгадаваны ў урбанізаваным асяроддзі, у высокаадукаванай сям'і. Узгадаваны на лепшых узорах сусветнай кніжнай класікі, удалечыні ад Айчыны.

Васіль Быкаў цалкам слушна даводзіць, што нацыянальныя творцы, якія непасрэдна спрычыніліся да тварэння айчыннай культуры, патрэбны найперш гэтай зямлі. Яны яе прарокі, яе апосталы: «Максім Багдановіч — апостал. І ён назаўжды. Але — пакуль будзе існаваць нацыя. Калі ж знікне нацыя, знікне і Багдановіч. Чужым нацыям ён не патрэбны. Чалавецтву ён патрэбны датуль, пакуль у ім ёсць мейсца нам, беларусам. Але не абы-якім беларусам — цывілізаваным. Багдановіч праз гады працягвае выхоўваць нас цывілізаванымі. Бо ён наш апостал, які звязвае нас з мінулым і пракладвае шлях у будучыню». Багдановіч звязаў беларусаў не толькі з мінулым і будучым, але і з цывілізаваным светам, у якім у тыя часы нашаму краю месца не стала.

Гарадзенскіх вобразаў у творчасці Максіма Багдановіча няшмат, але яны яскрава высвечваюць тыя малюнкі, што з'яўляюцца вызначальнымі ў нашым месце. Найперш гэта Нёман. Стыхію вясновай паводкі, вясновага абуджэння паэт перадае ў вершы «Перад паводкай», дзе малюе не шырокую плынь Волгі, на якой вырас, а нашу раку. Памяць ягоная заха-

вала з таго ранняга гарадзенскага дзяцінства вобраз магутнага Нёмана, што разрывае лёдавыя аковы:

І пад птушы крык і гоман,
Даўшы хвалям вольны ход,
Прыпадыме бацька Нёман
На хрыбце магутны лёд.

Вобраз ракі паўстае і ў вершы «Над Нёманам», што быў змешчаны ў мюнхенскім выданні 1960 года. Карціна змяркання, затухання дзённага тлуму перад начным спакоем — яшчэ адзін малюнак да першага раздзела «Вянка» «Малюнкі і спевы». Напоўнены велічнай таямніцай час валадарства месяца, які сваім ззяннем змяняе ўсё навокал:

Заціхае і грукат, і гоман.
Месяц выплыў у неба і сьвеціць.
Як шырока ён кінуў на Нёман
Залацістыя яркія сеці.

Менавіта ў нашым горадзе ў «Гродзенскіх губернскіх ведамасцях» 29 снежня 1893 гада быў надрукаваны адзіны вядомы твор Марыі Багдановіч, маці паэта, апавяданне «Перад Калядамі», у якім выявіліся парасткі цікавага таленту. Невядома, як бы ён развіваўся. Але жыццё маці было цалкам аддадзена дзецям. Ёй суджана было стаць Маці Вялікага Паэта, перадаць яму свой талент і найвялікшы дар жыцця.

Літаральна з-пад Багдановічавага крыла прыйшоў у паэзію Анатоль Брусевіч. Ягоны талент фармаваўся ў той творчай суполцы, якою апекавалася Данута Бічэль, тагачасная дырэктарка музея Максіма Багдановіча. Таму зразумела, што вобраз паэта не абыдзены ўвагай гарадзенскага творцы. Сучасны паэт, асэнсоўваючы шлях класіка, таксама звязвае яго з небам, зорамі. Яшчэ ў тыя раннія гады быў створаны верш «Першая зорка», у якім галоўны астральны вобраз адначасна паўстае ў некалькіх іпастасях: як сімвал паэтавага лёсу, як водгук тых Багдановічавых зорак, якіх мноства ў паэзіі класіка, як сімвал высокай нябеснай красы, як надзеі для тых, хто здольны

жыць на зямлі, але глядзець у неба, бо там адхланне, бо там гояцца душэўныя раны і нараджаецца каханне:

Першая зорка ліхтарчыкам цьмяным
грэе туман у падножжа зьмярканьня,
гоячы ў сэрцы глыбокія раны,
можа ў кагосьці, як ён закаханы,
я пра сябе загадаю жаданьне.

Верш «Дзень нараджэння паэта» — яшчэ адна своеасаблівая разгадка загадкі Максіма Багдановіча гарадзенскім паэтам. Дэкадэнцкія матывы: распад, змрочнасць, бруд, чарнеча, безнадзейнасць — запаўняюць паэтычную прастору. Ні адной светлай ноты, ні светлай фарбы, ні светлага пачуцця:

Мутнае вока зімовага неба
Плакала сьнегам.

Брудныя пальцы вуліцаў гораду
Стыглі ад холаду.

І як цуд, як светлы прамень, што прабіваецца з змрочнага зімовага неба, прышэсце Богам дадзенага Паэта ў змярцвелы свет, каб сваёй прысутнасцю аднавіць тут красу. Апошняя страфа, выдзеленая графічна, супрацьпастаўлена ўсім папярэднім. Рашучае «але» ў яе пачатку рэзка перакрэслівае безнадзейнасць, а эпітэт «цудоўная» падкрэслівае эстэтычна-ўзвышанае, што заключае ў сабе галоўная падзея гэтага дня: «Але ўсё роўна цудоўная дата — / сьнежня дзявятага».

Асабліва шмат для вяртання паэта ў места ягонага маленства зрабіла паэтка Данута Бічэль. Яна стваральніца музея Максіма Багдановіча, укладальніца зборніка «Я хацеў бы спаткацца з вамі», што выйшаў дваццаць гадоў таму, да 100-годдзя з дня нараджэння паэта. Аўтарка артыкулаў, эсэ. У адным з іх паэтка адзначыла: «Нібыта ніякага сьледу ў нашым сьвеце ён не пакінуў, і разам з тым — так сьветла, так шчасна думаць, што лёс ягоны суровы закінуў сюды, у наш гарадзенскі куток, вялікага паэта ў пачатку яго шляху. І сваім горкім сі-

роцтвам ачысьціў нашы душы, а сваім талентам злучыў нас з людствам». Праз яе вершы Максім Багдановіч вяртаецца да нас тым мілым хлопчыкам, што жыў тут стагоддзе таму, і Паэтам, які сёння і заўсёды слугуе Красе, Беларусі: «*зямелькy адновіць*», «*мову замовіць ад вуснаў злых*». І ўсё ўзіраецца ў нашы вочы, у нашы душы:

Глядзіць у вочы Максім Багдановіч
вачамі зоркі Венеры.

Многія вершы гэтай нізкі вызначаюцца святлом, чысцінёй і дасканаласцю, што мае ў сабе свет дзяцінства: «Тэрцэты», «Максім Багдановіч», «Домік Максіма Багдановіча ў Гародні на Новым Свеце». І ласкавыя інтанацыі, і лёгкія рытмы, і дасканалая рыфмоўка, і слоўкі, эмацыянальна афарбаваныя, з памяншальна-ласкальным адценнем — усё гэта і стварае непаўторнасць дзіцячага свету. І тут таксама прысутнічаюць вобразы, звязаныя з нябеснай прасторай:

Памятаюць бяссоныя зоркі:
тут катаўся на саначках з горкі
у пальтончыку, у мамінай муфце.

Высокае прызначэнне Паэзіі — ратаваць душы ад адзіноты, сіроцтва, наталяць смагу, прагу справядлівасці, сеяць дабро, ствараць красу і служыць ёй, праз пераадоленне свайго болю пераадольваць боль іншых — усё гэта пра Паэзію таго, хто маленькім хлопчыкам пакінуў Беларусь:

Але Паэт, як добры чарадзей,
здалёк аддасць ёй жар сваіх грудзей
ды знічкай скоціцца ў прыморскі кут,
каб вечным болем ачышчаць свой люд...

Каб у радзіме адагрэтай той
ніхто не чуўся горкай сіратой...

Вершы «Птаху Максіме!», «Басаnож», «У сусвеце», «І табой забіваюць, Максіме» гучаць і як малітвы-звароты, і як

споведзь. «Там, дзе ходзяць басанож» — гэты матыў з ранейшай лірыкі Дануты Бічэль. Як непасрэдны дотык да жывой зямлі, як суладдзе настрояў душы чалавечай і людства працы, як гаючы глыток з роднай крыніцы, як гармонія прыроднага і чалавечага. Гэта там, дзе дом, дзе доля, дзе каханне. Зараз жа гэты вобраз напоўнены зусім іншым сэнсам: басанож — то пазбіваць да крыві ногі аб асцюкі і драты, то зраніць сэрца аб чэрствасць і здраду, то — нечалавечым намаганнем на апошняй мяжы сабраць сілы, каб данесці ўсё ж светлай і чыстай ад усялякага бруду на высокі суд сваю душу:



Я нарвала ў даліне лотаці.
Я схадзіла нашча да споведзі.
Мне захраснуў у сэрцы нож.
Паляцела, сабраўшы сілачкі,
на спатканне з душой Максімавай
у блакіт нябёс басанож.

Неба Максіма Багдановіча — гэта і ёсць тое высокае Неба ідэалу, да якога ён імкнуўся наблізіць нашы погляды, яркай красою якога ён хацеў напоўніць нашы душы, чысцінёй, светласцю і любоўю якога ён імкнуўся сагрэць нашы сэрцы.

# Палыновая горыч кахання
## Вершы Максіма Багдановіча да Ганны Какуевай

Максім Багдановіч меркаваў даць сваёй кнізе назву «Палын-трава», што прыгожай, і таксама ж кветкай, паўставала з ягонага «Вянка». Кветкай жывой, натуральнай, не пазбаўленай адметнай пекнасці, але найпершая яе адметнасць — расстайная жаўцізна і горыч. Менавіта такім было ягонае самае вялікае каханне. Да той, якую ўвасобіў і ў несмяротнай «Зорцы Венеры», і ў многіх іншых творах. Пра гэтую старонку творчасці нашаніўскага класіка вельмі пранікліва напісала літаратуразнаўца Ірына Багдановіч: «Шчымлівыя, трапяткія вершы, прысвечаныя Ані Какуевай, у якую закахаўся М. Багдановіч, будучы яраслаўльскім гімназістам, — гэта драматычная гісторыя кахання, якая саграваe душу асаблівым цяплом і адначасна разліваецца ў ёй нявыказаным сумам».

Укладальнікі мюнхенскага выдання твораў Максіма Багдановіча Станіслаў Станкевіч і Антон Адамовіч у раздзел «Па вянку» ўвялі нізку «Палын-трава», куды змясцілі дваццаць вершаў, што і былі напісаны пад уражаннем кахання да гэтай чарнавокай пані. Адкрывае нізку верш «Учора толькі шчасце глянула нясмела...». Тое, што твор прысвечаны Ганне Какуевай, пацвярджае імя, якое знаходзім у перакладзе верша на рускую мову. Паэт здолеў перадаць незвычайны стан закаханага юнака, калі пачуццё перапаўняе яго, змяняючы ўсё навокал. Але знешне поступ кахання незаўважны, нясмелы, далікатны, бо, як слушна зазначае Ірына Багдановіч, «лёгкімі пастэльнымі танамі зафіксаваў паэт пачатак свайго захаплення». Аднак жа гэты поступ здольны цалкам змяніць успрыняцце свету. Несумяшчальныя, здавалася б, перажыванні перапаўняюць чалавека:

Учора толькі шчасце глянула нясмела, —
І развеяліся хмары змрочных дум.
Сэрца чулае і млела, і балела,
Радасць душу мне шчаміла, быццам сум.

Перапоўненасць пачуццём, якое засланяе ўсё, калі адкінуты ўсе справы, немагчымасць рацыянальна асэнсаваць гэты стан, дайсці да прычынаў таго, што адбылося, — усё гэта ўвасоблена ў дакладнае параўнанне жыцця з лёгкай завеяй, якая наляцела, заварожвае, замятае ўсё на сваім шляху. Дзіўны стан лёгкасці і прыемнага одуму-бяздум'я перапаўняе душу. Пытанні паўстаюць і тут жа адпрэчваюцца, бо адказы на іх непатрэбныя, бо і адказаць можна таксама апытаннем:

Ўсё жыццё цяпер, як лёгкая завея.
Кнігу разгарнуў, а не магу чытаць.
Як зрабілася, што пакахаў цябе я, —
Хіба знаю я? Ды і нашто мне знаць?

І калі той, для каго кніга — вялікі, бясконца дарагі свет, які сам сябе назваў кніжнікам, не можа чытаць, то гэта сведчыць пра многае.

У паэтычным накідзе «Ўсё адна цяпер мне думка сэрца сушыць...», які лагічна працягвае сюжэтную канву нізкі, упершыню з'яўляецца яе цэнтральны вобраз — палын-трава. Таму і апраўдана, што ўкладальнікі змяшчаюць гэты твор другім. Зварот да ратавальнай сілы траваў роднай зямлі цалкам натуральны ў творчасці беларускіх паэтаў. У Максіма Багдановіча палын-трава паўстае ва ўсёй сваёй знішчальна-ратавальнай моцы. Галоўнае зараз для героя — пошук шляху да яе сэрца, а ўсё астатняе — хай парасце палыном:

Ўсё адна цяпер мне думка сэрца сушыць,
Як пабачыцца з табой, к табе прыйсці,
А палын-трава няхай сабе заглушыць
Пазабытыя даўнейшыя пуці.

Далейшая кампазіцыя нізкі, прапанаваная эмігранцкімі літаратуразнаўцамі, парушае стройнасць, паслядоўнасць гісторыі гэтага кахання. Далей было б лагічна прапанаваць верш «Халодная, ясная ноч...», у якім пераважае той жа матыў пошуку шляхоў да каханай, але выказаны вельмі адметна, праз выкарыстанне традыцый калядных гаданняў:

Звонка хрумчыць сняжком,
Ідучы мне насустрач дзяўчына.
«Як Вас завуць?» —
Пытаюся я.
Сягоння ж усе гадаюць.
А яна няголасна кажа:
«Аня».

Іншага імені ў гэтай выпадковай дзяўчыны не магло быць. Бо кожная выпадковасць у такім стане заканамерная. Бо кожны крок героя выяўляецца, пазначаны каханнем. Адбываецца своеасаблівае прыцягненне: усе ягоныя шляхі вядуць да яе.

Нельга не згадаць цікавую версію адносна гэтых твораў Ірыны Багдановіч: «Чарнавыя накіды — магчымыя пачаткі і сярэдзіны вершаў, а можа быць, аскепкі аднаго-адзінага прысвечанага Ані верша». Аднаго-адзінага, думаецца, не ў літаральным сэнсе, а таму, што адно вялікае пачуццё злітоўвае гэтыя творы ў адзін, яно рознымі сваімі гранямі высвечана тут. Таму чарнавыя накіды можна ўявіць разбітай на аскепкі крышталёвай вазай, якая і сімвалізуе каханне.

Закаханы аддае сябе на волю пачуццю, на волю лёсу, на волю той, што стала для яго адзінай гаспадыняй. Адчайна, бы ў вір, кідае сваё жыццё — найвялікшую каштоўнасць, якой валодае, ёй пад ногі. Сюжэт верша «Буду сніць і днямі, і начамі...» — скразное лірычнае дзеянне, не перанесенае ні на якія вобразы-рэаліі знешняга свету, бо ў гэтым свеце не засталося нічога, апроч яе, нічога, апроч кахання да яе. Дзеянне ўяўнае, ды, відавочна, немагчымае, неверагоднае, але нястрымнае, бо пачуццё прагне выйсця:

Буду сніць і днямі, і начамі.
І прыйду. Што ўздумаеш, рабі.
Хочаш — душу растапчы нагамі.
Хочаш — мучай, хочаш — загубі.

Усё, што трапляе на вочы закаханаму, успрымаецца праз прызму пачуцця. Так, шаўковая тканіна з такой вабна-прыгожай, нянаскай назвай — муар, якая мае уласцівасць зіхацець рознымі колерамі, што, пераліваючыся, робяць немагчымым правесці між імі мяжу, наводзіць на смутны роздум: «*У сэрцы — боль: / Ніколі / З душою Вашай так не сальецца / Мая душа*». Фінал верша «Муар» адназначна-лаканічны: «*Канец*». Гэта не проста канец твора, а канец усяму, бо прыходзіць разуменне, што ніколі немагчымая тая вышэйшая еднасць, якая злучае душы дваіх у адно. Верш знешне астрафічны, але сэнсава ў ім яскрава вылучаюцца дзве часткі, якія і кампазіцыйна паўтараюць адна другую: у кожнай цэнтральны працяглы радок, які заключае ў сабе асноўную думку. А ад яго пункцірамі разыходзяцца іншыя, каб распачаць і завяршыць гэтую скрушную гісторыю.

Два блізкія паэтычныя накіды, своеасаблівы дыстых «Вашай цётцы...» і «Мая гаспадыня» — гэта водгук на вядомую гісторыю пра ролю ў лёсе Ані яе апякункі, цёткі Таццяны Рафаілаўны, якая не ўхваляла адносіны маладых людзей. Зразумелая непрыязнасць юнака да гэтай асобы не магла не з'явіцца як адказ на яе непрыязнасць да яго:

Вашай цётцы, здаецца, вельмі прыемна
Рабіць обыск у маім сэрцы.
Яшчэ ўчора яна мне сказала:
«Прызнайцеся, што Вы палюбілі Аню!»

Другі верш — гэта паэтычны адказ самой Таццяне Рафаілаўне, што была, як вядома, супраць сустрэчаў закаханых. Магчыма, паэт меркаваў прапанаваць гэты верш сваёй «гаспадыні», але, нясмелы і далікатны, наўрад ці асмеліўся зрабіць гэта. Такім чынам, паэзія дапамагала суцішыць крыў-

ду. Называючы апякунку каханай «мая гаспадыня», Максім Багдановіч падкрэслівае, якім значным з'яўляецца яе стаўленне да маладых людзей, разумее, што яе воля ў многім вызначальная. Прызнае, што яна — гаспадыня ягонага лёсу, ягонага кахання. Дазваляе сабе паэтычны «дыспут», прыводзячы вельмі яскравыя «аргументы» з зразумелага «апанентцы» свету культуры, да якога яна сябе адносіць. Кампазіцыя верша цалкам падпарадкаваная патрабаванням палемічнага трактату: напачатку адпаведны статусу зварот, далей выкладзена сутнасць праблемы праз выкарыстанне параўнання. Дыдактычны момант закранае асноўную думку твора. Галоўнае, да чаго імкнецца паэт, — данесці: каханне — справа надта інтымная, далікатная, у яе нельга ўмешвацца, «*Бо гэта — задушэўная справа, / А чалавецкай душы таксама / Няхораша мацаць рукамі*». З выказвання асабістага болю, які паэт імкнецца прыхаваць за іранічнай інтанацыяй, верш вырастае да своеасаблівага маніфесту ў абарону кахання.

Максім Багдановіч вельмі рэдка (а мо і ніколі) у жыцці не дазваляў сабе раскрываць душу перад іншымі, перад светам. І толькі паперы, вершам давяраў ён самае патаемнае. З такіх твораў у «палыновай» нізцы — «Больш за ўсё на свеце жадаю я...», верш, што вылучаецца надзвычайнай адкрытасцю. Тут выказанае непасрэдна, калі скарыстаны прыём адкрытага біяграфізму, найвялікшае жаданне маладога чалавека стаць бацькам. Жаданне цалкам зразумелае, натуральнае, але яму ніколі не суджана было збыцца. Асабліва кранае вобраз немаўляці, намаляваны з глыбокай пяшчотай. Не могуць не хваляваць тыя характэрныя вобліку маленькага чалавечка ў анёльскім веку дэталі, якія малады паэт накрэслівае толькі некалькімі штрыхамі:

Больш за ўсё на свеце жадаю я,  
Каб у мяне быў свой дзіцёнак —  
Маленькая дачушка — немаўляшка,  
Аня Максімаўна,  
Такая прыгожанькая,

Цёпленькая, мокранькая,
З чорнымі валосікамі і броўкамі,
З цёмна-карымі вочкамі,
А ручкі, як перацягнутыя ніткамі.

Адкуль такая пяшчота? На існуючы толькі ў марах воблік дзіцяці паэт пераносіць сваё вялікае каханне. Да той, якую марыць мець за маці свайго дзіцёнка. Гэта яе, Аню Какуеву, ён уяўляў такою ў анёльскім веку. А мажліва, бачыў яе дзіцячыя фотаздымкі: «*Зусім такая, як Вы, / Калі Вы былі маленькай дзяўчынкай*». Зразумела, што і гэты твор, як і ўсе іншыя, нельга адназначна ўспрымаць як няхай сабе паэтычную, але ўсё ж біяграфію аўтара.

У нізку ўваходзіць яшчэ адзін дыстых — два паэтычныя пасланні да цёмнавокай пані, асноўны ў якім — матыў развітання. Калі больш дакладна, то гэта два варыянты аднаго верша. Поруч з палыновай горыччу расстання гучаць тут і прасветленыя ноты захаплення дзявочай красою, захаплення красою жыцця, якія ўраўнаважваюць драматызм страты. Краса паўсюль, у кожнай з'яве, на першы погляд непрыкметнай. Але варта асвяціць яе агнём пачуцця, і яна загарыцца красой незвычайнай. Як тыя непрыкметныя на цёмным небе цёмныя зоры:

Цёмнавокая пані, канец!
Ёсць накшталт Вашых цёмных вачэй,
Зоры цёмныя, што неўзнарок
Загараюцца ў змроку начэй.

Невядома дакладна, як сам Максім Багдановіч уклаў бы сваю кнігу «Палын-трава», але, падаецца, было б цалкам апраўдана завяршыць яе вершам «Двайняткі». Гэта быў бы вельмі дасканалы фінал. Бо гэты твор выводзіць на іншы, адрозны ад палыновага, шлях: роздуму пра тыя вечныя кветкі мастацтва, якія былі ўплецены паэтам у ягоны дасканалы вянок. І шлях роздуму пра незгасальнае святло кахання, пра тое, чым ёсць

творчае натхненне, і пра тую, што стала музай, без якой не было б і яго, паэта:

Вы, і самі тое не прыкмячаючы,
Так многа далі мне,

Так напоўнілі сабой маё жыццё,
Што ці ж магу я адказаць,
Заглянуўшы ў сваю душу:
Што там Ваша і што маё?

І калі іх душы не змаглі зліцца ў адно ў зямным жыцці, як тыя колеры муару, то, магчыма, яны здолелі зрабіць гэта ў нябеснай вышыні, адкуль свецяць зоркамі-двайняткамі.



Ганна Какуева

# Паэтычны сінтаксіс нізкі «Каханне і смерць» Максіма Багдановіча

Твор «Каханне і смерць» Максіма Багдановіча — першая ў прыгожым айчынным пісьменстве цэласная, кампазіцыйна адшліфаваная нізка вершаў, у якой услаўлены вобраз жанчыны, яе жыццёвы подзвіг, яе веліч і прыгажосць. Вырастаў гэты твор, як напісаў А. Лойка, «з думак аб дыялектыцы жыццёвай сутнасці, аб узнёслым і радасным, аб драматычным і трагічным». Нізцы не пашанцавала ў часе выдання «Вянка», затое сучасныя даследчыкі вельмі высока ацэньваюць яе змест, высвечваючы ўсё новыя грані геніяльнага таленту класіка. Так, у артыкуле Т. Чабан «Космас “Вянка”» чытаем: «Гэта своеасаблівае “Евангелле ад Максіма” — унікальнае ў сусветнай літаратуры духоўна-эстэтычнае адкрыццё Максіма Багдановіча».

Шліфуючы свае вершы, класік не ў апошнюю чаргу звяртаў увагу на выяўленчыя магчымасці паэтычнага сінтаксісу. У нізцы «Каханне і смерць» знаходзім паўторы, градацыю, рытарычныя фігуры, перанос і іншыя прыёмы.

Філосаф У. Конан, разважаючы пра вершы нізкі, адзначыў: «Схільнасць паэта да санатнай кампазіцыі выявілася і ў гэтай прыгожа-трагічнай сімфоніі пра каханне і смерць: у свой цыкл ён уводзіць паэтычнае скерца — трыялет, дзе параўноўвае цяжарную з дзіцячай цацкай — “дзераўляным яечкам”, у якім прыхавана такое ж самае, толькі маленькае». Трыялет, гэтая класічная цвёрдая форма верша, у першую чаргу грунтуецца на радковых паўторах, якія вылучаюць галоўнае, робяць твор лёгкім, выразным. Да таго ж і змест у гэтым трыялеце непасрэдна звязаны з гульнёй, цацкай: «*Дзераўлянае яечка / Ты ўдаеш сабой зусім. / Адчыні яго, — а ў ім / Дзераўлянае яечка*».

Але гэтая гульня толькі «ўдаваная». Бо размова ідзе пра вельмі сур'ёзныя рэчы: паўтаральнасць, цыклічнасць чалавечага існавання, калі папярэднія пакаленні становяцца асновай для ўзнікнення будучых і на першым узроўні развіцця з'яўляюцца надзейнай ахоўнай абалонкай, што засланяе ад жорсткасці зямнога свету.

Наогул, паўторы асабліва часта выкарыстоўваюцца ў нізцы. Так, ужо ў зачынным вершы «Хоць мы былі адны ў той час...» сустракаем анафару. Паўтараючыся ў пачатку радка, словы «*не помню, як*» падкрэсліваюць, як без волі розуму, памяці, на падсвядомым узроўні ўзнікае пачуццё, узнікае штосьці незвычайнае між закаханымі, што немажліва дакладна акрэсліць і што паэт пазначае праз указальны займеннік *тое*:

Не помню, як — я ручку ўзяў,
Не помню, як — пацалаваў,
Ціхутка пальчыкі цалуючы,
Як да дзіцёнка, ў лад казаў...

Але што гэтае *тое,* што здарылася *знянацку*, але *ўраз*? Абылося вельмі важнае: юная прыгажуня ўваскрасіла ў памяці лірычнага героя светлы воблік маці, стала блізкай, як самы родны чалавек. І яго самога вярнула ў свет маленства. Ужо ў гэтыя першыя хвіліны такой чыстай, цнатлівай блізкасці юнак убачыў у дзяўчыне мацярынскія рысы, перад ім паўстала згадка маленства, гульня-пацешка з дзіцячымі пальчыкамі. Паэт выкарыстоўвае ў вершы аплікацыю, увёўшы фальклорны матыў з вядомай песенькі-забаўлянкі, якая спрэс перасыпаная падваеннем: «*Сарока-варона кашку варыла, / Дзетак карміла; / Гэтаму дала, гэтаму дала, / А гэтаму не дала...*».

Верш «Да вагітнай» утрымлівае анафару ў заключных радках, праз якую дакладна перадаецца незвычайны, сцішаны стан жанчыны напярэдадні родаў, калі адкінутыя звычайныя жаданні, калі ўсё адбываецца як у сне. І жанчына жыве жыццём не розуму, не законамі рэчаіснасці, а законамі сэрца, якое святлее ад усведамлення таго незвычайнага, што пад ім узгадоўваецца. У гэтым вершы сустракаем адно з самых яр-

кіх параўнанняў будучай маці з коласам, у якім спее зерне — дзіцятка. Гаворачы пра напоўненасць высокім мацярынскім пачуццём сэрца, паэт падкрэслівае:

Ужо нічога ў ім няма,
Адно ёсць — рупнае каханне,
Салодка-соннае бажанне,
Салодка-сонная дума.

Той жа стан — салодка-сонны — і ў вершы «Як хораша, калі дзіцё...», у якім жанчына бачыцца ўтульным гняздзечкам для дзіцяці, а яно, адпаведна, птушанём, што вельмі адчайна і разам з тым настойліва просіць спакою, мажлівасці захавацца і даспець ва ўтульным улонні. Заключная страфа верша ўтрымлівае патраенне, праз якое і перадаецца гэтая настойлівая просьба маленькай істоты, яшчэ не чалавека, але ўжо пазначанага людскай сутнасцю:

Душа — ў салодкім палусне,
І кажуць знакі чалавечка:
«Я — пценчык, ты — маё гняздзечка,
Не руш, не руш, не руш мяне!»

У вершы «З енкам дзіцё ты раджаеш...» дзякуючы анафары, якая падкрэслівае ўзаемнасць пачуцця, вылучаецца эпітэт *шчыра* — адзіны мастацкі троп у цалкам аўталагічным вершы. Боль, пакуты адлюстраваны ў творы без прыкрыцця, у «голым» выглядзе, калі ўзнікае адчуванне, што герой імкнецца перакласці трыванне каханай на сябе, хочучы забраць ці хоць бы раздзяліць яе боль, цалкам усведамляючы немажлівасць гэтага. Ад таго пакутуе яшчэ болей, бо стаў прычынай бяды, бо адчувае сваю віну. Віну без віны:

Шчыра мяне ты любіла,
Шчыра цябе я кахаў,
Але давёў да магілы,
Сам на мучэнні аддаў.

Надзвычай ўрачыста гучыць верш «Тым вянкі суворай славы...», названы У. Конанам гімнам «пасля ахвярапрынашэння, якое прыраўноўваецца да хрэснай ахвяры Выратавальніка». Тут у другім катрэне выразна вылучаецца анафара: *за дзіцё*. Праз гэты прыём падкрэсліваецца вышэйшая мэта існавання жанчыны — даць жыццё дзіцяці праз ахвяру ўласнага жыцця. Гэтая ахвяра вартая ахвяры Збаўцы, які коштам сваёй смерці дае людзям, дзецям сваім, надзею на жыццё вечнае. Нараджэнне дзіцяці аўтар ставіць поруч з ратнымі подзвігамі ваяроў, але, як слушна сцвярджае У. Конан, «подзвіг жанчыны, якая з-за любові да дзіцяці “*смерць, не дрогнуўшы, спаткала*”, ставіцца вышэй славы ваякаў», бо здзейсненае ёю — у імя любові:

Ды слаўней вагітнай доля —
Ў сэрцы маючы любоў,
За дзіцё зазнаці болі,
За дзіцё праліці кроў.

У вершы «Белы крыж, пліта, пад ёй — магіла...», які ўспрымаецца як «апошняя эпітафія маці, сястры, жанчыне» (У. Конан), таксама сустракаем анафару, выражаную азначальным займеннікам *усё*, праз якую выказваецца марнасць, хуткаплыннасць, зменлівасць усяго жыццёвага, зямнога ў параўнанні з вечным. Але ж чалавек толькі і здольны ўспрымаць папярэднікаў праз пражытае імі тут, на зямлі, а не праз прызму вечнасці:

Ўсё мінулася — і боль, і гора, —
Ўсё кудысь далёка адышло;
Але срогі надпіс: «Disce mori»
Нагадае, што з табой было.

Часта сустракаем у нізцы прыём градацыі, якая служыць узмацненню экспрэсіўнага ўздзеяння твора. Так, у вершы «Пачуццю цёмнаму падлеглая...», выкарыстоўваючы гэты прыём у апошняй страфе, паэт падкрэслівае незваротнасць таго, што мусіць адбыцца, той няспынны покліч маці-

прыроды, які з нязведана-страшнай і адначасна таямніча-салодкай сілай прыцягвае да сябе. Выяўленчая магчымасць градацыі ўзмацняецца параўнаннем адчування жанчыны з узрушана-мазахічным станам чалавека ў часе падзення ў бездань:

Таксама без надзей да спыну
У пропасць чалавек ляціць
І сквапна ўніз, на дно страмніны,
З салодкай жудасцю глядзіць.

Будучая маці вельмі абачліва ставіцца да кожнай праявы знешняга свету, якая мае дачыненне да яе стану. Што можа адбывацца ў яе душы, калі чуе страшны праклён, як у вершы «Праклясце вагітнай»? Паэт перадае ўзрушэнне жанчыны менавіта праз градацыю, калі напачатку як ахоўная рэакцыя з яе вуснаў вырываецца смех, так мала падобны на гэтае звычайна радаснае выяўленне пачуццяў, следам за якім ідзе цалкам адэкватнае ўспрыняцце: «*І, засмяяўшыся нясмела, / Ты задрыжэла і збляднела*». Жанчына безабаронная перад жорсткім светам, перад людзьмі, носьбітамі зла.

«Багдановіч першы ў нашай паэзіі апаэтызаваў сам момант нараджэння чалавека — роды з іх рэалістычнымі дэталямі, якія не здаюцца натуралістычнымі, бо асветлены неўміручым святлом Мадонны» (Т. Чабан). Гэтыя дэталі знешняга вобліку жанчыны перададзены праз ампліфікацыю, калі нагнятаюцца аднатыпныя моўныя канструкцыі, якія адлюстроўваюць стан спакутаванай маці: «*Без сіл, уся ў пату, як белы снег, блядна...*». Той жа прыём скарыстаны і ў зачыне верша, што змешчаны побач, які рыхтуе чытача да немінучага сыходу жанчыны: «*Пасля радзін ты ўсё штодня марнееш: / Асунулася цела, зблякла твар, / Засмяглі і растрэскаліся губы...*». Асноўны ж сінтаксічны прыём, які пакладзены ў аснову гэтага верша, — радковы анжамбеман, паэтычны перанос, пры дапамозе якога сэнсава і інтанацыйна вылучаюцца словы на стыку радкоў, напаўняюцца асаблівай значнасцю, зместавай выразнасцю. У. Конан слушна падкрэсліў, што

ўвага акцэнтуецца на вачах паміраючай, у якіх адбіваецца просьба пра літасць:

...На іх парой няпэўна прабяжыць
Пасмех — і знікне, жалкі і пужлівы?
Як сцені, сіняватыя кругі
Навокала вачэй ляглі, а вочы
Як быццам просяць злітавацца ўсіх.

Дзве часткі верша лагічна дапаўняюць адна другую. У заключным пяцірадкоўі паэт параўноўвае маці з абляцелай багаткай. Тут таксама асноўны прыём перанос. Рытмаінтанацыйны націск вылучае раздзеленае між радкоў словазлучэнне, запавольваючы гучанне, акцэнтуючы ўвагу на заключных і пачатковых словах. Эпітэты, праз якія намалявана расліна, падкрэсліваюць яе прыродную прыгажосць, кволасць і далікатнасць, за якімі, аднак, схавана магутная жыццёвая сіла, скіраваная ў будучыню: «*Так крохкая, пушыстая багатка / Пад ветрам аблятае, каб магло / Яе насенне узрасці і кветнуць / І толькі кволае сцябло пасля / Гаворыць аб жыцці, дзіцям аддадым*».

У заключным вершы нізкі «Белы крыж, пліта, пад ёй — магіла...» першы радок уяўляе сабой амплікацыю, дзе выкарыстаны асіндэтан (бяззлучнікавасць), што спрыяе сціласці, лаканічнасці і адначасна напоўненасці выказвання. Сустракаем тут і анафару, выражаную азначальным займеннікам *усё*, праз якую выказваецца марнасць, хуткаплыннасць, зменлівасць усяго жыццёвага, зямнога ў параўнанні з вечным. Але ж чалавек толькі і здольны ўспрымаць папярэднікаў праз перажытае імі тут, на зямлі, а не праз прызму вечнасці. Мо і праўда, пішучы гэтыя радкі, Максім Багдановіч згадваў забытую ў далёкай Гародні магілу сваёй маці, а нізка, наогул, мае «не літаратурную, а духоўна-біяграфічную аснову, няпростая дыялектыка спалучае асабіста-канкрэтнае, перажытае і быційна-ідэальнае, мастацкае»: «*Ўсё мінулася — і боль, і гора, — / Ўсё кудысь далёка адышло; / Але срогі надпіс: "Disce mori" / Нагадае, што з табой было*».

Каханне трагічна абарванае смерцю. Але «смерць жыцця не перамагае, таму паэзія — гімн каханню, вечнаму кругазвароту жыцця» (А. Лойка). Менавіта так ўспрымаецца нізка Максіма Багдановіча, у назве якой два асноўныя моманты чалавечага існавання.

# Згадкі пра Анатоля Іверса

Мне пашчасціла пазнаёміцца з гэтай прыгожай сям'ёю заходнебеларускіх інтэлігентаў Ніны Паўлаўны і Івана Дарафеевіча Міско на схіле іх веку. Не праміне і двух гадоў, як іх не стане.

Паехаць у Слонім прапанавала Данута Янаўна Бічэль. Была прыгожая зіма. Снежны, не надта марозны студзень 1997 года. Па дарозе заехалі ў Зэльву, на магілу Ларысы Антонаўны і Івана Пятровіча Геніюшаў.

У хаце на вуліцы Дабрыяна, звычайнай, вясковай, вельмі ўтульнай, чыстай, быў пакой — кабінет Івана Дарафеевіча. Стол, некалькі стулаў вакол, кніжная шафа. Ён адразу запрасіў нас туды, і самае першае, што паказаў у часе той сустрэчы, былі кнігі. Свае вершы і розныя літаратурна-крытычныя выданні. Сам гаспадар сядзеў за сталом і гаварыў мне: «Вазьмі тую кнігу, адгарні, прачытай, на якіх старонках трэба паглядзець, падай мне». Праз лупу ўважліва глядзеў на кнігу. На шмуцтытуле кожнай з гэтых працаў ягонай рукой былі пазначаны старонкі, дзе хоць раз успаміналася імя Анатоля Іверса. Прасіў: «Прачытай тут». Чытала нейкі абзац, дзе гаварылася пра яго паэзію, чытала пералік прозвішчаў заходнебеларускіх паэтаў у кнігах Уладзіміра Калесніка. Слухаў і казаў: «А зараз з той кнігі». Я разумела яго, чый шлях падыходзіў да васьмідзесяціпяцігадовай мяжы. Разумела паэта, які доўгі час не меў магчымасці друкаваць свае вершы, не меў ніякага водгуку на створанае ім. А ён так прагнуў быць пачутым! Бо для чаго ж тады народжанае, часам выпакутаванае, прамоўленае, напісанае Слова? Таму я гэтак спяшалася адгукнуцца на ягоныя новыя кнігі...

Ён расказваў пра Слонімскае падполле. Пра гэта расказваў скупа, пераходзіў на нежывы, публіцыстычны стыль. Гаварыў так, як пісаў свае артыкулы. Не дараваў тым, хто, як ён лічыў, былі здраднікамі. І праз столькі гадоў завочна змагаўся з імі,

хоць і тыя людзі, таксама беларускія патрыёты, адпакутавалі як на адно жыццё, то аж занадта.

Мне вельмі хацелася пачуць пра Наталлю Арсенневу, пра той ейны прыезд у Слонім напрыканцы вайны. Расказваў, як намаўляла і яго пакінуць Беларусь. Чамусьці не спытала, ці не пашкадаваў калі пазней, што не выехаў тады. Дапытвалася, якой была Наталля Арсеннева. Бо ў маіх вачах усе нашы паэткі — найпрыгажэйшыя кабеты ў свеце (нашы ў маім разуменні далёка не ўсе паэткі, нават калі і пішуць па-беларуску). Мне важна было пачуць ад яго, бо фotаздымкі зусім не тое, што жывое сведчанне. Пыталася: яна была вельмі прыгожай? Адказаў: «Яна была такой», і дзвюма далонямі, разведзенымі ўбакі, дакрануўся да свайго падбародка.

На развітанне ўзяў з нас слова, што прыедзем у Слонім у травені.

Той травеньскі дзень быў як на заказ. Зялёны, цёплы, сонечны. Свята наладзілі ў клубе, у Чамярах — роднай вёсцы Івана Дарафеевіча. Зала была запоўненая. Людзі гаварылі шчырыя словы свайму паэту, мясцовыя артысты спявалі песні. Свята ўдалося. Інакш і не магло быць, бо адчувалася, як шанавалі яго чамяроўцы, як ганарыліся сваім земляком. Зусім не было таго, што называем афіцыёзам. Не памятаю, ці то тутэйшага начальства не было зусім, ці то яны тым разам не вылучаліся з народа. Бо не было той, звычайна фальшывай ноты, звязанай з такой прысутнасцю. А госці таксама імкнуліся сказаць шчырыя словы, ведаючы, да якога светлага чалавека прыехалі. Мне падавалася, людзі разумелі, што гэтае свята апошняе. Хоць, як гэта бывае звычайна, і жадалі юбіляру шмат гадоў, але няўлоўна матыў развітання прасочваўся праз усю тую сустрэчу.

Было частаванне ў ягонай хаце, пра што парупілася найперш Ніна Паўлаўна і родныя. У Беларусі пачаўся няпросты час (зразумела, тут ніколі не было проста). Водгукі таго, што адбывалася, урываліся і ў застольную бяседу.

Іван Дарафеевіч назаўсёды запомніўся такім, якім застаўся на апошнім фотаздымку з той святочнай сустрэчы. Ён правёў нас да весніцаў. Усе ўжо селі ў машыну, я затрымалася. Данута Янаўна параіла: «Сфатаграфуй яго зараз». Стаяў ля весніцаў і

так смутна прамовіў: «Апошні раз бачымся». Безумоўна, сказала, што мо і не, але гэта гучала, напэўна, не вельмі пераканаўча.

Ліставанне наша пачалося пасля той апошняй сустрэчы. У маім жыцці таксама пачынаўся вельмі адказны час, калі пачыналася новая эра — Максімкава. Паехаць тады ў Слонім не выпадала ніяк. Была проста невыязною.

Як хораша яны жылі! Двое людзей шаноўнага веку. Нікольні не крывіў душою Анатоль Іверс, калі ў вершы-прысвячэнні жонцы «Развеяліся хмары» пісаў: «*...у згодзе крочым мы штодзень, / Бо, кажуць, ёсць каханне*». Верш з'явіўся ў апошняй кнізе паэта «Травень». Памятаю, у часе першай зімовай сустрэчы Ніна Паўлаўна жартам сказала, што ніколі ёй верша не прысвяціў. Але ў тым жарце мне пачулася смутлівая нота, бо яна ж была яшчэ як вартай, каб верш з'явіўся. Былі прысвячэнні першай жонцы Веры, пра якую паэт не забыўся ніколі. Не ведаю, калі Іван Дарафеевіч задумаў напісаць верш «Развеяліся хмары». Тады ён прамаўчаў.

Не, я разумею, што ў Івана Дарафеевіча характар не мог быць мядовым. І наогул, жыццё з паэтам простым не бывае. Але ў тым часе, калі ім давялося разам сустрэць старасць, усё тое недарэчнае даўно згладзілася. Былі агульныя зацікаўленні. Яны разам чыталі, абмяркоўвалі падзеі. Імкнуліся ведаць, што адбываецца ў свеце, слухалі радыё. «*Часцей цікавіць нас: што, дзе ў эфірным хваляванні*». Сапраўдная ідылія. І Ніне Паўлаўне ўсё тое, чым жыў яе муж да апошняга дня, было гэтак жа неабыякава. Мала ёсць такіх сем'яў, дзе людзі так шчыра цікавяцца справамі іншага. Калі пісалі ў лістах, што прачыталі нешта, мне ўяўлялася, як яны, залатвіўшы справы, заходзяць у той кабінецік, сядаюць за стол, спачатку разглядаюць кнігу ці газету (Іван Дарафеевіч праз лупу), а пасля Ніна Паўлаўна пачынае чытаць...

Можна толькі ўявіць, якая пустэча ўтварылася і ў тым мілым дамку і ў душы гаспадара, калі яе не стала. Гэтае фантастычнае, казкавае шчасце — памерці ў адзін дзень — даецца яшчэ радзей, чым у адзін дзень нарадзіцца. Зрэшты, Іван Дарафеевіч перажыў сваю жонку ненамнога, на нейкія пяць месяцаў.

Да апошняга жыў вершамі, надзеямі на новыя кнігі. Не хацеў камусьці пакінуць свой клопат, свае нявыдадзеныя кнігі. Хацеў сам усё завяршыць. Але як? Як паэту ў такім веку, у такім цяжкім стане, з зусім невялікім дастаткам было ажыццявіць свае задумы?

Тое, што сёння выйшла кніга Анатоля Іверса «Аўсяныя росы» і рыхтуецца кніга пра яго, — шчаслівы і, на жаль, даволі рэдкі выпадак у нас. Сышліся дзве асобы: унук паэта Аляксандр Міско, які шануе спадчыну свайго дзядулі, і пісьменнік, краязнаўца Сяргей Чыгрын, здольны зрабіць такую нялёгкую справу — падрыхтаваць кнігі да выдання.

Тая апошняя сустрэча з Іванам Дарафеевічам адбылася 18 траўня 1997 года. Пачалося эпісталярнае сумоўе.

## Перапіска Анатоля Іверса з Алай Петрушкевіч

* * *

*23.05.1997*

Добры дзень Вам, шаноўныя Ніна Паўлаўна і Іван Дарафеевіч!

Няшмат часу мінула, як мы бачыліся. Але многае змяняецца нават за такі час. Навіны нядобрыя і няпэўныя. Таму асабліва патлумачыць не магу. Напішу толькі, што Данута Янаўна мела рацыю.

Дасылаю Вам сваю кніжку. У 3-м раздзеле — тая рэцэнзія, што была ў «ЛіМе» на Вашу кніжку. Праўда, у газеце апошні абзац скарацілі. У кнізе — я пакінула. І, як бачыце, мае пажаданні спраўдзіліся. Вы прыйшлі ў свой травень.

Маю да Вас просьбу: мо памятаеце ўсю песню метадыстаў? І другую. Бо Вы сказалі, што было дзве. То будзьце ласкавы, напішыце мне тэкст.

І яшчэ прашу мілую Ніну Паўлаўну даслаць мне тэкст той паэмы ці верша, які Вы чыталі нам зімой. Памятаеце? І колькі слоў пра аўтара. Буду Вам вельмі ўдзячна.

Добрага здароўя Вам, добрыя людзі.

*Ала.*

* * *

*10.06.1997*

Вельмі шаноўная Ала!

Вашу кнігу «Іду па слядах» і ў ёй пісьмо своечасова атрымалі. Моцна дзякуем. Аднак просьбу Вашу наконт метадысцкіх песняў выканаць не магу. Не магу ўспомніць. Спадзяваўся на Сяргея Чыгрына, які сказаў, што гэтыя песні ў яго ёсць. Аказалася, што вершаваныя тэксты ў часопісе «Светач Хрыстовай навукі» ён пазычыў, паслаў у Маладзечна. Прайшло некалькі гадоў, а часопіс не вярнулі. Кажа, што званіў, абяцалі адаслаць. Я званіў у наш краязнаўчы музей, можа там захоўваецца часопіс. Адказалі, што няма. Ёсць нейкі рэлігійны часопіс Маскоўскай патрыярхіі. Вось як. Свайго няма, а маскоўскі ёсць.

Сяргей Чыгрын зацікавіўся Вашай кнігай, узяў у мяне Ваш адрас. Ён у курсе адносна патрэбы Вам гэтых вершаваных метадысцкіх твораў, да якіх меў дачыненне Гальяш Леўчык. Што ж, будзем чакаць.

Другую просьбу (да Ніны Паўлаўны) выконваем, дасылаем тэкст верша Збраевіча, як брат брата забіў за зямлю. Аўтар верша быў непісьменны. Прыстасаваўшыся да яго пісання, я накідаў другі падобны тэкст.

Збраевіч Рыгор Пятровіч нарадзіўся ў 1908 годзе ў вёсцы Вялікая Кракотка Слонімскага раёна. Прымаў удзел у падпольным рэвалюцыйным руху Заходняй Беларусі. Падвяргаўся рэпрэсіям з боку польскага ўрада. Пры катаванні пашкодзілі плячо, бяздзейнічала рука. Сядзеў у турме.

У часы нямецкай акупацыі Р. Збраевіч кіраваў гуртком антыфашысцкай арганізацыі ў Вялікай Кракотцы.

Ніна Паўлаўна перадае Вам падзяку за пільную ўвагу да яе. Яна цяпер памаленьку працуе ў агародзе.

Пасля 18 мая я напісаў тры вершы, у тым ліку і Дануце Іванаўне ў адказ на прысвячэнне ў мой гонар. Мікуліч так і не прыслаў «Гродзенскую праўду» з публікацыяй пра мяне. Будзеце перадаваць Дануце верш, папрасіце яе, каб даслала «Гродзенскую праўду». Напісаў артыкул пра Вашу кнігу, каб адзначыць тыя месцы, дзе гаворыцца пра слонімцаў. Рэдактар казаў, што прыедуць па артыкул. Надрукуюць — прышлю.

Я займаюся ўпарадкаваннем сваіх вершаў, каб пасля маёй смерці можна было здаваць у друк. Застаюцца празаічныя замалёўкі, артыкулы, якія таксама просяцца пераглядзець, пачысціць. Як будуць сілы, то прыступлю і да гэтай работы.

Што ў Вас? Перадайце нізкі паклон Дануце Іванаўне. У першых пісьмах пасля 18 мая Маліноўскі з Баранавіч расхваліў усіх, хто прымаў удзел у адзначэнні майго юбілею.

Вам таксама нізкі паклон і ўсяго найлепшага!

*Анатоль Іверс.*

Кніжка «Іду па слядах» добра, змястоўна, цікава напісана. Прыгожа, густоўна выдадзена. Словам, зрабіла на нас захапляючае ўражанне. Вітаем. Жадаем поспехаў у далейшай працы.

* * *

*12.06.1997*

Добры дзень, шаноўныя Ніна Паўлаўна і Іван Дарафеевіч!

Дзякую вам за ліст, за верш.

Як хораша, міла, з гумарам Вы, Іван Дарафеевіч, у вершы да Дануты Янаўны: не рабіна і не вішня.

Сяргей Чыгрын даслаў мне ліст. Я ўжо паслала яму кніжку. Мне было не зразумела, чаму ён піша пра пераклады Г. Леўчыка. Пасля Вашага ліста ўсё праяснілася. Але я зразумела так, што спадар Сяргей падараваў той часопіс Казлоўскаму з Маладзечна.

Дасылаю Вам фотаздымкі. На жаль, яны атрымаліся непрафесійнымі. Асабліва шкада, што фатограф абразаў людзей. Так, на агульным здымку болей відаць дах Вашай хаты, чым

людзі. На тым, дзе мы з Вамі, гэткі ж недахоп. А вось ваш фотаздымак ля весніцаў хаты — проста цуд. Ці не так?

Дасылаю таксама ксеракопію артыкула ў «Гродзенскай праўдзе». На жаль, гэтай газеты я не выпісваю. Адбітак зрабіла з падшыўкі. У кіёску прапусціла. Пакуль агледзелася, мінуў час, у кіёску ўжо не было. Дануце скажу. А пакуль — хоць копія.

Мілая Ніна Паўлаўна, як і большасць жанчын у гэтым часе, працуе на агародзе. Так, гэта наш лёс: карміць, мыць, прыбіраць, палоць. Такім чынам тварыць Хараство. Я на агародзе адпачываю ад лекцый, семінараў, дыпломных, экзаменаў.

Добрага здароўя Вам!

З павагай

*Ала.*

* * *

*24.07.1997*

Шаноўная Ала!

Прыміце наша вітанне са Слоніма. Як я ўспамінаў ужо, пазваніў рэдактару «Слонімскага весніка», што будзе напісаны артыкул пра Вашу кнігу «Іду па слядах». Ці змесціць? Адказаў, што змесціць, калі будзе гутарка, звязаная са Слонімшчынай. Таму прыйшлося пісаць пра мясцовых літаратараў. І, як бачыце, публікацыя паявілася на свет. Трэба зазначыць, што артыкул надрукаваны без малейшых правак, скарачэнняў. Не здзіўляйцеся, што мой матэрыял з задавальненнем згадзілася падпісаць Ніна Паўлаўна. Мне няёмка было ставіць свой подпіс пасля таго, як я не ўстрымаўся і працытаваў Ваша ўзвышанае апісанне аблічча маёй маладосці. Дзякую вам за гэта.

Усяго Вам найлепшага. Шчырае прывітанне Дануце Янаўне.

*Анатоль Іверс.*

* * *

*29.07.1997*

Добры дзень, шаноўныя Ніна Паўлаўна і Іван Дарафеевіч!

Атрымала дасланую Вамі газету. Шчыра дзякую Вам за артыкул. Я і не ведала, што ў маёй кнізе 25 артыкулаў. Якая прыгожая лічба атрымалася! Цудоўна, што зусім выпадкова. Сама не здагадалася палічыць.

Гэта вельмі міла, што Ніна Паўлаўна згадзілася паставіць свой подпіс. Рада, што вам, Іван Дарафеевіч, спадабаліся мае словы пра Ваш воблік. Ведаеце, я гэта напісала, калі яшчэ не была з Вамі знаёма: восенню 1996 г. Сапраўды, той фотаздымак — проста цуд. Менавіта такім у ідэале я ўяўляю маладога беларускага інтэлігента 1930-ых гадоў. У Вас былі надзеі, былі ідэалы [...].

Пачынаецца апошні месяц лета. Бачыце, як хутка праляцела яно. Як і жыццё чалавечае...

Добрага Вам здароўя!

*Ала.*

* * *

*14.08.1997*

Вельмі паважаная Ала!

З вялікай прыемнасцю прачыталі Ваш апошні ліст, у якім, як, дарэчы, у кожным, з сардэчнай цеплынёй ставіцеся да нас, простых беларускіх людзей. А таму падзяка Вам за шчырасць.

Асаблівую ўдзячнасць выказваю за артыкул у «ЛіМе» пра маю сціплую кніжачку «Травень». Вашы прыхільныя словы да мяне і пахвальныя да вершаў выклікалі на вачах слёзы. Вядома, гэта слабасць. Аднак, у час катавання ў дэфензіве паны не выціснулі і малой слязіны.

Дзякую Вам за ўсё, за ўсё!

*Анатоль Іверс.*

* * *

*18.09.1997*

Добры дзень, Іван Дарафеевіч!

Бачыце, пакуль змагла Вам ліст напісаць, то і ў Слоніме пабыла, і па тэлефоне з Вамі пагаварыла. Нечакана гэтак паэт Рудольф Пастухоў паклікаў.

Даражэнькі Іван Дарафеевіч! Дзівіце Вы мяне сваёю сціпласцю. Якія ж гэта Вы — «простыя людзі», як пішаце? Вы — адзін з самых паважаных нашых паэтаў. Вы столькі за плячыма ўсяго пакінулі. Так годна выйшлі з-пад усіх навалаў. І гэта так важна — беларусам засталіся, калі гэту беларускасць з каранямі ўвесь час вырывалі.

А Ніна Паўлаўна, канешне ж, вартая Вас. Ніякія вы не простыя, а сапраўды шляхотныя, інтэлігентныя людзі. Гэта ўжо ў крыві ў беларусаў — такая сціпласць.

Дзякую за добрае слова пра рэцэнзію. Калі мінулы раз яны ў рэдакцыі адсеклі канец, то гэтым разам — пачатак. Але калі не ведаеш, то не здагадаешся.

Здароўя Вам, няхай хутчэй папраўляецца Ніна Паўлаўна!

*Ала.*

* * *

*27.03.1998*

Даражэнькі Іван Дарафеевіч!

Мы з такім захапленнем пішам, гаворым пра багацце нашай мовы, але яна становіцца такой беднай, бездапаможнай, кволай, калі трэба выказаць нешта надзвычай важнае, балючае. Вось і я не магу знайсці словаў, каб перадаць Вам шчырае спачуванне, данесці свой смутак з нагоды Вашай вялікай страты.

І ўсё ж пішу. Каб хоць неяк адгукнуцца на Ваш боль. Каб сказаць, што прыгожы вобраз Ніны Паўлаўны застанецца назаўсёды ў маёй памяці.

Бачыла яе ўсяго пару разоў. Як і Вас. Але Вы сталі мне вельмі дарагімі. Таму і не магла прайсці паўз Ваша гора.

Даруйце мне, як зараз разумею, за не ў час пасланую кніжку. Канешне ж, тады я не ведала, што ў Вас здарылася. Таму і напісала да Вас і Ніны Паўлаўны.

Хацелася б напрыканцы неяк падтрымаць вас, але ізноў жа — няма словаў.

Бывайце.

*Ала.*

* * *

*03.04.1998*

Мілая, даражэнькая Алачка!

Цудоўную сваю кніжку, якую ты выслала 11 сакавіка, атрымалі 12. Чытаў некаторыя вершы Ніне Паўлаўне — радавалася, хваліла. І наогул, вельмі паважала цябе. А назаўтра — 13 сакавіка — памерла.

Тут было не да адказу на тваю кніжачку. І цяпер не магу дайсці да нармальнага стану. Застаўся ў хаце адзін. Нікуды не хаджу. Не магу хадзіць, сын з нявесткай мяне даглядаюць, за што я ім вельмі ўдзячны.

Стараюся адкідваць невясёлыя думкі, якія апаноўваюць. Нічога не лезе ў галаву, каб напісаць на паперы. Няўжо я зусім развучыўся пісаць?

І вось тваё спачувальнае пісьмо атрымаў у панядзелак. Дзякую. Дзякую, што не забываеш. Я таксама цябе помню і не забуду да самай смерці.

Пра тваю кніжачку многа можна сказаць добрага. Але, бадай, лепш за Дануту не скажаш. Твае вершы такія цёплыя, свежыя, не горшыя за тую прыроду, што апісваеш. А душа твая, з усяго відаць, далікатнейшая за ўсё на свеце. Словам, тваё пісанне — не паказуха.

Вітаю. Жадаю поспехаў.

Чаму не абмовілася пра свой сённяшні дзень?

*А. І.*

У канцы мінулага года напісаў пару дзясяткаў новых вершаў. А ў бягучым часе падабраў ранейшыя вершы, што не

ўвайшлі ў зборнікі. Некаторыя вершы прыйшлося папраўляць. Словам, набралася аж 99 штук на 580 радкоў. Уся гэтая прадукцыя напісана ў трох экзэмплярах на машынцы. Не прыдумаў толькі назвы будучай кніжцы. Не ведаю, як гэта ўсё апублікаваць. Каб вершы пабывалі ў руках рэдактара, то годных да друку засталося б менш. І гэта была б нармальная з'ява.

Ёсць у мяне і цікавыя артыкулы, што зацягнула б на добрую кніжку.

Вось такія навіны. Бывай.

*А. І.*

* * *

*11.05.1998*

Добры дзень, даражэнькі Іван Дарафеевіч!

Вы напісалі мне такі прыгожы ліст. Дзякую Вам! Шчыра была ўсцешана, што мая кніжка не спазнілася.

Разумею, як Вам няпроста. Але ж якое ўсё ж шчасце, што побач Вашыя родныя. Памятаю, з якім гумарам гаварыла незабыўная Ніна Паўлаўна пра выбары нявесткі і з якім гонарам і дабрынёй пра тую, што стала жонкай Вашаму сыну. Верыцца, што ў Вашай бядзе яны Вас не пакінуць.

Што пра мой сённяшні стан? Вы, пэўна, ведаеце, што стала я зусім невыхадной і невыязной. Няпроста, канешне, у маім веку спраўдзіць гэткую вялікую справу. Але гэтак жадалася даць жыццё яшчэ аднаму дзіцятку. Ды і муж у мяне, Вы ж ведаеце, — цудоўны чалавек. У хаце задыхаюся. Езджу на лецішча. Крыху капаюся ў зямельцы. Ніколі не думала, што мне, гэткай лёгкай і хуткай, можа быць так цяжка. Хоць, можаце ўявіць, маю каля 70 кг. Агромністая стала.

Шчыра жадаю, каб Вы дачакаліся сваёй кніжкі вершаў (як думаеце яе назваць?), каб пабачыў свет Ваш зборнік артыкулаў! І ўсяго светлага жадаю!

*Ала.*

* * *

*03.02.1999*

Даражэнькая Ала!

Атрымаў тваё пісьмо з віншавальнай паштоўкай і матэрыялы з «Гродзенскай праўды», якіх я не бачыў. За ўсё вялікі дзякуй.

Я доўга хварэю, не магу хадзіць, паламаў руку, бачыш, як дрэнна пішу.

Я вельмі рады, што ў цябе з'явілася Сонейка — твой сынок Максімка. Глядзі яго, даглядай, каб вырас такім жа шчырым чалавекам, як і ты.

Мала пішу, цяпер крыху актывізаваўся. Пасылаю табе выразку з раённай газеты з апошняй маёй публікацыяй. Але гэта — пра двух Максімаў — было напісана раней.

Канчаю. Бывайце здаровыя. Усяго найлепшага.

*Анатоль Іверс.*



# Лепешаў і я

Я шчэ ў далёкія студэнцкія часы прыдумалі жарт: ініцыялы выкладчыка зыначылі на такі лад: Лепешаў і я. Падкрэслілі такім чынам, што ён быў у жыцці літаральна кожнага з нас, студэнтаў. Як пасля заставаўся побач з намі, ягонымі калегамі. З кожным з нас.

Гэтае І. Я. (і я) часам прыводзіла да кур'ёзных выпадкаў. Калега з Брэста, мовазнаўца М. М. Аляхновіч распавёў, як прапаноўваў студэнтам спіс літаратуры па фразеалогіі, у якім, зразумела ж, фігуравала — Лепешаў І. Я. Глянуў у канспект студэнткі, а там — Лепешаў, Аляхновіч...

## Дзякуй, дзякуй

Той раптоўны востры боль, што ўвайшоў у сэрца ад жалобнае весткі, праз усе развітальныя дні пераадольваўся пачуццём удзячнасці лёсу за тое, што ён быў у маім жыцці. За тое, што быў мне не толькі Настаўнікам, калегам, але і старэйшым Сябрам, якіх у мяне нават менш чым адзінкі. Ні з кім так доўга не размаўляла праз тэлефон, як з ім. Не, я была далёка не адна, каму ён тэлефанаваў і з кім размовы доўжыліся бясконца. Але мы з ім аднолькава ўспрымалі тое, што робіцца ў свеце, аднолькава перажывалі за Украіну, за нашу беларускую бяду, чыталі адны перыёдыкі, абменьваліся кнігамі, прачытанае заўсёды абмяркоўвалі. Пра тое ў маім вершы «Летні меланж, 2014»:

Гадзінамі з І. Я. Лепешавым гаворым,
бядуем:
што ж там, як Украіна,
і што пішуць нашыя НН, НВ, НЧ...
(усё з ім чытаем).
Чорная, страшная пляма — збіты боінг...

І ўжо звыкла зусім:
зноў Ізраіль, Палестына...

У канцы размовы Іван Якаўлевіч абавязкова казаў: «Дзякуй Вам за тое, што патэлефанавалі». Калі ж сам тэлефанаваў: «Дзякуй Вам за размову». І паўтараў некалькі разоў: «Дзякуй, дзякуй, дзякуй...».

Больш ніколі гэтага не будзе. Але я ўдзячна лёсу за тое, што гэта было.

## Так ён працаваў

Пра адзін незвычайны выпадак, які надзвычай ярка характарызуе Івана Якаўлевіча як вучонага-працаўніка, распавёў Аляксей Міхайлавіч Пяткевіч.

Гэта было яшчэ ў мінулым стагоддзі. Неяк перад самым Новым годам, калі ўжо праводзіць стары селі, зазваніў тэлефон. Натуральна, падумалася: нехта хоча павіншаваць. Тэлефануе Лепешаў: «У Вас там кніга ёсць... Паглядзіце, калі ласка, мне трэба... Я якраз пішу...».

У той час, калі ўся тая бязмежная краіна святкавала Новы год, ён працаваў над сваёю чарговай кнігай. Ён пісаў. Для яго не было нічога, апроч працы. У ёй знаходзіў адхланне, задавальненне. Праца была ягоным шчасцем.

## Нікому не кажыце

Перш чым расказаць нешта крамольнае, Іван Якаўлевіч папярэджваў: «Толькі нікому не кажыце». Казаў так, калі хацеў, каб засталося між намі. Казаў і ў студэнцкай аўдыторыі, перад усёй групай. Не без жарту, добра ведаючы, што шыла ў мяшку не схаваеш.

Такое папярэджанне мы, студэнты, чулі яшчэ ў мінулым тысячагоддзі. Так ён папярэджваў і студэнтаў сённяшніх. Нам чытаў «Сказ пра Лысую гару». Па сакрэце. Дахаты не даў: «Навошта дахаты? Тут чытайце і нікому не кажыце». Вельмі любіў гэтую паэму.

### У цемры

У той страшнай цемры ГУЛАГа (заўсёды называў лічбу — колькі дзён і начэй быў там, але лічбы са мною не сябруюць, заўсёды іх забываюся), каб вытрымаць, калі станавілася невыносна, Іван Якаўлевіч чытаў вершы. На памяць. Любіў класіку, беларускую, рускую, асабліва любіў Купалу, Твардоўскага, Куляшова. Накрываўся з галавою, хаваўся ад усіх і чытаў. Лячыў сваю душу паэзіяй.

Другая цемра ўпрытык падышла да яго на схіле жыццёвага шляху, у шпіталі. Быў якраз вельмі нядобры час: перад пачаткам ацяпляльнага сезона. Не дай Божа трапляць ў шпіталь такою парою. Літаральна да апошняга дня чытаў кнігі, газеты. Але рукі мерзлі так, што ўтрымаць нават газету было цяжка. Тады ён накрываўся і ў цемры чытаў вершы. Тыя ж, улюбёныя: Купалы, Твардоўскага, Куляшова...

### Нічога не баяўся

Прайшоў вайну. Быў паранены. Насіў у целе асколак. Быў незаконна асуджаны. Прайшоў ГУЛАГ. Выжыў. Ці меў ён страх? Безумоўна. Але не ў апошні час. У апошнія гады ён не баяўся нічога. Бо страх свой перажыў.

Вырашыў ратаваць мову. Сабраў некалькі дзясяткаў подпісаў пад зваротам да кіраўніка дзяржавы ў абарону мовы. Многія падпісаліся. Зразумела, што быў то марны лямант.

Адзін з нямногіх, хто не баяўся даць інтэрв'ю Радыё Свабода. Адзіны з усіх выкладчыкаў ГрДУ, хто апошнім часам друкаваўся ў «Народнай волі».

### «Не было для яго адрасоў»

Характар Іван Якаўлевіч меў вельмі няпросты. Рэзкім, бескампрамісным мог быць з кожным. Яго баяліся. Большасць, спадзяюся, шануючы. Пытаюся ў Аляксея Міхайлавіча Пяткевіча, нязменна далікатнага, стрыманага: «Няўжо і ў Ваш адрас мог нешта рэзкае сказаць?» — «Яшчэ як мог. Не было для яго адрасоў». Згадаў, як у пачатку 90-х хадзілі разам па

розных інстанцыях у справах беларускіх і часам няёмка станавілася за шаноўнага прафесара, такім рэзкім ён бываў да чыноўнікаў. Пры гэтым не зважаў нават, што перад ім жанчына.

А вось студэнты-хлопцы з захапленнем згадваюць, як шаноўны прафесар падыходзіць і заўсёды вітаецца з імі за руку. І пра справы спытае.

Мне ж запомнілася з тых часоў такое. У хуткім часе пасля расстрэлу парламента ў Расіі стаім з ім каля аднаго з нашых уладных будынкаў, і ён кажа:

— Нешта мо і было б, калі б зрабілі так, як Ельцын.

Жахнулася:

— Няўжо б Вы хацелі, каб стралялі?

— Не, канешне.

Баяўся і ён вайны, крыві. Як усе. Але вельмі яму балела, калі бачыў, як спачатку ўсё тармазілася, а пасля і назад пайшло.

## Е. б. ж.

Часам чула ад Івана Якаўлевіча:

— Хацеў сказаць ёй: «Е. б. ж.», але падумаў, ці зразумее?

— Сказаў яму: «Е. б. ж...».

Што азначала гэтая абрэвіятура? — «Если буду жив». Чаму па-расейску? Бо адтуль, дзе не было вядома, ці выжыве. З ГУЛАГа. Дзе мова была руская. Дзе з яго асабліва здзекаваўся зямляк-«прыдурак»: «Ты белорус! Бульбаш! Я по выговору твоему слышу».

Вярнулася гэта ў апошнія гады. Калі таксама не ведаў, ці будзе жыць.

Самы вялікі клопат нашага Настаўніка — ягоныя кнігі. Навуковыя працы. Выходзілі толькі ў дзяржаўных выдавецтвах. Гэта была справа прынцыпу. Патрэбна была вялікая настойлівасць, цярплівасць, часам упартасць, каб дабіцца чарговага выдання. А гэта ў яго было. Колькі даводзілася яму тэлефанаваць, часам і ездзіць у той няблізкі Мінск!

Пра ўсё гэта распавядаў у тэлефонных размовах найперш.

Калі часам чуў на тым баку провада, што выданне пераносіцца, што мо на наступны год, хацелася яму сказаць сваё «е. б. ж.». Але гаварыў не заўсёды. Бо ці зразумеюць? Калі чалавеку ўжо не толькі за 80, але і за 85, і здароўе ягонае ніякае, то ці можа быць ён пэўны, што будзе жыць, што дачакаецца праз той цэлы год?

Ён выдаў усе свае запланаваныя кнігі.

## Ляпяшоўка

Іван Якаўлевіч умеў хораша, па-дзіцячы, радавацца.

Да ягонага 85-годдзя лабаранткі з кафедры зрабілі наклейкі на бутэльках гарэлкі — «Ляпяшоўка». Партрэт ягоны на той наклейцы красаваўся. Гэта была неспадзеўка. Назву прыдумаў Станіслаў Антонавіч Янушкевіч. З ходу.

Юбіляр не адразу заўважыў, што там на стале стаіць. Каб звярнуць ягоную ўвагу, Мікола Аляксандравіч Даніловіч спытаўся:

— А што гэта за гарэлку мы п’ем?

— Не ведаю, нейкую дзяўчаты купілі.

Прыгледзеўся. Угледзеў!

— Ай, гляньце! Гляньце! Ляпяшоўка!

Трэба было бачыць, як ён абрадаваўся, як быў узрушаны. Як насіўся ён з тою бутэлькай! Як шчаслівае дзіця, што атрымала незвычайную цацку. Забраў дахаты, доўга зберагаў.



## Супернікі

Гарадзенскаму мовазнаўству пашанцавала аж надта. У адным часе працавалі тут два знаныя лінгвісты, прафесары, дактары філалогіі. Іван Якаўлевіч Лепешаў і Павел Уладзіміравіч Сцяцко, дай Божа яму здароўя. На жаль, былі яны ў многім антыподамі, што вылівалася часам у даволі непрыемныя сутычкі, спрэчкі. Па-рознаму разумелі працэс адраджэння беларускай мовы. Праблема была і для тых, хто шанаваў іх абодвух. Бо пахваліць аднаго — азначала стаць ледзьве не ворагам для другога. Мне ж удавалася не страціць прыязнасці абодвух. Але аднойчы атрымала такі злосную вымову ад Івана Якаўлевіча. У допісе «Пад адной вокладкай» для «Нашага слова» паказала, што ў адным нумары «Полымя» — артыкул Паўла Уладзіміравіча, у якім ён аргументавана даводзіць, што патрэбна ўжываць слова «даверныя» ў спалучэнні з словам «граматы», а не «даверчыя», з чым нельга не пагадзіцца, і раман Генрыха Далідовіча, на першых старонках якога якраз і знаходзім тыя «даверчыя». Сустрэў мяне Іван Якаўлевіч пакрыўджаны: «Як Вы маглі яго хваліць? Што ж такога разумнага ён напісаў?» На мае апраўданні, што не яго хваліла, а падказвала памылку часопісу, што нельга ў адным перыёдыку такія рэчы дапускаць, зважаць не хацеў. Самае крыўднае было ў тым, што ён яшчэ той мой допіс не чытаў, бо толькі што быў надрукаваны. Гэта яму мае «дабрадзеі» так паднеслі: «Гэтая Ваша Петрушкевіч Сцяцка хваліць», пра што ён, заўсёды шчыры, і сказаў. Пасля таго, як прачытаў, непаразуменне было знятае.

Наш таленавіты сатырык Янка Трацяк напісаў на двух прафесараў вельмі дасціпную эпіграму «Пасядзелкі з рукамі», абыграўшы фразеалагізм сядзець ‘згарнуўшы рукі’, які як адзіна правільны прымаў Павел Уладзіміравіч, і ‘склаўшы (злажыўшы) рукі’, які прызнаваў Іван Якаўлевіч. Тыя спрэчкі паўстаюць марнымі і смешнымі. Але смех прыязны, не злы — лёгкі гумар, бо прафесары — шанаваныя аўтарам, які ўдала ахарактарызаваў Івана Якаўлевіча як апантана-

га. Ён і сапраўды быў апантаны навукай. Ёю жыве і Павел Уладзіміравіч:

Вось так і стаяў бы і ў неба глядзеў бы:
Згарнуць, не згарнуць альбо скласці іх спраўна?..
Калі б згарнуў рукі сам Паўла й сядзеў бы,
Ніхто і ніколі ня чуў бы пра Паўла.

Калі б апантаны Іван, сын Якубаў,
Прысеў, склаўшы рукі ад гэтай навукі,
Ваўкі паздыхалі б, зубры далі дуба —
Прысеў бы і Паўла, згарнуўшы бы рукі.

Не варты былі выедзенага яйка тыя іхнія спрэчкі. Абодва яны слугавалі аднаму — роднай мове. Зрэшты, апошнія гады ўсё гэта адышло. Перад вечнасцю пустое асыпаецца, як пялёсткі адцвілае кветкі. Іван Якаўлевіч гаварыў пра свайго калегу паважліва, шкадуючы яго, бо хваробы ні аднаго, ні другога не міналі.

Абодва — вялікія вучоныя. Шанаваныя беларусамі.

## Дзе той інтэрнэт?

Магчымасці інтэрнэту ўспрымаў як нешта незвычайнае, як цуд. Калі раней прасіў, тэлефануючы: «Паглядзіце, там у Вас у кнізе тое і тое павінна быць. Мне трэба цытату спраўдзіць», то апошнім часам казаў: «Папытайце ў свайго гугла, мо падкажа». І ўсё дапытваўся: «Дзе той інтэрнэт? Што такое тая віртуальная прастора? Недзе ж яна ёсць...».

Дзівіўся часам: «Колькі ўсяго ў артыкуле, гэта ж трэба аўтару так шмат звестак сабраць». Калі падказвала, што на тое інтэрнэт ёсць, моцна расчароўваўся: «Дык ён сам не шукаў? Што гэта за работа?! Вось нам раней, каб нешта знайсці, трэба было часам горы літаратуры перакапаць».

Сам камп'ютар засвоіць так і не захацеў. Усё жыццё верна служыла яму друкарка.

## Курэц

Атрымала цудоўны здымак Івана Якаўлевіча з нефармальнае імпрэзы. «Замочвалі» кнігу. З якім смакам зацягнуўся ён цыгарэтай! Відаць, гэта адзіны такі здымак.

Курыў усё сталае жыццё. У Гародні ніхто не памятае, каб не курыў. Заходзіць на кафедру беларускай літаратуры і адразу да такіх жа прафесіяналаў цыгарэтнага майстэрства:

— Хадзем пакурым.

Устаўлю часам свае пяць капеек:

— Іван Якаўлевіч, не спакушайце іх. Ігару Васільевічу нельга.

У адказ:

— І мне нельга.

І сыходзяць. Колькі было імі перакурана, перагаворана на тым чацвёртым паверсе.

## Апошняе свята ветэрана

Напярэдадні Дня Перамогі Іван Якаўлевіч хадзіў на святочныя сустрэчы ва ўніверсітэт. Заўсёды запрашалі. Апошнім разам сышоў, не дабыўшы да канца. Не вытрымаў таго, што ўхвалялі, за што ўздымалі чарку афіцыйныя ветэраны. Зусім і не ветэраны. Бо ён тады ўжо быў адзіным і апошнім ва ўніверсітэце, хто ваяваў. І адзіным рэпрэсаваным.

Тэлефанаваў, расказваў, як назіраў за новым рэктарам, што завітаў на ветэранскія сто грамаў, але амаль не піў. Не быў бы то Лепешаў, каб змаўчаў. Нічога новы кіраўнік не знайшоўся адказаць, сышоў хутка. Вельмі, відаць, заняты справамі важнымі. Ды і сам Іван Якаўлевіч доўга не затрымаўся. Не вытрымаў, устаў і выказаў тым афіцыйным ветэранам усё, што пра іх думае. Сказаў: «Я сыходжу!» І сышоў...

Гэта было ягонае апошняе святкаванне Дня Перамогі, якую ён успрымаў па-быкаўску.

## Апошнія кнігі

Тым апошнім летам Іван Якаўлевіч чытаў не меней, чым заўсёды.

Застаўся даволі вялікі запіс, зроблены вясною супрацоўнікамі ўніверсітэцкага музея. Расказвае пра сваю сям'ю, пра дзяцінства. Пра многае. Гаворыць няспешна, удумліва. Без недарэчнасці не абышлося: асоба, што рабіла той запіс, пытанні задае па-руску. Дзе ж у ГрДУ ўзяць беларускамоўную?

Вось жа, між іншага гаворыць і пра чытанне. Пра тое, што ўсё жыццё чытаў. Сёння гэта гучыць як ягоны тастамент: «Чытайце!»

Калі набыла кнігу Паўла Севярынца «Беларуская глыбіня» ў часе прэзентацыі ў нашым горадзе і прапанавала пачытаць, узяў не вельмі ахвотна: «Ну што Севярынец? Публіцыст. Але давайце. Хай, калі так хваліце».

Гэта была апошняя кніга, якую не проста прачытаў, а перачытаў двойчы. «Але ж і кніга! Як ён гэтак усё сабраў, як глыбока ўсё вывучыў! Недарэмна ж — глыбіня. Не ведаў, што Севярынец такі цікавы пісьменнік». Кнігу трымаў у сябе вельмі доўга, што для яго не было характэрным: звычайна вяртаў хутка. Папрасіў: «Хай яшчэ пабудзе. Такая добрая кніга». Бедаваў толькі: «Нікому гэтую кнігу даць нельга: ніхто з нашых не прачытае». Між шпіталямі, калі заходзіла да яго, вярнуць забыўся. Перажываў: «Я ж кнігу Вам не аддаў». Суцяшала: «Нічога, я яе прачытала. Аддасце, як вернецеся». Не вярнуўся...

А самая апошняя, падараваная Івану Якаўлевічу кніга — «Методыка шчасця» Алеся Мікалаевіча Белакоза. Аўтар перадаў яе праз Аляксея Міхайлавіча Пяткевіча, які, ведаючы, што збіраюся ў шпіталь, перадаў мне. Прачытаць цалкам так і не паспеў. Але пазнаёміўся, што-нішто, як сказаў, прачытаў.

Ён быў вялікім Чытачом.

## Апошні артыкул

Напісала пра апошнюю кнігу Івана Якаўлевіча «Пошукі і роздум». Даслала артыкул у «Літаратурную Беларусь». Прасіла змясціць у кастрычніцкім нумары, каб нагадаць чытачам пра ягонае 90-годдзе. Але рэдактар Алесь Пашкевіч запярэчыў: «Не будзем чакаць аж так доўга. Надрукуем у вераснёвым нумары».

Той нумар газеты яму перадалі з дому. Расказвае мне, што чытаў. Пра розныя іншыя артыкулы гаворыць. А пра той не кажа. Пытаюся: «Ці чыталі артыкул пра сваю кнігу?» — «Ну што Вы! Самы першы прачытаў. Не проста чытаў, а чытаў два разы».

Калі наведвалі яго, бачыла той нумар «Літаратурнай Беларусі» на ягонай тумбачцы.

Гэта быў апошні артыкул пра створанае Іванам Якаўлевічам, які ён прачытаў.

## Не паспелі

А вось кнігу да ягонае круглае даты выдаць не паспелі.

Рыхтаваць яе пачалі яшчэ з зімы.

Усе ведалі, што Іван Якаўлевіч хворы, што трэба спяшацца. Але ўсе чакалі 90-годдзя. Ды і выдавецтва ў Гародні, дзе нашы кнігі выходзяць, толькі адно — ЮрСаПрынт.

«Краявіды роднай мовы» — так яе назвалі. Узгаднілі назву з ім. Сказаў сваё звычайнае: «Няхай».

Сыход Івана Якаўлевіча прымусіў зрабіць рэдакцыйныя праўкі ва ўжо гатовы макет. Не ўсё, праўда, і выправілі.

А ён так яе чакаў! Штораз па тэлефоне пытаўся, што з кнігай. Пытаўся і ў апошнюю сустрэчу ў шпіталі, за тры дні да ягонага дня.

Не дачакаўся.

## Па розных шляхах

Усе мы, ягоныя вучні, ішлі ўслед за Іванам Якаўлевічам. Так усе сцвярджалі, развітваючыся з ім. Але ці так гэта было

насамрэч? Хто, як не ягоныя вучні, выкінулі з планаў універсітэцкага выдавецтва «Этымалагічны слоўнік прыказак» — апошнюю вялікую навуковую працу вучонага (яе ён усё ж выдаў у Мінску, у дзяржаўным выдавецтве), пасля інтэрв'ю для Радыё Свабода забаранілі прэзентацыю гэтага выдання, якую самі і прапанавалі? Праўда, ён тае забароны нават не заўважыў. Ад самага пачатку, калі з ёю завяліся, казаў: «Навошта тая прэзентацыя?» Ніколі ні адной кнігі свае не прэзентаваў.

І гэта толькі ў апошні час. І ўсё гэта ягоныя вучні.

У апошні дзень, калі ўсё ж быў атрыманы дазвол на развітанне з вялікім вучоным у корпусе беларускай філалогіі ўніверсітэта, усе мы таксама ішлі ўслед за ім. Каб пасля памінак вяртацца ніяк не разам. Усе прайшлі па адной вуліцы, але рознымі групамі, рознымі шляхамі. Ганаруся нашай сябрынай: Аляксей Міхайлавіч Пяткевіч, Ігар Васільевіч Жук і мы з таленавітай Надзеяй Чукічовай. Размаўлялі пра Івана Якаўлевіча, пра службу ў саборы. Святар чамусьці вельмі многа гаварыў. Тлумачыў, што адбываецца з душою ў першы, трэці, дзявяты, саракавы дзень. Заклікаў у часе службы, зразумела, маліцца, а яшчэ светла згадваць таго, хто адышоў: «Калі на душы ў вас стане светла, надыдзе супакаенне, значыць, малітвы прынятыя Небам».

Мы гаварылі пра тое, што там, дзе душы блукаюць. Аляксей Міхайлавіч сказаў: «Найлепш пра гэта ў Верлена. Верш перакладалі Максім Багдановіч і Алег Лойка». І прачытаў Лойкаў.

Ён заўсёды чытае вельмі прыгожа. Гэтым разам верш гучаў неяк асабліва, кранальна.

Каля аднаго дома пабачылі незвычайнае дрэва. Ну, мо не зусім незвычайнае, праз колькі часу пабачыла такое ж між туяў ля Новага замка, але — колеры! Зялёны, жоўты, настуркавы, чырвоны... Надзея зрабіла здымкі.

Загаварылі пра тое, што ў душах нашых сцішыўся боль, стала светла: малітвы прынятыя...

А вось на саракавіны па Івану Якаўлевічу сабралася нас вельмі мала.

На гадавіну збярэмся?..

## Не ў сваю дывізію...

Ён меў узнагароды таго, ваеннага часу. Юбілейных не прызнаваў. Хоць і выдаваліся, як усім ветэранам. Ад ордэна Францыска Скарыны, якім яго хацелі ўзнагародзіць да юбілею, катэгарычна адмовіўся. Па зразумелых прычынах. А вось ад ганаровага месца на могілках адмовіцца ўжо не мог. Ён і не ведаў, што ветэранаў хаваюць асобна, у прэстыжным першым сектары. Калі і думаў пра вечнае, то толькі пра свае кнігі, пра сваю працу.

У тым сектары спрэс тыя, хто ваяваў на розных франтах. Не абавязкова з фашыстамі. Хто мае заслугі перад краінай. На жаль, у нас гэта блытаюць з уладай, сістэмай. Між іх знайшліся нават тыя, што і перад вечнасцю не прызналі сілы вышэйшай, нябеснай. Вусцішна было ўгледзець свежыя магілы без крыжа. Узгадалася, калі глядзела на здымкі суседзяў Івана Якаўлевіча з медалёвымі грудзьмі, як ён «адсвяткаваў» з такімі свой апошні Дзень Перамогі.

Сказала, што і там ён будзе ім сваю праўду даносіць. А Ігар Васільевіч дапоўніў, падкарэктаваўшы паэта: «Не ў сваю дывізію пайшоў...».

# Светла пра Ніну Мацяш

Ніны не стала ў 2008 годзе. 19 снежня — дзень памяці Ніны Мацяш. Ніна сышла, каб застацца. Бо таго варта. І як Паэтка, і як незвычайна светлая Асоба, пра што памятае кожны, хто меў шчасце не размінуцца з ёю ў жыцці.

На прэзентацыі мае кнігі пачула пытанне:

— Вы шмат пішаце пра жанчынаў-паэтак. А пра каго яшчэ хацелі б напісаць?

— Пра Ніну Мацяш.

Той мой адказ памятаўся заўсёды. Але не напісала і да наступнае кнігі. Бо не заўсёды робім тое, што хочам.

Пра тое, што Ніны не стала, паведаміла Данута Бічэль. Яна ж і пазнаёміла з Нінаю летам 1996 года. Тыя тры дні ў яе Белаазёрску запомніліся назаўсёды.

Быў гарачы жнівень. І ў першы, і ў апошні дзень ездзілі на яе азёры, Белае і Чорнае. У першы дзень і яна ездзіла. Не ведаю, ці гэта праўда, але расказвалі пазней, што, ужо не ходзячы, Ніна па возеры плавала. На спіне. Вадзіца трымала яе, а ў руках на вадзе сілаў прыбаўлялася. Часта сабе гэта ўяўляю: Ніна плыве па возеры Белым.

Згадваецца, як чакалі каля дому на той вуліцы Леніна, пакуль прыбірала яе сяброўка-памочніца. Купка дзетак бегала. Дзеці як дзеці, нечым сваім занятыя. Аказваецца, яны чакалі, калі Ніна з'явіцца. Калі ўрэшце згледзелі, адразу адно аднаму перадалі вестку:

— Бяжыце сюды! Ніна Мацяш выходзіць!

Не было ў тых словах ані нясціплае цікаўнасці, ані нетактоўнага шкадавання, што не ходзіць. Пачулася мне глыбокая павага, імкненне яшчэ раз угледзець знакамітую Асобу. Сцішыліся, пасталі і моўчкі глядзелі, пакуль Ніна па тым пандусе, што спецыяльна для яе пабудаваны быў, з'язджала. Такая шчырая павага ў нашым часе вялікая рэдкасць. Менавіта

такою, шанаванаю ўсімі, яна і была для свайго Краю. Нат уладамі ў Белаазёрску, пра што ў лісце пісала.

Была ў той дзень мілая сябрына ля роднае хаты, дзе гаспадарыла сястра Алена, якая нядаўна з далёкае Афрыкі настала ў Беларусь вярнулася. Жывы быў і тата паэткі, якога яна так пяшчотна называла Сівым Галубком. Засталіся здымкі.

А да хаты бацькоўскае ішлі пешшу. Бо ж блізенька зусім. Задавальненнем было прайсціся ўсім разам. І Ніна з намі. У сваім вазку.

Некалькі гадоў запар яна прыязджала ў Гародню. Не захацела пажыць у нас. Хоць мелі мы тады жыллё ў інтэрнаце, але месца там хапала. Мела надзею, што на ногі ўстане. Казала адна яе сяброўка, што абавязкова дачакаюцца таго дня, калі з Ніна ю ў лес пойдуць. Быў у Гародні лекар, які тую надзею пасеяў. І мы ўсе таксама спадзяваліся.

Ліставаліся некалькі гадоў, ажно пакуль не настала ў маім жыцці Максімкава эра, калі ўсё: і час, і сілы — было яму аддадзенае.

Прыадкрыў глыбіню яе таленту і яе болю мой Настаўнік Аляксей Міхайлавіч Пяткевіч. Вельмі даўно. У студэнцтве, у 1980 годзе. Чытаў нам курс «Тэорыя літаратуры». Тлумачыў прынцып мантажу, спалучэння з'яў, які ў паэзіі валодае асаблівымі магчымасцямі. Пастаўленыя ў нечаканы кантэкст, словы ў лірычным творы даюць цалкам новы змест, чым ужытыя паасобку. У якасці прыкладу дэкламаваў верш:

Лёс мой — цяжкі колас,
часам — цяжкі камень...
Мне люляць цябе да скону
кволымі рукамі.
Мне з табою быць сам-насам
і несці у людзі...

А для таго, каб паразважалі мы пра сэнс твора, каб кожны знайшоў сваё, прапаноўваў верш «Памяці Леаніда Якубовіча»:

Я — камень, кінуты ў раку.
Кругі, расходзяцца кругі,

Усё шырэй, шырэй, здаецца.
Ды раптам зыркне бліскавіца,
І ўжо не вочы ўбачаць — сэрца:
Усё шчыльней, шчыльней кругі...

Папярэджваў, што кожны такі верш — гэта цуд, яго нельга «расшыфраваць» да канца, растлумачыць, перакласці на мову звычайных словаў. Можна толькі адчуць і перадаць сваё адчуванне, напісаць свой твор.

І мы імкнуліся адчуць, нешта тлумачылі, ведаючы, што не растлумачым. Колькі ўсяго бачылася за гэтымі лаканічнымі, але такімі глыбокімі радкамі. Шкада, што запісаў тых студэнцкіх не засталося.

Зразумела, што за ўсім, што з-пад пяра паэткі выйшла, — яе лёс, яе вобраз бачыцца. Таму і каменняў тых — вялізная крушня.

Пасля і я неаднойчы чытала гэтыя вершы сваім студэнтам.

Калі ж пяшчотная бель нарэшце ападала на змакрэлую Гародню, абавязкова чытала яе «Першы снег». І было гэта якраз у тым часе сутак, што і ў вершы — на сутонні, бо заняткі ў філолагаў звычайна ў другую змену.

Пішу і наноў тое перажываю. І паэтычныя хвілінкі ў часе лекцый, і тое, што за вершам Ніны чыталася:

Над даляглядам вечар устае,
У шыбы вецер апантана ляскае,
І снег, і снег, як спозненая ласка!
...І гэтак жа, як ласка, растае.

Чулася ў ім такая пяшчотнасць, кволасць і безнадзейнасць, бо зразумела ж, які лёс першага снегу. Не дадзена яму часу даўжэйшага. Няма яму, занадта далікатнаму, месца ў свеце, зусім недалікатным, як няма красе і светласці між апантанае, жорсткае цемені.

Насупраць вокнаў аўдыторыі звычайна былі высокія дрэвы, што раслі пры Гараднічанцы. Глядзела на іх і чытала Ніны́ны шчымлівыя радкі:

Яшчэ лісты самотныя гараць,
Яшчэ не ўся трава ў зіму ўмарожана.
Не гавары са мной неасцярожна,
Пяшчотай выпадковаю не рань.

Але яе гераіня заўсёды знаходзіла ў сабе сілы вытрываць, адмовіцца ад таго, у што і верыць няварта, адрозніць ману, адчуць фальш. Зразумець, што пяшчота першага снегу бывае вельмі запозненаю, усяго толькі дэкарацыяй нязбытнаму пачуццю. Таму — няхай растае:

На недавер мне сіл яшчэ стае.
Не веснавосць з вясёлкавымі праскамі —
А снег, а снег, як спозненая ласка,
І гэтак жа, як ласка, растае...

Калі ў кастрычніку 1997 года выпаў першы снег, замест звычайнага, развітальнага напісала мне Ніна: «З чыстым снегам!» Лісты яе як вершы чытаюцца.

А пазней, калі пачыналіся завеі, абавязкова гучаў яе «Снегапад». Ачышчальная моц снегавое замеці, яе шырыня вялі за сцены аўдыторыі, кудысьці на бяскрайнія прасторы:

Замець —
З белага свету ды з чыстага поля.
Як дзівосна туліцца гарачай шчакою
Да шалёна-вясёлага твару завеі...

Тут так дарэчы абрыў. І дзеля таго, каб перавесці дыханне, і каб перанесціся з тае прасторна-бязмежнае далечыні ў сваё, асабістае. Абавязкова шчаслівае. І паверыць, што яно такім і ёсць. Або абавязкова такім будзе. Бо хіба ж можна жыццё на няшчасці марнаваць? Бо хіба ж можна жыць без пяшчоты, без сяброўства, кахання? А што без гора і смерці жыцця не бывае, і гэта зразумела, то ўмелася неяк праз Ніні верш іх далёка адвесці. І паверыць, што студэнты паэтцы і табе вераць, бо так хораша, не зварухнуўшыся, слухаюць, такімі чыстымі вачыма на тую белую замець глядзяць:

Зноў, як некалі, толькі ў харошае веру.
Зноў, як колісь, пяшчотай заходзіцца сэрца.
Толькі белая замець. Ні гора. Ні смерці.
Белы вір раўнавагі. Ні здрады. Ні звады.
Не канчайцеся, вейце, мае снегапады...

У фінале мне заўсёды чулася Багдановічава: «Навошта ў свеце сваркі і звадкі...». Мо таму, што згадвалася, як Данута Янаўна назвала Ніну ягонаю сястрою. Збірала вершы, Максіму ахвяраваныя, Ніну намаўляла напісаць. І яна напісала. Галоўнае ў тым вершы было пра іх крэўную знітаванасць праз боль. І праз слова, зразумела ж.

Мала ў нас ведаюць паэзію. І тыя, што філалогію абралі. Бо відаць, што абіралі яе не як лёс. Таму не дзіва, што рэдка якія імёны паэтаў сучасных са школы памятаюць. Але ніколі не было такога, каб не адгукнуліся студэнты на верш Ніны Мацяш «Люблю». І што чыталі яго, памяталі, і што спявалі на вечарынах паэтычных — таксама, бо прадвызначана было гэтаму твору стаць рамансам. Так высока прагучала тут матыў-пачуццё, цалкам пазбаўленае слязлівае сентыментальнасці, чыстаю лініяй, калі нішто не здольна засмуціць, калі ўсё і так зразумела:

На Ваша «ты» сказаць Вам «ты» не смею,
І калі позірк позіркам злаўлю,
Як птушанё, спалохана нямею.
Я не кахаю Вас. Я Вас люблю.

Колькі чытаю, думаю пра гэты верш, столькі лаўлю сябе на думцы, што не чую асобных словаў, настолькі натуральна яны пакладзеныя ў радок, знітаваныя між сабою ў цэласны мастацкі ўзор:

Святла, што падарылі, не растрачу.
І шчырых слоў ніколі не згублю.
... Нашто журба ў цёплых зрэнках Вашых?..
Я не кахаю Вас. Я Вас люблю.

Яе светлы след жыве. Засталіся ў яе горадзе тыя верныя сяброўкі, што былі пры Ніне, што адбыліся як Асобы дзякуючы Ніне. Ладзяць яны паэтычныя чытанні «Бабіна лета ў Белаазёрску з Нінай Мацяш». Прыязджаюць паэты з розных мясцінаў, збіраюцца людзі. Наведваюць месца яе спачыну. Абавязкова на тых імпрэзах гучаць яе вершы. Ніна заўсёды прысутная там сваім словам, сваім светлым пажаданнем: «Хай вам светла будзе, / ўсім, каго люблю». Так, праз словы любові, яна прысутная з тымі, хто яе памятае.

## З трыпціха «Па адляцелых птахах»

### I

*Па Ніне Мацяш*

Ніна там, дзе часу няма,
Ніна там, дзе пануе вечнасць.
Дзе ніколі не ўстане сцяна
і мяжа, бо там — пазамежнасць.

Даравана трывання і болю
ёй было на ўвесь шлях і час.
Ды праменне яе любові
саграваае кожнага з нас.

Хай зноў восень, зноў сыпле імжа,
ды, набраўшыся ўдосталь сілаў,
яе птаха з яе крыжа
адлятае у вечны вырай.

*2015*

# Успаміны пра паэта Едруся Мазько

## Пралетарскі перыяд

Мы сышліся на вуліцы Пралетарскай з розных месцаў: Едрусь і Генадзь Васюк з сваёй сямейкай пасля заканчэння гістфака, Юрась Пацюпа, пабраўшыся з Анэляй Дабравольскай, і Янка Трацяк пасля філфака, я пасля аспірантуры з Мінска. Гэта быў пралетарскі перыяд нашага жыцця ў многіх сэнсах. Ніхто не меў нічога, апроч пакоя ў студэнцкім інтэрнаце, адно крыло якога адвялі для выкладчыкаў. Душ адзіны, агульны для ўсіх. Не вельмі камфортна пачувалася там побач з студэнткамі, якім заўтра трэба было чытаць лекцыю. Кухня, праўда, толькі для нашага крыла. Там сустракаліся штодня. І не толькі там. Было прынята хадзіць у госці. Праўда, мне з маёй хутаранскай сістэмай каштоўнасцяў хадзіць да кагосьці не выпадала. Прыходзілі да мяне. Найчасцей завітваў Едрусь. Гадзінамі проста размаўлялі, ён расказваў пра тутэйшых, уводзіў мяне ў гарадзенскую навукова-літаратурную сябрыну.

## Па Едрусевых мерках

Лаўлю сябе на думцы, што на працягу ўсяго майго другога гарадзенскага жыцця згадваю, як Едрусь ацэньваў гарадзенцаў. Заўсёды толькі хораша, са шчырай павагай гаварыў ён пра Аляксея Міхайлавіча Пяткевіча (мяне нават адна наша прафесарка папракнула: «Што Вы ідэалізуеце свайго Пяткевіча! Няма ідэальных людзей!» — Мо дзе і няма, а ў Гародні ёсць!). З павагай і крыху з гумарам пра нашых шаноўных прафесараў-антыподаў Івана Якаўлевіча Лепешава і Паўла Ўладзіміравіча Сцяцко, з непрыхаванай іроніяй пра сённяшнюю ўжо прафесарку і яе памкненні «тварыць», пра Дануту Бічэль, з якою

адносіны заўсёды былі няроўнымі (і пра гэтыя «няроўнасці» расказвалася). «Нягледзячы ні на што, я яе паважаю, бо яна — вялікая паэтка і жанчына», — гэтая выснова была нязменнаю. А пра аднаго паэта: «Павітацца з ім за руку — тое ж, што пакупацца ў грамадскай прыбіральні». Ніколі не загаварыла з гэтым чалавекам, памятаючы Едрусеву перасцярогу. Захавалася і даволі едкая ягоная эпіграма на аднаго нашага калегу.

Заўважаю: і сёння, праз столькі гадоў, даўнія ацэнкі не састарэлі, кіруюся тымі Едрусевымі меркамі...

## Едрусь, Эдуард, Эдзік

Пры знаёмстве (а пазнаёміў нас сябар Зміцер Санюк) ён назваўся Едрусем. Так заўсёды і звярталася.

Аднойчы расказаў, як яго выклікалі на размову асобы ў штацкім пасля паездкі ў Вільню да Зоські Верас, пасля сустрэчаў з тамтэйшымі беларусамі, з Лявонам Луцкевічам. Паказалі фотаздымкі, дзе ён з гаспадарамі каля знакамітай лясной хаткі. (Во дзе нашы архівы! Але ці калі адкрыюцца?) І як жа «старанна» яны «працавалі», калі фіксавалі кожную сустрэчу.

Вось жа, той, у штацкім, між іншага запытаў у Едруся:

— Як Вас называць? Адны завуць Едрусем, іншыя Эдуардам, як і ў пашпарце.

— Едрусь я для сяброў, для вас — Эдуард, — адрэзаў мой сябра.

І тады я сказала: «Заўсёды буду называць Вас Едрусем».

Не запярэчыў. З гэтым імем ён і застаўся для мяне.

Новыя ягоныя сябры, каханая жонка называюць яго Эдзікам. Такая форма імені і на кнізе ягоных вершаў. Так ён ім сябе назваў. І мне гэта зразумела. Гульня са сваім імем уласцівая многім з нас.

## Вершы

У чым вінавата перад Едрусем, то ў тым, што не цаніла, як тое належыць, ягоныя вершы. Наогул, як да паэта ставілася да яго даволі крытычна. Зразумела, не падкрэсліваючы гэта.

Напачатку ён часта прыносіў свае творы, чытаў. Слухала ўважліва. Але выказваць нейкія ацэнкі не спяшалася. Безумоўна, ён адчуваў, што не ў захапленні ад ягонай творчасці. Не ўмела гэтага хаваць. Ды і навошта? Мы былі шчырымі ў сваіх адносінах. Праўда, чытаў ён файна. Умеў чытаць. Зрэшты, аўтарскае чытанне, калі нават паэт не мае акторскіх здольнасцяў, заўсёды выйграе, ніколі не пакідае абыякавым. Доўга шукала адказу: чаму? Сёння, падаецца, яго маю. Бо паэт, як ніхто, адчувае той глыбінны ўнутраны рытм сваіх вершаў, тую пульсацыю паэтычнага радка, якую іншыя, нават вельмі добрыя чытальнікі перадаць не ў стане. Зрэшты, у такіх выпадках на ўспрыняцце заўсёды ўздзейнічае і незвычайны шарм: паэт чытае свой твор...

Часам Едрусь пытаўся: «А можа гэта не паэзія, можа графаманія?» Падавалася, не столькі ў мяне, колькі ў самога сябе. Яму было гэта вельмі важна. Колькі актыўна пішучых графаманаў давялося сустрэць, але ніколі ніхто з іх не задаваў такіх пытанняў. Тут ужо з усёй дакладнасцю запэўнівала яго: гэта паэзія. І гэта таксама было шчыра. Проста гэта былі не тыя вершы, якія тут жа хацелася вывучыць на памяць, зрабіць іх сваімі, чытаць студэнтам.

Шкада, што Едрусь не выдаў свае кнігі. Зразумела, жыццё змушала яго выжываць, вельмі шмат працаваць. А выдаць кнігу — гэта вялікая раскоша. Гэта вельмі няпроста. Ягоныя вершы якраз і праявіліся ва ўсёй сваёй вартасці менавіта ў кнізе, якую падрыхтаваў да выдання, але так і не пабачыў.

## Сродак змагання з дэпрэсіяй

А вось паэтам у жыцці, у шырокім сэнсе гэтага слова Едрусь і тады бачыўся мне надзвычай цікавым. Ён ствараў, сённяшняй моваю кажучы, арыгінальныя перформансы, якія вылучаліся эмацыйнай крэатыўнасцю. Умеў прыдумаць, як змагацца з дэпрэсіяй. У нашай бясконцай слотнай гарадзенскай восені яна згубна ўплывае на здольную да рэфлексіі натуру.

Вось жа, Едрусь купляў кветкі, ішоў па вуліцы. (Мой вобраз — мужчына з кветкамі.) Выбіраў між мінакоў жанчыну

(я ўстаўляла: маладую і прыгожую — у адказ: безумоўна) і дарыў ёй кветкі, кажучы толькі: «Гэта Вам...».

Ён расказваў пра гэта з захапленнем, яшчэ раз перажываючы той момант, з асалодай «смакуючы» яго. «Вы б бачылі яе рэакцыю! Вочы, у якіх столькі ўсяго засвеціцца. І здзівіцца, і спалохаецца, і ні слова прамовіць не можа. Але галоўнае — вытрымаць ролю да канца, не прыпыніцца, прайсці і — не азірнуцца».

Зрэшты, навошта яму было азірацца? Ён і так ведаў, што ўражаная кабета будзе доўга пазіраць яму ўслед і яе дэпрэсію, калі такую мела, як рукою здыме. А пасля будзе расказваць сяброўкам пра прыгожага маладога чалавека, які падарыў ёй на вуліцы кветкі. Неверагодны выпадак у нашым шэрым жыцці!

Цудадзейны лек ад дэпрэсіі. І для аўтара гэтага перформансу ў першую чаргу.

## «Фара белаю птушкай...»

Майскі надвячорак. 1994 год. Гуляючы з Едрусем па вуліцы Ажэшкі (а каштаны цвітуць!), даходзім да Савецкага пляцу. Да таго, які застаўся толькі ў памяці. Праходзім першы сквер, і нам адкрываецца белая Фара. Як заўсёды ў тым часе, калі была ў засені дрэваў, велічна і нечакана. Едрусь цытуе нейкі верш, які ніколі не чула. Запомніўся толькі матыў: Фара белаю птушкай выплывае з-за дрэваў...

— Чый гэта верш?

— Пацюпы...

Усё збіралася спытаць у Юрася, што гэта за верш і ці быў надрукаваны. І ўсё забывалася. Аж пакуль усе мы не разляцеліся з Пралетарскай. А Юрась надалей — у Мінск. Пры сустрэчы згадала той верш, запытала. «Няма ў мяне такога верша!» — адказ быў упэўнена-катэгарычным.

Колькі выплывала перад маімі вачыма Фара, столькі выплываў і той матыў. Усё збіралася спытаць у Едруся, дык што ж гэта за верш і чый. І ўсё забывалася пры не такіх ужо і частых постпралетарскіх сустрэчах.

Звычайны вечар, звычайная размова. А не забудзецца ніколі, бо колькі буду бачыць Фару (хай яна ўжо аголеная з усіх бакоў і ніадкуль не выплывае), мне гучаць тыя няпэўныя радкі, якія чытае Едрусь. А мо гэта быў ягоны верш?

## Як я злякаўся!

Цягнік Гародня–Гомель адыходзіць з нашага горада а 23.45. Гэта вельмі позна. Мне ж даводзілася ездзіць ім да Мінска штодва тыдні. Асабліва нязручна зімою, калі цемень і глыбокая ноч ідуць следам па амаль вясковай вулцы Мендзялеева, якая вядзе ад інтэрната да чыгуначнага вакзала. Едрусь заўсёды праводзіў мяне. Аднойчы, вярнуўшыся ў Гародню, даведваюся: на зваротным шляху яго перастрэў сабака. Нямецкая аўчарка, гаспадар двара на той вуліцы, а на ноч яе чамусьці злачынна выпускалі на волю. Сабака напаў ззаду, бязгучна і ўгрызся зубамі ў мех, які аблямоўваў капюшон курткі. Як Едрусь ні вырываўся, ваўкарэзіна моцна трымаў зубамі за тую поўсць і пускаў сліну. Пачаў крычаць, выбегла гаспадыня, ледзьве адарвала свайго выхаванца ад здабычы.

«Як я злякаўся!» — паўтараў Едрусь. Казаў, што адзенне тое насіць не можа, бо застаўся невыносны сабачы пах (у нас кажуць — сівер), які не вымываецца і не выветрываецца. Сварыўся з гаспадыняю, пагражаў падаць у суд. Тая абяцала, што болей на вуліцу сабаку не выпусціць. На тым усё і скончылася.

Я прасіла ў Едруся прабачэння, пачувалася вінаватай, на што чула ягоныя пярэчанні. А калі чарговым разам мне давялося ехаць гэтым цягніком, ізноў пайшоў праводзіць. Толькі вяртаўся назад ужо не па Мендзялеева.

Колькі іду па той вуліцы, столькі ўспамінаю тую прыгоду. І чую Едрусева: «Як я злякаўся!»

## Салата з лістоў малачаю

Перад Вялікаднем мы вырашылі трымаць пост. Гэта было няпроста. Бо, каб лёгка вытрымаць яго па праваслаўных кано-

нах, патрэбна дазваляць сабе рыбныя стравы, садавіну, што каштавала нятанна. А я не памятаю нават, ці калі купляла ў тым часе рыбу, апельсіны, бананы. І мець магчымасць адпачываць, засяродзіцца на вечным. А жыць даводзілася ў імклівым тэмпе: лекцыі, семінары, іспыты, імпрэзы.... Як, зрэшты, заўсёды.

Ніколі не была залежнай ад ежы. Таму пераносіўся пост даволі лёгка. Мяркую, Едрусю было цяжэй. Ён, да таго ж, увесь час сумняваўся: ці не ўтрымліваюць прадукты чагосьці недазволенага ў часе посту. Прыходзіць да мяне і пытае: «Як Вы думаеце, у гэтай булцы няма малака?» Гадаем разам, ці можна яе з'есці, каб нашы намаганні вытрымаць пост не пайшлі намарна.

Едрусь увесь час вынаходзіў нейкія незвычайныя стравы, якія дакладна былі поснымі. Аднойчы ён прыйшоў з рэцэптам салаты з лістоў малачаю і запрасіў пайсці па яго. Уявіла, якая гэта гаркота, і адмовілася ісці збіраць тое лісце. Не ведаю нават, ці паспрабаваў Едрусь тае экзатычнае салаты...

А нядаўна ў кнізе эпісталярыю Зоські Верас прачытала: «Раблю сабе французскую салятку зь лісьця малачаю».

## Як я кахаю гэтую жанчыну!

Гэта быў час, калі Едрусь сустрэў сваё Вялікае Каханне.

Павага да жанчыны была выхавана ў яго з дзяцінства. З асаблівай пяшчотай ставіўся ён да сваёй бабулі, з скрухай і шкадаваннем расказваў пра нешчаслівы жаночы лёс мамы. З кабетамі заўсёды быў гжэчным, умеў падтрымаць нязмушаную цікавую размову. Не быў катэгарычным. Ніколі не расказваў пра свае сімпатыі, якія ў яго, безумоўна, былі. Быў скрытным. Але пасля знаёмства з Галінай яго як падмянілі. Едрусю, відаць, хацелася гаварыць пра яе. А я, пэўна, была ўдзячным слухачом. Гаварыў пра яе захоплена, гэта была жанчына яго мары.

Аднойчы прыбег шчаслівы: «Ала Мікалаеўна! Яна назначыла мне спатканне! Як я кахаю гэтую жанчыну!» Перад спатканнем відавочна хваляваўся, выбіраў, што апрануць, пытаўся, ці пасуе яму. Мне было міла і радасна бачыць Едруся такім шчаслівым. Больш ніколі я яго такім не бачыла...

## Апошняя сустрэча

Яркі сонечны дзень. Канец вясны. Іду пасля заняткаў па сцяжыне ад свайго корпуса да вуліцы Тэлеграфнай. Бачу, што нехта заступае мне дарогу. Незадаволена: хто ж гэта пасмеў? Бо з сваім прымружаным зрокам праз такую адлегласць не пазнаю. Падыходжу бліжэй — Едрусь! З ягонага адзення кінуўся ў вочы грацыясты шалік, нібы хустка, элеганцкі павязаны вакол шыі. Пагаварылі, як звычайна, пра нейкія паездкі, канферэнцыі, пра студэнтаў, пра вясну. Нічога незвычайнага. Апроч таго, што гэтая сустрэча была апошняй. Але тады нават думка такая не магла з'явіцца. Бо так многа яшчэ, здавалася, наперадзе.

Развітаўшыся з Едрусем, ішла ў добрым настроі, як было заўсёды пасля мілай размовы з чалавекам, які ніколі нічым не засмуціў. Зараз пра тое думаю: ніколі між нас не прабегла не толькі чорная, але і ніякая котка. Напэўна, Едрусь валодаў рэдкім сёння між людзей дарам — сябраваць.

## З трыпціха «Па адляцелых птахах»

### II

*Па Едрусю Мазько*

Рана памерці —
застацца
прыгожым,
каханым,
жаданым
у блізкай сябрыне.
Рана памерці —
не выпіць
атруту да дна,
што ў келіх
штодня наліваюць
шчодрай рукою.

Рана памерці —
файна.
Але
рана памерці —
недакахаць,
недапісаць
свой радок
у жыццёвы меланж.
Рана памерці —
раніць балюча
самых каханых.
Рана памерці —
скрушна.

# Згадкі пра паэта Юры Гуменюка

### У «Крызе»

Мастацкая галерэя «Крыга» ў Гародні — месца знакавае не толькі для мастакоў, але і для гарадзенскіх пісьменнікаў, музыкаў. Знаходзіцца ў самым цэнтры каралеўскага места, ля колішняга Рынкавага пляца. Гаспадыня Марыся Мацко ўмее сабраць прыязную сябрыну. Тут адбываюцца прэзентацыі новых кнігаў, розныя паэтычныя імпрэзы. Менавіта тут 3 студзеня 2013 года апошні раз чытаў свае вершы Юры Гумянюк. Чытаў як заўсёды — выразна, артыстычна, высока ўзняўшы руку з аддрукаванымі лістамі. І менавіта тут у дзень ягонага нараджэння 24 верасня 2013 года адбылася вечарына памяці паэта, прэзентацыя кнігі «Назаві мяне геніем».

### Ягоная таямніца

Прафесар Аляксей Міхайлавіч Пяткевіч у сваім слове пра паэта (а ягонае слова заўсёды — узор красамоўства) падкрэсліў, што Юры быў чалавекам загадкавым, рэччу ў сабе. Яго паэзія — гэта таямніца, якую застаецца разгадваць. Гэта творчасць далёка не для ўсіх, адно для абраных. Ёй характэрна складаная вобразнасць. Нагадаў, як упершыню з'явіўся Юры на сходзе знакамітае «Паходні», як чытаў свае вершы, здзівіўшы прысутных незвычайнасцю паэтычнае мовы. А пачынаў пісаць па-руску. Не дзіўна: узгадоўваўся ў выключна рускамоўным асяродку, вучыўся ў рускамоўнай школе, затым на польска-рускім аддзяленні філалогіі. А стаў знакавай постаццю беларускай літаратуры, беларускай Гародні. Што таксама не дзіўна, бо канец 80—пачатак 90-ых — гэта быў наш час, які падказаў юнаму паэту з прэтэнзіяй не меней як на геніяль-

насць, што геніем у Краі можна стаць толькі ў ягонай духоўнай аўры, толькі ў ягонай мове. А яшчэ была не менш выразная арыентацыя на элітарнасць, нонканфармізм. Чаму таксама заўсёды спрыяла беларускасць. Сябрына, у якую трапіў малады творца, якраз такою і была.

## Вось табе «Паходня»...

Гэта ўжо са згадкі прафесара Ігара Васільевіча Жука, дэкана факультэта беларускай філалогіі і культуры (які быў факультэт!), актыўнага ўдзельніка тых, ужо гістарычных падзеяў. Выступаюць паэты: Юрка Голуб, Юрась Пацюпа, Юра Карэйва, Юра Камягін. А тут яшчэ і новае імя — Юры Гумянюк. Ігар Васільевіч, які ўмее надзвычай дасціпна рэагаваць на ўсялякія жыццёвыя праявы, выдае Міхасю Ткачову, заснавальніку і кіраўніку суполкі, шыкоўна зыначаны афарызм: «Вось табе, Паходня, і Юр'еў дзень!..»

Парадуймася, шаноўныя, за нашу беларускую Гародню! Бо якое імя тут ні называю: і тых, хто чытаў вершы, і тых, хто іх слухаў — усё гэта — Імёны...

## На прэзентацыі «Першацвета»

Пачатак 90-х. Мінск. Перапоўнены Дом літаратара. Часопіс для моладзі «Першацвет» толькі пачаў выходзіць. Алесь Масарэнка, галоўны рэдактар, ладзіць прэзентацыю. Адзін за адным на сцэну выходзяць выступоўцы. Усе радасна вітаюць новае выданне. Настрой захоплена-ўзнёслы. І тут з'яўляецца Юры Гумянюк. Юны дэндзі ў элегантным светлым касцюме, з шыкоўнаю блонд-фрызураю, быццам з вокладкі гламурнага часопіса. Трымае «Першацвет» зусім непашанотна, двума пальцамі. А гаварыць пачынае з непадробным абурэннем, з прэтэнзіяй да рэдакцыі: абражаны ягоны выключны эстэтычны густ. І колеры вокладкі безгустоўныя, зусім не стасуюцца між сабою, і дызайн нічога не варты. І наогул, куды Вы, шаноўны Алесь Герасімавіч, глядзіце? Вось мы ў Гародні і Полацку

«Калосьсе» выдаваць збіраемся без усялякае дзяржаўнае падтрымкі. То гэта будзе Часопіс!..

У тым памятным мне эпізодзе ўвесь ён — Юры Гумянюк: эстэт, нонканфарміст, смелая, годная Асоба. Мо крыху занадта задзірыстая.

Дызайн вокладкі «Першацвета», дарэчы, з наступнага нумару змянілі...

## «Назаві мяне геніем»

Каб цябе ўшанавалі, каб зразумелі, каго мелі побач і якім незаменным ты быў, трэба памерці. І каб выйшла кніга, якая пры жыцці паэта яшчэ невядома калі б пабачыла свет. І каб назву яна займела такую, якая раней наўрад ці магла б з'явіцца на вокладцы. Кніга сталася падарункам паэту да дня яго народзінаў. Прызямліўся ў Гародні яе ўкладальнік Алесь Аркуш з блізкага далёказамежнага Беластока. Расказаў пра сваё шматгадовае сяброўства з паэтам, пра падрыхтоўку выдання, пра назву. Добрая назва. Мяркую, Юры быў бы задаволены. «*Давай, Назаві мяне геніем / проста так, пасярод аўтастанцыі!*» — усклікнуў ён у сваёй іранічна-правакацыйнай манеры ў вершы, пазначаным датай 1 чэрвеня 2000 года. А чаму ж не? І хіба сапраўды не бачыцца ён творцам геніяльнаадметнага таленту? Ізноў жа, бачыцца больш выразна, чым у адведзеным яму лёсам зямным часе. Часткова пагодзімся і з Алесем Аркушам, які ў пасляслоўі да кнігі сцвярджае: «Юры Гумянюк — першы клясычны беларускі эўрапейскі паэт. І невыпадкова ён нарадзіўся, жыў і пісаў свае вершы ў Гародні — самым эўрапейскім горадзе Беларусі». Часткова, бо першым класічным беларускім еўрапейскім паэтам быў усё ж Багдановіч. Думка: «Юры Гумянюк — паэт наскрозь гарадзенскі» — скразная і ў вельмі файнай прадмове такога ж наскрозь гарадзенскага паэта Анатоля Брусевіча. Зразумела, што выйшла кніга ў серыі «Гарадзенская бібліятэка». А на вокладцы — карціна гарадзенскага мастака Сяргея Грыневіча «Вежа».

Вежы, замкі, лабірынты, лесвіцы — гэты вобразны шэраг трымаў у палоне героя вершаў і іх аўтара. Згадваючы паэта, мастак гаварыў пра надзвычайную блізкасць Юры да мастацкае сябрыны.

Так, ён быў блізкім для многіх. Але заставаўся трагічна адзінокім. Блукаў па тых лабірынтах прывіднага замка, з якіх не здолеў знайсці выйсця.

## Ты як...

Казаць кабеце камплімент, скажаце, проста? Адкажу — не. Развучыліся мужчыны рабіць гэта. Стандартнае: «Ты сёння прыгожая» з варыянтамі ніколі не задаволіць яе. Юра ўмеў сказаць тое, што не рабіла мужчыну бездапаможным у вачох кабеты, што запаміналася. І гэта гучала цалкам натуральна з ягоных вуснаў, бо ён жыў у іншым часе, дзе шляхетныя манеры былі звычкай.

Прыходжу неяк зімою на кафедру. Уся такая — у мяхах, капелюшы. «Ты як дама з сярэбранага веку!» — гэта Юра замест прывітання. Якая кабета не хацела б быць дамай сярэбранага веку?

Сустрэча сплінавым восеньскім днём у скверы Жылібера. Яшчэ не пазнаю Юру, а ўжо насустрач нясецца ягоны голас: «Ала, ты як пані з трыццатых гадоў!» Кажа мне гэта паэт з таго ж часу: у класічным чорным паліто і пад капелюшом. Ён вельмі любіў тыя гады. Пачуваўся там сваім. Дзякую, Юра, што і мяне там сустракаў.

## Каб прагучаў жаночы голас

Кіраўнік Гарадзенскай філіі СБП Юрка Голуб вырашыў неяк рэанімаваць нашу суполку, сабраўшы праз некалькі гадоў. Нагода была: замест Юркі мусіў быць абраны Юры. Але тое не сталася: не хапіла кворуму і пытанне адышло само па сабе. Назаўсёды. Юра прыйшоў пры ўсім сваім парадзе. Касцюм у нейкіх бардовых колерах, адпаведная кашуля і ўсе аксесуары. Ён хацеў быць абраным. Пра тое спытала ў

дзейнага старшыні, бо для мяне заўсёды вырашальным момантам у такіх выпадках з'яўляецца жаданне чалавека быць. Зразумела, калі тое «быць» не перайшло ўсе межы не толькі прыстойнасці, але і закону.

Тады Юра яшчэ супрацоўнічаў з Радыё Рацыя. Рыхтаваў рэпартаж і пра гэтую сустрэчу. Узяў колькі інтэрв'ю, папрасіў мяне сказаць, дадаўшы: «Хачу, каб прагучаў жаночы голас». Была адзінай кабетай на тым сходзе. Бо засталося нас, кабетаў, у гарадзенскай філіі СБП да недарэчнасці мала. Усе перабеглі ў СПБ. А Данута Янаўна тады не прыйшла.

Мяркую зараз: мо тое абранне было б для Юры нейкаю повяззю з жыццём, што ўтрымала яго, дзе ён змог бы рэалізаваць сябе. Бо магчымасці ж ёсць. Нават у плане супрацы з паэтамі іншых краінаў, перакладчыцкай творчасці. Толькі трэба рабіць гэта. Праўда, на грамадскіх пачатках. Напрыканцы быў ён зусім не запатрабаваным, адкінутым на ўскраек, на вельмі строме бераг, на абрыў бездані...

## Мая падвойная катастрофа

22 студзеня 2013 год. Абласны шпіталь. Уралагічнае аддзяленне. Сяджу на стуле (вольнага ложка пакуль няма), чакаючы аперацыі. На чарзе я сёмая, апошняя. Не ведаю, ці адбудзецца. Папярэдзілі: магчыма, не хопіць лекаў для наркозу. Жахлівы стан. Званок Дануты Янаўны: «Ведаеш, што Юры Гуменюка не стала?» — ...!?

Распавяла. Спытала, ці прыйду на пахаванне. «На жаль, не. Я далёка...»

Мой боль, мой жах — нішто ў параўнанні з ягонай трагедыяй.

Мая катастрофа падвоілася.

Праз гадзіну павезлі. Ісці не дазволілі: нельга. Укол, які мусіў супакоіць, меў адваротны эфект: была як у трасцы.

Перад часоваю пазамежнасцю чытала Багдановічаў рандэль «На могілках». Памятаючы, што пазамежнасць Юры Гуменюка — ужо вечнасць.

## На вокладцы Ганнінай кнігі

Маладая гарадзенская паэтка Ганна Аўчыннікава — аўтарка пакуль адзінае паэтычнае кнігі «Ад зачыненай брамы», што пабачыла свет у Гародні ў 2011 годзе. Кнігі прыгожае, вартае.

Ад зачыненай брамы — матыў, які паэтка вызначыла галоўным. Ствараючы вокладку, мастак таксама імкнуўся па-свойму адлюстраваць яго. А тая сімвалічная постаць адзінокага чалавека на гарадзенскай вуліцы пад капелюшом у чорным паліто, пэўна, не адной мне нагадала постаць Юры Гуменюка, паэта, духоўна блізкага маладой аўтарцы.

## Якія яны незвычайныя!..

2002 год. Прэзентацыя кнігі «Верш на Свабоду» па адным з нашых адрасоў на вуліцы Будзённага. Ладзіць Сяргей Астраўцоў. Кожны аўтар гаворыць пра сваё разуменне свабоды, кожны чытае свой верш. Разыходзімся.

Чакаю аўтобуса на прыпынку. Гляджу, як падыходзяць яны: Юрась Пацюпа, Юры Гумянюк, Едрусь Мазько. Гляджу з захапленнем: якія яны незвычайныя, таленавітыя, прыгожыя, элегантныя. Юры ў сваім знакамітым капелюшы і доўгім паліто. Не памятаю, пра што перамовіліся да прыходу аўтобуса. Але назаўсёды запомніла тое адчуванне гонару за нашу літаратурную Правінцыю, дзе так годна зберагаецца дух каралеўскага места. Хай сабе адзінкамі. Але гэтыя адзінкі — Асобы...

## На ўспамін

Мой экзэмпляр свабодаўскага выдання «Верш на Свабоду» музейны. Бо ў часе прэзентацыі, думаючы пра вечнае, папрасіла аўтографы ў некаторых аўтараў. Юра таксама надпісаў: «Шаноўнай Але Петрушкевіч з нагоды прэзентацыі гэтае кніжкі на ўспамін пра Тутанхамона Гарадзенскага». Даволі банальна — думалася тады. Бо пра які ўспамін вялося? Жывём у адным горадзе, у адным часе. Затое як зразумела зараз! Бо і сапраўды — застаўся ўспамін. Надоўга. Назаўсёды. Памятацца будзе толькі светлае. Бо і было яго больш чым дастаткова.

## З трыпціха «Па адляцелых птахах»

## III

*Па Юры Гуменюку*

Знікла змрочная лесвіца, клетка,
і не стала зямлі пад нагамі.
Захацеў узляцець да Неба,
толькі Неба заўжды над намі.

Выбраў свет праклятых паэтаў,
свет багемы, свабодных амураў,
заставацца хацеў эстэтам
у жыцці гэтым, негламурным.

Ён адрокся ад справаў агідных,
перакрочыў здранцвенне і стому,
лабірынты замкаў прывідных
і зрабіў свой апошні перформанс.

# «Выпалю з градаў пырнік»
## Пра радкі вершаў і радочкі градаў

З ранняга дзяцінства, колькі сябе памятаю, працую на зямлі. І, колькі сябе ўсведамляю, сную радкі з словаў і сказаў, размаўляю з лісточкамі і карэньчыкамі, пупышкамі і кветкамі. А яшчэ з тымі, хто рабіў гэта спрадвеку на нашай зямлі, з маімі мамай, бабулямі, прабабулямі. І з тымі беларускімі паэткамі, што з зямелькай былі зраднёнымі.

Мілая Зоська Верас (Людвіка Сівіцкая) — нашаніўская пчолка-працаўніца, паэтка, празаік, зёлачніца, вялікая аматарка кветкаў, адна з першых у гэтай роднай мне чарадзе. «...Чалавеку цікаваму, знаёмаму з назовамі раслінаў у яго роднай мове і то з назовамі ня штучнымі, а чыста народнымі, кожная расліна, кожнае зелейка раскажа ня толькі дэталі свайго ўласнага жыцця, гісторыі свайго роду, але ж таксама напомніць аб той ролі, якую яно іграе ў жыцці нашых сялян, у іх медыцыне, чарах і варажбе», — гэтак, зусім не ў навуковым стылі пісала Зоська Верас у прадмове да свайго навуковага выдання з вялікай, шматслоўнай назвай: «Беларуска-польска-расейска-лацінскі батанічны слоўнік», што быў выдадзены ў Вільні ў 1924 годзе. А яшчэ ж была значна менш вядомая кніга «Гісторыя ўжывання зёлак у лячэнні» (Вільня, 1934 г.).

У слоўніку Людвікі Сівіцкай — 424 назвы раслінаў. Адна з мэтаў, якую ставіла перад сабой даследчыца, — паставіць беларускія народныя назвы раслін поруч з назвамі на іншай мове, паказаць, што ў іх адлюстраваны сапраўдны духоўны скарб, паэтычнасць, спрадвечная мудрасць, розум, талент беларускага сялянства.

Гэтая праца была высока ацэнена беларускімі навукоўцамі, пісьменнікамі. Да прыкладу, у навуковым зборніку праз шэсцьдзясят гадоў пасля ягонага выхаду чытаем: «Матэрыял слоўніка — родныя (Сакольшчына) назвы раслін — вынік шматгадовых назіранняў аўтаркі... Слоўнік — сведчанне багац-

ця жывой народнай мовы. З арыгінальнага матэрыялу чытач беспамылкова ўяўляе: багатая наша лексіка, арыгінальная яе батанічная тэрміналогія».

Праца Зоські Верас складаецца з чатырох частак: уласна чатырохмоўнага слоўніка і алфавітных даведнікаў на польскай, рускай і лацінскай мовах.

Доўгі час (звыш сарака гадоў) «Батанічны слоўнік» Зоські Верас быў адзіным айчынным дапаможнікам у працы батанікаў. Але не толькі яны карысталіся гэтым багатым скарбам. Так, Уладзімір Караткевіч прасіў аўтарку даслаць яму слоўнік, бо надта патрэбны быў у ягонай літаратурнай працы.

Чым была гэтая, на першы погляд, невялікая кніжачка для самой Зоські Верас? Адказ — у анкеце, дзе аўтар, пісьменнік Уладзімір Ягоўдзік, з якім ліставалася Людвіка Антонаўна, пытае пра самы памятны дзень у яе жыцці. «Самы памятны дзень?.. Цяжка сказаць... Мо дзень выхаду “Батанічнага слоўніка”?..»

Зоська Верас, каго даследчыкі называюць руплівай працаўніцай беларускага Адраджэння, зрабіла ў сваім жыцці вельмі шмат. Пражыла ледзьве не стагоддзе. І з усяго немалога даробку на беларускай ніве выдзеліла менавіта гэтую сваю працу, якой прысвяціла каля дванаццаці гадоў.

З таго ж пустазелля, што само прабівае сабе дарогу на свет, жанчыне-Палеі асабліва часта даводзіцца размаўляць з пырнікам. Нельга не здзіўляцца і не захапляцца ягонай жывучасцю. Назве гэтай расліны, канешне ж, знайшлося месца ў слоўніку Зоські Верас: «Пырнік — perz rolnica — пырей — tritilum repens». Чаму па-беларуску гэткая назва — пырнік? У параўнанні з іншымі мовамі хіба найбольш адпаведна: гучанне перадае два кароткія, але трапныя, выразныя ўколы. Кожнаму, хто хоць калі меў справу з гэтым настырным, нахабным пралазам, зразумела — ад «пароць», «прапорваць». Зрэшты, насамрэч пырнікавыя адросткі зусім не вострыя і не цвёрдыя, а вельмі гнуткія, на дотык далікатныя, але і надзвычай моцныя. Іх немажліва разарваць.

Выпалю з градак пырнік.
З ранку і да цямна
гэтулькі працы пільнай
спорыцца...

Не, гэтая гарэзлівая, такая прыгожая ў сваім светлым, сонечным успрыняцці жыцця гераіня ранняй лірыкі Дануты Бічэль крыху перабольшыла, упэўненая ў сваёй здольнасці выпалаць пырнік. Самаўпэўненасць жаночая. Сёння выпалеш, а заўтра — ізноў утравее. І дачцэ, і ўнучцы хопіць. Бо знішчыць яго проста немагчыма. Бадай, няма ні аднаго такога ўедлівага, такога магутнага ў сваёй празе выжыць зелейка, як пырнік. Цягучы, гнуткі, як змяінае цела, ён ужываецца, уразаецца ў самую цвёрдую зямлю, прабівае, быццам іголкай, усё, што трапляецца на шляху. Бачылі калі-небудзь бульбіну, наскрозь прапоратую вострымі джаламі? Так будзе з усімі, хто на ягоным шляху ўстане.

Вось жа і расказвае мне пырнік, як цяжка жывецца яму ад самага пачатку, ад самага стварэння свету. Як груба, брутальна (сказалі б маладыя гарадскія беларускі, калі б ведалі, што такое пырнік і як з ім змагацца) выцягваюць яго цела з зямелькі, як рвуць, імкнучыся знішчыць. А ён вырашыў — выжыць. Апрануўся ў надзейную луску-плёнку, якая нават пад спякотным сонцам ахоўвае ягоную жыццёвую моцу. Дожджык палье ці нейкая жменька зямліцы прыкрые — і ён ізноў жывы, здаровы, новыя парасткі-галоўкі выпускае.

Самым страшным ворагам пырніку спрадвеку і была жанчына, Палея. Гэта яна цэлае лета шнырыць па агародзе, не дае беднаму спакою. Змаганне з пырнікам няпростае. Чым болей рве яго Палея, тым больш ён з зямлі вылазіць. Мая (мо не зусім непасрэдна мая, па крыві, а ў тым сэнсе, што таксама — Палея) у нейкай вялікай адлегласці прапрабабуля была цудоўнай казачніцай. Каб адпомсціць пырніку, казкі пра яго напрыдумвала. І атрымаўся ён там зусім не героем, а антыгероем, з якім змагаецца адважны вой. Цмок шматгаловы — гэта ж ён, пырнік, і ёсць. І скура ў яго што панцыр жалезны, не праб'еш, і жывучы. На пякучым сонцы ляжыць, высахне

ўшчэнт, прыкінецца, што мёртвы, а толькі кропне што з неба, ураз ажыве, распаўзецца ва ўсе бакі. Вырывай тады, ссякай галовы яму мячом-матыкай, а на гэтым месцы дзве вырасце. Спрадвечны бой! Вось і адпомсціла. Бо як жа інакш, як не словам, кабета адпомсціць?

Моцны супернік, што і казаць. Куды там аднагаловай лебядзе ды заўсёды сплаканай макрыцы! Апошнім часам нейкае новае зелле з'явілася, якога нашы прабабулі і не ведалі. Невыкаранялыіае, дзе з'явіцца, не пераможаш. У народзе яго ўжо амерыканскім назвалі. Хто ж яшчэ вінаваты ў нашых бедах, вялікіх і маленькіх, як не Амерыка?

Прыгожай Палеяй была Ларыса Геніюш. З ейных лістоў даведваемся, як шмат часу праводзіла на агародзе, на кветніку. Наогул, гаспадыняй была выключнай. Так міла чытаць у эпісталярнай спадчыне паэткі пра іх жаночыя, гаспадарскія рады з Зоськай Верас, як лепей тыя ж гуркі засольваць. А ў лістох да Юркі Голуба, які ў тым часе сталічным студэнтам быў, чытаем аб просьбах купіць насенне. Бо няпроста было ў той час у Зельве яго набыць. І як жа мне зразумела зусім не какетлівае, а такое шчырае, жаночае бедаванне шляхетнай пані Ларысы, калі з'явіліся нечаканыя госці, а яна з агарода выйшла. Прыгожая кабета — дагледжаная кабета, а з агарода выйшаўшы, асабліва дагледжанай не будзеш.

Відавочна, застаецца ў нас дзесьці, мо на самым дне душы, моцная повязь з зямлёю, з сялянскай працай, якая прарываецца, патрабуе выйсця. Зразумелае і блізкае мне прызнанне літаратуразнаўцы, паэткі з Баранавіч Алены Белай: «Дваццаць год жыву я ў горадзе, і ўсё ж ува мне выжыла беларуская сялянка, пераадолеўшы моду заехаць як мага далей і пасяліцца як мага вышэй ад роднай зямелькі».

Між мінскіх паэтак самая кветкавая, самая блізкая мне сёння Валянціна Аксак. Яе жыццёвую мудрасць, выпакутаваную, асвечаную ратавальнай ўсмешкай, нельга не прыняць. Але і прыняць няпроста. Навучыцца жыць між кветак, а не між людзей, не кожны здольны. Калі ж навука тая засвоена, прыйдзе ў душу супакаенне, а мо нават тое, што называем шчасцем:

Калі хочацца шчасця на дзень —
напіся віна.
Калі хочацца шчасця на тыдзень —
засмаж індыка.
Калі хочацца шчасця на месяц —
выйдзі замуж.
Калі хочацца шчасця на век —
гадуй кветкі
ў бацькавым садзе.

Толькі ніхто яшчэ раскошу чалавечых зносінаў не адмяняў. Таму шчасце адзіноты, шчасце між кветак — хутчэй прывід. Прыдуманае, створанае. Для паэтак якраз. Калі іншае не дадзена. Калі ён не можа разам з ёю кветкі гадаваць.

Міла даведацца, што і сярод яшчэ маладзенькіх нашых паэтак таксама сустракаюцца Палеі. Гараджанкі, але ўзгадаваныя бабулямі-прабабулямі ў беларускіх вёсках, яны не забываюцца на няпростую, але такую творчую навуку даглядаць зямельку, каб яна нарадзіла і прывабіла вока адначасна новай і спрадвечнай красой. Мала такіх. Але ёсць. Аксана Спрынчан, якая парадавала надзвычай цікавым і незвычайным творам «Беларускі дурань» з гэткім жа незвычайным вызначэннем жанру: «Жаноцкі раман і крыху гною», што быў змешчаны на старонках часопіса «Дзеяслоў». Не проста тварыць у класічным разуменні гэтага працэсу, але і *вы-твараць* цікавае імкнецца яе прыгожая сучасная гераіня: «Сёння рабіла дымавуху — паліла зялёную траву. А-ля наркаманскі занятак. Днямі была і наркаманская фотасесія: фатаграфавала паступовае раскрыццё маку. У кожным паўтоне раскрыцця бутонаў свая непадуладная разуменню прыцягальнасць, а кветка ў рэшце рэшт мяне не кранула. Галоўнае працэс».

І неаднойчы згадваецца мне Купалава яна — Палея з фальклорна-рамантычнай паэмы «Яна і я». У ягоных вачох яна заўсёды, пры кожнай працы была найпрыгажэйшай, бо найлепшым, найдасканалым упрыгожаннем, цудадзейным эліксірам для кабеты ёсць менавіта каханне. З якой любоўю і пяшчотай, як пра штосьці вялікае і важнае, апавядае герой

аб працы ягонай любай Палеі, не апускаючы ніякіх дробных момантаў, любуючыся яе спрытам, дакладнымі рухамі. Быццам не звычайную, па сутнасці даволі брудную і зусім не паэтычную працу робіць, а выконвае нейкае магічнае дзеянне, якое заварожвае і за якім закаханы мужчына глядзіць не адрываючы вачэй:

...Яна палола грады;
Благое зелле вырывала, кідала у пасцілку,
Дзе каліў не было, — дасаджывала там расады,
Там прарывала, дзе ўзышло загуста праз памылку.

Усё ў гэтай працы нагадвае таксама творчы працэс, бо і ўсё навокал спявае, і ў душы гераіні зараджаецца песня:

Чырыкалі над ёю верабейкі на чарэсні,
Нязгледна час ад часу вецер пралятаў крылаты.
І адазвалася мая палея сумнай песняй,
Такой, якую ў нас пяюць вясенным днём дзяўчаты.

Зрэшты, і імя гэтае, ласкавае, пяшчотнае, мяккае, — Палея — прыйшло ад Купалы. Як жа хораша прымерваць яго да сябе, шэпчучы свае радкі, полючы радочкі сваіх градаў.

Ці шчаслівым было вашае лета, мілыя сёстры Палеі?..

*Лета, 1996–2011*

# «Быць карыснай для беларускай справы»
## Паводле кнігі ўспамінаў і лістоў Зоські Верас

Кніга Зоські Верас «Пакуль рука пяро трымае: Успаміны, лісты» — надзвычай дарагі для мяне падарунак ад укладальніка, аўтара прадмовы і каментароў Міхася Скоблы.

### Ахвярніца

Як жыццёвае крэда ўспрымаюцца словы Зоські Верас, якія чытаем у лісце да Георгія Валкавыцкага: «Праз усё сваё жыццё, пачынаючы ад 1909 году, старалася быць карыснай для беларускай справы» (1966). Заўважым: пачаткам свае дзейнасці лічыла 1909 — год стварэння Гродзенскага гуртка беларускае моладзі, пра які сёння ведаем толькі дзякуючы ёй. Імкнулася перадаць беларусам тое, што ведала, бо разумела, як жудасна сфальсіфікаваная гісторыя, сведкам якое і непасрэднай удзельніцай яна была: «Трэба сьпяшыць падзяліцца зь людзьмі чым магу, бо мне ўжо 73 гады, ды яшчэ з паловаю!» — чытаем у тым жа лісце.

Дзіўлюся — не надзіўлюся з гэтае Людвікі Антонаўны. Толькі пра што даведаецца, прачытае дзе ці пачуе, адразу кідаецца на дапамогу, свае паслугі прапаноўвае. Быццам ніякіх справаў асабістых, неадкладных не мае. Ужо ў першым лісце да Паўла Алексюка ў 1915 годзе з Альхоўнікаў пытае: «Мо можна было б Вам памагчы ў Вашай працы». Прачытала ў «Нашай Ніве», што выбраны ён «паўнамоцным для Гродзеншчыны», адрас праз кагосьці знайшла.

А колькіх людзей яна, седзячы ў тым Панарскім лесе, між сабою пераznaёміла, колькім дапамагла. Хіба і не злічыць. Колькі лістоў напісала! Прыблізная лічба маецца. Падае яе і

Міхась Скобла ў прадмове: «Сама аўтарка пазней спрабавала падлічыць колькасць тых лістоў-успамінаў — выходзіла больш за 6000»... Ці будуць калі сабраныя?

Заўважыла нейкую блытаніну ў тых лістох. Так, 16 ліпеня 1966 года піша не першы (тое добра зразумела са зместу) ліст да Новіка-Пяюна, а 5 кастрычніка таго ж года просіць Валкавыцкага даслаць адрас таго ж Новіка-Пяюна. Мо даты няправільна расчытаныя?

Людвіка Антонаўна лічыла сваім абавязкам даносіць праўду, якую ведала. А часцей мела адзіную магчымасць — праз лісты. Пісаць ёй было вельмі цяжка: балелі рукі, доўга не магла сядзець. Але доўг свой спаўняла. Укладальнік абраў вельмі ўдалую, паказальную назву для кнігі, у якой якраз і адбілася ахвярнае служэнне той Беларусі, якую імкнулася адрадзіць. Знаходзім шмат іншых радкоў, дзе піша пра неабходнасць адгукнуцца да кожнага: «Маю каля 40 лістоў, на якія не адказала, а людзі чакаюць. Трэба хоць коратка кожнаму напісаць, пакуль зямля трымае».

Так і працавала, пакуль зямля трымала, пакуль цемра не засланіла свет.

## Ён пяяў...

У многіх лістах Максім Багдановіч — галоўны герой.

Пра Людвіку і Максіма напісана вельмі многа. Здавалася б, што можна яшчэ новае для сябе знайсці? Але знайшлося! Новы вобраз паэта паўстаў перад маімі вачыма.

Ці чыталі Вы дзе пра тое, што Максім Багдановіч спяваў? Калі ва ўспамінах сястры Бядулі, што былі змешчаныя ў артыкуле Ізідара Нісневіча «Максім Багдановіч і музыка» («Полымя», 1969, № 10), не верце. Мана. Не маё гэта слова. Так Людвіка Антонаўна пратэставала супраць тае няпраўды, што разыходзілася пра Максіма з Бядулевай сям'і. Не мог ён разам з іншымі пяяць цэлымі вечарамі, бо «гэта ж было на 2–3 месяцы перад сьмерцю! У яго ж і лёгкіх амаль не было! Ён і гаварыў

ледзь-ледзь». Ды і не было ніколі ў доме Бядулі на тых вечарах Максіма.

Але ўсё ж ёсць адно сведчанне, якое даносіць да нас вобраз Багдановіча, які спявае. Сведчанне, якому не верыць нельга. Бо назаўсёды засталося ў памяці Людвікі Сівіцкай.

Было тое позняй восенню 1916 г. у дзіцячым прытулку ў Ратамцы. Пасля спектаклю, што паставілі беларускія дзеці, госці з Мінску вырашылі праспяваць некалькі песняў.

«Пакой быў даўгі, асветлены 2-мя лямпамі. У самым канцы пакою пад вокнамі сабралася наша група...

Сьветлай плямай выдзялялася высокая фігура Максіма. Ён быў у белай вышыванай кашулі, падпяразаны прыгожым паяском.

Зазьвінела песьня "Рабіна, рабіначка, рабіна мая...". Я глянула на Максіма — ён пяяў...».

Мо не столькі голасам, які быў вельмі слабым, спяваў Максім, а душою, радуючыся разам з усімі таму, што пабачыў, што быў у сябрыне па духу.

І яшчэ — Максім у вышыванай кашулі. Толькі адзін раз быў ён так апрануты. Адкуль тая кашуля? Мо са скрыні Зямкевіча (вядомая, вельмі непрыемная гісторыя). Падаецца, надта далікатны Максім не апрануў бы ўзятую адтуль рэч. А мо вышываная была менавіта для яго нечымі клапатлівымі рукамі? Мо тая кашуля навеяла верш «У Максіма на кашулі вышыты галубкі...»? Няма дакладнае даты напісання гэтага твора. Ці, наадварот, верш падказаў вышыць кашулю для Максіма...

Калі рыхтаваўся фільм пра Багдановіча, Людвіка Антонаўна вельмі перажывала, што робяць яго «чужыя рукі». «Дзікавата» ёй было слухаць іх чужую мову. Пісала Арсеню Лісу: «Можа, яны і зацікаўленыя гэтай працай і адносяцца сумленна, але сэрца, хіба, не ўкладаюць». А яна сэрца ва ўсе беларускія справы ўкладала. Асабліва, калі йшлося пра паэтаву памяць. Увесь час пра гэты фільм думала. Сама яго стварала: «Мне так проста сьніцца кадр — Максім у Ратамцы. Бо ён там адзіны раз быў у белай вышыванай кашулі».

## Пра Гальяша Леўчыка

Успаміны Зоські Верас пра Гальяша Леўчыка вядомыя з 1980 г., ад часу выхаду кнігі «Доля і хлеб». Былі яны раней у ЛіМе, у 1977 г. Нагадаю пра альбом Людвікі для вершаў, куды і Леўчык упісаў свой трыялет. Трыялетаў тых захавалася да болю мала. А было ж каля паўтары сотні (у розных крыніцах розныя лічбы), на цэлую кнігу «Мудра прыгаворка — соладка і горка», якая страцілася, бо выдадзеная не была. У тым трыялеце — мудрасць, успрынявцце смерці як натуральнай з'явы, што ад чалавека не залежыць, а жыцця — з дзейсным аптымізмам (недарэмна ж з клічнікам), бо яшчэ якая няпростая гэта «штука» — зрабіць жыццё вартым, патрэбным, не змарнаваць яго:

Умерці ня штука, а што жывем! —
Так розум нам гамоніць.
І так калісь у пяску згніем...
Умерці ня штука, а што жывем!

Што Людвіка Сівіцкая заўсёды цікавілася раслінамі роднае зямлі, збірала назвы на беларускай мове, вядома, што яе «Батанічны слоўнік» быў выдадзены і перавыдадзены, яшчэ як вядома. А намовіў сабранае апрацаваць і слоўнік выдаць Гальяш Леўчык. Пра гэта напісаў у лісце да *залатое сястронкі* ад 7 мая 1915 года: «Прыйшло мне ў галаву, што ў Вас можа стварыцца словазборык (слоўнік) беларускіх лекарскіх зёлак. Ну, ведама, не цяпер — калісьці. Добра будзе ведаць, як кожная зёлка па-нашаму завецца».

У лісце паэта ад 1 сакавіка таго ж года выказаны шчыры клопат патрыёта пра будучыню беларускае справы. Моцна хвалявала яго, што ж будзе з Краем па вайне. Хоць вельмі перажываў, але аптымізму пазбаўлены не быў: «Трэба бачыць шмат — шмат тых гор і каменьняў, што нам будуць спатыкацца па дарозе. І я бачу і прадугадаю — і ня падаю духам, а цярпліва, зь сьветлым узорам на будучыню, падаахвочваю другіх і гарну зярнятка як магу да агульнай нашай беларускай скрыні з воклікам: "Жыве Беларусь — духам старэнька,

а сэрцам маладзенька!”» Сёння гэты вокліч цалкам цытуецца даволі часта.

Былі гэтыя ўспаміны без скаротаў надрукаваныя ў мала даступным «Куфэрку Віленшчыны» ў 2003 годзе.

## Ізноў — доктар Ярэміч

Памятаеце, шаноўныя, дзе сустракалі гэтае імя? Так, гэта ён, той вядомы пецярбургскі фундатар, што ахвяраваў сродкі на выданне Купалавай кнігі «Шляхам жыцця», пра што кожны выкладчык, чытаючы лекцыю пра паэзію Купалы, студэнтам тлумачыць. На кнігу беларускага паэта, а не на кнігу Сяргея Ясеніна. Быццам перад такім выбарам стаяў шаноўны доктар.

Алесь Пашкевіч у рамане пра Уладзіміра Дубоўку «Круг» згадвае пра гэта. Асабліва не спадзеючыся на абазнанасць чытачоў, тлумачыць вуснамі рускага паэта. Мяркую, недарэмна. Бо хіба адзінкі без тлумачэння тое зразумелі б. Ясенін «лёгка стукнуў Дубоўку па сьпіне, падміргнуў яму:

— Ты, гэта... Купалу скажы, што я на яго не крыўдую! — і, пабачыўшы Дубоўкава неўразуменьне, блытана патлумачыў прычыну сваёй магчымай “крыўды”: у 1913 годзе ў Піцеры ён займаўся ў народным універсітэце імя Шаняўскага. Тады ўжо пасьпеў падрыхтаваць першы зборнік “Радуница”. Знайшоўся фундатар — доктар Аляксандр Ярэміч, дырэктар Елісееўскай бальніцы. На фінансаваньне яму прапанавалі дзьве кнігі: “Радуницу” і “Шляхам жыцьця” Янкі Купалы. Доктар-фундатар аддаў перавагу Купалавай. А “Радуница” зьявілася праз тры гады».

Зоська Верас згадвае гэтае імя, калі піша пра Родзевічаў. Між трох кіруючых сяброў камітэта Таварыства дапамогі пацярпелым ад вайны ў Пецярбурзе першым называе яна доктара Ярэміча. Міхась Скобла ў каментарох дапаўняе: лекар, доктар медычных навук, і падае даты жыцця: 1876–1920. Усяго 44 гады пражыў на свеце.

## Здрада

Што Зоська Верас лічыла здрадай? Адрачэнне ад роднае мовы. Гэта ёй балела найбольш.

У лісце ла Арсеня Ліса, якому давярала, перадае свой клопат пра даўняга знаёмага, сябра ГГБМ Зыгмунта Абрамовіча. Гаворыць пра ягоны магчымы прыезд у Беларусь. Ведала, што мала хто тут свае мовы трымаецца, таму давала сябру катэгарычны наказ: «Не паддайся, не выступай па-расейску. Гэта была б здрада гуртка і нас, старых беларусаў. Калі б я аб гэтым даведалася, то тады — аман, больш ад мяне лістоў не спадзявайся». Адыход ад ідэалаў маладосці лічыла недаравальным.

Таму ж Арсеню Лісу вельмі даверліва апавядае пра віншаванні з днём нараджэння. Сёння гэтыя «сакрэты» раскрываюцца: «Мушу Вам *пад сакрэтам* прызнацца, што некаторыя зрабілі непрыемнае ўражанне. Чаму гэта нашы нават найлепшыя людзі так баяцца сваёй мовы? Вось пералічу: ад Караткевіча, Пяткевіча, зь бібліятэкі рэдкай кнігі, ад асьпіранткі Раісы Шчарбіной — даўгія тэлеграмы па-беларуску...». Называе двух знаных пісьменнікаў, ад якіх — па-расейску. І сваё адчуванне: «Проста забалела...».

У лісце да Міхася Забэйды выказвае павагу да літоўцаў, якія шануюць сваё, і з сумам паведамляе: «У Менску ў літаратурным асяродзьдзі ёсьць шмат сем’яў, дзе пішуць, твораць па-беларуску, але паміж сабой гавораць па-расейску. А ёсьць і такія “дзеячы”, што па-беларуску гавораць толькі за зачыненымі дзьвярамі, але на вуліцы сваёй мовы не ўжываюць». Нішто не змянілася з тых часоў.

Штоbecause разу, атрымліваючы лісты ці паштоўкі па-руску, чулася абражанай. З бухгалтэрыі Саюза пісьменнікаў ліст па-руску. Як такое можа быць, выказвае яна недаўменне, што «з Саюзу Беларускага напісалі па-руску»? А нат калі адрас не па-беларуску напісаны быў, таксама ёй абыходзіла. З разуменнем ставілася да тых, каго з дзяцінства ад Радзімы адарвалі, хто не мог удалечыні мову засвоіць. Як да Лёсікавых дзяцей.

Таму з глыбокай павагай ставілася да Ніла Гілевіча, цалкам падзяляючы ягоны клопат пра мову.

Вяла праўдзівую вайну супраць скалькаваных назваў раслін, птушак. Вучыла ўжываць свае спрадвечныя словы. Пісала пра гэта і пісьменнікам, і ў рэдакцыі.

## «Сьняцца...»

«Заўсёды хадзіла свамімі дарогамі», — выкарыстаўшы вядомы фразеалагізм, Зоська Верас пісала, каб падкрэсліць, што заўсёды была вернай праўдзе, якую ведала, што заўсёды будзе шанаваць людзей, якіх у савецкім часе ашальмавалі. Будзе змагацца, каб імёны іхнія не зніклі.

Мне ж падаецца магчымым напоўніць гэтыя яе словы і іншым зместам: заўсёды хадзіла пані Людвіка сцежкамі-дарогамі роднае Сакольшчыны. Хай нават з'ехала адтуль і ніколі больш не вярнулася. Памяць вяла яе туды.

У многіх лістах Зоська Верас згадвае мясціны сваіх дзядоў, самыя ўлюбёныя, самыя памятныя: «Тры вярсты ад Новага Двара ў бок Кузьніцы знаходзіўся фальварак майго дзеда — Альхоўнікі». Тлумачыць, што Вільня, дзе давялося пражыць многа дзесяцігоддзяў, роднай так і не стала. Зусім іншыя стасункі з Сакольшчынай, непасрэдную сувязь з якою страціла, але памяць пра мінулае жыла ў яе душы нязводна. Вярэдзіла гэта сэрца яшчэ і таму, што нікога з іх радзіны ўжо не было на свеце. За ўсіх несла ў сабе памяць роду: «Адзіная астаўшаяся з нашчадкаў сям'і Садоўскіх, часта думаю аб маіх дзядах і ў думках наведываю як мейсца іх апошняга спачынку, так і дом у Альхоўніках».

Светлым адхланнем для Людвікі Антонаўны было ліставанне з Казімірам Грынкевічам з Новага Двара. Пісала да яго вельмі цёплыя, шчырыя лісты. Ён быў пляменнікам ксяндза Францішка Грынкевіча, заснавальніка ГГБМ. Шчыры беларус, у тым часе адзіны на ўсё мястэчка. Ягоная цётка, Юзэфа Фалькоўская, была сябрам гэтага гуртка, падтрымлівала сувязь з Зоськай Верас. Менавіта ад яе даведалася пісьменніца, што Казімір даглядае магілу яе дзядоў. Гэтая навіна яе вельмі ўзрушыла. У лісце выказала шчырую ўдзячнасць да гэтага незнаёмага чалавека: «Вялікае і гарачае Вам за гэта дзякуй!»

Гэты ліст, дасланы спадару Казіміру ў 1974-м, перадае яе стан: «Не паверыце, зь якім хваляваньнем пішу гэты ліст! Ужо сам факт, што паедзе ён у Новы Двор, моцна мяне ўзрушыў. Каб не граніца, ну і не мае гады, зь якой радасьцю паехала б я адведаць дарагія мейсцы!..» З Сакольшчынай звязвала Зоську Верас і памяць пра дзейнасць ГГБМ. Часта згадвае, што менавіта адтуль паходзілі многія актыўныя сябры гуртка: «З Сухаволі паходзіў Адольф Зянюк. Там было яшчэ шмат іншых сьвядомых беларусаў».

Перажывала, што «цяпер гэты куток, разам з Новым Дваром, зусім астаўлены на долю лёсу. Беластоцкая беларуская арганізацыя топчацца толькі каля Гайнаўкі ды крыху — каля Белавежы. А далей — ні носа. Хіба таму, што каля Гайнаўкі і часткова Саколкі ёсьць шмат беларусаў — праваслаўных, а каля Сухаволі, Новага Двара — пераважна каталікі. Вось яны, мусі, і не патрэбныя, імі не варта займацца».

Родныя мясціны так і не адпусцілі Людвіку са сваіх абдымкаў. Прызнавалася яна: «І цяпер яны мне сьняцца...».

## Людвіка — унучка Людвіка

Заўсёды ведала, што дзядуля пані Людвікі, гаспадар Альхоўнікаў Садоўскі, меў гэтае імя — Людвік. Але ніколі не давялося мне паставіць тыя імёны побач, як тое зрабіла сама пісьменніца, падпісваючы ліст, які адаслала на недасяжную для яе, старэнькай і хворай, Радзіму, што, да таго ж, апынулася за мяжой.

«Людвіка Войцікава (зь Сівіцкіх, унучка Людвіка Садоўскага)», — усе свае прозвішчы сабрала, каб ведалі адрасаты, хто ім піша. А ліст пісала, каб падзякаваць за памяць пра яе дзядоў. Каб выказаць, якою дарагою была для яе тая мясціна: «Альхоўнікі заўсёды, дзе б я ні была, былі для мяне дарагім мейсцам — быццам Бацькаўшчынай». «Быццам», бо нарадзілася далёка, на Украіне, у мястэчку Меджыбож, дзе нёс службу яе бацька, але самае светлае з дзяцінства звязана

менавіта з Сакольшчынай. Ды і пазней сюды давялося пераехаць ёй з маці з Мінску, тут нарадзіўся яе сын Антон, адсюль з'ехала ў Вільню. Назаўсёды.

Думаецца зараз: мо і назвалі яе ў гонар дзядулі?

## Ліст-споведзь

Ён змешчаны адным з першых. Да Ванды Лявіцкай — блізкае сяброўкі далёкае маладосці. Часткова публікаваўся Уладзімірам Содалем у «Нашай Ніве». Увесь яе жаночы лёс адбіты ў тым лісце. У самым пачатку перададзены цэлы вір пачуццяў: «Цэлы гэты тыдзень, як атрымала Твой ліст, хаджу як адурэўшая ад радасьці, а нават шчасьця. Ці я спадзявалася, што яшчэ ў жыцьці буду мець з кім падзяліцца і думкамі, і радасьцю, і горам?»

Сама аўтарка назвала той ліст споведдзю. Можа здзівіць яе няўпэўненасць у пачуццях блізкае калісь сяброўкі, яе страх: «Крыху баюся, што асудзіш мяне, а мо і прыязьнь Твая да мяне аслабне». Ідзецца тут пра справы сардэчныя. Гісторыя гэтая вядомая. Зразумела ж, што боязь Людвікі Антонаўны была дарэмнай.

Бадай, гэта самы кранальны, самы глыбока інтымны з усіх лістоў. Толькі да Ванды Лявіцкай падпісвалася аўтарка — Твая Люда. Нідзе больш не сустрэнем такога подпісу. Відаць, звалі яе Людай сябры ў тых далёкіх дзясятых гадох. Пазней, калі дарагое сяброўкі не стане, будзе пісаць да яе дачкі Алесі — Твая цётка Люда. Гэтак жа — да мужавай пляменніцы, беларускай настаўніцы Валянціны Войцік.

## Як доўга!..

У лісце да Вацлава Ластоўскага, які датуецца 15 верасня 1921 года, а друкуецца ўпершыню (дарэчы, ні адзін ліст з ранейшае кнігі, як пазначае тое Міхась Скобла, не паўтараецца), чытаем: «Маю цэлы зборнічак вершаў і твораў белетрыстычных, а што мне зь іх? У цяперашнія часы паэзіяй не цікавіцца ніхто». Факт для мяне невядомы. Не тое, што паэзіяй не

цікавіцца ніхто. Ёю заўсёды цікавіліся нямногія. А што ўжо тады кніга магла б быць.

Ізноў жа: якая ахвярнасць дзеля іншых. Кнігу зняволенаму Міхасю Машару выдала, пра што паэт нават не ведаў. Падаравала, калі з турмы выйшаў. Дзіцячыя часопісы «Заранка» і «Пралеска» выдавала, «Беларускую борць» для пчаляроў рабіла. А сваю кніжку сама так і не выдала. Ажно пакуль не зрабілі гэта нашы пісьменнікі, шануючы апошнюю нашаніўку, у Саюз яе запрасіўшы.

Сталася гэта толькі ў 1985 годзе. Выйшлі нарэшце яе «Каласкі». Мяркую, што ў назве, што адпавядае эстэтыцы нашаніўскай, апроч многіх іншых сэнсаў, захаваны і «Колас беларускае нівы» — альманах Гродзенскага гуртка беларускае моладзі. Каласкі з таго коласу.

Як доўга, ажно шэсцьдзясят чатыры гады, чакала яна сваю адзіную мастацкую кнігу...

## Адна з сотні

У бібліятэцы беларускага аддзялення ГрДУ, якую ў гэтым годзе расфармавалі: навошта тут бібліятэка? — ёсць гэтая кніжачка з аўтографам Зоські Верас. Вельмі я гэтым ганарылася. Прасіла бібліятэкараў, каб на рукі студэнтам надоўга не давалі, бо нават з факсімільнага «Вянка» вершы павыразалі.

Спытала ў Аляксея Міхайлавіча Пяткевіча, адкуль гэты музейны экземпляр. Адказ быў прадказальны: праз яго ў бібліятэку і трапіў.

З ліста Людвікі Антонаўны даведваемся: перадала ў Мінск грошы «купіць “Каласкоў” цэлую сотню, каб хапіла разаслаць школам і знаёмым». А пасля ўсе тыя кніжкі падпісала, каму паслала, каму перадала.

Адну з сотні — нашаму ўніверсітэту.

## «Зьмілуйцеся!..»

Лепш ужо, калі тутэйшыя «рускія» кажуць, што не разумеюць, што такое гарбата, чым «прасунутыя» беларусы ў першым

аднаўленым пакаленні пачынаюць даказваць, што гарбата з зёлак, а чай з чаю. Таму правільна — чай. Вось жа, знайшла ў лісце да Георгія Валкавыцкага просьбу-заклінанне Людвікі Антонаўны: «У мяне да Вас вялікая, вялікая просьба: калі будзеце што папраўляць (гэта Ваша рэдактарскае права), то зьмілуйцеся — не зьмяняйце гарбату на чай і ліст на пісьмо! Паверце, я страціла шмат часу на студыяваньне цэлай кучы старых лістоў да мяне ад розных асоб з розных куткоў нашай Бацькаўшчыны, пісаных чыстай, прыгожай мовай, і трымаюся гэтай мовы з усёй сілы».

Усё зразумела? Мяркую, з самай знакамітай зёлачніцай спрачацца не будзеце.

## Гнеў на літасць

Была Людвіка Антонаўна асобай, што вельмі праймалася ўсялякаю няпраўдай, імгненна загаралася, перажывала, пратэставала. Колькі такіх пратэстаў знаходзім у яе лістах!

Здавалася, ужо ніколі таму чалавеку, што няпраўду напісаў, і не даруе. Што не будзе ліст лагодным, пазнавалася адразу — па звароце. Так, да знаёмага Алеся Бачылы, які яе наведваў, раптам звяртаецца *Паважаны грамадзянін*. Паважаны — гэта нязменна. Тлумачыць тыя прыкрыя памылкі, непаразуменні, якія зрабіў ён у сваім тэксце ў «Маладосці». Ды нядоўга трывала яе злосць. У хуткім часе паразумеліся, відаць, перапрасіў, паабяцаў, што выправіць. Ізноў стаў — *Паважаны Аляксандр Мікалаевіч*, да якога піша з пашанай і шчырасцю. І тут раптам ліст, які пачынаецца незвычайна. Столькі ў тым пачатку роспачы: «Ах, Аляксандр Мікалаевіч, што мне з Вамі рабіць?» І праўда: што рабіць з чалавекам, пісьменнікам, які ў кнігу сваю перанёс «артыкул з “Маладосці” так, як ён быў, — без ніякіх паправак!»

Цярпліва, але настойліва ізноў даводзіць адрасату, у чым памылкі, пералічвае іх па пунктах. Ажно шэсць назбіралася. Ды і сёмы. Пра некарэктнасць аўтара. Не без крыўды, але цалкам карэктна: «Скуль Вы ўзялі мой фотаздымак? Ай, ай, ай... І не запыталіся мяне аб згодзе на публікацыю...».

Але і гэта было даравана. Людвіка Антонаўна ўмела змяняць гнеў на літасць.

Ізноў пісаліся лісты да *Паважанага Аляксандра Мікалаевіча*...

## Звароты

Наогул, звароты — гэта асобная тэма ў лістах Зоські Верас.

Да большасці адрасатаў мусіла звяртацца па імені і па бацьку. Менавіта мусіла, бо нямілым быў ёй такі зварот, але была вельмі далікатнай. Праўда, у лісце да Аляксандра Бабіча з'іранізавала: «Самой доўга язык не паварочваўся, каб людзям гаварыць «па бацьку». Wleiesz między wrony, krukaj jak i one. Але што зробіш. Шмат хто з бліжэйшых знаёмых стараецца, пішучы да мяне, гэтую *Антонаўну* абмінуць (называюць — *Зоська Верас*, але такіх чуткіх мала». Сама ж была надзвычай чуткай.

Але ў лісце да Арсеня Ліса, скіроўваючы таго да Казіміра Грынкевіча з Беласточчыны, папярэджвае: «Калі б Вы... спасылаліся на мяне, калі ласка, не пішыце аба мне па імені і па бацьку. Для яго гэта дзіка, чужы звычай. Шчыра кажучы, для мяне — таксама...». Шчыра кажучы — далікатны намёк, што мо і ён бы так не звяртаўся. Але надта тое ўелася ва ўсіх нас, з самага дзяцінства, са школы ці нават з садка. Ужо нейкая непавага, падаецца, засвеціцца, калі тое *па бацьку* не далучыцца. Добра, што хоць у нашым асяроддзі крыху да беларускіх зваротаў павярнуліся.

Да некаторых пісала так, як ёй найлепей, — *пане*. Не да мінчукоў. У Мінску, ведала, гэта не прынята. *Пане* — звярталася да тых, хто жыў у Польшчы (да Юрыя Туронка), да віленчукоў (Валянціна Стэха), да маладзейшых у Гародні (Міколы Таранды, Ігара Котава), якому аднойчы заўвагу, па ейнаму — *увагу,* далікатна зрабіла: «Дзякую, што пішаце *пані Людвіка,* але нашто тады *Антонаўна*».

У лісце да Алеся Траяноўскага нават прыпіску зрабіла: «Яшчэ за адно забылася падзякаваць — за зварот не "па бацьку

ку”, што я лічу звычаем ня нашым і вельмі не люблю». Вельмі паказальная прыпіска.

Ведала, якім зместам за савецкім часам напоўнілі прапагандысты, ды і пісьменнікі, гэты зварот. Разумела, што вярнуць яго ў актыўны ўжытак будзе вельмі няпроста. У лісце да Уладзіміра Содаля даверліва папярэджвала: «Яшчэ вярнуся да слова *пані*. Ня ведаю, ці Вам варта пачынаць прапаганду за гэты зварот. Сьцягнеце на сябе непатрэбнае падазрэньне». Шанавала сваіх сяброў, перажывала, каб непрыемнасцяў не мелі. А да Уладзіміра Содаля заўсёды вялікай прыхільнасцю ставілася, *Даражэнькім Уладзімірам Ільічом* часам называла. Далей у тым лісце прыводзіць вельмі цікавую, але мала вядомую прадгісторыю напісання даволі вядомага апавядання Якуба Коласа «Калектыў пана Тарбецкага». З крыўдай і болем пра гэта піша. Бо добра ведала таго, каго Колас так зняважліва назваў і такім непрывабным у творы паказаў. «І гэта — Колас...» — у канцы ліста. Шмат за шматкроп'ем прачытаем.

Вельмі любіла пані Людвіка даўнія беларускія звароты, якія нашаніўцы актыўна выкарыстоўвалі — *цётка, дзядзька*. Ліст да Аляксандра Бабіча, а звяртаецца да яго *Дарагі Дзядзька Алесь*, пачынаецца незвычайна, узрушана: «Аж мне сэрца падскочыла, калі я прачытала зварот *цётка Людвіка*. Быццам у старыя часы вярнулася. У часы маладосьці, інтэнсіўнай працы». Просіць яго: «Калі ласка, не называйце мяне Людвікай Антонаўнай. Страх, як я гэтага не люблю».Шанавала і вельмі рэдкія ў савецкія часы звароты *спадар, спадарыня*. Ад Фёдара Янкоўскага, знанага мовазнаўцы, імкнулася выведаць: «А як Вы прыймаеце словы *спадар, спадарка* або *спадарыня?*» Відаць, чакаючы станоўчага стаўлення. Паведаміла яму далей, што мае карэспандэнта з Новага Двара: «Ён ужывае гэтыя словы, піша да мяне: *дарагая спадарка*, ну і я яго ўзаемна *спадаром* называю». Ізноў пра Казіміра Грынкевіча йдзецца, якога вельмі паважала.

Калі думаю пра юную Людвіку, звяртаюся да яе *Мілая Людвіка,* калі пра дарослую — *Спадарыня, Пані*. Але не магу мінуць і *Людвіку Антонаўну.* Увесь час на памяць прыходзіць аповед Міхася Скоблы пра *дзвюх Антонаўнаў*: Войцікаву

і Геніюш. Хіба ён першы іх так, па-бацьку, побач паставіў. З вялікай павагай. Таксама хораша.

### Папраўляць саму Людвіку Антонаўну,

зразумела, не вельмі карэктна. Яе даволі катэгарычнае «Я помню ўсё», што Міхась Скобла зрабіў назвай ранейшае кнігі ўспамінаў і эпісталярыю, — амаль праўда. Але ж чалавечая памяць, мо і не на жаль, часам нешта з'іначвае, часам апускае. Ды і сама Людвіка Антонаўна неаднойчы ў лістох піша: пра тое не памятаю. Ці вельмі эмацыйна: «А я, хоць забіце, гэтых прозвішчаў не помню». Таму не папраўляць, а ўдакладняць патрэбна, што ўкладальнік і робіць вельмі тактоўна. Так, калі аўтарка перанесла Радзіму Адама Ягоравіча Багдановіча на сваю ўлюбёную Гарадзеншчыну, то ў каментарох пададзена дакладнае месца: мястэчка Халопенічы Барысаўскага павета (Міншчына).

Дазволю сабе ўдакладніць і каментар. Людвіка Антонаўна піша, што Лявон Дубейкаўскі «жаніўся з сястрой нарэчанай Івана Луцкевіча з дому Мэнке...». Міхась Скобла, ведаючы факты, каментуе не зусім дакладна: «Маецца на ўвазе Юльяна Мэнке (Вітан-Дубейкаўская; 1886–1970) — мастацтвазнаўца, грамадская дзеячка, мемуарыстка». Ужо з таго, што ў дужках пазначана прозвішча Юльяны — Дубейкаўская, зразумела: менавіта яна, а не яе сястра, стала жонкаю вядомага архітэктара. Юльяна Мэнке была з Іванам Луцкевічам да ягонае апошняе хвіліны, да споведзі намовіла, вочы свайму каханаму закрыла, пахавала. Было тое ў вядомым курорце Закапаным. Пазней яна выйшла за Дубейкаўскага. Так праз лёс гэтае жанчыны перасекліся жыццёвыя шляхі двух знаных беларусаў.

### Вельмі шкада

Пані Людвіка — яшчэ адна наша амазонка. Да болю шкада, што амаль нічога пра гэта не ведаем. Як і пра іншых. Пра тую ж Алаізу Пашкевічанку. Толькі ў лістох асобныя згадкі знаходзім. Так, да Арсеня Ліса піша: «Ездзіла — заўсёды адна

(бяз фурмана). Любіла коней ад дзяцінства — да вар'яцтва. Бывала і на кані, і пад канём. Кіравала і адным, і парай. І насілі мяне, і розныя прыгоды перажывала». Коратка, штрыхамі, але столькі за кожным сказам зместу, невядомага нам.

Якія прыгоды? Што ў тых адзінокіх вандроўках здаралася? Каго сустракала? Якія нягоды мела? Нідзе пра тое не напісала.

Можна толькі ўявіць, як нясецца па лясной дарозе юная Людвіка-вершніца, а ўслед ветрам хваляю ўздымаюцца і сплываюць яе рассыпаныя па плячах валасы. І хто ж гэта ёй дарогу перагарадзіў? А конь, ды і вершніца, нат і не думаюць спыняцца, лятуць на злом галавы...

Як жа маці гэтае юнае паненкі яе адну адпускае? Няўжо не баіцца за дачушку? Зразумела, баіцца. Згадвае і пра гэта: «Мама трывожылася за мяне, а дзед супакоіваў: "Нічога, дасьць рады. Коні яе знаюць і любяць"».

І сама пані Людвіка пра тое, што нідзе не напісала пра свае даўнія прыгоды, шкадавала. Адумалася, паклікала, каб занатаваць, каб засталося. Вельмі позна і сама зразумела, што трэба было б і гэтым з людзьмі падзяліцца. Бо гэта раскрывае чалавека, асобу з іншага, вельмі цікавага боку. Занадта многа Зоська Верас аддавала сябе грамадскім справам. Згадваючы мінулае ў бяссонныя ночы, прыходзіць да высновы, што трэба расказаць сваю «жывую» аўтабіяграфію. Выбрала дзеля гэтага Сяргея Панізніка. Даверліва піша да яго: «Я Вам дала сваю аўтабіяграфію, яна да драбнейшых дэталяў праўдзівая, але гэта ўсё помняцца пражы ды павукі. А дзе маё дзяцінства? Дзе розныя замілаваньні маладосьці? Хто ведае, што я, дзяўчына, была апантаная коньмі? Сколькі прыгодаў перажыла... Нават небясьпечных. Ды ці гэта адно?» Але...

Вельмі-вельмі шкада мне, што не ўведаем...

## Апошні раз

Відаць, тады, 30 лістапада 1986 г., Людвіка Антонаўна апошні раз была між віленскай беларускай грамады. У Лясной хатцы святкавалі ўгодкі «Нашай Нівы». Яе, Жывую Гісторыю, гаспадыню, не маглі не паклікаць. Яна, Вялікая Ахвярніца, не

магла не выйсці да людзей, хоць і пачувалася вельмі блага. І як яе прывіталі? Як ушанавалі? Уладзіміру Содалю, чалавеку адносна староннняму, далёкаму ад віленскіх беларускіх справаў напісала пра тое, асабліва не ўдаючыся ў непрыемныя для яе падрабязнасці: «Я крышку расказала аб сваёй сувязі з "Н[ашай] нівай", а пасля ўжо — самі, г. зн. Лявон павёў далейшае спатканьне. Было даволі шмат беларусаў, пераважна новых у Вільні — мастакоў, пісьменьнікаў, паэтаў і г. д.». І дадае: «Я хутка зрэзыгнавалася, бо дрэнна чулася, нават на гарбатцы не была, бо са сваім страшэнным катарам не хацела быць крыніцай грыпы».

А вось свайму, віленчуку Валянціну Стэху, выказала непаразуменне, боль, не асабліва хаваючыся за эўфемізмамі, вылучаючы ў лісце словы: «Мяне прынялі, далікатна кажучы, дзіўна. Ніхто ня ўстаў, ніхто не прывітаўся — нават знаёмыя, зь якімі не адзін раз спатыкаліся, нават такі Жамойцін... Я крыху зласьліва сама пачала вітацца — думала, што *дойдзе* да людзей іх непрыстойнасьць. Але ж не — не дайшла. Шчыра кажучы, такое мне за маё даўгое жыццё *першы раз* здарылася. Відаць, атмасфэра была загадзя падгатаваная: *старая, глухая, мала што разумее...* Але ўсё ж — забалела». Балюча чытаць і нам.

Узгадоўвалася, маладосць і пазнейшыя гады правяла Людвіка Антонаўна ў іншым асяроддзі. Не разумела яна, што тае Беларусі, пра якую марылі нашаніўцы, яшчэ няма (і ці будзе?), тых беларусаў, шляхетных, ветлівых, што шануюць старасць, шануюць жанчыну, даўно няма. Не тое, што не ўстаць, калі жанчына заходзіць, а нат не прапанаваць ёй сесці, самому ў тым часе рассеўшыся, сталася для большасці звычкай. Асабліва непрыемна, калі гэта людзі не з уладных кабінетаў, а быццам нашы, з нашае беларускае грамады.

Як я яе разумею!..

## Адзін боль

Ледзьве не ў кожным лісце наракае Людвіка Антонаўна на хваробы, на боль, што амаль не адпускае. Бо піша да людзей блізкіх. Але тут жа схамянецца і перавядзе гаворку: гэтая тэма нецікавая, неяк будзе...

З болем жыла ўсё жыццё. Была хворай з дзяцінства. Перанесла некалькі аперацыяў. Рана страціла слых.

Верыла ў гаючую сілу зёлкаў. Ведала іх, як мала хто. Усім раіла, што і ад якое хваробы прымаць.

Верыла, што трымае яе на зямлі, з маленства нямоглую, зямля, на якой жыла ў літаральным сэнсе, бо ўсё жыццё працавала на агародзе, у садзе, на кветніках.

Так здарылася, што ейнымі лекарамі, праўда, у асноўным па перапісцы, былі гарадзенцы. Ім давярала. Першы Мікалай Марцінчык. Скардзілася яму ў канцы ліста: «Пішу, стараюся забыцца аб сваіх болях. Ня ведаю, ці гэта радзікуліт, ці што іншае, але баліць крыжавіна, пад рэбрамі, рэбры і г. д. Ужо ня ведаю, што з гэтым рабіць. Проста ўся — адзін боль». Быў гэта толькі 1978 год. Яшчэ ёй нямала заставалася таго болю трываць. Яшчэ і лекара свайго перажыве.

Да лекара Ігара Котава ліст пачынае з адчайнае просьбы: «Ратуйце мае ногі! Так баляць, так баляць... Не даюць спаць па начах, круціць кожную костку, цягне кожную жылку».

Пытанне яе гучыць рытарычна: «Як тут жыць, калі кожная ноч — мука, барацьба з болямі, раніцай — барацьба са слабасьцю». Што на гэта можна парадзіць? Толькі шчыра пашкадаваць, што столькі цярпення на долю гэтае незвычайнае жанчыны выпала.

Але і ў такім стане пра справы «Паходні» гарадзенца пытае.

Нат і ўявіць немагчыма, як перажыла яна апошні свой час, калі штодзённая папяровая праца з’ела яе вочы і тыя слугаваць адмовіліся. А яшчэ ж амаль два гады заставалася.

## Захопнік

Калі не стала Лясное хаткі, а было тое яшчэ пры жыцці Людвікі Антонаўны (яна не магла даць сабе рады і мусіла жыць у кватэры дачкі), прайшлі пагалоскі, што спалілі яе з карысцю, каб захапіць зямлю, бо прадаваць гаспадары не хацелі. Каб штосьці пабудаваць. Зямля адначасна і ў лесе, і ў горадзе — не абы-якое багацце. Часта пра тое думала. Уяўляла,

што там зараз. Але ніколі не магла нат і блізка ўявіць сённяшні стан дарагое для многіх сядзібы.

У прадмове, відаць, многіх уразіла горка-балючае, угледжанае Міхасём Скоблам: у «Панарскім лесе мы ледзьве адшукалі тую мясціну, дзе калісьці стаяла Лясная хатка... Каб так змяніўся памятны для многіх ландшафт! Здзічэлы, змізарнелы сад, паляна перад хатай, ледзь бачныя пад крушнямі закуранай цэглы падмуркі — усё было захоплена лесам. Самотныя яблыні частавалі нас гаркаватымі яблыкамі, колішняга падворка было не пазнаць, перыметр хаты (якой прасторнай яна здавалася мне ў 1987 годзе!) пад наступам змрочных ялінаў сціснуўся і выглядаў нерэальна маленькім. А прайшло ўсяго нейкіх дваццаць пяць гадоў...».

Лес, у якога колісь людзі адваявалі гэты лапік зямлі, вярнуў сваё. Гэты захопнік літасці да чалавечых слядоў не мае.

## Дзякую Вам,

шаноўная Алена Глагоўская. З кнігі даведалася, што гэта Вы фінансавалі факсімільнае выданне «Беларуска-польска-руска-лацінскага батанічнага слоўніка», якое і я маю ў сваёй бібліятэцы.

Шаноўны Алесь Смалянчук, які ў віленскім архіве знайшоў невядомыя лісты Людвікі Антонаўны.

Ну а Міхасю Скоблу — то ўдзячнасць мая бязмежная. Дзякаваць — не надзякавацца.

# Паэтка і маці паэта
## У дадатак да партрэта Дануты Бічэль

Колькі часу таму «Крыніца» змясціла літаратурны партрэт Дануты Бічэль. Данута Янаўна. Якой ведаю, такая ж і на здымку, і ў вершах, і ў дыялогу. У згадках — розная. У Аляксея Міхайлавіча Пяткевіча (артыкул грунтоўны, усё ахоплена, бо ўсё ведае і пра яе, і пра многае: ён — наша гарадзенская энцыклапедыя) — постаць паэткі значная ці, дакладней, — знакавая, як Беларусь у Беларусі, у Алеся Марціновіча — як заўсёды: усё правільна, але... як нішчымніца. Ці то солі, ці то прыправаў не хапае, у Дамашэвіча — параскідана, у Галубовіча — і тут зацемкі, але ж з левай кішэні, ад сэрца, у Міхася Скоблы — светла. А ў Людмілы Рублеўскай — было б вельмі хораша, калі б тое было. Са скрухай і болем чытаецца той абразок, бо няма ўжо ў тым доме яго гаспадыні: «Гародні пашанцавала. У ёй жыве паэтэса Данута Бічэль, спадарыня Данута, Данута Янаўна. Гаспадыня дома, дзе жыў паэт». Так, Гародні пашанцавала. Калі лічыць, што Гародня — гэта мы. Жменька як па ліку. Але ж Гародня — гэта сотні тысячаў. І ім да таго, што тут жыве паэтка Данута Бічэль, ніякай справы, у лепшым выпадку. А ў горшым... Ды яна і сама пра тое ў дыялогу кажа: "Паэтэса" ў маім варыянце гучыць горай, чым зладзейка. Не адна суседка сказала мне ў спіну з пагардай гэтую "мянушку" без ніякай прычыны...».

Так, Гародні пашанцавала. Але ці пашанцавала Дануце Янаўне?

### У Гародні спыніўся гадзіннік

У самым цэнтры, на Фарным касцёле, белай птушкі, што ляціць над усім дробным, будзённым. Навошта ведаць, колькі часу? Колькі таго часу наогул? Усё роўна не паспяваем ніколі,

нікуды, ніяк. Не, гадзіннік не сапсаваўся. Майстар спыніў яго. Гэта нядобры знак. Майстар Час болей не хоча служыць гарадзенцам, бо яны збяднелі. Навошта служыць бядноце? А багатыя шчаслівыя (так прынята думаць), і ім час не патрэбны. І ім не патрэбна ведаць, што ў лютым споўнілася сто трыццаць гадоў з дня нараджэння Марыі Апанасаўны, маці Максіма Багдановіча, якая назаўсёды засталася ў нашай Гародні.

## 22 лютага 1999 года

Непагодны дзень. Азыравата — слова мае мамы. У ім і холад нейкі нікчэмны, сыры, прымерзлы, быццам самому абрыдла за зіму, і макрэча. І пад нагамі, і з неба. Якім быў гэты дзень 130 гадоў таму? Калі ў сям'і Мякотаў з'явілася яшчэ адно Сонейка. Падаецца, іншым. Бо зімы былі зімамі, леты — летамі. (Старэчая прыкмета — наракаць на сённяшняе.) І жанчыны былі жанчынамі. Імі захапляліся іхнія мужы. Як Адам Ягоравіч Марылькай. І мужчыны былі вартымі. Іх да самазабыцця кахалі іхнія жонкі. Ведалі, што галоўнае ў сям'і — дзеткі. Ражалі. Штогадочку па сыночку...

Прыйшло ў той дзень да Марылькі чалавек дваццаць. Паэты, студэнты. Як на сёння, дык і нямала. Пагаварылі пра іх, пра Маці і Паэта, вершы пачыталі. Сагрэліся іх цяплом.

Збірала ўсіх Данута Янаўна.

## «Я жыву ў тваім доме...»

Тры гады таму Марыю Апанасаўну ў Гародні памінали інакш. Спаўнялася сто гадоў, як яе не стала. Усё тое (а была цэлая праграма: кветкі для Марылькі, служба ў касцёле, вечарына ў Лялечным тэатры, гасціна ў музеі) ладзіла Данута Янаўна. З Гомеля Андрэй Мельнікаў прыязджаў. Ехалі да Марылькі і да Дануты.

Каб музей не проста існаваў, а быў асяродкам культуры, трэба, каб была там сапраўдная гаспадыня, якая не павінна кожны крок з некім узгадняць. Каб чалавек не проста прыходзіў на працу, а жыў дзеля музея, быў захавальнікам і пам-

нажальнікам скарбаў. А яшчэ трэба любіць тых, чые душы вітаюць там, адчуваць іх. І Данута Янаўна любіла іх усіх: Максіма, нашаніўцаў, Марыльку, як сваю сяброўку, сястру, што жыла тут сто гадоў таму і назаўсёды засталася маладой:

Марыі Апанасаўны душа
малодшаю наіўнаю сяброўкай
перад высокім гродзенскім барока,
калі размыта восені мяжа,
удачай не аблашчаных, гаротных
вядзе па ціхіх вулачках Гародні.

## Туфелькі для Марылькі

Данута Янаўна расказвала неяк, што з пісьмаў Марыі Апанасаўны даведалася пра памер яе абутку. Вылічвала, які ён па сённяшніх мерках. Я адразу забылася лічбу, як тое звычайна бывае ў мяне з лічбамі. Ды не забудзецца ніколі незвычайнае адчуванне ад таго, з якой пяшчотай гаварылася пра гэта. Быццам Данута Янаўна сама і выбірала тыя туфелькі для Марылькі.

Не надта вялікія магчымасці мела жонка Адама Ягоравіча для абновак. За кожную капейку справаздачу ў лістох дарагому мужу рабіла. Таму і выбірала паэтка з вялікай любоўю, як для каханай малодшай сястры, не распешчанай раскошай, ці для дачушкі, ведаючы, што тая будзе задаволена. Такою блізкай падалася мне з таго аповеду Марылька з яе хатнімі мацярынскімі, жаночымі клопатамі, бо такою была яна для Данути Янаўны.

Хто зараз выбера туфелькі для Марылькі?

## Са «Снапком» прымірыла «Нядзелька»

Нарэшце выйшаў «Снапок» — выбранае Данути Бічэль. Так доўга чаканы. Але...

Калі ведаеш вершы паэта, калі гучаць яны ў тваёй душы прыгожай мелодыяй (бо сама і стварыла), то цяжка пры-

няць змененыя, падноўленыя творы. Так у мяне сталася са «Снапком». Абноўленыя радкі загучалі дысанансам, падаліся штучнымі налепкамі на апрабаваных часам каштоўнасцях.

А ў любімай «Нядзельцы» (светлая кніжка Дануты Бічэль, выдадзеная ў Гародні ў 1998 годзе моладзевы «Альянсам Вітаўта Вялікага» і грамадскім аб'яднаннем «Ратуша») прачытала: «Пераробкі — зусім не канчатковыя папраўкі, а новыя варыянты ў нядзельным настроі тых самых, надрукаваных у папярэдніх зборнічках, вершаў. Спяваюць жа ў розных вёсках па-рознаму тыя самыя песні». Быццам спецыяльна дзеля мяне напісана.

Канешне ж, спяваюць! Дык няхай мне застануцца мае вершы Дануты Бічэль, а да некага яны прыйдуць абноўленыя, як у «Снапку».

## «Мы — сёстры»

Данута Янаўна прыняла для сябе тое, пра што мы быццам бы ведаем, у што, як нам падаецца, верым: усе людзі для Яго — Ягоныя дзеці. І ўсе гэтак жа аднолькава адораныя Ягонай ласкай, любоўю. І таму самая апошняя жабрачка, якой мы, апранутыя і зашпіленыя, падаем свае капейкі, каб хутчэй адысці, адчуваючы сорам, прымаецца ёю як сястра. Бо так — для Яго:

І я, і пад Крыжам жабрачка —
Мы сёстры...

І паэтка, не падаючы міластыню жабрачцы, а дзелячы з ёю сваё, ведае, што мае найвялікшае багацце, якое даруецца абраным:

Але прыбядняцца чаго там!
Мая гэта лаўка.
Звініць ва мне боская нота
і ласка.

> Пахіснуўся мой горад і ўправа, і ўлева.
> А пілуюць мяне, нібы дрэва.
> Заварылі атруту і ставяць да кавы.
> У мяне тут згарнуліся справы.
> І малітву на мову зальюць і аспрэчаць.
> І падножку — і вострым у плечы...

Але так будзе не заўсёды. Будзе інакш. Бо павінна ж некалі заглянуць сонца. І будзе ў ваконцы люд, варты называцца народам. І ўшануе ён тых, хто прынёс яму сонца на сваіх руках:

> А заселіцца горад народам,
> пацалуе Дануце руку.

Напісала пра гэта і сама паверыла...

*1999*



# Сляды, якія знікаюць

Сыходзіць 2013-ы. Не надта яму пашанцавала ў РБ, дзе часам нейкі год абвяшчаюць у гонар знанае Асобы. Так, мінулы меў трох вялікіх паэтаў: Янку Купалу, Якуба Коласа і Максіма Танка. Пазамінулы — Максіма Багдановіча. Для 2013-га годнага імя, як палічылі тыя, хто абвяшчае, не знайшлося. Мяркую, для тых, хто жыве ў Беларусі, Асобаў, вартых стаць «тварам» 2013-га, не бракавала. Для кагосьці ён быў годам Кастуся Каліноўскага, для іншых — Максіма Гарэцкага, Вацлава Ластоўскага, Францішка Аляхновіча, Масея Сяднёва. Для кагосьці годам «Вянка». Для мяне ён стаўся годам Наталлі Арсеневай. Сама яго і абвясціла на першай гарадзенскай паэтычна-мастацкай імпрэзе яшчэ 3 студзеня ў галерэі «Крыга». На яго прыпала 110-я гадавіна з дня нараджэння паэткі. Кнігу да гэтага года «Наталля Арсенева: Шлях да Беларусі» падрыхтавала і выдала, і вечарыну правяла. У той жа «Крызе». Для сваіх даўніх студэнтаў, якія памятаюць мае лекцыі пра творчасць паэткі.

Але шырокаю грамадою гэтая гадавіна была замаўчана. І не дзіўна. Бо да шырокай грамады даходзіць тое, што рэкламуюць дзяржаўныя СМІ, найперш тэлебачанне, дзе добрага слова пра паэтку чакаць не даводзіцца. Ды хіба і ніякага не даводзіцца.

Усяго некалькі артыкулаў нагадалі пра яе верасень. Артыкул гісторыка Наталлі Гардзіенкі «Пантэон Беларусі. Наталля Арсенева» на партале naviny.by. Яго пачатак з назвай «Сваячка Лермантава?» адразу ставіць пытанне. Аўтарка дзеліцца сваімі сумневамі: «У асяроддзі беларускай эміграцыі нараджалася багата міфаў. Адзін з іх, створаны даўнім прыхільнікам творчасці паэткі Антонам Адамовічам, сцвярджае, што яна мела далёкае сваяцтва з класікам рускай літаратуры Міхаілам Лермантавым. Аднак сама Наталля Арсенева нідзе ніколі пра гэта не згадвала і ніякіх пісьмовых пацвярджэнняў гэткага цікавага факту не знойдзена». Але ж разам з тым нідзе і ніколі паэтка не абвяргала гэтага факта. Нельга ўявіць, што

Адамовіч сам прыдумаў гэта. І паэтка пагадзілася? Многія сустракаліся з ёю, ні ў кога не ўзнікала думка перапытаць. А мо хто пытаўся? Што да пісьмовых пацверджанняў, то як і дзе іх шукаць, калі столькі пажараў вынішчала на нашых землях усё, што гарыць і нават тое, што не гарыць. Ды і хто іх шукаў, калі нават на такое простае пытанне: як звалі маці паэткі? — адказ знайсці было цяжка, хоць пыталася ва ўсіх, хто ведаў яе асабіста або мае сувязі з сям'ёй Кушаляў. І друкуецца здымак маці без імя...

Мела вялікую надзею на сп. Уладзіміра Кушаля, сына паэткі. Але да яго пры ўсіх маіх намаганнях так і не дайшла: між намі акіян. Недаверу, стомленасці, а мо і абыякавасці. Маю на ўвазе не сына паэткі. Разумею, ён пражыў жыццё, дзе было столькі ўсялякіх людзей і падзеяў, што, магчыма, і не жадае, каб іх стала яшчэ болей. І раптам, ужо нават не чакаючы нейкіх вынікаў, атрымліваю весткі ад спадара Янкі Запрудніка, які перадае ад Уладзіміра Кушаля, што маці звалі **Клаўдзія**, поўнае імя бацькі — Аляксей Аляксандравіч. Значыць, знайшлося яшчэ і імя дзеда паэткі. Што да быццам бы «міту», прыдуманага Адамовічам, то сын паэткі пацвярджае, што гэта праўда. І я цалкам пагаджаюся з лістом спадара Запрудніка: «Думаю, што гэта "патрыятычная" выдумка аб несваяцтве Арсеньневай з Арсеньневымі»...

У гэтым годзе прайшла з паэткаю ці не ўсе яе сцежкі-дарогі. Не ў рэальнасці, зразумела. Часам слухала, як нараджаліся яе вершы. Не магу пэўна сцвярджаць, ці была паэтка ў нашай Гародні. Бо чаму б і не: зусім недалёка ад Слоніма. Але звестак не захавалася. То іду ўслед за ёю па слонімскай вуліцы. Уяўляю, як быў напісаны верш «Мэта жыцця», пад якім чытаем: Слонім, 1922 г. Нагадаю: у гэтым горадзе паэтка з сям'ёю пражыла паўтара года (1922–1924). Гадавала першынца Яраслава, чакала Уладзіміра.

*Яна ціха ішла па вуліцы, коцячы перад сабою лёгкі вазок і думала:*

*Вось ён, маё дзіцятка, мой сыночак. Хіба ж гэта не ёсць мэтаю майго жыцця? Майго жыцця. А ў іншых людзей, напэўна, інакш. Ва ўсіх людзей інакш. Як у тых, моцных, змагароў? Што для іх мэтай? Мэта жыцця...*

*І раптам узнік рытм, які адпавядаў яе крокам. Рытм станавіўся выразным, дакладным. Пачаў гучаць верш, узніклі словы:*

*Вось яны, людзі моцныя. Але ж ёсць і іншыя, слабыя. Людзі, у якіх няма сілаў змагацца. Такіх таксама многа. Мэта жыцця, кажуць людзі без сілы... Што для іх мэта? Проста ісці, дайсці да канца. А канец — гэта магіла. Мэта жыцця — дачакацца магілы. Самотна, але, напэўна, і так ёсць. Лёс зводзіць слабога з моцным. Бо што было, калі б інакш? Няпроста было б.*

*А што ж для мяне важней? А для мяне важней само жыццё. Вось гэты мой сынок у вазку. Ён мае жыццё зараз. Ён працяг майго жыцця. І ягоная мэта.*

*Сёння я павінна сказаць Францу, Францішку пра тое, што яшчэ адно жыццё зарадзілася пад маім сэрцам, пачало расці ўва мне. Сёння ўжо ведаю тое напэўна. Што ён скажа, мой муж, мой Франц? Чалавек моцны. Мэта ягонага жыцця — змагацца. Як ён успрыме гэтую навіну? Спадзяюся, абрадуецца...*

*Дайшла да дома, паклікала няньку, папрасіўшы: «Вазьміце дзіцятка. Ён яшчэ спіць. Мне трэба крыху часу, каб запісаць...»*

*Асадка хутка бегала па паперы, бо радкі ўжо ўпэўнена гучалі ў яе душы. Спяшалася, каб запісаць. Бо страціцца. І не вернеш. Як тое ўжо было неаднойчы. Дапісвала апошнюю страфу, як пачула плач Яраслава. «Нешта тут не зусім. Але нічога, пазней спраўлю...». Кінула на стол асадку і пабегла да свайго Сонейка....*

Пазней, значна пазней яна і сапраўды адшліфуе некаторыя свае вершы. Як мне, то тыя, першыя рэдакцыі гучаць неяк больш пяшчотна. Калі нават яны і не вывераныя, калі часам зрываецца рытм...

«29. І босыя ногі Хрыста пакідалі на цёплым, мяккім пылу дарогі сляды.

30. Але гора вам, людзі, бо даўно ўжо затапталі вы іх».

Гэты фінал апавядання «Апокрыф» Максіма Багдановіча згадваю, калі думаю пра Наталлю Арсенневу. Бо яны, Асобы, надзеленыя Небам не абы-якім талентам, Ягоныя пасланцы, носьбіты красы і светласці, таксама пакінулі сляды. Замоўчванне, а яшчэ горай ганьбаванне імя паэткі — гэта і ёсць знішчэнне яе слядоў.

*2013*

# Дзяўчынка з беларускага мястэчка

## Да дня нараджэння заснавальніцы яўрэйскага тэатра Эстэр Рахіль Камінскай

У балоце часам вырастаюць пекныя краскі. Так і наша беларуская балотная глыбіня нарадзіла і ўзгадавала мноства асобаў, што сталі знакамітасцямі, шанаванымі ў свеце. Між іх Эстэр Рахіль Камінская, што прыйшла ў свет на пачатку вясны 145 гадоў таму ў мястэчку Поразава Свіслацкага раёна.

Якім было яе маленства? Мажліва, вясёлым і светлым у тлумнай сваяцкай сябрыне, у хаце добрых клапатлівых бацькоў. А мажліва, і такім, як апавядае пра тое лірычная «Балада пра дзяўчынку Камінскую Е.» гарадзенскага барда Віктара Шалкевіча, які таксама нарадзіўся ў Поразаве.

Твор насычаны далёка не рамантычнымі рэаліямі таго часу, якія, аднак жа, пазнавальныя і ў нашым сёння:

По лузе хадзілі авечкі.
Студэнты сядзелі ў турме.
Жыла ў невялікім мястэчку
Дзяўчынка Камінская Е.

І няхай маем тут фактычную памылку (у часе местачковага дзяцінства дзяўчынка мела прозвішча Гальперн, Камінская — прозвішча па мужу, якім стане драматург, кіраўнік тэатра), аўтар балады таленавіта і арыгінальна вяртае гэтае імя ў наш беларускі культурны кантэкст, дзе амаль гарманічна суіснавалі розныя нацыянальнасці.

Эстэр Рахіль стала заснавальніцай яўрэйскага нацыянальнага тэатра, спектаклі якога з поспехам праходзілі на сцэнах Варшавы, Пецярбурга, у ЗША, Англіі, Францыі... Але напачат-

ку было дзяцінства і юнацтва ў беларускім мястэчку, адкуль гэтая прыгожая птаха паляціць у свой зорны вырай, бо не магло яе душу задаволіць тое, што прапаноўвала жыццё тут:

Для ўсіх невялікіх мястэчак
Адзіны суровы закон:
Ў кароткім жыцці чалавечым
Зіма — самы сумны сезон.
Самы сумны сезон...

Далёкі і прыцягальны сваёй таямнічасцю свет прыгожага вабіў гукамі музыкі, што суправаджала чалавека і ў радасці, і ў горы. Хто навучыў яе іграць на скрыпцы, хто даваў ёй урокі музыкі? Мо і ніхто. Мо сама ўзяла скрыпку ў далікатныя, кволыя рукі, і тая адгукнулася на покліч маленькага сэрца, прызнаўшы ў ёй родную душу. Бо ў каралевы музыкі, зразумела ж, душа ёсць. Цягучыя мелодыі зачароўвалі, адводзілі ад марнай штодзённасці, дзяўчынка жыла чаканнем чагосьці, кагосьці, хто абавязкова прыйдзе:

Нібыта вялікага свята,
Ўвесь час выглядала кагосьці.
Дарэмна мылася кошка:
На жаль, не прыходзілі госці.
Не прыходзілі госці...

Вырвацца, з'ехаць у далёкі прыгожы горад, дзе ўсё будзе інакш, дзе не будзе гэтай вечнай нуды, цемры, дзе заўсёднае святло ярка ззяе на кожнай вуліцы, на кожнай дарозе, што вядуць толькі да шчасця. Хто з вясковых дзяўчынак не марыў пра гэта? Эстэр Рахіль накіроўваецца ў Варшаву, дзе будучая акторка займела напачатку працу далёка не творчую, але ўсё ж акаляла яе яркая, зіхоткая краса фарбаў, своеасаблівыя дэкарацыі да мрояў пра тэатр: яна стала працаваць на фабрыцы стужак.

Гісторыя Папялушкі паўтараецца на нашай зямлі заўсёды і з усімі, хто прагне зменаў, хто жыве верай. Так адбылося і з ёю. Тэатр захапіў у свой палон, каб не адпусціць ніколі.

Ролі галоўных гераіняў у спектаклях «Крэйцарава саната» паводле Л. Талстога, «Дама з камеліямі» паводле А. Дзюма, «Нора», «Здані» Г. Ібсэна, «Сірата Хася», «Бяздомная» Я. Гордзіна і многія іншыя перапляталіся з яе ўласным лёсам, што分разу па-іншаму, пяшчотай і радасцю або слязамі і горам, напаўняючы яе свет. Жыццёвы марафон, заўсёдная кругаверць падзеяў, рэальных і тэатральных, усё ж часам, у хвіліны роздуму, адступалі, каб вярнуць да пачатку, да тых далёкіх мястэчкаў, дзе жыццё застыла, дзе час спыніўся, каб застацца такім, як і ў яе маленстве:




Ружаны, Глыбокае, Скідзель.
Сяляне раскідваюць гной.
Ніколі ўжо сонца ня ўзыйдзе
Над гэтаю, мабыць, зямлёй.

Пустая паштовая скрынка.
Каменныя ў полі крыжы...
Пазяхае малая дзяўчынка —
Дзяўчынка стамілася жыць.
Дзяўчынка стамілася жыць...

Эстэр Рахіль Камінская, знакамітая артыстка тэатра і кіно, стамілася жыць на 57-м годзе, перажыўшы войны і рэвалюцыі, набыўшы вядомасць і зведаўшы славу.

*2013*

# Жанчыны жывуць доўга

## Апошняя з нашаніўцаў

«Мы з Вамі засталіся дзве апошнія нашаніўкі», — прачытала неяк у ліставанні Зоські Верас і Канстанцыі Буйло. Тады яны і насамрэч былі толькі дзве. А пасля засталася адна Зоська Верас у сваёй лясной хатцы ў Вільні, каб тонкай, але вельмі трывалай ніткай звязаць сучаснае з тою нашаніўскаю парой, якая дала Беларусі вялікіх творцаў, але якой гэтак жа патрэбныя былі і чорнарабочыя, што ціха і сціпла рабілі сваю справу. Такой была Зоська Верас. Наробак яе ў літаратуры хоць і сціплы, але адметны. А танюсенькая кніжыца з вялікай назвай «Беларуска-польска-расейска-лацінскі батанічны слоўнік» варты вялікіх тамоў. Сам Караткевіч прасіў яго у Людвікі Антонаўны.

Апошнія дні яе, зацемненыя не толькі слепатой, але і поўным забыццём, былі асвечаныя імем чалавека, які пайшоў з жыцця на семдзесят гадоў раней. Гэтак многа пражыўшы без яго, меўшы іншы шлюб, з глыбіняў памяці вярнула імя свайго каханага, бацькі першынца — Фабіян Шантыр. Як сведчыла дачка Галіна, прад сконам шаптала гэтае імя: «Фабіян, Фабіян».

## Зорка Венера

Далікатна схаваўшы сваё шчырае пачуццё за словамі эпіграфа — «Яна — выдумка маёй галавы» і прыгожым імем гераіні паэмы — Вераніка, наш заўсёды малады і такі далікатны Максім Багдановіч не хацеў адкрыць яе сапраўднага імя. І яно стала таямніцай на доўгія гады. Але час і жаданне людское ведаць — хто ж яна, гэтую таямніцу раскрылі. Чарнавокая пані, Аня Какуева — вялікае каханне Паэта, тая, ростань з якою вылілася ў дзівосныя радкі раманса «Зорка Венера».

Як гэта добра, што з фотаздымкаў, змешчаных у многіх кнігах пра Максіма Багдановіча, глядзіць Яна — юная прыгажуня. Бо калісьці даўно, хіба ў сямідзясятых гадах, давялося пабачыць у тады беларускім жаночым часопісе маёй мамы «Работніца і сялянка» іншы фотаздымак, зроблены праз многа гадоў. З яго пазірала кабета сталага-сталага веку... Зусім не яна.

### А яна!..

Неяк у «Нашай Ніве» сустрэла фотаздымак Ларысы Геніюш, якая заставалася прыгожай і ў паважаным веку. А поруч з ёю хтосьці старэнькі з рэдкім пушком на галаве, цяжка нават вызначыць пол. Чамусьці не прачытала подпіс да таго фотаздымка, не падумала, што гэта можа быць Яна — найпрыгажэйшая між кабетаў нашаніўскай пары, якая была пэўнай, што сам Купала кахаў яе (дыму ж без агню не бывае, а ў гэтым выпадку: такога верша, як «А яна!..», не закаханы напісаць бы не змог). Пазней ізноў сустрэла гэты ж здымак і жахнулася: Паўліна Мядзёлка! Тая прыгажуня, што задумліва глядзіць на нас з вядомага яшчэ са школьнага часу фотаздымка, далікатна дакрануўшыся прыгожай ручкай да падбародка.

### Стасютэ

Які ж неміласэрны час да прыгожых кабетаў! Мужчыны неяк не надта тым часам змяняюцца. Параўноўваю два фотаздымкі: з Вацлавам Юстынавічам у 20-х гадах і з Язэпам Дылам у 50-х. Хіба гэта тая Стасютэ, што зачаравала калісьці самога Вацлава Ластоўскага? Ну няхай маршчыны, няхай дзесьці падзелася тая хваля валасоў, што так хараша абрамляла ейны дасканала прыгожы твар, як з іконы, няхай высахлі вусны, змяніўся чароўны авал... Але дзе ж падзеліся вочы? Вялізныя, на паўтвару, блакітныя вочы-азёры, у глыбіні якіх — загадка вечнай жаноцкасці... Заміж іх — дзве малыя шчыліны, што праз апухлыя павекі ўсё яшчэ глядзяць на свет, у якім ужо столькі гадоў няма яго. Пэўна, таму і патухлі тыя вочы-зоры.

## Цярплівая Ласка

Яе нельга было не пакахаць. Глыбокія сінія вочы, доўгая каса... Ласкавы пагляд, што цешыў нават у самую змрочную хвіліну. А голас!.. Спевамі сваімі зачароўвала. І такой разумніцай была: пісала апавяданні, падрыхтавала падручнік для малодшых класаў, які праз многа гадоў з удзячнасцю згадваўся Янкам Брылём.

Леаніла Усцінаўна Чарняўская-Гарэцкая — адна з нашых мужных дзекабрыстак, што раздзяліла з мужам пакуты выгнання. Так і не дачакалася праўды пра каханага мужа, не даведалася нават праўдзівае даты ягонае смерці.

## Наталля Арсеннева

Даты яе жыцця цалкам сіметрычна размяшчаюцца ў праміналым XX стагоддзі, па якім яна прайшла амаль цалкам. Трэба толькі акуратна адкінуць па тры гады з кожнага боку: 1903–1997.

Нетутэйшая краса гэтай кабеты з гадамі станавілася выразнай і яркай. Згадайма знакаміты партрэт работы Пётры Мірановіча, з якога шляхетная кабета прыгожага восеньскага веку, часу залатой, жоўтай восені глядзіць не на нас, а кудысьці ўглыб, удалечыню. Выразны позірк яе цёмных вачэй на фоне пяшчотных, размытых фарбаў напоўнены мудрасцю і тым унутраным спакоем, якога здольны дасягнуць натуры моцныя, нескароныя. І глыбокай пакутай жанчыны, што зведала найстрашнейшы ў свеце боль — гібель сына. Якая жыццё сваё пражыла ў заўсёднай эміграцыі, між берагамі, так і не пакінуўшы мроіць пра родны бераг.

## Жонка Ізі Харыка

Неяк на вока трапіла сціплая абвестка пра смерць жонкі Ізі Харыка, беларускага яўрэйскага паэта, загубленага ў страшныя 30-я гады. Перажыла ягоную смерць, смерць двух маленькіх сыночкаў, ссылку. І ўсё жыла. Як жа доўга яна жыла! Без яго. Няхай нават у гэтым доўгім жыцці і быў нехта, усё ж для многіх яна засталася жонкай Ізі Харыка.

# Адзін дзень у Мінску

А больш і не трэба: аднаго дня цалкам дастаткова, каб зрабіць тое, дзеля чаго з’явілася, каб нікому не надакучыць, каб у недарэчна вялікім як для Беларусі горадзе засумаваць па сваім, што стаўся не проста месцам сталага жыцця, а праўдзівым каханнем, без якога тое жыццё — не жыццё.

Але — Мінск. Цягнік прыходзіць ранкам. Рэчы аднаго дня здадзены на захаванне, бо кабета можа мець у руках толькі маленькую тарэпку, каб кабетаю пачувацца. Метро. Заўсёды любіла мінскае метро. Памятаю першую паездку, праўдзівую экскурсію, якую наладзіў для мяне мой дзядзька, што амаль усё жыццё пражыў у гэтым горадзе і любіў яго ўсім сэрцам. На ягоных вачох горад рос, будаваўся. Ён сам яго будаваў. Кватэра ягоная была на пятым паверсе. Вечарам паклікаў: «Хадзем на балкон. Паглядзі, як прыгожа, колькі агнёў!» Гаварыў з такім захапленнем, перадаваў мне сваю любоў, дарыў мне свой горад. І я, малая вясковая дзяўчынка, што ўжо тады ўмела лётаць не толькі ў снох, прыняла ягоны падарунак з удзячнасцю...

Вось жа, у метро мы выходзілі на кожнай станцыі, і мой мілы, мой незвычайна прыгожы дзядзька расказваў мне ўсё, што ведаў сам, паказваў, як прыгожа яны аздобленыя. А пасля мы вярнуліся з канечнае станцыі на першую не выходзячы, а ён імкнуўся перадаць мне сваё здзіўленне і захапленне: «Ты падумай толькі: за нейкія 12 (лічбу не памятаю, дрэнна ў мяне з лічбамі) хвілінаў мы праляцім праз увесь праспект!»

З тае першае паездкі люблю мінскае метро.

Ці можна тут, у людскім ранішнім тлуме, кагосьці сустрэць? Калі дзень пачынаецца шчасліва, можна. І не проста кагосьці, а людзей, якіх ведаеш вельмі блізка, бо амаль кожны дзень іх сустракаеш, і амаль не ведаеш, бо сустракаеш толькі на абшарах ФБ. А там усе сябры, мілыя, добрыя, таленавітыя. Чаго іншых у сябры прымаць? У той жа вагон, у тыя ж дзверы крыху раней яны якраз і зайшлі. Маладая паэтка. І не толькі паэтка,

колькі ў яе іпастасяў — не злічыць: тэлевядучая, выкладчыца, перакладчыца (няўжо не перакладае?), падарожніца (і зараз з вялізнай валізай). Дзеўка — паэт — неба — лепей не скажаш! І хто гэта так прыдумаў? Добра прыдумаў. А вось «свецкая львіца», як НН напісала пра яе, зусім недарэчна. Не пра нашых прыгожых кабетаў такое... Не таму, што не львіцы. І не таму, што не свецкія. А таму, што штамп гэты проста непрыгожы. Таму, што штамп. А яна яшчэ і гатаваць геніяльна ўмее. І чорным па белым намаляваць, а мо і наадварот. А калі бывае дрэнна, з'едзе ў Парыж, прыручыць яго і... купіць там сукенку. А пасля і таго, хто стане самым-самым, прыручыць. Бо даўно ўжо яго замовіла. На шчасце:

Маё ласянё,
мой мужчына,
знайшоўшы ў снягох пралеску,
выпростваецца плячыста,
нагамі ўрастае ў зямлю,
і трубіць, як аглашэнны,
па-своему,
па-палеску,
на знак,
што знайшоў прачыстую,
дзікую,
ды сваю.

І няважна, калі гэты верш напісаны быў і хто перад вачыма стаяў ці не стаяў, зараз ён, адзіны, які назаўсёды. Але галоўнае, яна — асоба, скіраваная на пазітыў. Карацей, сустрэць такую ў пачатку дня — замовіць дзень на шчаслівыя сустрэчы да ягонага канца.

Не адна яна была ў тым вагоне. З тым, хто зараз яе радзіна. Праз самага роднага, праз самага каханага. Хто таксама Парыж ведае. Ды так глыбока, што даўно стомлены тым Парыжам. Але ніколі не стомлены родным Давыд-Гарадком. Аўтар шырока вядомае «Полькі беларускае», якую напісаў у падарунак маме да яе нараджэння, бо мама вельмі той танец

любіла. На жаль, мала вядомыя сёння ягоныя іншыя вершы, што співаюцца, як і тыя, што не співаюцца. Да болю мала, як усё сапраўднае, беларускае.

Размова ні пра што. Але галоўнае: рада Вас бачыць. І спадзяюся, тое ўзаемна. І — да сустрэчаў!

Яны выйшлі, а мне загучала ягонае:

Плача раяль, калі дождж не сціхае,
І мастакі пакідаюць Версаль,
Толькі паэт, той паэт, што кахае,
Шэпча: «Жё тэм» у халодную даль.

З тым і выйшла на сваёй станцыі.

Мая — тая, якая была маёю тры гады. Тры гады аспірацкага жыцця, што праляцелі як адно імгненне. Станцыя, пра якую мой дзядзька сказаў калісьці: «А тут акадэмікі, таму і змрачнавата». Гэта проста ў параўнанні з іншымі з першае лініі, дзе пераважаюць вясёлыя колеры і матывы. Не было мне тут змрочна ніколі. І сёння тым болей.

І ніякага дажджу! Як добра, што сіноптыкі часам памыляюцца.

Мае вочы, што не бачаць далёка, кветкі не згледзець не могуць. Канваліі. Ніколі не праходжу паўз гэты сціплы цуд. Пані з канваліямі. Не пані з камеліямі.

Навуковая імпрэза, форум — успрымаю такія падзеі як свята жыцця. І таму, што імкнуся пачуць шаноўных калегаў, якім ёсць што сказаць. І таму, што незвычайнаю энергетыкай поўніцца такое месца, дзе столькі Асобаў. У адным часе, у адной прасторы. Сёння тут навукоўцы з многіх краінаў. Не буду пералічваць: інфармацыі ў нэце даволі. Згадаю толькі тых, каго ведаю даўно. З кім хоць словам перамовілася. Прафесара з Лондана, вялікага сябра беларускае літаратуры, чалавека невысокага росту, ды высокага палёту. Таго, хто ў сваёй вялізарнай кнізе назваў нашу літаратуру «Пісьменства ў халодным клімаце». І правільна. Бо клімат наш ніколі не быў спрыяльным для тых, хто слову служыць. Але не баіцца яго, гэтага клімату неспрыяльнага, прыгожая пані з Нямеччыны, з

Альдэнбургскага ўніверсітэта, якая часта бывае ў нашай краіне, а мова яе беларуская вельмі мілая, крыху рафінаваная. Сустракаліся з ёю неаднойчы ў Гомелі. Яе даклад быў самым цікавым на пленарным паседжанні.

Таго, хто заўсёды светла вітае мяне, ведаю з самага пачатку 90-х. Памятаю, як на першай абароне кандыдацкай дысертацыі, на якой прысутнічала (аспірантка-першакурсніца), сядзелі побач, і ён супакойваў мяне, бо вельмі хвалявалася за калегу, з якім жылі ў адным інтэрнаце. Казаў: «Абарона — усяго толькі апошні акт п’есы. Усё ўжо зроблена. Усё будзе выдатна». І было выдатна. Гэта не сёння, калі пасля паспяховае абароны раптам высвятляецца, што не так ВАКнулася. Той малады вучоны быў надзвычай таленавітым. Паспеў зрабіць вельмі многа. З самага значнага: даследаваў Жыціе Еўфрасінні Полацкай, Кірылы Тураўскага. Пераклаў на беларускую мову вядомыя помнікі беларускай агіяграфіі Сярэднявечча, малітвы Кірыла Тураўскага і шэраг іншых яго твораў. Часткова пераклаў на беларускую мову Псалтыр і Новы Запавет. Часткова, бо цалкам не паспеў. Пайшоў з жыцця ў няпоўныя 33 гады. А яшчэ быў незвычайна прыгожым. У інтэрнаце называлі яго Эстэтам...

Даўно ўжо не ходзіць па Гародні паэт, літаратуразнаўца, мой даўні калега і сусед у часе нашага пралетарскага перыяду. З’ехаў у Мінск. Заўсёды рада яго бачыць. Падышоў да нас адзін са старэйшых літаратуразнаўцаў, знаны фалькларыст, мастацтвазнаўца. Чытала ягоныя артыкулы-ўспаміны ў НЧ. З тых, на каго гляджу знізу ўверх. Мой гарадзенскі знаёмы вырашыў нас пазнаёміць, на што паспрабавала запратэставаць: «Маё імя нічога не скажа шаноўнаму...». А той у адказ: «Кажа. Шмат чаго Вашага чытаў». Так, нашы аксакалы з тых, хто чытае не толькі сябе. Гэта маладыя на тэксты іншых часу не маюць.

Пазнаёмілася з тым, каго добра ведаю, бо дзе толькі не сустракаю ягоныя тэксты: і ў «Дзеяслове», і ў «Верасні», і ў ЛБ. «Уладзевы гісторыі» ніколі не прамінула. Напалохаў мяне аднойчы сваім аповедам пра стакгольмскі аэрапорт «Арланда», быццам там заблукаць прасцей, чым у думках. А я якраз туды і збіралася. Упершыню тут сустрэліся. І нават міла перамовіліся, бо не пабаяўся ён да гэтае пані гарадзенскае падысці.

Думала, што адна тут з Гародні. Аказалася, не. Два гісторыкі, два дактары навук. Адзін і да сёння працуе ў нашай ВНУ. Хоць з'явіўся сюды ажно з Далёкага Усходу, але і мову нашую вывучыў, і гісторыкам нашым, беларускім, стаў. Другі з тых, хто ў першых шэрагах з ГрДУ мусіў сысці.

Але вось усміхаецца мне мой знаёмы, літаратуразнаўца, што хіба палову ўсяе працы свае аддае аднаму Караткевічу. Калі б былі ў мяне сябры рэальныя, яго б адным з першых назвала. І зараз адразу пра новы том Караткевічавых твораў гаварыць пачаў. З ім і пайшлі на пленарнае паседжанне. Праўда, ён да канца быць не змог: лекцыя. Ды па творчасці Ластоўскага. Зашчымела маё сэрцайка!..

Не пра ўсё скажу. І не таму, што ніякі фармат не вытрымае. Не буду ж казаць, што першы выступ рыторыкаю сваёю хацеў перанесці аўдыторыю ў мінулае. Немагчыма гэта. Як не скажу, што зала — змрочная, няўтульная, крэслы старыя, многія паламаныя, паўпустая (буду сёння аптымісткаю — напалову поўная). Што фінансаванне такога форума — як фінансаванне ўсіх даследаванняў гуманітарных.

Абед. Выходзячы з залы, сустрэлася з даўняю знаёмай, яшчэ з часоў «Першацвета», перамовіліся прыязна пра ягонага заснавальніка, апекуна літаратурнае моладзі. Згадала яе артыкул аб прысвячэнні Багдановічавага верша «Глянь, як зорка у цемні ляціць...». Гэта яна дакапалася ўрэшце, што першапачаткова твор быў прысвечаны Надсану. Цікавая даследчыца.

Канваліі перадаць вырашыла прыгожай жанчыне, маёй зямлячцы з Гарадзеншчыны, з якою не сустрэлася гэтым разам, але якую заўсёды сустракаю з прыемнасцю.

І дзе ў той абед падзецца? Ажно дзве гадзіны. Усе разбегліся. Гэта Мінск. Згадваецца ў такім выпадку жарт мае слаўнае каляжанкі з Мазыра, колішняй загадчыцы кафедры беларускай літаратуры, якая навучала сваіх супрацоўнікаў, калі канферэнцыі ладзіла: «Людзей трэба прыняць. Гэта вам не Мінск». Не пра мяне асабіста йдзецца. Наогул. Пра таго ж прафесара з Лондана, што запыняў усіх запар, дапытваючыся, як да пошты дайсці, бо нейкую пільную справу меў.

Але той дзень быў запраграмаваным на шчасце. Калі ўжо не ведала, куды сябе падзець, падбегла да мяне невысокая дзяўчынка: «Я Ваша студэнтка!» Так, гэта тая незвычайная выдатніца, што вывучыла калісьці на памяць «Страцім-лебедзь». І таксама мая сяброўка з ФБ. Сёння ўжо доктарскую піша. А побач з ёю яшчэ адна невядомая дагэтуль ужывую фэйсбукаўка, што пяць гадоў у Кіеве адпрацавала. Аднайменніцы. Ішла між імі. «Можаце жаданне загадваць». Чаму не загадала?! Так мне патрэбна зараз, каб маё жаданне споўнілася! Як мо ніколі. Як мала калі. Не загадала...

З імі і правяла абед, які праляцеў так хутка, што на тэматычныя блокі спазніліся. Зусім крыху. Тым больш не на свае, нашы пазней пачыналіся. Міла папрамеНАДЗІлі мы па Батанічным садзе, дзе не была некалькі гадоў. І дзе бывала вельмі часта ў свой шчаслівы аспіранцкі перыяд.

Зараз час квітнення бэзу. Хто не быў у Батанічным у гэтым часе, схадзеце: ад красы такое вачэй не адвесці, водарам тым не надыхацца.

Столькі ў нас пра бэз напісана, але найлепей у аўтаркі «Сармацкага альбома»:

Бэз каляровы, ліловыя вогнішчы бэзу,
Срэбныя футры, драбнюткія флянсікі кветак.
Хтосьці самотны, напэўна, прыдумаў імпрэзу:
Гэта фарцісіма траўня, прэлюдыя лета.

Яна — знаны навукоўца, адна з арганізатарак кангрэсу, якая, дарэчы, мяне і запрасіла. Якую рада бачыць заўсёды.

Досыць паўзы лірычнае. Вяртаемся да тэматычных блокаў. Ці ж нецікава паслухаць даклад «Асэнсаванне гісторыі беларускай літаратуры канца XX ст. і актуальнага літаратурнага працэсу ў сучасным беларускім літаратуразнаўстве» маладое выкладчыцы, таленавітае, з новае генерацыі айчынных навукоўцаў? Яшчэ як цікава! Заўсёды не толькі слухаю яе ўважліва, але і захапляюся ўпэўненасцю, смеласцю. Яна далёка пойдзе. У самым добрым сэнсе.

Шаноўны мадэратар гэтага блоку працаваў вельмі старанна. Сам агучыў даклад адсутнае ўдзельніцы, бо даследаванне сапраўды цікавае, бо хто калі даследаваў механізмы канструявання літаратурнага канона? Ніхто.

А яшчэ трэці раз у жыцці сустрэла каляжанку з МДЛУ, якой нагадала пра тыя нашы, параскіданыя ў часе, сустрэчы. У 1980-м у БДУ, куды прыязджала на студэнцкую навуковую канферэнцыю. Быў такі праект-абмен для маладых навукоўцаў. Мінчане, адпаведна, у Гародню прыязджалі. Падаецца мне, мы падобныя. Нават знешне. Праўда, валасы ў яе — карацей не бывае. Працуе, чытае курс «Беларуская літаратура пачатку XX стагоддзя». Мой улюбёны курс! Другая наша сустрэча адбылася ў 2000-м на канферэнцыі ў БДУ да трох стагадовых юбілеяў: Кузьмы Чорнага, Уладзіміра Дубоўкі, Уладзіміра Жылкі. Памятала яе заўсёды. Бо асоба цікавая, жанчына вельмі прыгожая і разумная. І такое бывае. Зрэшты, на нашых сустрэчах навуковых такое суладдзе — спрэс. Мая мілая каляжанка з Беластока-Бельска, зеленавокая прыгажуня, разумніца, пані прафесар. Яна стварыла праўдзівы мост між Гародняй і тым крыўдна далёкім, што зусім жа побач, замежжам. Выдае гадавік «Białorutenistyka Białostocka» і «Тэрмапіламі» апякуецца не меней, чым рэдактар. Сто справаў робіць і ўсе на выдатна.

Шкада толькі, што ніхто з маіх мінскіх каляжанак на вячэру сяброўскую чамусьці не прыйшоў. Гэта Мінск.

Вырашыла адкінуць сваю недарэчную сціпласць, набралася смеласці і падышла да вядомага мовазнаўцы. Не для таго, каб засведчыць сваё шанаванне, а каб расказаць, што ў Гародні памятаюць пра ягонага бацьку, вядомага краязнаўцу, педагога, пісьменніка. Што нядаўна адзначылі круглую дату ягонага нараджэння, магілу наведалі.

У мяне наперадзе быў доўгі самотны вечар на вакзале. Як звычайна ў Мінску. Заўсёды маю на такі выпадак кнігу. Але ж дзень гэты быў незвычайны. «Куды ты зараз?» — аклікнула каляжанка з Польшчы, вядомы гісторык, мастацтвазнаўца. Даведаўшыся, што на вакзал і што да цягніка — мора часу, заявіла: «І я з табою. Хоць пагуляем там. А то што будзеш

рабіць так доўга?» Была гэтай нечаканай прапанове шчыра рада. Бо самота ў чужым горадзе — вельмі нядобрая рэч.

Не, незвычайнае ў гэтым дні не закончылася. У той жа вагон, у тыя ж дзверы зайшла тая, думаючы пра якую, заўсёды згадваю юную Людвіку Сівіцкую, цененькую і моцную, гнуткую і нязломную. Бо яна яе сыграла. У тым фільме, які здымалі ў Гародні. Таксама сяброўка з ФБ, з якою сустракаліся ў Белаазёрску. Гэтай прыгажуні Неба падаравала незвычайны талент — голас. Уяўляю, што такія галасы ў анёлаў. Але хіба яны ўмеюць укласці ў свой спеў столькі пачуцця, страсці? Даведаўшыся, што едзем мы на вакзал чакаць цягніка, міла і настойліва запрасіла туды, куды сама запрошаная была. Давяла, што наша з'яўленне не будзе непрыемнай неспадзеўкай, у што мы з задавальненнем паверылі. Патэлефанавала, папярэдзіла, што з сабою два падарункі прывязе. Не ведала, што яна і «Паланэз» спявае. Ніколі не чула. «Праспяваю сёння абавязкова», — паабяцала.

Гаспадар таго, не ведаю якога па ліку, але вельмі высокага неба, куды ўзняліся, — Мастак. Заўсёды бачыла яго здалёку. Толькі здалёку. На мітынгах, у Доме літаратара. Нават выступ адзін памятаю, хоць больш за дваццаць гадоў мінула. Мы сталі першымі гледачамі новае карціны. Згадалі ягоны партрэт Ларысы Геніюш, дзе быццам не Ларыса Геніюш. Недарэчная дыскусія тады разгарнуцца хацела. Добра, што хутка згарнулася. Падказала Мастаку, што такі ж здымак на вокладцы кнігі краязнаўцы з Дзярэчына «Наша Лорка», які яна яму падаравала. І я змагла нешта Мастаку падказаць — не без гонару кажу пра тое. Даведалася, што карціна тая далёка, упадабаная замежнікамі, якія і не ведалі, чый вобраз створаны.

У майстэрнях мастакоў незвычайная аўра. Няшмат такіх месцаў наведваць давялося. Мо таму і ўспрымаю гэту сустрэчу як Падзею. Праляцела імгненна. Спявачка нагадала: «А. не чула "Паланэз". Праспяваю!» Як яна спявала гэтым разам! Як ніколі. І як заўсёды — цудоўна.

На развітанне Мастак падараваў сваю паэтычную кнігу (талент вялікім даецца не адзін), якую і зараз чытаю. Звычайна

выбіраю верш, які кранае найбольш. Раблю яго сваім. З кнігі «Калодзеж у жыце» гэты:

Каханне, любоў —
Яно лечыць.
І болей ніхто і нішто.
Твой лік, твае вусны
і плечы.
Я гэтаму не супярэчу...
Што кроў, чырванее
віно.
Каханне, любоў...
Ўсё ня вечна...

А яшчэ быў у тым маім дні вядомы Паэт, з шасцідзясятнікаў, аўтар знакавага «Чалавечага знака», з якім пазнаёмілася калісьці на «Бабіным леце ў Белаазёрску». Які, як аказалася, памятаў мяне. Нечакана патэлефанаваў на гарадскі тэлефон, прачытаўшы ў ЛБ маю «Шчаслівую». Не, не бачыла яго гэтым разам, толькі голас праз тэлефон пачула. Не да мяне звернуты. Мяркую, каб ведаў, што мы там, то і да нас загаварыў бы.

Зусім мімаходзь, але ўсё ж сустрэлася з дарагою мне юнаю асобай, якая носіць не толькі маё прозвішча радзіннае, але і імя мае матулі.

Нам з тою, што Людвіку юную нагадвае, давялося бегма да цягніка бегчы. Ледзьве, бо абутак у мяне на абцасах. Упершыню ў новым жыцці мяне з Мінска праводзілі да самага вагона. Дзякую Вам, мілая!

Калі хто гэты тэкст прачытаў уважліва (спадзяюся, такія знайшліся), пазналі тых, каго згадала ці сустрэла ў той незвычайны дзень. Але аўтарка мусіць назваць іх імёны, тым больш што не ўсе асобы вядомыя. Калі ласка: Віктар Бандарык, Валярына Кустава, Леанід Дранько-Майсюк, Арнольд Макмілін, Гун-Брыт Колер, Язэп Янушкевіч, Аляксей Мельнікаў, Юрась Пацюпа, Арсен Ліс, Уладзімір Сіўчыкаў, Дзмітрый Караў, Алесь Смалянчук, Анатоль Верабей, Юлія Масарэнка, Алена Манкевіч, Надзея Шакун, Надзея

Старавойтава, Ірына Багдановіч, Аксана Бязлепкіна, Павел Навуменка, Галіна Тварановіч, Ірына Бурдзялёва, Генадзь Цыхун, Апанас Цыхун, Алена Глагоўская, Таццяна Грыневіч, Аляксей Марачкін, Пятро Марціноўскі, Анатоль Вярцінскі, Валянціна Барэйка.

*Травень 2015 г.*



# Шчасце быць у Visby

### Перад тым, як быць...

Вы любіце свой дзень нараджэння, падарункі? Я — не. Відаць, ліміт маёй любові закончыўся ў дзяцінстве, калі гэты дзень заўсёды быў святам. Але апошнім разам атрымала падарунак, які выпадае толькі аднойчы. Якраз у мой дзень на схіле зімы ў Гародні прызямліліся Пятровіч-Пашкевіч і прапанавалі мне мару пра Visby.

Напэўна, усе, хто чытаюць нашу перыёдыку, сустракалі водгукі пра гэтае места ў вершах, эсэях. Уяўляючы, што Visby — гэта Рай, нават марыць пра яго не смела. Але шчасце ў жыцці ўсё ж бывае!

### Ружы між камянёў

Гэта было першае, што кінулася ў вочы. Як радасна мне было сустрэць іх тут. Ледзьве не ля кожнага маленькага дамка і вялікага дома літаральна з камення ўздымаюцца шыкоўныя кусты белых, ружовых, жоўтых і чырвоных ружаў. Апошнія — блізняты маім, што ля зарыцкага ганка. Толькі там яны ўжо адцвілі, а тут у самай красе.

І нават калі б мне стала невыносна сумна між чужых людзей, якіх не разумею, і гэта ўзаемна, мяне б vыратавалі ружы.

Між іх не чуюся адзінокай.

Visby — горад ружаў.

### І іншыя кветкі

Яны на кожнай вольнай ад каменю лапінцы. Амаль усе мае добрыя знаёмыя. Вясновая рэтраспектыва: цвіце язмін, які ў нас бялееў яшчэ ў траўні. Мілая сустрэча з гэтаю кветкай мае

бабулі, бо водар яе навявае згадку пра час з майго адляцелага юнацтва. Шыкоўныя кусты хосты, духмяная петунья, нізкія летнія вяргіні, вялікагаловыя жоўтыя аксаміткі. І клемаціс, які толькі зацвітае. Як жа хараша абвівае ён каменныя сцены, як туліцца да іх гэтая пяшчотная ліяна, каб схавацца ад ветру. А яшчэ сустрэла тут незвычайныя завушніцы. Гэтая кветка ў маёй роднай вёсцы мае дзве назвы: завушніцы і разбітае сэрца. У нас яна толькі ружовага колеру. А тут белага. Чаму? Бо ўсе ведаюць, ад чаго разбіваецца сэрца. Калі гэта здараецца, з яго мусіць выцекчы ўся кроў. І твар кветак становіцца змярцвела-белым. Як прад сконам... Усё тут сапраўднае. У нас жа, і страціўшы каханне, не паміраюць. Хапае на тое іншых прычынаў. Гэта я прыдумала ў сваіх «Гарадзенскіх казках» смерць ад кахання. І не толькі я.

Зрэшты, наўрад ці ведаюць тутэйшыя людзі, што кветка называецца разбітае сэрца.

І кветкі — пустазелле — вельмі да твару гэтай зямлі. Цыкорый з блакітнымі прамяніста-зоркавымі вачыма, што прабіваецца між камянёў і трэшчынаў асфальту ўсцяж мора. І нешта з кветкамі, падобнымі да нашага малачаю. Побач з імі хараша глядзіцца стройны конскі шчавей з рукамі-венікамі. Ажыўляе выгляд каменнай сцяны зыркі чыстацел, што аднойчы тут залечваў мне раны, без якіх і на Зямлі Бога не бывае. А вось крапіўку доўга шукала ў патрэбе. Знайшла між лопуху, калі ўжо і патрэбы не стала. Мяккія дываны бярозкі з белымі пахучымі парасонікамі. Высокі ружовы скрыпень, лісцікі якога рву пацiху да свае гарбаты. І лопух тут вельмі нават прэзентабельны. Цэлыя шыракалістыя плантацыі ля старажытнае сцяны і ля сучаснае вілы. А лебяда! Стаіць ганарова, смела, не думае, што нікчэмнасць, усяго толькі зелле пустое, якога мо мільён я сарвала. Расці сабе! Тут усім воля...

Кветкі на гэтай зямлі моцныя, высокія, яркія. Бо растуць на скалах. І ўсё, што трапляе ў глебу, ім дастаецца. Скалы і так самадастатковыя, не патрэбна ім нічога. Не тое што нашыя пяскі, якія ўсе сокі ў сябе ўцягваюць, ды балоты, на якіх нішто мацнейшае не ўтрымаецца...

Мой сум па Гародні, па зарыцкіх кветках — нішто ў параўнанні са шчасцем, якое я мела ў Visby.

## Каменнае сэрца Visby

Усё тут каменнае. Вельмі добра захаваная высокая сцяна, што велічна ўзвышаецца вакол старога горада, многія дамы і — брукаванка. Мы, гарадзенцы, вельмі любім сваю брукаванку. Але ў нас засталіся ад яе толькі аскепкі. Тут жа ўсе дарогі забрукаваныя. І ходнікі таксама. Даўняю пароюю, вечным каменем, які служыць месцічам вось ужо многа стагоддзяў.

Сам горад збудаваны на вялікіх каменных сходах, што ўзвышаюцца над морам. Вуліцы бягуць уніз, а ад мора лёгка ўздымаюцца ўгору. Аж на тую Kirkberget (Царкоўную гару), дзе месціцца наш Цэнтр.

І мора тут каменнае. Берагі і дно пры берагох, а мо і далей, усыпаныя і вялізнымі валунамі, і іх дзеткамі featрознага ўзросту і росту. Паміж пірсамі — каменная выспа. Маленькая. Мо з дзясятак метраў у дыяметры. Убачыўшы першы раз, падумала: як гэта да яе дабрацца? А пасля бачу: дзеці там. Глыбіня крыху вышэйшая за калена. Як брод перайсці.

Калі на каменныя муры свеціць сонца, яны становяцца цёплымі і пяшчотнымі. Штоаразу, як хіліцца к вечару дзень і даўжэйшымі робяцца цені ад камяніцаў (не плагіячу, проста думаю вершамі), ідучы ад мора, дакранаюся рукою да сонечных аплікацыяў на суровых каменных сценах, і заўсёды яны ласкава дзеляцца са мною сваім цяплом.

Каменнае сэрца Visby добрае да тых, хто палюбіў яго.

## Хвалі — авечыя статкі

— заўсёды думала, што гэта прыгожая метафара. Аж не! Жывыя, белыя, імклівыя статкі. Бачыла на свае вочы. Плывуць з далёкіх мораў-акіянаў, гнаныя ветрам. А найперш марай — знайсці той райскі кут, Зямлю Бога, дзе іх шануюць найбольш, чым дзе ў свеце. І вось даплылі. У такім часе ніхто не плавае ў моры, бо могуць збіць, растаптаць. А яны і самі, дабраў-

шыся да берага, знікаюць. Не, не таму, што разбіваюцца аб каменне, аб скалы. Проста, іх мара збылася. Навошта жыць далей? Існаваць?

І толькі адзінкі, самыя смелыя, адчайныя і цікаўныя, выходзяць на бераг. І застываюць на бруку ля кожнае брамы каменнай сцяны. І гадуюць у сваіх сэрцах новую мару — вярнуцца туды, адкуль прыплылі на Зямлю Бога... А пакуль ціха пасуцца на каменнай пашы. Бо навошта каменным авечкам іншая паша? Не супраць, каб на іх спіны прыселі вандроўцы, стамлёныя вольным шпацырам. Гадуюць на сабе багатую воўну, з якое і сёння робяць тут шыкоўнае адзенне. Такое, як у вершы Ірыны Багдановіч «Готландскае руно»:

Раптам у вулцы маленькай — ільсністыя воўны,
Голых каменных авечак жывая апратка,
Позірк чаруюць срабрыстым, мякуткім, шыкоўным,
Арыстакрацкім, праўдзіва мясцовым парадкам!

## Sankta Maria

За маім вакном (келля № 3) сабор Sankta Maria — храм XV стагоддзя. Цуд. Трэба бачыць. Праўда, мне не надта пашанцавала: якраз гэтае крыло святыні прыбралі ў карункавае павуцінне-рыштаванне, абцягнулі сеткаю колеру марское хвалі. Любуйся! Любуюся. Вежамі, вольнымі ад тых убранняў, купаламі, залатымі пеўнямі. Яны ўздымаюць мой зрок да неба, і мне, як Ірыне Багдановіч год таму, Святая Марыя «*ў вочы глядзіць купаламі, / А я — на Яе і на мора гляджу задумёна...*»

А неба — адно. Тое ж, што і над маёю Гародняй. Светлае і сонечнае. Калі ж хмарнае, аплывае дажджом, малюся:

Хмары над Visby плывуць,
даляціце да Зарыцы, хмаркі,
і ападзіце дажджом
на мае прызавялыя кветкі...

Адна царква на ўвесь горад, а на нядзельнай месе вернікаў вобмаль. Дзіўна мне. А мо таму, што людзі і так жывуць

у Раі. І нічога ад Бога не хочуць. Бо прыходзім часта да Яго ў патрэбе, у няшчасці. Не заўсёды спяшаемся выказаць удзячнасць за тое, што маем.

А служба такая ўрачыстая, такая велічна-прыгожая.

## Гадзіннік у Sankta Maria

*«Гадзіннік у Sankta Maria спявае гадзіны»*. І нат паўгадзіны. І не проста спявае. Нагадвае мне: час твой у Visby сплывае, запоўні кожны дзень, кожную хвіліну, каб не ззялі пустэчай. Стараюся.

Звон плыве над усім местам. А мо над усім Готландам?

У мяне ж прад вачыма наш гарадзенскі гадзіннік на белай птушцы — Фары. Чую, як Юрка Голуб чытае свой трыялет:

Гадзіннік на Фарным касцёле
Не лічыць спазненне за грэх.
І хоча чаканне сагрэць
Гадзіннік на Фарным касцёле.

Наш не спявае. Толькі паказвае час. Падказвае гарадзенцам: спяшайцеся жыць. Альбо: прыпыніцеся хоць на хвіліну, куды вы спяшаецеся. Прысядзьце на лаўку. Вершы чытаць перасталі, то хоць паслухайце нашу паэтку:

Сяджу перад Фарным касцёлам на лаўцы.
Гародня віруе наўкола на пляцы.
Спяшаецца час незваротны. Яму не належаць
Анёлы спрадвечнай Гародні на вежах.

Цікава, ці пішуць тутэйшыя паэты пра гадзіннік у Sankta Maria?..

## Гарлачыкавы ставок

Побач з морам. Пасярэдзіне фантан, пырскі ад якога дастаюць да першых лаўкаў.

Белыя гарлачыкі буйныя-буйныя. Разы мо ў два большыя за нашыя.

Вы бачылі ружовыя гарлачыкі? І я не бачыла. То ўяўляйце: ярка-ружовыя, крыху меншыя, чым тутэйшыя белыя. І лісце ружова-чырвонае.

І на ім кветкі, і вакол кветкі. Гіганцкая хоста, касмея. Мама называла цыганачкі. У нас яна — кветкавае смецце, якое пасееш — не выпалеш. І назоў *касмея* таксама пачула ад мамы. Настаўніца біялогіі, якая апекавалася школьным прысядзібным участкам, ніяк не магла вывесці з яго тых цыганачкаў. Дастала каталог насення, якое высылалі па пошце. І сярод мноства назоваў вельмі ўпадабала — *касмея*. Нечым незямным, касмічным павеяла ад яго. Кветкі павінны быць такое ж, нябеснае прыгажосці. То і заказала. Увесь кветнік засеяла. І ўзышлі, і выраслі, і расцвілі... Бойцеся сваіх мараў: яны збываюцца. (Апошняе ніяк не пра мяне і Visby).

А тут касмея буйная, ярка-барвовая. Абавязкова збяру насенне.

## Мая лаўка

Тут ужо шмат майго: келля, месца за сталом у сталоўцы і на пляжы, посуд, які стаўлю высока, асобна, каб ніхто не дастаў. Ды і шмат яшчэ чаго. Бо заўсёды была аднаасобніцай.

І каля гарлачыкавага стаўка мая лаўка. Прыходжу аднойчы, а там вікінг рассеўся. І побач свайго каня металёвага (ровар) паставіў. Села здалёку і замаўляю-гіпнатызую: бяры свой пляцак, сядай на ровар і едзь. Паўтараю ў думках, навязваю яму сваё. Паціху кранаецца рука, кладзецца на пляцак. А я ўсё шапчу. Павольна ўстае, ад'язджае. Мая лаўка вольная...

Недарэмна ж я ўнучка бабулі-знахаркі.

## Інгеборг і Аскар

Аскар магутны, дужы, смелы (чаго ім тут баяцца?), высокі. Часта проста гіганцкі. На кожным квадратным чвэрцькіламетры. І марскім байцом мог бы быць. Толькі з кім ваяваць? І чаго? Усё даўно зваявана. Увесь свет ля ягоных ног. Гэтак ягоны выгляд кажа.

А вось Інгеборг не зусім «*як сасонка страйна*». Вельмі прыгожая! Правільныя рысы твару, гордая пастава, светлавалосая. Не тое, што нашыя беларусачкі сёння, што спрэс сталі «пякучымі» брунэткамі. Добра, калі хоць адну светлую галоўку ў аўдыторыі згледзіш. Але «*страйна*» зусім не па нашых мерках. Здаровая, зусім не празрыстая, не цененькая галіначка. Проста Максім Багдановіч ніколі не быў на Балтыцы.

Любуюся ёю і добра ведаю, што горкую долю не наспявае ёй вецер суворы. Тое было даўно. Толькі вось побач з Аскарам вельмі часта бачу не яе, а каратканогае, чорнавалосае, вузкавокае стварэнне, што шчабеча па-свойму, па-птушынаму і да яго, і да дзіцяці, якое нясе бацька. А дзіця на яе падобнае. Як мог горды прыгожы Аскар выбраць гэтую, ніякую, чужую, што ходзіць як марыянетка, падскокваючы? Чым яго ўзяла? А пары наадварот (кітаец і Інгеборг) не бачыла ні аднае.

## Мова

Дзве тут асноўныя: шведская і ангельская. Усе ведаюць. А ў мяне з гэтых дзвюх па два словы. Толькі нямецкая, але добра-такі прызавялая, дваццацігадовае даўніны. Пані Мар'я, пісьменніца, журналіст з Стакгольма, з якою мы па-нямецку якраз і размаўлялі, суцяшала мяне: мая нямецкая намнога лепшая за яе рускую. Праўда, мова гэтая неяк хутка пачала ажываць, усё новыя парасткі пускаць, хоць зернейкі засохлымі былі.

Спачатку хадзіла з размоўнікам. Прачытаю пытанне, а адказ не разумею. А пасля пакінула. Што тут невядома: куды ні ідзеш, выйдзеш, куды хочаш. І вырашыла размаўляць з імі па-беларуску. Бо толькі з аднае нагоды і звярталася, каб сфатаграфавалі. Працягваю фотаапарат, ветліва прашу па-нашаму і паказваю на сябе і фон, на якім увекавечана быць мушу. І неаднойчы ў адказ казалі мне па-руску. Расейцы, якія тут зрэдку бываюць або якія ў Скандынавіі жывуць стала. Тут яны зусім іншыя, нашу мову разумеюць. Не тое, што ў Беларусі. Пэўна, скандынаўскі клімат іх цывілізуе. Людзі, нібы тыя каляровыя шкляныя аскепкі, што часта мільгаюць ля мора між галькі, такія ж скругленыя, адшліфаваныя, цалкам бяспеч-

ныя. Толькі колер і захавалі. Так і чалавек, калі ўжо трапіў у чужы Край, мусіць стацца ў ім сваім, каб не раздвойвацца, каб аддзячыць, што і цябе ж тут прынялі. Але колер не мяняць. Напэўна, усюды так. Толькі не ў Беларусі. Напэўна, усе так. Толькі не кітайцы. А вось тыя, што прыязджаюць са сваёй Масковіі, такое выдаюць, што проста словаў няма. Прыпыняюцца на вулцы, дзе такія прыгожыя, такія мілыя, такія нашы дамкі, зручныя, утульныя, усе ў ружах. Адзін тыцкае пальцам і з пагардаю кажа: «Какое старьё! Они же тут ничего не перестраивают». Расейцы, яны і ў Visby расейцы. Паспрабавала прачнуцца ўва мне крыўда, быццам абразілі маё асабістае, такое дарагое. Наша спрадвечная беларуская крыўда! Але даўно навучылася ставіцца да такога паралельна. Не, не ў тым новым сэнсе — «абыякава», а разумеючы, што жывем мы з імі ў паралельным свеце. І не мусяць гэтыя светы перасякацца, бо нічога добрага з таго не будзе. І нічога ім не сказала яшчэ і таму, што ведаю, як недарэчна выглядае кабета, якая штосьці адстойвае, штосьці даказвае...

Па-руску гаварыла са мною мілая пані з Літвы, што з сям'ёю прыехала на Готланд на адзін дзень. На сваёй яхце. Вельмі проста. Як далёка нам да Літвы! Ад нашага лецішча 20 кіламетраў.

Толькі ні разу ніхто не адказаў мне па-беларуску. Што і зразумела...

Калі ж яны ў мяне нешта пыталі, ветліва казала: «Хацела б Вам адказаць, але толькі адзін чалавек у Вашай краіне зразумеў бы мяне — Стэфан Эрыксан». І іншыя варыянты на гэтую тэму...

Так і разумеліся. Вельмі нават няблага. Бо за кожным словам і без іх — усмешкі, усмешкі...

## Усмешкі

Людзі табе, чужаніцы, прыязныя дораць усмешкі. Зрэшты, хаджу тут паважнаю госцяй, нібы каралевай з далёкай краіны ў кароне з саломкі, якую сплялі мне дзіцячыя ручкі са школы ў вёсцы на шляху паэткі Алаізы Пашкевіч...

Выключэнні бываюць. Да прыкладу. На пірсе. Вузка, не размінуцца. Твар у твар з трыма асобамі. Міжволі ўсміхнешся. А ў адказ першыя дзве (кабеты майго веку) праходзяць з каменнымі тварамі. І толькі трэцяя, дзяўчынка-падлетак, міла сцвярджае правіла: людзі тут прыязныя, умеюць дарыць усмешку і незнаёмым. Дзякуй, дзяўчынка. За тое, што ўсмешка твая на твары маім адбілася. І засталася.

Дарэчы, якраз кабеты майго веку ўсміхаюцца найменей.

### Беларуская палічка

Не надта багатая. Але ёсць у бібліятэцы Цэнтра. Пра тое прачытайце ў эсэ Уладзіміра Сіўчыкава. І пра кнігу запісаў. Тамы Васіля Быкава, кнігі Валянціны Аксак, Уладзімера Арлова, Франца Сіўко, Андрэя Хадановіча, Альгерда Бахарэвіча, Анатоля Івашчанкі, двухтомнік «Беларуская літаратура і свет», выданні Сіўчыкава, «Дзеяслоў»... Прывезла некалькі з Гародні. Спадзяюся, «Апошні дзень» Анатоля Брусевіча дачакаецца тут сустрэчы з аўтарам. На тое найперш і везла. Анатоль пра гэта не ведае.

Шкада толькі, што нічога няма на беларускай палічцы з нашае класікі.

### «Шчасце быць»

Сустрэла тут кнігу Барыса Пятровіча, якую ў свой час прапусціла, бо прачытала недзе ў анатацыі, што туды ўвайшлі «Фрэскі», а іх ужо чытала. Аказалася, гэта зусім іншая кніга, назва якое стала лейтматывам усяго майго жыцця ў Visby. Самым цікавым суразмоўцам тут і быў мне герой гэтае кнігі.

Увесь час збіваюся, каб штосьці пра яе напісаць. Але не, бо пішу пра Visby і пра сваіх паэтаў. А Барыс Пятровіч не мой аўтар. Імкнуся не блытаць жанры. Бо Visby не кніга. Хоць тыя, што маюць шчасце быць тут, напэўна, як і я, чытаюць яго вуліцы як радкі, старонкі вельмі цікавае кнігі. І ведаюць, што не прачытаюць. Бо шчасце быць у Visby вельмі кароткае, як усякае шчасце.

Праўда, «Шчасце быць» — таксама не зусім кніга, бо відавочна рассыпаецца на дзве. І я ніколі б не звяла іх ў адно, як гэта зрабіў аўтар. Першую чытала са смуткам: наверх, на свет цэлы (праўда, свет не ведае ні нас, ні нашае літаратуры) выцягнутыя ўсе нашыя беларускія вясковыя загадкі-комплексы, пра якія беларусы (тыя, хто за іх гаворыць) згадваць пачалі сто гадоў таму. Але толькі кранаць, хаваючыся, нейкім адным слоўцам падказваючы, што сказаць хочуць. Самае далікатнае — *патаёмнае*. А тут усё адкрыта. Пэўна, прыйшоў час.

Другую чытала з болем. Бо свет у ёй (з усім тым штохвілінным, штокрокавым абсурдам, які так дакладна, падрабязна, нават смакуючы, як мазахіст свой боль, раскрывае пісьменнік, здзекуючыся нават з асноўнай ідэі, што ў назве) можна ж бачыць зусім інакш. Як шчасце быць. Без іншых, адваротных сэнсаў. Не шукаючы, не выглядаючы і не выцягваючы на свет белы абсурд за абсурдам. Не ведучы чытача ў «Трызьненьнях» ад нерухомасці да яшчэ большае нерухомасці, ад цемры да яшчэ большае цемры, якая адно і ёсць шчасцем?.. Але ж на тое яны і ёсць трызненні.

І яшчэ глыбей, больш балюча пакапацца ў даўно вядомымзабытым: жыццё як сон, я ёсць і мяне няма. Хто ўсё ж у нас першым гэта вывеў? Барыс Пятровіч тут пазначыў 1993 год. Валянцін Акудовіч выдаў сваю кнігу ў 1998-м. А калі напісаў?..

«Піліпікі», што ў фінале, крыху раз'ясняюць змрочнасць «Версій» і «Трызьненьняў». Не можа не выклікаць усмешку тое, як пісьменнік прэпаруе свядомасць і падсвядомасць свайго Піліпіка (зразумела, Піліпа), маленькага чалавека, які проста жыве, круціцца. Бо інакш тут не выжывеш. Суцэльныя анекдатычныя сітуацыі для яго норма. І сам ён анекдот. Які ходзіць. І нават думае. І часам цытуючы вершы. Але, наогул, «Піліпікі» зусім не лёгкаважкае чытво. Такога і быць не магло пад вокладкаю «Шчасьце быць...». А запачаткавана ў нас такая літаратура сто гадоў таму Вацлавам Ластоўскім, ягонымі «Прыгодамі Панаса і Тараса». Праўда, там героі пра сваё з якім яшчэ гонарам! Бо лепшае ад чужога. Нягоршае. А тут ужо і не ведаюць, якое гэта, сваё. І ведаць не хочуць.

Усё чытала з захапленнем.

## «Ружоўніца»

Як жа міла сустрэць мне тут гэтую кнігу. (Так я пісала пра ружы, але нічога, бо сапраўды так.) Бо адна ў нас з пані Валянцінай любоў — кветкі. Суцешыў яе эпіграф: і мне заўсёды няёмка, бо ў кожнай кнізе пра кветкі. Якіх усюды выглядаюць мае вочы. І ў творах знакамітых гарадзенак: Элізы Ажэшкі, Алаізы Пашкевіч, Ларысы Геніюш, Дануты Бічэль...

Вершы — пяшчотна-журботныя імпрэсіі, дзе лёгкі водгук падзеі, калі прыходзіць успамін. Усё гэта: і набыткі, і страты — так гарманічна злагоджана, асветлена дабрынёй, жаноцкасцю, мудрасцю. Вельмі элеганцкі, не губляючы годнасці, не зраніўшыся да крыві, умее яе гераіня абысці тое, што абысці трэба, каб застацца сабою.

У нас так многа падобнага. А гэта найперш вабіць у творах. Так, паэтка тлумачыць:

Распусьніца —
ад дзеяслова «распусьціцца»:
здольнасьць кветкі і жанчыны.

А я тлумачу студэнтам пра Купалаву Зоську: яна не блудніца, яна заблудзілася між людзьмі, якія не кахаюць, адно ненавідзяць. Яна таксама «распусьцілася», гледзячы на кветкі, жывучы між іх болей, чым між людзей, збіраючы іх на лузе ля рэчкі, вянок звіваючы, букет складаючы, каб аддаць Старцу, каб той памаліўся за... Памятаеце.

Так хочацца верыць, услед за паэткай, што паўторыцца і наш беларускі цуд (с. 45). Напэўна! Але ўбачым яго мы, відаць, ужо здалёку, звысоку.

Яе вольныя (не хоккаўскія, бо не вымярала склады: 5–7–5) трохрадкоўі «Проста быць тут» так многа гавораць мне. Проста ставяць кропку:

Проста быць тут.
Тут проста быць.
Быць тут проста.

А я проста дабаўляю да кожнага радка адно слова — *шчасце*.

Як і паэтка, таемна звязу з Готланда не адну кветку. Ніякі гэта не крадзеж. А рассяленне красы.

У Visby мне было вельмі светла з вершамі Валянціны Аксак. І па батанічным садзе хадзіла з «Ружоўніцай».

## Едрусь і Юра

А яшчэ я ў гэтым Раі размаўляю з Едрусем Мазько і Юрам Гуменюком. Пішу пра «Займеннікі», шукаю іх зменныя сэнсы, а яны ўвесь час вядуць па адным шляху, да аднаго: праз каханне да смерці. Як жа ён прыцягваў яе! Неадвязная думка-мроя вярэдзіць мяне. Як усе нашыя думкі-памкненні: каб нешта вярнуць, адкінуўшы тое, што ёсць нязменным. Вось жа, той мой ланцужок, які ўвесьчасна закругляецца ў кола: чаму яго адзінай кнізе не з'явіцца раней, тады б ён прыйшоў у наш Саюз, як зрабіў тое ягоны апошні лепшы сябра Толік Брусевіч, і тады не мне, а яму прапанавалі б Visby, і тут ён бы ацалеў, яшчэ раз, ужо канчаткова, пераканаўшыся, якая яна, адзінота, верная з тымі, каго абірае, ад яе тут паміраеш сто разоў і столькі ж уваскрасаеш. І не варта іншых ратункаў шукаць, а проста зразумець і прыняць назаўсёды, што шчасце быць — аксіёма, дадзенасць. І трэба яе засвоіць. І перастаць клікаць смерць. І ягонае сэрца вылекавалася б ад стомы, прагі ўсё і ўсюды паспець, не разбілася б аб гарадзенскую брукаванку, бо ўбачыў бы ён, які моцны тут брук, грунт, на якім вырастаюць моцныя, здаровыя гаспадары тутэйшага краю. Аж свеціцца іх здароўе і сіла. А Едрусь сэрца здаровае мець не мог. Бо ў нашым Краі жыць і не пакутаваць нельга. Ён ніколі не прыедзе ў гэты Рай. Але тут я памятаю пра яго. І тут ягоная кніга, якая (чаму?) не з'явілася раней...

І пра Юру, які жыў у сваім тэатры, ствараючы яго ўсюды, дзе з'яўляўся. Сам выбіраў ролі. І свой апошні перформанс выканаў...

## Лео

У шведскай пісьменніцы Маар'і Тальгрэ «Лео» — галоўная кніга, праца многіх гадоў, мастацка-дакументальная аповесць пра бацьку, эстонскага патрыёта, які быў забіты НКУС у 1944 годзе. Гісторыя Эстоніі часоў Другой сусветнай вайны вельмі нагадвае нашу. Тое ж імкненне патрыётаў маленькае краіны выратаваць яе між схваткай двух агрэсараў, тая ж самаахвярнасць і тыя ж горы бруду, што былі вылітыя на іх савецкай прапагандай. У кнізе два галоўныя героі: адзін з кіраўнікоў эстонскага Супраціўлення Лео Тальгрэ і ягоная маленькая дачка, якая шукае бацьку. Праз многа гадоў, ужо нават стаўшы дарослай, застаецца той дзяўчынкай, ідзе па ягоных слядах, каб разабрацца, што ж было насамрэч. Яна вяртае сабе бацьку, смелага, шчырага, прыгожага і прыстойнага чалавека. Яна ачышчае ад бруду памяць пра яго.

Мо і не згадала б пра гэтую кнігу, калі б не знайшла ў ёй адну назву. Сябар Лео, які быў схоплены жывым, адбываў пакаранне ў Інце. Так, у тым лагеры, дзе пакутавала і наша паэтка Ларыса Геніюш. Тыя ж шляхі, той жа крыж. Але цалкам іншы фінал трагічнай гісторыі. Бо ў эстонцаў усё гэта — страшнае мінулае. Бо над іх краінай — нацыянальны сіне-чорна-белы сцяг...

## Як на мамінай печы

Калі раптам хто з гараджанаў чытае мае готландскія абразкі, прапусціце гэты. Бо зразумець яго змогуць толькі тыя, хто вырас у вясковай беларускай хаце, дзе ў кухні вялікае месца займае печ, крыніца цяпла, мілы прытулак.

Даўно гэта страчана. Больш за трыццаць гадоў, калі перабудавалі нашую хату. Вялікая, утульная печ была для мяне зацішным месцам, дзе ніхто з наведвальнікаў за каляроваю занавескай не бачыў малую дзяўчынку, адкуль, цікаўная да ўсяго, мела мажлівасць слухаць размовы з бацькамі. Часцей з мамай, бо бацька заўсёды быў заняты, нешматслоўны, ягоныя аўдыенцыі заканчваліся вельмі хутка. А мама была радая, як

мне падаецца, кожнаму добраму чалавеку (нядобрых хіба і не было) у нашай хаце.

Печ грэла мяне, шчодра аддаючы сваё цяпло. Яна была маім працоўным месцам. Тут чытала кнігі, вучыла вусныя ўрокі. Шыла. Усё жыццё нешта шыю. Бацькава показка пра мяне: «Што мая Сора то шые, то пора?» А яшчэ любіла разглядваць здымкі кінаактораў, якіх мела вельмі многа. Бацька прывозіў са сваіх камандзіровак. Найлепшы падарунак. Ведала ўсе фільмы, у якіх яны здымаліся, гэтая інфармацыя была на адваротным боку. Да дробязяў магла згадаць знешнасць. Нават гульню прыдумала: па апісанні партрэта пазнаць актора або наадварот. Зразумела, заўсёды ў ёй выйгравала.

Калі заканчвала школу, бедавала: «Як буду ў тым горадзе без печы?» Вось жа, у гэтым далёкім месце да мяне вярнулася мая маміна печ. Людзі тут пачуваюцца вельмі вольна. Могуць прылегчы на кожным месцы, дзе расце трава. І на схіле Касцельнай гары таксама заўсёды нехта адпачывае. Ёсць тут тры каменныя прастакутнікі. Даволі вялікія. Метраў два на паўтара. Не ведаю, якая іх праўдзівая функцыя, але служаць яны людзям, каб прысесці, прылегчы. І ў сонечны дзень, нават халаднаваты, нават калі вар'яцее ад злосці вецер, яны не проста цёплыя, а вельмі-вельмі цёплыя. Толькі б сонца свяціла. А вось у маю келлю яно заглядвала толькі вечарам. Калі ж працавала гадзінамі за кампутарам, не рухаючыся, ногі вымярзалі да ледніковага стану. І тады ішла на сонца, вярталася на дзясяткі-дзясяткі гадоў таму. І грэлася на цёплых каменных лежаках. Выгравала ўсе свае косткі-суставы не горай, чым у найлепшай працэдуры ў санаторыі.

Дзякуй табе, Visby.
Мне тут было цёпла.
Як на мамінай печы.

## Чай-кі-рлі

Пісаць пра Visby і не згадаць іх нельга. Яны гаспадыні ніжняга неба над морам, ля мора. Нахабныя, гарластыя крыкулі.

Чайкі. Ніколі ў дзяцінстве не чула — *кірлі*. З суседняе, польскае мовы. Складаюцца-раскладаюцца мне гэтыя словы. То ў адно, то рассыпаюцца на склады. І атрымліваецца *чай-кі-рлі*.

Кірлі лепей, чым чайкі. Бо ў гэтым слове адбіваецца іх крык, гартанны, абрывісты, як тутэйшая мова, якое хіба ніколі б не вывучыла. Захапляюся маім калегам, якi, збіраючыся ў Visby, чатыры месяцы (паведаміла Луіс з Сігулды) вучыў мову. Браво! Напэўна, ён разумеў і кірляў. Якіх я зразумець не магу: як можна быць такімі нахабнымі, так лезці ў вочы, у вушы сваім патрабавальным «кір»?..

## Мае бірузовыя пацеркі

рассыпаліся па брукаванцы Visby. Колеру марское хвалі. Так доўга шукала іх, каб пасавалі да завушніцаў, а завушніцы да пярсцёнка.

Збіраю іх між камянёў. І раптам разумею: рассыпаліся, каб ператварыцца пад нагамі ў пыл і са снегам вясною сплысці ў мора. Бо ў яго тут няма гэтага бірузовага — колеру — марское хвалі. А што за мора без колеру марское хвалі?

Не буду збіраць мае пацеркі. Падару мору ягоную хвалю.

Каб хоць чым аддзячыць.

За шчасце быць.

У Visby.

# Не 100 словаў

PC прапанавала цікавы праект «100 словаў». Пасуе мне, бо для сур'ёзных артыкулаў бракуе часу, хоць ад працы вызвалілася. Тут таксама пра тое, што люблю. І пра свет, далёкі і блізкі. Не ўсё з гэтых зацемак было надрукавана. І, зразумела ж, ніколі сто словаў не атрымлівалася. Гэтыя абразкі — неабрэзаныя.

## Нажніцы

Пішу «100 словаў». Сціскаю. Але ўрэшце маю што маю: найменей паўтараста. Пачынаю рэзаць. Параўнанні, эпітэты, сінонімы, паўторы. Усё, што парадак, чысціню думак навядзе, але і сэнс пакіне. Няпростая справа.

І тут на дапамогу мне прыходзіць яна — адна з самых знакамітых кабетаў свету, што абразаць умела лепей за ўсіх. Элегантней за ўсіх. Галоўнае ў яе стылі — шыкоўная простасць. Не шкадуючы, знішчала фальбонкі, карункі, складкі, контры, каўнерыкі, аборкі... Усё, што можна абрэзаць з жаночых строяў. І стварыла цуд — маленькую чорную сукенку, якая стала так папулярнай, як аўтамабіль Ford, і якую мае ў сваім гардэробе кожная кабета, што мае яшчэ і постаць. А нават калі постаці і не мае. І правільна!

Гэты цуд стварылі яны — знакамітыя нажніцы Шанэль Кока.

Ізноў — словаў нашмат больш за сто. Бяру нажніцы...

## Бандэраўка

На маю беларускую мову тутэйшы рэагуе:

— Ты з Данбаса прыехала? Бандэраўка?

— А Вы адкуль прыехалі? — пытаю, чуючы трасянку.

— Я ніадкуль не прыязджаў. Усё жыццё тут жыву.

— Чаму Вы вырашылі, што я прыехала?

— Бо ты гаворыш па-ўкраінску. У тэлесерыяле, які гляджу, адна хахлушка, то яна так гаворыць.

Раю не глядзець расейскія серыялы...

Калі Ларысе Геніюш у савецкай турме, у Беларусі, вярнулі цыдулку: «Не разумеем па-чэску», яна абуралася: «Знача, беларускую мову палічылі ў Беларусі чэскай! Ого, такога я не спадзявалася нават ад бальшавікоў! “О, мая Беларусь”, — застагнала я шчыра...».

Там была беларуская лацінка, а тут жывая беларуская мова. Сёння яшчэ горш?..

## Вышыванка

Мама вышывала «Украінку». Прыгажуня ў нацыянальных строях стаіць з кошыкам у руках ля тыну, дзе растуць кветкі. Мама спяшалася. Узор павінна была хутка вярнуць. Не паспела: трапіла ў раддом, нарадзіла дачку.

Прыйшоў бацька праведаць, сказаў, што карціну забралі. Пабедавала мама, а бацька толькі ўсміхнуўся.



Вярнулася дадому, а тут неспадзеўка: на стале ляжыць «Украінка». Усё вышыта. Хто закончыў? Такі падарунак зрабіў нам бацька. Ніколі больш ні аднаго сцяжка не вышыў.

Зараз мая аднагодка вісіць у маёй хаце. Калега, які аднойчы быў між гасцей, сказаў, што ў іх такія карціны называлі «Бандароўна». Мо адтуль, з захаплення красою тае ўкраінскае прыгажуні, на якую глядзела з дзяцінства, нарадзілася ў мяне любоў да Украіны.

Але ж вышыванкі віселі амаль ва ўсіх хатах...

## Мы тут за вас ваявалі!

— Упершыню ў Беларусі за пяцьдзясят гадоў чую беларускую мову. Каб вы тут усе гаварылі, то і я б вывучыла.

Ветліва перабіваю захоплены маналог:

— Скажыце, адкуль Вы прыехалі?

Ізноў той жа маналог-скорагаворка. Толькі ўжо далёка не добразычлівы:

— Ніадкуль мы не прыязджалі! Мы тут за вас ваявалі! Мы гінулі за вас!

Ніколі не ўступаю ў дыскусію з такімі асобамі. Не таму, што не маю што сказаць. Таму, што не пачуюць, не зразумеюць. Хіба яна магла зразумець, што прамільгнула перад маімі вачыма? Партрэт наймалодшага брата мае бабулі. «На гэтага ўжо вайны не будзе», — так сказаў ягоны бацька, мой прапрадзед Рыгор, які страціў у грамадзянскую вайну двух маладзенькіх сыночкаў, калі пасля вяртання з галоднага Пецярбурга ў 1924 годзе ў іх сям'і нарадзіўся хлопчык. Разумны, кемлівы. Закончыў гімназію ў Пінску. Працаваў настаўнікам...

Кеда Уладзімір Рыгоравіч загінуў ва Усходняй Прусіі ў 1944 годзе.

## Перадновагодні дыялог

— Думала, што Вы адпачываеце толькі ў «Радоне». Больш за два гады таму мы з Вамі там сустракаліся. Як добра, што мы зноў сустрэліся.

— Прабачце, не памятаю Вас.

— Якое шчасце, што не памятаеце! Увесь час Вас згадвала.

— Мы з Вамі гаварылі?

— Не, гаварыла я. Вы прамаўчалі. Мне вельмі сорамна за тое, што тады Вам сказала. Прашу ў Вас прабачэння. У мяне была пасляродавая дэпрэсія... Дадам: тая мая суразмоўца — масквічка. З тых, што абражаюць маю мову. У адказ чуюць толькі маё маўчанне. Сумленныя пачуюць...

*31 снежня 2014 г.*

## Чаму?

— Чаму бывае канець?

Мой блакітнавокі цуд не разумее, чаму заканчваецца казка. Тлумачу, што ўсе ўсё выканалі, усе шляхі прайшлі, стаміліся, хочуць адпачыць...

— Чаму бывае канець? — хочацца ўсміхнуцца, чуючы гэтае мяккае ць. Але нельга: мой сынок вельмі далікатны, яго лёгка пакрыўдзіць, усмешку ён здольны прыняць як насмешку. Тлумачу: усё, што мае пачатак, мусіць мець канец, будзе нешта іншае...

Ізноў чую тое ж пытанне...

Гэта было даўно.

Гэтае пытанне гучыць ува мне апошнім часам. Столькі адказаў прапаноўваю. І ні адзін не пасуе, не суцяшае.

— Чаму бывае канец?..

*Студзень 2015 г.*

## Марнаванне

Размаўляю праз тэлефон з Аляксеем Міхайлавічам Пяткевічам. Лета квітнее, а ён марнуецца над недарэчнай працай: матэрыял пра гісторыю друку і літаратуры на Гарадзеншчыне для трохтомнага выдання, замоўленага аблвыканкамам. Том 1-ы, зразумела, прысвечаны губернатарам. Ці не альтэрнатыва «Гродназнаўству»?

Самае недарэчнае — выданне, канешне ж, на рускай мове. Пакутуе Аляксей Міхайлавіч, перакладаючы і думаючы, што цэнзура прапусціць, што не. Як з Ларысай Геніюш, Някляевым будзе? Паспачувала яму шчыра. Кафедра беларускай культуры, якую ён сам і стварыў калісьці, ужо даўно небеларуская і хіба ад культуры нямнога засталося. Менавіта гэтым супрацоўнікам і даручылі тое выданне рыхтаваць.

— Навошта Вы гэта робіце? — пытаю.

— А хто зробіць? — адказвае. — Толькі дзве асобы літаратурай займаюцца, другая не зробіць. (Другая, сапраўды, не зробіць.) А яшчэ ж і пра той Саюз пісаць трэба.

Параіла:

— Напішыце адну фразу, калі створана іх філія і што нічога вартага яны не напісалі.

— Не, так нельга...

Шкада майго дарагога Настаўніка, шкада ягонага часу. І нічым не дапаможаш...

*Ліпень 2014 г.*

## У Радоне

Размаўляю праз далькажык.

Падыходзяць расейцы. Яна і ён.

Яна:

— На каком это языке она разговарівает?

Ён:

— Наверное, на белорусском.

— Нет, белорусскій не такой. Это украінскій!

— А ты у неё спросі.

— Девушка, на каком это языке Вы разговаріваете?

— Я размаўляю па-ўкраінску. Вы ж у Беларусі. Тут усе размаўляюць па-ўкраінску.

Яна — задаволена-пераможна:

— Я же тебе говоріла: это украінскій язык!..

Радон летам расейскі. Амаль. Па-беларуску толькі Ала і ліфт, які на кожным паверсе не стамляецца абвяшчаць: «Першы, другі... сёмы паверх і г. д».

Каментуючы, расейка ўпэўнена заяўляе:

— Паверх — это значіт — наверх...

*Жнівень 2014 г.*

## Хусцінка ў рукаве

Яна любіла дзяцей. А сваіх не мела. Арганізавала для дзяўчынак школу ў сваім доме, вядомым на ўсю Гародню.

Ніколі не зважала, хто перад ёю: беларус, паляк, яўрэй. Усіх шанавала. І ў школцы той таксама дзяўчынкі з розных сем'яў былі.

Вось жа, у суботу павінны былі вучаніцы прыйсці на заняткі і хусцінкі прынесці. Бацька адной з іх катэгарычна забараніў: у суботу нават хусцінку ў руках несці — праца. Артадаксальным яўрэем быў. Не магла дачка бацьку не паслухаць. І настаўніцу таксама. Расказала пра сваю праблему, якую кіраўнічка вельмі лёгка развязала. Кашулька ў дзяўчынкі з рукавамі, а рукавы гумкаю сцягнутыя. «То вазьмі хусцінку пад гумку засунь. Яна сама сюды дойдзе. І гэта не будзе праца».

Было тое больш за сто гадоў. Колішняя вучаніца ў сямідзясятыя прыязджала ў горад свайго юнацтва, прыходзіла ў той дом, згадвала пра сваю настаўніцу, Вялікую Пані Гародні Элізу Ажэшку.

А запомніў той аповед Аляксей Міхайлавіч Пяткевіч. Расказаў пасля салону «У пані Элізы», які адбыўся 26 траўня, калі мы хораша згадалі яе ў яе доме. Між дзвюма яе датамі.

## Туліпаны

Туліпаны расцвілі. Штовечара згортваюць пялёсткі-крылы, нібы чырвоныя матылі, каб уранку зноў раскрыць іх насустрач сонцу радасна, урачыста і аддана.

Што можа быць прыгажэй? Хіба півоні. За якія што можа быць прыгажэйшае? Хіба ружы. Але сёння — час туліпанаў.

З радасцю адначасна навяваюць мне гэтыя кветкі згадку смутную. Зранку выходзіць на ганак гаспадыня, каб не прамінуць час, калі пэнкаюцца туліпаны, і бачыць, што ляжаць яны мёртвыя, вырваныя з карэннем, паламаныя, звялыя. Застывае на імгненне, каб стрымаць сэрца, якое гатовае разарвацца. Але ні слязінкі з вачэй яе не ўпадзе. Бо не такое гора бачыла ў жыцці. Ідзе да кветак, выбірае. Тыя, што яшчэ можна адратаваць, садзіць, палівае. І лічыць сваю вялікую страту. Больш за дзве сотні.

Ларыса Антонаўна Геніюш.

Якімі ж нелюдзямі трэба было стацца, каб так здзекавацца з Паэткі, з яе кветак? Яна шкадавала нават, калі адцвіталі. «Туліпаны адцьвітаюць, і мне жаль. Півонам засталося толькі расьцьвісьці. Чакаю іх», — пісала ў лісце да Міколы Прашковіча...

Туліпаны — гэта яе слова.

## Настуркі I

Яе мама, жонка пана ляснічага, больш за ўсе кветкі любіла браткі. А якія любіла тая юная паненка, савецкі класік не напісаў. І я прыдумала — настуркі. Дапоўніла аўтара, бо калі мама — кветкавая жанчына, то і дачушка ад кветкавай красы не адвернецца. Я, камсамолка, больш за ўсіх гераіняў твора, знакавага ў часе майго юнацтва, любіла яе — зусім не ўзор для савецкае моладзі. І шкадавала не яго, галоўнага героя, змагара, пакутніка, на якога трэба было раўняцца, а яе.

«Як мог ён так жорстка гаварыць з ёю!» — думала, уяўляючы, што перажывала Тоня, ужо не Туманава, чуючы ягоныя пагардлівыя словы: «А цяпер ад цябе нафталінам запахла». Памятаеце гэты эпізод з рамана Мікалая Астроўскага «Як гартавалася сталь»? Замець, цягнік, які не можа рухацца далей. Нечаканая сустрэча праз гады Паўкі Карчагіна з юнацкім каханнем. Па розныя бакі барыкадаў...

Не было хіба ні аднаго выкладчыка літаратуры, які не звярнуў бы ўвагу вучняў на гэты момант...

Штоoften, як зацвітаюць настуркі, згадваю мілую Тоню Туманаву.

## Настуркі II

Кветнікі мама акаймоўвала настуркамі. Яны нізка кусціліся, распляталіся, цвілі да маразоў — сваіх смяротных ворагаў. Далікатныя, светла-зялёныя, налітыя сокам сцяблінкі, круглыя, з выемкай, лісты. Адметны водар. Колеры розныя, цёплыя: ад цёмна-барвовага да светла-жоўтага. Самы распаўсюджаны — аранжавы, які мая антанёўская бабуля Кеда

Марыя называла настуркавым. Відаць, гэта быў яе наватвор, бо чула гэтае слова толькі ад яе і ад мамы.

Ды не кожны аранжавы можна назваць так прыгожа, кветкава. Аранжавай рэвалюцыя можа быць, настуркавай — не.

Любіла бабуля гэтыя кветкі. Як і мама. Яна калісьці ўзяла насенне, круглякі-гарошынкі ў палоскі-разрэзкі, у бабулі. Я — у мамы.

У мяне цвітуць тыя ж, бабуліны, настуркі.

## Вусаткі

Штолета еду ў Антанёва, вёску ў глыбіні Налібоцкае пушчы. Да бабулінае хаты, якое даўно няма. Развярэджу душу. Але бабуля суцешыць, пачастуе мяне салодкімі чорнымі ягадамі, вусаткамі. Яна была ганаровай. Сама нічога ні ў кога не прасіла і пазычаць не любіла.

Сёлета сустрэлі мяне мёртвыя дрэвы. Усё згарэла: сусед паліў сухую траву. Згарэў і наш склеп, каля якога заўсёды фатаграфавалася. Спачатку з маленькім сыночыкам, два гады таму — з унучыкам. І іх таксама няма: сынок вырас, унучык — за акіянам.

Страты мае, страты.

Але ўсё гэта ёсць у маёй памяці. І на здымках, з якіх пазірае бабуля, што стаіць з кветкаю флёксаў у руцэ ў сваім гародчыку, і мае маленькія блакітнавокія цуды ў мяне на руках.

І вусаткі са спелымі ягадамі.

## Рабіна

Знаёмыя купілі кватэру ў ваенным гарадку, дзе ў асноўным жывуць сем'і колішніх вайскоўцаў. Суцэльны рускі свет, агрэсіўны, варожы ўсяму беларускаму. У іх пад акном — маленькі парастак рабіны. Суседка з трэцяга паверха пасадзіла. Тлумачыць усім:

— Гэта дрэва ў гонар вяртання Крыма ў склад Расіі.

Мяне адразу варам абдало, хацела сказаць: «Ссячыце». Знаёмая апярэдзіла: «Думаю, як ссекчы».

Сорамна мне стала. У чым вінавата рабіна? Да таго ж: змагацца трэба не тапаром, а розумам. Прапанавала: «Расказвайце ўсім, што гэта дрэва — сімвал беларускае жанчыны. Кажыце пра вобраз з рамана Мележа «Людзі на балоце»: «Як тая рабіна, цвіла ў гэтае лета Ганна...».

Мусім перамагаць прыгожа.

## Пасолька

Час выбіраць пасольку. Гэта слова мае антанёўскае бабулі Мані. Сцвярджала тым самым, што няма ў беларускай мове гука **ф**. Любіла гэтую раслінку, бо непрыхатлівая, бо і на яе пясочках добра расла. Смачная, карысная. І яе ўнучка любіць. Бо нагадвае пра бабулю. Бо любуецца прадаўгаватымі белымі зярняткамі, што так далікатна кладуцца на далоні, слізгаюць. Іх можна перасыпаць, як пацеркі. Але нанізаць на ланцужок нельга. Гэта толькі на выгляд далікатныя. Насамрэч моцныя, не праколеш.

Апошнім часам дамешваецца самотнае. З аповеда Аляксея Міхайлавіча Пяткевіча часоў вайны. У іхнім мястэчку было гета. У хату часта прыходзіла яўрэйская дзяўчынка. Апранутая была вельмі прыгожа: белая кашулька з карункавым каўнерыкам, чорная спаднічка ў складачкі. І сама вельмі прыгожая. Была галоднай. Заўсёды прасіла есці. Мама насыпала аднойчы ў мяшэчак пасолі. Тая пачала есці сырую...

## Журавіны

— Чаго Вы едзеце ў тое балота?

Тлумачу свайму Настаўніку.

Еду ў мінулае. У сваю Налібоцкую пушчу. З бабуляй, мамай. Дзе на светла-шэрых імховых купінах бачу цуд, на які дзіўлюся — не надзіўлюся: парассыпаныя ярка-чырвоныя пацеркі. Збіраем у кошычкі, ссыпаем у мяхі... Апошні раз ездзілі з мамай і дачушкай.

А, яшчэ. Практычныя заняткі па тэме «Міжжанравыя ўтварэнні». Далікатна апускаю на далонькі сваіх студэнтаў

чырвоную кроплю, прашу напісаць верлібр, узоры якога прапаноўваю: «На далоні маёй журавінка...». Цікавыя творы атрымліваліся. Таксама — мінулае.

Увесь той дзень будзе напоўнены паэзіяй. Што толькі не згадаю...

І ўрэшце — каб прымірыцца з тым, што лета мінула.

Еду ў балота.

## Свята

Прыдумала — Свята апошняга яблыка. Не таму, што ў нас іх мала. Аж занадта. Але ці многія святкуем? Ці многія кранаюць душу? Таму прыдумваю свае.

Штогоду, калі сыходзіць цяпло, калі даўно ўжо ўся садавіна сабраная, шукаю ў сваім садзе апошні яблык.

Яшчэ шмат рознакаляровага лісця на дрэвах, таму згледзець між ім яблык вельмі няпроста. Але ведаю: ён ёсць. Ён схаваны недзе між галінаў. Як падарунак, як неспадзеўка. Ведаю, што ён вельмі смачны, бо яблыня аддала яму, апошняму, усе свае сокі, усю сваю пяшчоту. Як маці позняму дзіцятку.

І яшчэ: знайсці яго — як сустрэць апошняе каханне...

Сёння ў мяне свята.

Сарвала апошні яблык.

## Шаткавалі капусту

Гэты вечар зафарбаваны прыгожымі колерамі восені: капусным белым з далікатным адценнем зялёніва, чырвоным журавінавым, яркім марковым. І на ўзоры тым скрозь — цёмныя гратачкі кропу.

Гэты вечар поўніцца памяццю: мамінымі аповедамі пра тое, як дзяцінная чародка ў лясным Антанёве бегла да хаты, дзе шаткаванне, і чакала на салодкі пачастунак — белыя качаны. А яшчэ — заўсёды жаданае з’яўленне ў нашай хаце незабыўнае цёці Ганны — мілае няні, яе аповеды пра маё Шчонава. І шмат чаго яшчэ...

Гэты вечар поўніцца паэзіяй — гучыць ува мне радкамі Дануты Бічэль:

Шаткавалі капусту двое,
А за вокнамі спела восень.
Стукаў ножык па дошцы часценька.
Усміхалася шчасцю шчасцейка.

## Быць можа

Памятаеце, была калісьці папулярнай парфума з такою назвай — «Быць можа». Яе прывозілі з Польшчы. І ўжо адно тое, што з-за нямногім даступнага замежжа, мела свой непаўторны шарм. І мела! Да таго ж — далікатны пудэлак, далікатна ўпакаваны.

Мо і не вельмі файная была парфума, але — назва!.. Яна абяцала нешта неверагоднае, прыгожае, таемнае, што мела водар, настоены з начных кветак: пахучае разяды, сурфініі, петуніі. Ён быў салодкім, той водар нязведанае начное таямніцы.

Падаецца, менавіта беларусам такія назвы блізкія, бо мы ўвесьчасна чакаем цябе, будучыня, «што прыйдзеш, недзе ўсіх нас павядзеш». Недарэмна ж іншым класікам у назве рамана заяўлены матыў — пошукі будучыні.

І я таксама ўсё яшчэ веру: быць можа...

## Роля

Радон. Сяджу на высокіх прыступках дзіцячае горкі. Пішу. З шумлівае купкі малечы вылучаецца дзяўчынка. Падыходзіць. Заглядвае ў мае вочы сваімі светла-блакітнымі вачанятамі. Міла схіліўшы галоўку набок, пытае:

— Што Вы робіце?

— А што робіш ты?

— Я гуляю.

— І я таксама. Толькі ты ў сваіх гульнях іграеш ролю, а я — у жыцці.

— А чаму Ваша роля такая самотная?

Не ведаю, што адказаць. Не таму, што не ведаю. А таму, што дзясяткі варыянтаў адказаў маю. Але ні адзін тут не можа пасаваць, не можа задаволіць наіўную шчырасць і глыбіню яе пытання. І дзіўлюся: між дзяцей ёсць такія дзяўчынкі...

Пэўна, і яна некалі будзе не проста жыць, а іграць самотную ролю.

## Толькі сон

Прачынаюся. Прахопліваюся. Адчуваю, што глядзяць на мяне чыесьці вочы. Глядзяць пяшчотна — так падаецца спачатку. Падаецца, што і вочы тыя бачу. Але яны так блізка, што расплываюцца, рассыпаюцца на аскепкі, і ўгледзець пэўна нічога немагчыма. Да таго ж — ноч.

Чые гэта вочы? Ды ўжо не пяшчота, а глыбокая самота сыходзіць ад іх, ахутвае мяне. Няхай смутак! Толькі не шкадаванне. І — не дай Божа! — нянавісць, чаго баюся страшэнна. Бо яна разбурае мяне. Няўжо ў тых вачох угледжу калі-небудзь нянавісць? А ноч доўжыцца і не мінае.

Што гэта было? «Быў гэта толькі сумны сон...».

Прачынаюся.

Бачу чыесьці вочы.

## Маміны вочы

Насупраць мяне мама. Упершыню бачу, якія незвычайна прыгожыя яе вочы: ярка-сіні блакіт. Яны набрыньваюць слязамі. Нічога між нас не сказана. А яна адчула:

— Што ж гэта будзе, дачушка?

— Усё будзе добра, мама, — кажу ўпэўнена, бо і сама веру.

У маміных вачох з'яўляецца пяшчотная ўсмешка.

Насупраць мяне дарослая дачушка. Ніколі не гаворым пра яе жаночыя пакуты. Але як тое баліць мне!

— Якія ў цябе прыгожыя сінія вочы, мама.

Упершыню мая доня ўгледзела мае вочы.

Насупраць мяне за бяседным сталом пара. З тых, што ўзялі ад жыцця шмат, а возьмуць яшчэ болей. Ён:

— Якія ў А. прыгожыя сінія вочы.

— Так, удала падабраныя лінзы, — яна.

Ніколі лінзаў не насіла. Вочы ў мяне маміны.

*27 жніўня 2015 г.*

## Спадзяюся...

У адным з нумароў «Дзеяслова» міла было сустрэцца з абразкамі Яўгена Рагіна, памятаючы ягоныя даўнія лімаўскія абыпраштоські. Бо ўмее аўтар і з жыцця выхапіць штосьці цікавае, і слова так высвеціць, уладкуе, што яно насамрэч загучыць музыкай.

Але гэтым разам лыжка дзёгцю сапсавала ўвесь мёд. Ягоны герой рассмяяную жанчыну (хай сабе і ў твар) «дагнаў, спыніў, нахаміў, абразіў, папярэдзіў...». Усяго толькі рассмяялася ў твар...

Ідучы па Гародні, звычайна ўсміхаюся, радуючыся, што ў Гародні, што іду. А раптам камусьці падасца, што насміхаюся з яго...

Спадзяюся, што па маёй Гародні герой Рагіна, «зашпілены, страшны», самому сабе нялюбы, не ходзіць.

## Сняданак на вакзале

Ранак. Мінскі вакзал. Да маршруткі процьма часу. Мой сняданак — зусім не тое, што ў «Прыкладным літаратурным меню...» Аксаны Спрынчан. Піражок і вада. Калі хто прыдумае яшчэ «Прыкладныя літаратурныя месцы харчавання», назва майго абразка можа быць пятніцавай.

Эскалатар яшчэ не працуе. На першым паверсе прысесці можна толькі ў адным месцы. Між тых, што наўрад ці куды едуць. Той, што справа, не рухаецца. Таго, што злева, відавочна, нервуе салодкі водар піражка. Адчуваю ягоны позірк. Паварочваюся. Вочы ў вочы.

— Вы хочаце есці?

— Хачу! — прагучала адначасна адчайна і з выклікам.

Разломваю піражок, працягваю палову, якая знікае імгненна.

— Хочаце і гэту?

— Не, не, хай Вам будзе...

Сыходжу. Пакідаю яму ваду...

Вечарам у ФБ чытаю пра тое, як турыстка з Францыі частавала піцаю Рычарда Гіра, не зразумеўшы, што ідуць здымкі, дзе актор іграе бамжа.

Мой пяціхвілінны сусед злева не мог быць акторам.

*3 ліпеня 2015 г.*

## Ненапісанае

Перад ад'ездам у Радон вырвала хвіліну ад клопатаў-збораў-пакіданняў, дабрала часу, каб прачытаць 76-ы «Дзеяслоў». І загарэлася: напішу! Пра тры тэксты (Пацюпы, Скоблы, Івашчанкі), якімі не захапіцца нельга. Напішу не так, як ЛеГАЛ, бягучым радком, а ўдумліва, як сама зразумела. Але — усяго толькі жанчына, якая летам жыве кветкамі, якая даглядае каханенькіх-родненькіх. Якая радуецца сонцу, кахае яго і спадзяецца, што гэта ўзаемна. Да таго ж, у апошнія дні мела вельмі шаноўных гасцей. Не напісала...

Вярнулася з Радону. Дайшлі рукі да ліпеньскае ЛБ. Нарэшце ў папяровым варыянце, а толькі так дакладна, бо звыкла, успрымаю напісанае, прачытала артыкул Малгажаты Бухалік «Пра пусты піяр і сур'ёзную літаратуру», пра які столькі чула ў згадках-цытаваннях. Толькі пані з вольнага свету магла так разумна, дакладна расставіць усё на свае месцы. І зрабіла тое карэктна. Сказала, пра што ў нас казаць баяцца. Чаму? Не магла таго зразумець. Чаму яны ўсюды, чаму дазваляюць сабе такое, што ані нашай літаратуры, ані Беларусі не слугуе. Не магла даўмецца: чаму ўсе маўчаць? Мілая ФБ-каўская сяброўка патлумачыла, што іх усе баяцца, бо «гэтая зграя вельмі моцная, актыўная, з грашыма і грантамі... ім даспадобы ганіць усё беларускае». Дзякую, пані Малгажата!

І шаноўнаму ЛеГАЛу таксама дзякую. Мяркую, ягоныя агляды «Дзеяслова» спрыяюць таму, каб заглянулі многія ў найлепшы наш часопіс. Ён таго варты.

*20 жніўня 2015 г.*

## Пры дарозе

Шліфую роварам маршрут Зарыца-Гожа. Што345 бачу, як пры дарозе кабета сталага веку капае бульбу. Туды еду — капае, вяртаюся — капае. Адна, уручную, драпцамі. Градусы неразараныя. Ні разу не бачыла, каб адпачывала, каб хоць галаву падняла.

Думаю: «Няўжо муж, сын (зяць), унук не могуць купіць на зіму тае бульбы, каб не гнула спіны? А яшчэ ж палола, жука труціла, ды і сябе разам». Зрэшты, што тут думаць? Адказ ведаю: купілі б. Але не дазволіць:

— Хіба ж можна, каб зямелька пуставала? А што я рабіць буду? Сядзець склаўшы рукі і смерці чакаць?

Старая кабета, што выбірае бульбу, — вось сімвал твой, забыты краю родны...

## Шалік

Раварыстка ляціць па схіле асфальтавай дарогі. На шыі закручаны доўгі шалік.

Бо

лета мінула, вецер, што імкне насустрач, зусім не пяшчотны. Восеньскі, халодны, калючы.

Яе абганяе вялізная фура, зрывае шалік, уздымае яго, шпурляе наперад, ды ён вяртаецца, каб ізноў абгарнуць яе шыю. Але яна зрывае яго і кідае ў кошык.

Бо

перад яе вачыма паўстае карціна: знакамітая кабета сядае ў аўто. На яе шыі шалік красы незвычайнае. Пунсовае поле, засеянае сінімі астрамі і чорнымі цмокамі... Машына імкліва набірае ходу, шалік вырываецца на волю, вяртаецца і становіцца пятлёю на шыі гаспадыні. Адзін канец трапляе ў вось кола...

Раварыстка яшчэ хоча жыць.

Айседора Дункан, пэўна, таксама хацела жыць.

## Сукенка

Вельмі прыгожая. Цёмна-барвовы, з чорнымі паскамі трыкатаж. А яшчэ — з люрэксам. Так казалі ў нашых вёсках на бліскучыя ніткі. Мець такую ў сямідзясятыя гады было вялікім шыкам. У крамах такіх не было. Затое жылі яшчэ ў нашым краі краўчыхі з польскіх часоў, якія валодалі сваім майстэрствам дасканала. Не проста адзенне шылі, а мастацкія ўзоры тварылі, вышывалі, да постаці падганялі. Эксклюзіўныя рэчы атрымоўваліся. Матэрыял з-за мяжы даставалі: хто з блізкаедалёкае Польшчы, хто з Масквы, а хто і з Амерыкі.

Гаспадыня гэтае сукенкі — пані доктарава. Прыгожая кабета, якая ніколі не дазволіла сабе з хаты выйсці, належна не выстраіўшыся. Была, ды і засталася, узорам беларускае жаночае шляхетнасці.

Гэтая сукенка Ларысы Антонаўны Геніюш сёння ў Гудзеўскім музеі.

## Валашковая сукенка

Неаднойчы чула ад мамы: «Як цяпер бачу: залатая восень, па алеі ідзе незвычайна прыгожая дзяўчына. Светла-русыя, завітыя валасы, сінія вочы. А на ёй — валашковая сукенка. Не ведаю, дзе гэта бачыла, хто яна. Самы прыгожы ўбор — валашковая сукенка. Пашый сабе такую».

Іду па слядах настаўніцы з мамінага Антанёва, што трагічна загінула, застрэленая чалавекам, які кахаў яе. Выпытваю ў яе вучаніцы, цёткі Веркі: «Якая яна была? Якія валасы, вочы? У што апраналася?» І ў адказ чую: «Прыгожая-прыгожая. Русыя валасы, андуляцыя. А вочы — сінія-сінія. З убораў памятаю валашковую сукенку».

Амаль праз дваццаць гадоў пасля мамінага сыходу даведваюся, чый вобраз неаднойчы малявала мне яна.

Люблю валашковыя строі.

## Адзінаццатка

Мала заўважная адзінаццатка між ганаровых лічбаў-суседак, бо вакол круглая дзясятка і такая знакавая дванаццатка, якая і год закругляе, і лік апосталаў пазначае, і колькасць страваў на калядным стале. А між тым які цікавы лік 11. Дзве адзінкі, два пачаткі. І дзве адзіноты. Якія вельмі блізка, зусім побач, быццам разам. Але насамрэч існуюць яны ў паралельных светах і ніяк не могуць судакрануцца, зліцца ў адно, бо і адна, і другая стаяць роўна, не схіснуцца. І хоць маюць да тых стромых прамых невялікія галінкі-рукі, але і яны таксама існуюць між сабою паралельна.

Зусім не азначае тое, што дзве поруч выстраеныя адзінкі адна адну не заўважаюць. Яшчэ як заўважаюць! Але лёс іх такі: бачыцца, ды не сысціся.

## Вуліца тыгровых архідэяў

— Няма гэткай вуліцы ў нашай Гародні, — скажа кожны, хто ведае горад, але не ведае гарадзенскае паэзіі. І памыліцца. Бо на гэтай вуліцы, што «корсткім успамінам сэрца раніць», жыў Юры Гумянюк. Ён і стварыў яе.

Але сваіх паэтаў люд тутэйшы не чуе. Гэта было б цудоўна, калі б людзі ўмелі іх слухаць. Якім разнастайным, шматколерным стаў бы свет вакол нас.

Што меў на ўвазе Юра? Зразумела, гэта вобраз, у якім адлюстравалася схільнасць тварыць незвычайнае. У дадзеным выпадку — перасяліць незвычайнае ў сваю, блізкую прастору, прастору роднага горада. Але звычайна вобраз мае нейкі штрых, нейкі штуршок, які выкліканы тым, што часам неспадзявана паўстае перад нашым зрокам.

Вось жа, доўга разважала над гэтым. Архідэі тут на вуліцах не растуць. Затое ледзьве не пры кожным доме растуць тыгровыя лілеі, якія нагадваюць тыгровыя архідэі. Нагадваюць вобраз, створаны Юрам. Мо згледзеўшы іх, прыдумаў паэт тую назву?

Няма такое ў нашай Гародні. І ніколі не было. Але хочацца верыць, што будзе. Чаму б не? Бо «ўратавальная надзея абуджае стомленую памяць».

## Ці пазналі?

На ўскрайку сквера Жылібера, з тыльнага боку, стаіць помнік. Помнік — не помнік, а так сабе — паркавая скульптура. Без цокаля, без надпісу.

Любяць юныя паненкі фатаграфавацца з ім у абдымку. Пытаю часам:

— Чый гэта помнік?

Адказ заўсёды адзін:

— Не ведаем.

— То чаму абдымаеце незнаёмага мужчыну?

А чакалася калісьці, што паўстане ў Гародні сапраўдны помнік ля цэнтральнага ўваходу ў сквер з боку вуліцы Элізы Ажэшкі. І каб цокаль быў, і надпіс: хто і чаго тут стаіць. Каб ведалі гарадзенцы, каб памяталі. Бо Жан Эмануэль Жылібер, стваральнік і кіраўнік Гродзенскай медыцынскай акадэміі, заснавальнік акушэрскае і ветэрынарнае школы, клінічнага шпіталю і гэтага сквера, які быў батанічным садам, таго варты.

Ці пазналі яго тыя апошнія дрэвы ў скверы, якія ён пасадзіў?

## «Толькі б Нёман не высах...»

А ён высыхае. Вельмі хутка. Літаральна на вачох. Выспы, якія ўзнікаюць у розных месцах, нагадваюць спіны рачных пачвараў, што павольна, ды няўхільна ўздымаюцца з вады.

Спускаючыся па каменных сходках, можна было нечакана ці чакана ступіць у халодную вясновую ваду. Зараз яны да вады не прывядуць. Нават вясною. Яна адступае. Асабліва паскорылася гібенне вялікае ракі пасля таго, як пабудавалі Гродзенскую гідраэлектрастанцыю, залілі нёманскаю вадою вакольныя лугі, палі.

Літанне-заклінанне гарадзенскай паэткі Дануты Бічэль: «Толькі б Нёман не высах...» — не спраўдзілася.

«Прынёманская спявае», — так пісалі пра яе ў 60-я гады, бо столькі было ў тым маладым голасе своеасаблівых адценняў, сугучных з плынню вялікай ракі ды з песнямі Прынямоння.

Не гучаць над Нёманам жывыя песні. Рака высыхае.

## Яна чакае

Ці можна без болю глядзець на пакінутыя вясковыя хаты?

Калі ведаеш, як цяжка яны будаваліся. Без тэхнікі, без грошай, якіх у калгасах не плацілі.

Калі ведаеш, колькі дзяцей выгадавалі, у свет пусцілі.

Стаяць, дажываюць. Каб аднойчы дачакацца, што прыйдзе бульдозер, ператворыць у друз, закапае. Каб было чыста і «красіва». Каб не мулялі вочы тутэйшаму начальству.

Але пакуль яны стаяць. Чакаюць. Мо з'явіцца хто, хай сабе чужы. Але захоча вярнуць сюды жывы дух. Паселіцца, навядзе парадак. Ды найбольш чакаюць яны, што вернецца нехта з тых, хто тут зрабіў першы крок.

Перад вачыма паўстае хата на ўскрайку Суботнікаў.

Яна чакае.

## Стрэмка

Яго не стала між намі даўно. Значна раней, чым не стала зусім. Сышоў, бо не змог утрымацца. Бо не ўмеў трымацца за жыццё, не ўмеў ані вырваць для сябе ад іншых, ані самому нешта стварыць. Быў слабым.

Мы, ягоныя калегі, далі яму магчымасць знікнуць. Бо кожны ведаў: чалавек жыве і памірае на самоце, якую пераадолець можна толькі з каханым, з суджаным. Ягоная каханая пакінула яго, слабога, і свет, не надта міласэрны да яе, яшчэ раней. Кожны з нас меў не адну прычыну, каб згадка пра яго заставалася адно згадкай. Адно стрэмкай, якая часам вярэдзіла. Дастаць яе было цяжэй, чым звыкнуцца.

Зараз яна застанецца назаўсёды.

*25 лістапада 2015 г.*

## Адно вока

— Што тоё адно дзіця? Як адно воко ў лобе, — так казала мне колісь наша мілая, мудрая няня цёця Ганна.

Аднавокім быць не дай Божа. Адным вокам свет бачыць — крыху больш чым напалову. Палохаць з непрывычкі іншых чорнаю павязкаю. Але з гэтым можна жыць. Можна змірыцца.

Ды размова не пра гэта. Пра дзіцятка. Самае страшнае — тое адзінае вока страціць. Поўная цемра. Трагедыя, з якое не выбрацца. Бо нішто больш не сагрэе. Бо нішто не асвеціць вечную цемру болю.

І яшчэ. Перш чым вырашыць, што больш за адно дзіця мець не буду, чаму б не задумацца: ці правільна пакінуць яго адзінокім у свеце, без самае блізкае, кроўнае радзіны?

## На вока

Ведаеце такую мерку ў рэцэпце — на вока? Менавіта так у маім Шчонаве насыпалі муку, робячы рошчыну на аладкі, цеста для пячэнікаў, а даўней і хлеб расчыняючы. І ніхто ніколі не важыў і не мераў. Усё смачнае атрымоўвалася.

Прыехала на Радзіму бацькоў з-за акіяну Ліля, дачка колішняе шчонаўкі Насці Абэлгавае, якую звезлі адсюль у немаўлячым веку напрыканцы вайны. Упадабала яна пшанічныя аладкі і захацела рэцэпт займець. Гаспадыня, яе сястра стрыечная, таксама шчонаўка ў другім пакаленні, райчанка Тася Мухіна і кажа: «Мукі — на вока». А госця змыслая, кабета з гумарам, удакладняе: «А на якое вока: на гэта ці на гэта?» Пытае так хітранька, па чарзе вачыма міргаючы.

Пераказала пасля праз скайп, як размаўляла з адною канадыйкаю.

## Маё поле

Мая сцяжына да аўтобуснага прыпынку вядзе праз поле. Часцей тут расце кукуруза, часам рапс. З вясны назіраю, як яны дужэюць, цягнуцца ўгару, каб урэшце да сярэдзіны лета

каралева палёў далёка перагнала мяне, схавала ў сваіх зарасніках.

Шторазу пачынаю свой дзесяціхвілінны шлях з трыялета Юркі Голуба «Калі я праз поле ішоў...». Думаю пра той зажураны камень, які заўсёды вісіць і над маёю душой. Часам сілы, што трымаюць яго над намі, апускаюць так нізка, што, падаецца, упадзеш пад ягоным цяжарам. Але выжываеш. Ідзеш далей да свайго прыпынку, каб ехаць па новым адрасе, каб ізноў нешта рабіць, нешта распачынаць.

Майго поля няма. Яго аддалі пад забудову. Растуць катэджы, прыгожыя і не вельмі, вялізныя і не вельмі.

А я ўсё роўна іду праз поле і чытаю трыялет Юркі Голуба...

## Навагодняе

На світанні Новае навагодняе Неба вырашыла злітасцівіцца з мёрзлае шэрае зямлі, прыхарашыла яе, злёгку прысыпаўшы снегавым пухам, Гэта не банальная метафара. Калі ішла па сцежцы, той снег-пух так і разлятаўся ва ўсе бакі.

Ва ўсім Краі снег ужо колькі часу радаваў людзей. Толькі на Захадзе ўсё не спяшаўся.

Парадавала Неба і тых, хто быў самотны гэтаю ноччу і каму наканавана было застацца самотным на ўвесь год. Бо несамотныя яшчэ салодка спалі, скануючы ў снох начную весялосць, снуючы адбіткі загаданых мараў на год наступны.

Кожнаму сваё. І ў навагоднюю ноч, і на ўсё жыццё.

*01.01.2016*

# Я была такой шчаслівай

Прыгадала верш: «Зноў зімы не было, снег ішоў-не ішоў, раставаў і знікаў, як надзеі святло...». Гэта і пра сёлетнюю, ужо прамінулую зіму. І гэта асабліва самотна, бо нельга было лёгка з'ехаць на лыжах з маіх невысокіх гарадзенскіх гораў насустрач ветру або праімчацца на каньках у скверы Жылібера, адчуўшы радасць вяртання ў маленства. Адкінуўшы той недарэчны сюжэт, што разыграўся ў сценах роднае ВНУ, адкуль мусіла сысці. Праз увесь гэты самотны час, які расцягнуўся для мяне амаль на два месяцы, з'яўлялася ратавальная думка: «Я была такой шчаслівай...».

## 15.12.1992–28.02.2015

Між гэтымі датамі — мая праца ва ўніверсітэце. Не так і многа. Бо ў 1981 годзе, калі закончыла беларускае аддзяленне філфака і мне прапанавалі застацца на кафедры, катэгарычна адмовілася: «Як гэта я буду выкладаць? Я ж нічога не ведаю». Суцяшальнае Аляксея Міхайлавіча Пяткевіча: «Літаратуру ведаць нельга. Яе можна толькі адчуваць. Вы адчуваеце», — не пераканала.

Вярнулася праз дзесяць гадоў, калі нацешылася працаю ў халоднай савецкай школе, дзе не ўсё было дрэнна, але мала добрага. Калі закончыла аспірантуру.

Я была такой шчаслівай! Якой толькі можа быць асоба, чые любоў і праца — гэта адно і тое ж. Акторка, мела вельмі прыхільных гледачоў, мела сцэну, дзе роля мая была не столькі галоўнай, колькі любімай, якую выконвала з натхненнем. Менавіта ў часе, калі чытала лекцыі, нарадзіліся многія ідэі, што пасля рэалізоўваліся ў артыкулах.

Праца лячыла мяне. Перад тым, як зайсці ў аўдыторыю, адкідала ўсё дрэннае, усміхалася, мне было так лёгка. На месцы стаяць не магла. Дзясяткі разоў за лекцыю абходзіла аўдыторыю. Не толькі таму, што мой крыж не трывае статычных

вертыкальных нагрузак. Словы, думкі клікалі мяне рухацца ва ўнісон з імі. Цікава, колькі кіламетраў прайшла за свае лекцыі? Не ведаю, як студэнты рэагавалі на мае праменады. Ніколі ніхто нічога не сказаў. Спадзяюся, звыкаліся і ім тое не перашкаджала.

Праца лячыла і ў прамым сэнсе. Студэнты не мусяць ведаць, што выкладчыку баліць. А мы ўсяго толькі людзі. І нам часам баліць. Бывалі моманты, што думала: не змагу лекцыю прачытаць. Апранала ўсмешку, заходзіла ў аўдыторыю. Пачынала гаварыць — і боль адыходзіў, каб доўга яшчэ не вярнуцца...

Што цяпер будзе лячыць? Будзе. У кожны мой выхад у горад заўсёды сустракаю сваіх студэнтаў. Даўніх і нядаўніх. Абавязкова нехта павітаецца, смялейшыя загавораць. А колькі тых, хто не асмеліцца падысці. І на розных імпрэзах яны — мае студэнты. І я гэтак жа лёгка іду па маёй Гародні, усміхаючыся, радуючыся, чытаючы вершы. І ў універсітэт заходжу, прайдуся да прафесарскай галерэі, пагавару з вартымі, праміну нявартых (і між прафесараў такія ёсць), зайду на трэці паверх, каб прыгожа сысці па галоўнай лесвіцы. Я іду па сваім універсітэце!

## Мае студэнты

Я была такой шчаслівай! Мела такіх студэнтаў, якіх жадаю мець кожнаму выкладчыку, хто любіць сваю працу. Магу гаварыць пра іх бясконца. Апошнім часам, калі беларуская прастора страшэнна звузілася, іх, сапраўдных студэнтаў, стала вельмі мала. Сапраўдных — гэта тых, што прыходзілі на беларускае аддзяленне невыпадкова, не толькі дзеля таго, каб атрымаць хоць які дыплом. Гэта тыя, што прыходзілі свядома, абраўшы шлях у філалогію беларускую, бо беларусамі ўзгадаваныя. Іх сёння меншасць. Адкуль яны прыходзілі? Большасць з тае незвычайнае меншасці — са школы. Бо ёсць яшчэ і Настаўнікі беларускія. Гэта тыя, каго называю сваімі студэнтамі. Імкнулася дайсці і да іншых. Часцей марна.

Хацела не столькі навязаць сваё, колькі даць ім магчымасць выбіраць. Прасіла, прачытаўшы артыкул, вылучыць, з

чым нязгодны. Вершы вучыць толькі тыя, што спадабаліся, каб засталіся, каб не толькі дзеля адзнакі... Уявіце: трэба вывучыць на памяць верш Багдановіча. І — дзяўчынка выбірае «Страцім-лебедзь» (памятаеце, колькі строфаў?), цудоўна чытае яго на практычных занятках, ні разу не змыліўшыся (Надзея Шакун). Трэба вывучыць верш Ларысы Геніюш — чытае «Партызаны» (прабачце, мілая: не памятаю, хто). Як гэта было хораша, калі, адказваючы на Дзяржаўным экзамене перад камісіяй, дзяўчынка ўставала і пачынала выразна чытаць верш. Версэт «Раны» Ядвігіна Ш. — на памяць. Прыгожа!

Два Паэты між маіх студэнтаў: Анатоль Брусевіч і Аня Аўчыннікава. І многія, хто творыць. Апошняй на маім шляху з'явілася Вікторыя Смолка — светлы промень у цёмным царстве. Колькі святла ў яе лістох да мяне! А вершы якія! Ёй хацелася падтрымаць сваю выкладчыцу, дапамагчы Словам. Дзякую, мілая, за Вашы вершы:

Я буду з Вамі, буду Вашай,
Вясна далучыцца да нас,
Як далучаецца бясстрашна
Да сэрца прамянёвы вальс.
Яшчэ Вы зможаце вярнуцца
Туды, адкуль пяе ручай
І меладычнасцю гаючай
Перабінтоўвае адчай.
Каб Вы ў душы чаканне мелі
Вясны, якой духмяніць бэз,
Я падыму надзеі келіх
І прыгублю за Ваш пратэст...

А хлопчыкі між дзяўчынак якія былі: Дзіма Томчык, Павел Ушкевіч, Дзяніс Вашкевіч, Артур Камароўскі, Кірыл Бялятка... І апошні — Дзіма Даўгаполік, які з сястрою Альжбетай падарыў мне на развітанне ікону Маці Божае Жыровіцкае.

Хто Ваш любімы пісьменнік? — задавала гэтае пытанне не проста. Гэта як лакмусавая паперка: хто яны, мае студэнты? Пагадзіцеся, калі любімы Кандрат Крапіва, а калі Максім

Багдановіч — гэта вялікая розніца. А калі Павел Севярынец? Такі адказ быў адзіным, быў выключэннем. Але — быў! Радаснаму здзіўленню майму не было межаў. Да таго ж: «Я з ім знаёма». Уяўляеце, якая студэнтка?!

Мне было вельмі важна данесці да іх імкненне быць вольнымі, матыў, які вылучала ў творчасці кожнага класіка. Як і матыў здрады, даносу. Чаму Паўлінка падае? Яна — не нейкая далікатная паненка. Моцная дзяўчына. Што яе аж так узрушыла? Данос, здрада. Бойцеся стаць на гэты шлях! Хочацца верыць, што мае студэнты на мяне не даносілі...

Спадзяюся, нешта ў некага ў душы засталося. Доказам таму верш Аліны Паўлоўскай з апошніх маіх студэнтаў, які яна пераствaрыла з майго і які прыслала мне наўздагон:

Вы пакідаеце сцены ўніверсітэта, але...
Але ж нам застаюцца Вашы вершы,
І іх не замяце вятрамі восень.
Былі Вы тут.

Нам дастаткова ў тое верыць.
Вы ёсць.

І гэта нам не падалося.
Вы ёсць.

І Вы не проста водгук слова,
Што мы сабе прыдумалі.

Пра волю.
Хацелі ведаць, што ж гэта такое?
Уведалі.
Спазналі.
І ўтрымаем.
І шчырай развітальнаю слязою
Святло мы Ваша ў сэрцы захаваем!

Ганаруся, што была ў мяне студэнткай Віка Воўкава, якая сёння працуе настаўніцай. Прыехала на вечарыну з Дзятлаўскага раёна. Дазволю цытату з яе артыкула з сайта

«Твой стыль». Мо крыху пафасна, але, па сутнасці, так. Ёй непатрэбна было дапытвацца, як неразумным журналістам, чаму сыходжу. Усё і так зразумела: «На нашых вачах здзяйснялася нешта недарэчнае, жахліва несправядлівае, тое, што мы не здолелі прадухіліць: выдатны выкладчык, улюбёны ў сваю працу, незвычайны чалавек, адданы Беларусі і беларускай справе, развітваўся з універсітэтам, развітваўся з тым, што яму так блізка і дорага, развітваўся яшчэ ў росквіце сіл і магчымасцяў. І мы нічым не маглі дапамагчы. Годны чалавек мужна крочыў па абраным шляху, які падказала яго сумленне.

Сысці прыгожа...

Сысці з добрай усмешкай на вуснах...

Сысці, перамагаючы боль...

Сысці, каб захаваць сябе і сваё сумленне...

Колькі трэба мець мужнасці, каб сыходзіць вось гэтак...

І гэта таксама урок выдатнай выкладчыцы. Урок жыццёвы».

Праўда, мужнай сябе не лічу.

## Паэтычныя хвіліны

Не памятаю, адкуль прыйшла гэтая ідэя: у часе лекцый рабіць паэтычную паўзу. Памятаю, калі: з першае лекцыі. І дзеля таго, каб адпачылі іх ручкі, бо пішуць-пішуць... І дзеля таго, каб згадалі імёны, якія са школы памяталі адзінкі: Яўгенія Янішчыц, Ніна Мацяш, Раіса Баравікова, Эдуард Акулін... або ніколі ў школьным жыцці не чутыя: Святлана Басуматрава, Таццяна Сапач, Анжаліна Дабравольская, а то і «небяспечныя»: Уладзімір Някляеў, Славамір Адамовіч... І тыя, хто ў 90-я быў вярнуўся, і каго з сённяшніх маіх (апошніх!) першакурснікаў не назваў ніхто: Наталля Арсеннева, Ларыса Геніюш. І, зразумела ж, нашы гарадзенцы: Данута Бічэль, Юрка Голуб, Едрусь Мазько, Юры Гумянюк, Анатоль Брусевіч...

Звычайна чытала вершы, якія адпавядалі таму, што за вакном (снег, дождж, завея, восень, вясна), каб пашырыць прастору, каб вывесці з аўдыторыі на волю. Каб пашырыць далягляд паэтычны. Ці звязаныя з нейкімі датамі (да прыкладу, верасень — Арсеннева, Мацяш, Танк) ці — «Зноў Дваццаць Пяты

Сакавік...» — ніхто ніколі з маіх былых калегаў не прачытае студэнтам гэты верш.

Зрэдку чытала свае вершы. Не называючы, чые. Была нават прыдумала такую загадку: калі ў Гародню прыходзіць вясна? Апошнім часам адказ быў правільны: калі на вуліцы Ажэшкі цвітуць каштаны. Мае студэнты памятаюць гэты верш.

А развіталася з курсам вершам Яўгеніі Янішчыц «Да сустрэчы...».

Толькі аднойчы атрымала заўвагу. Ад былое каляжанкі на паседжанні кафедры, што прысутнічала на маёй адкрытай лекцыі: «Не разумею, пры чым тут вершы?» Ігар Васільевіч Жук імкнуўся абараніць. Мяркую, дарэмна. Калі філолаг не разумее, пры чым вершы, то ці філолаг ён?

Неаднойчы чула ад маіх даўніх студэнтаў, што памятаюць яны тыя хвіліны. Нават лепш, чым змест лекцый.

Зараз у мяне гэтага не будзе? Яшчэ як будзе. Для значна шырэйшай аўдыторыі. Запісваю на відэа і прапаноўваю на сваіх сайтах. Сустрэнемся на паэтычнай хвілінцы!

## Песні

А яшчэ ў часе лекцый прапаноўвала паслухаць нашы прыгожыя песні. Не думайце, што нейкія канцэрты наладжвала. Усё да тэмы. Чытаю паэзію Купалы — спявае Данчык («Шумныя бярозы», «Я ад Вас далёка», «Спадчына»), Максіма Багдановіча — гучыць голас Эдуарда Акуліна, чытаю лірыку Гаруна — спявае Вальжына Цярэшчанка, згадаю Уладзіміра Някляева (не мой паэт, але згадвала) — заспявае Зміцер Вайцюшкевіч. Спявалі ў маіх аўдыторыях тыя, чые імёны большасць студэнтаў не чула ніколі. Чаму? Бо наша краіна называецца Анекдот. Памятаеце?

Калі заканчвала чытаць творчасць Купалы, давала магчымасць паслухаць Віктара Шалкевіча (Гародня, а часам ні адзін са студэнтаў гэтага імя ніколі не чуў!) Што ён спяваў? «Жлобскую нацыю» — тое, у што ператварыўся наш люд, які, як марыў Купала, павінен быў стаць народам. У што ператварыўся беларускі шлях, на які клікаў Купала. І куды прыйшлі

(на могілкі)... Супакойцеся, Шалкевіч не блазнуе, не здзекуецца, яму баліць... Гаварыла гэта, каб абудзіць пратэст: так не павінна быць, так не ёсць, мы — не тутэйшыя, мы — не жлобская нацыя, мы — беларусы... Творчасць Купалы апошняму трэцяму курсу не дачытала, апошняму другому нават не пачала чытаць.

Чытала лірыку Ларысы Геніюш (хто і як гэта будзе чытаць?), Вальжына Цярэшчанка абавязкова спявала «Запяі мне песню...». Заўсёды прасіла дзяўчынак, што мелі голас, вывучыць гэтую песню (яны тут жа перакідалі яе ў свае далькажыкі). А пасля, на практычных занятках, замест каб чытаць верш, спявалі. Як прыгожа спявалі гэтую песню Юля Базіна, Жанна Сяргей, Віка Янчарская, якая пасаромелася праспяваць яе на развітальнай вечарыне.

Вось жа, прасіла, каб гэтыя песні спявалі яны там, дзе будуць працаваць. На нейкі конкурс мая студэнтка, ужо настаўніца, прапанавала «Запяі мне песню...». Да наступнага этапу не дапусцілі: гэта ж на верш Геніюш!..

У мінулым стагоддзі насіла ў аўдыторыю плыты з запісамі Данчыка, свой прайгравальнік, затым магнітафон-касетнік, пазней з'явіліся дыскі. З'явіўся магнітафон на кафедры.

Была ў мяне прыгожая касета «Песні беларускіх мінестрэляў». Прыходжу на лекцыю, раскрываю касетны пудэлак, а там пуста. Касета знікла.

Тое ж было з дыскам Вальжыны Цярэшчанкі «Хтось крануўся крылаў». Таксама застаўся пудэлак. А дыск знік.

Не, мне не было шкада гэтых стратаў. Тым больш, што дыск набыла зноў. Уяўляеце, калі нехта не пабаяўся зайсці на кафедру, дастаць з шуфляды выкладчыка касету, дыск, то як яму хацелася мець тыя песні!? Так заўсёды думала. Зараз, калі пішу гэтыя радкі, прыйшла недарэчная здагадка: а што калі забіралі, каб тыя песні не гучалі ў аўдыторыях? Не магу ў такое паверыць!

Апошнім часам было вельмі проста — песні гучалі з далькажыка.

Колькі іх правяла! Колькі іх правяла? Паспрабавала палічыць. Налічыла больш за дваццаць. Гэта не ўлічваючы розных прэзентацый, сустрэчаў у розных установах. Гэта тыя вялікія вечарыны, што часцей адбываліся ў актавай зале, часам у вялікіх аўдыторыях (3, 15, 16). Да знакавых датаў. І рабіла гэта, ніколі не маючы ніякіх абавязкаў: ніколі не была куратарам, ніколі не мела ніякіх пасадаў, што абавязвалі б, ніколі не было ў нас ніякіх рэйтынгаў, дзеля якіх сёння многія актывізаваліся.

Самая першая ў лютым 1993 года. Да стагоддзя з дня нараджэння Максіма Гарэцкага. Толькі з'явілася ў універсітэце. Памятаю як сёння.

Першая вечарына, прысвечаная паэзіі Данута Бічэль, адбылася вясною 1993 года. Пасля было яшчэ некалькі. Ажно сем песняў на вершы паэткі стварылі да тае вечарыны студэнты. Казала ім: чытайце яе паэзію, слухайце, вершы павінны загучаць як песні. Так і спявайце. Спявалі. Самі і акампанавалі. Аксана Кніга, Аляксандр Сувораў...

Санаторый «Радон». Канцэрт. Самадзейнасць. Толькі расейскія шлягеры. І раптам выходзіць дзяўчынка: «Праспяваю песню, музыку напісала сама. На верш Уладзіміра Караткевіча "У векавечнай Бацькаўшчыне клёны..."» Гэта быў такі цуд, такая неспадзяванка! А пасля канцэрта падбягае да мяне тая дзяўчынка: «Вы мяне не пазналі? Убачыла Вас у зале і для Вас праспявала песню. Я Аксана Кніга...». Ці ж не цуд? Каля дваццаці гадоў мінула.

Пра вечарыну да 120-годдзя з дня нараджэння Алаізы Пашкевіч нагадала неяк мая каляжанка Наталля Мікалаеўна Гардзей, якая зараз працуе ў Гомелі. «Думала, што за ўсе гэтыя гады было самае цікавае ва ўніверсітэце, і згадала Вашу вечарыну, прысвечаную Цётцы». Амаль дваццаць гадоў мінула. Цэнтральнай у праграме тае вечарыны была музыкальна-паэтычная кампазіцыя «Каханне і смерць». Дзяўчынкі (тры ў белых строях, Зялёнка (Валя Гурневіч) — у чырвонай сукенцы) танцавалі, я чытала тэкст (была ў чорным). Танец пастаўлены прафесійна. Бо ў тыя часы пра-

цавала ў нас (факультэт беларускай філалогіі і культуры) выкладчыца Алена Саланевіч (дзе яна зараз?), якая неаднойчы дапамагала мне з танцавальнымі нумарамі. Апошні акорд — Зялёнка падае і пад ногі ёй падаюць чырвоныя ружы. Вялізны букет.

Вечарына Наталлі Арсенневай да 100-годдзя. 2003 год. Ужо не ў універсітэце. У вялікай зале ГДК на Дзяржынскага. Тыя, хто быў, памятаюць. Як цікава расказваў Аляксей Міхайлавіч Пяткевіч пра сваё знаёмства з вершамі паэткі ў беларускай школцы ў першай палове 40-х гадоў. Як выключна прачытала верш «Годзе!..» Надзея Чукічова. Як цудоўна напрыканцы прагучала малітва «Магутны Божа», бо на сцэну выйшаў хор «Бацькаўшчына» пад кіраўніцтвам Веры Кунцэвіч. Бо спявалі амаль усе, хто быў у зале.

Наогул, многія вечарыны заканчвала гэтай малітвай. Падводзіла так, што гэта было цалкам лагічна. Усе мае студэнты ведалі гэты твор на памяць. У лепшыя часы запрашала спадарыню Веру, і яна развучвала са студэнтамі «Малітву». Спявалі ўсе. Да экзамену абавязкова трэба было ведаць гэты верш. Лепшыя часы — гэта калі курс «Літаратура беларускага замежжа» быў сапраўдным: каля 40 лекцыйных, каля 20 практычных і экзамен. Для параўнання сёння — спецкурс «Літаратура бліжняга замежжа», дзе была «схавана» творчасць эмігрантаў, — 16 лекцыйных, 8 практычных і ніякае (!) формы кантролю. Як сёння працаваць?

Вось жа, адну з сваіх выпускных вечарынаў, калі ўручалі дыпломы, мае студэнты закончылі «Малітвай». Ганаруся такімі студэнтамі.

Сваю апошнюю развітальную вечарыну завершыць «Малітвай» не думала. Напярэдадні тэлефануе Дзіма Даўгаполік: «А ці прагучыць у канцы “Магутны Божа”?» — «Не». Але вечарына закончана. Усе ўсталі і не сыходзяць. І спадарыня Вера ў зале. І тады прашу яе выйсці і пакіраваць хорам. І малітва «Магутны Божа» прагучала. Мяркую, у сценах універсітэта апошні раз. Як і апошні раз сюды была запрошана Данута Бічэль, чыё імя сёння забаронена называць

між самых знакамітых выпускнікоў філалагічнага факультэта. Яна пра тое не ведае. І не трэба, каб ведала. Мне не месца на такім факультэце.

Дзіўныя рэчы адбываліся часам на маіх вечарынах. 2002 год. Да 120-годдзя Купалы і Коласа. Між іншага — спектакль паводле п'есы Галіны Каржанеўскай «Дарункі добрых духаў». Прыгожы спектакль атрымаўся. Вось жа, выступаў хіба Аляксей Міхайлавіч. На сцэне прымацаваны партрэты Купалы і Коласа. Раптам партрэт Купалы пачынае падаць. Падае павольна, не падае, а спадае, сплывае. Чаму? Замацаваны быў не горш, чым партрэт Коласа.

Тая ж містыка ў часе вечарыны да 90-годдзя «Нашай Нівы». 1996 год. На хвіліну знікае святло (так павінна па сцэнары), запальваецца свечка. Калі звятло загараецца, падыходжу да століка, дзе ляжалі нумары сённяшняе «Нашай Нівы», і не знаходжу іх (усе бачылі, сама паклала!) Зразумела, разгадка была: новая «Наша Ніва» не заўсёды шанавалася. Але хто паспеў за тыя хвіліны так спрытна тыя нумары схаваць? І сёння не ведаю. А часам такое недарэчнае адбывалася і пасля імпрэзаў. Вечарына да 100-годдзя «Нашай Нівы» выклікала нейкую незразумелую валтузню: выклікаліся на разборкі загадчык кафедры, намеснік дэкана. Прарэктар, з тых, хто ўсё беларускае на дух не пераносіць (колькі іх — і прарэктараў, і тых, хто на дух!..) крычаў на загадчыка кафедры: «Як пасмелі? "Наша Ніва" — апазіцыйная газета!» На што бедны загадчык тлумачыў: гэта ж тая, якая была сто гадоў таму. Пра гэта прарэктар-гісторык (!) не ведаў. Загадчыка адпусцілі. Але крамолу ўсё ж шукалі. Старанна. Двойчы (!) глядзелі запіс: усё было знята на камеру дырэктарам музея, які па сумяшчальніцтву выконвае і іншыя функцыі. Вось бы мне гэты запіс! Арганізатарка вечарыны нічога пра тыя разборкі не ведала. Даведалася пасля. Калі асмялелыя калегі ўжо жартавалі, расказваючы, як маленькі прарэктарчык трос кулаком перад носам высокага загадчыка кафедры Уладзіміра Іванавіча Каялы. Даведалася і праз некалькі гадоў ад галоўнае тагачаснае

прарэктаркі-ідэалагіні, да якое сама ўжо была выклікана на разборкі за нейкі подпіс (шчыра — не помню супраць чаго). Сустрэла ветліва: «Нарэшце ўбачыла Вас жывую. Бо аж два разы глядзелі мы Вашую “прекрасную вечеріну”». Ушчуваць таксама старалася не надта. «Надта» я не трывала б. Нічога крамольнага не рабіла. Да таго ж, побач была тая з маіх былых каляжанак, якая і папрасіла пра той подпіс. Якая міла ўсміхалася прарэктарцы, што ўжо не надта шчыравала. Відаць, прадчувала свой канец (для такіх канец — гэта развітанне з пасадай).

Што было з вечарынай памяці Юры Гуменюка, якую забаранілі ва ўсіх музеях, ва ўсіх бібліятэках і, зразумела, ва ўніверсітэце, які ён, студэнт-выдатнік, закончыў і дзе нейкі час працаваў, згадваць няма сілаў. Самае жахлівае: выклікалі выкладчыкаў з пагрозамі звольніць, калі пойдуць, студэнтаў з пагрозамі выключэння. Выдатнікам пагражалі выключэннем! Ніхто з маіх калегаў з філалагічнага факультэта не прыйшоў. Ніхто. Калі застаешся адна, зусім адна, мусіш сысці. Гэта чужое поле. Гэта іх вайна. Не мая. Я — не воін. Жанчыны не павінны ваяваць. Тыя, хто не можа і не жадае.

Апошняя мая развітальная вечарына. Цяжка і пра яе пісаць. Балюча. Але я не заплакала. Ні разу. Фотасправаздачы на маіх сайтах. Напішу толькі пра незвычайны момант. Наша гаспадыня кафедры (Хто сапраўдныя гаспадыні? Зразумела, лабаранткі. Выкладчыкі прыходзяць, сыходзяць, а яны на працоўным месцы заўсёды) вырашыла прачытаць для мяне вядомую паэтычную мініяцюру Ларысы Геніюш. Незвычайнае тут тое, што Галіна Вацлаваўна рускамоўная, ніколі да працы на кафедры па-беларуску не размаўляла. А тут вырашыла верш прачытаць. Чытала натхнёна, выразна. Чаму менавіта гэты верш, які яны выбіралі з Надзеяй Чукічовай без майго ўдзелу? Гэта якраз і было самым незвычайным. І згадала я тое ўжо ў часе вечарыны. У 1992 годзе, калі ішла на самую першую лекцыю, менавіта ў гэтай 3-й аўдыторыі на сцяне ўгледзела плакат з вершам Ларысы Геніюш:

Адзінай мэты не зракуся,
і сэрца мне не задрыжыць:
як жыць — дык жыць для Беларусі.
А безь яе — зусім ня жыць.

З гэтым вершам, які так старанна чытала Галіна Вацлаваўна.

І тых, хто прыйшоў развітацца са мною, было прыблізна як тады студэнтаў — каля сотні. Ці ж не містыка? Ганаруся: сустрэла і праводзіла мяне сама Ларыса Геніюш, адна з гераіняў мае апошняе літаратуразнаўчае кнігі «Старонкі Гарадзеншчыны літаратурнай». Якую напісала найперш дзеля маіх студэнтаў.

## Кветкі

Я была такой шчаслівай! У маім выкладчыцкім жыцці было мноства кветак. Асабліва ў мінулым стагоддзі. Вярталася з экзаменаў з шыкоўнымі букетамі. На вуліцы чула: «Якія прыгожыя кветкі! Ад каго букет?»

Гэта быў самы высокі з усіх маіх хлопцаў-філолагаў. Адзін з самых першых выпускаў. Філолагам хіба не застаўся. Ды і быў, пэўна, філолаг ніякі. Бо нічога пра яго не памятаю. І ніколі ў жыцці пазней не сустрэла. Экзамен. Заходзіць у аўдыторыю з вялізным букетам белых півоняў. «Не вазьму Вашы кветкі!» — «Не возьмеце — выкіну праз акно!» Ураз уявіла, як з чацвёртага паверха (аўд. 15? 16?) падаюць гэтыя шыкоўныя (а ў чым вінаватыя?) кветкі... «Пакіньце...» — «Не думайце толькі, што дзеля адзнакі...».

Менавіта гэтыя кветкі сталі «героямі» майго вядомага (кажу без какетлівае сціпласці) трыялета. Яны стаялі ў маім пакоі ў інтэрнаце на Пралетарскай, на часопісным століку, які быў і працоўным месцам. А пасля пачалі паволі асыпаць свае пяшчотныя пялёсткі. Няўжо хтосьці з маіх студэнтаў не памятае гэты трыялет?

Асыпаюць півоні пялёсткі.
Колькі часу ў тае прыгажосці?

Напамінам, што ўсе мы тут госці,
асыпаюць півоні пялёсткі.
Я яшчэ ўсё чакаю кагосьці,
хто быў добрым, а стаў такім жорсткім...
Асыпаюць півоні пялёсткі.
Колькі часу ў тае прыгажосці?

А яшчэ памятаецца, як Дзіма Томчык (сёння мой калега-выкладчык з БРУ) прынёс белую ружу «з пяшчотнай жаўцізной расстання» і верш, у якім той жа вобраз.

І як я пакінула ў аўдыторыі ружы, якія мне павінна была падараваць Інга Навіцкая. Паставіла ёй «добра». Вучаніца Алеся Мікалаевіча Белакоза, была адной з самых лепшых студэнтак, пазней стала выкладчыцай. «Добра» для яе было вельмі дрэнна. Не ведаю, што здарылася, але на простыя пытанні яна не магла на экзамене адказаць. І я вымушана была паставіць ёй не «5», пра што заўсёды шкадавала. Гэта быў урок мне. Дакладней, экзамен. З таго часу (быў яшчэ падобны выпадак, але без кветкаў) выдатнікі атрымлівалі ў мяне на экзаменах толькі «5», што зрабіла мяне ў вачох большасці выкладчыцай несправядлівай.

Інга, прыгажуня, разумніца, патрыётка, не пражыла і 30-ці. Спачывае на могілках у родных Гудзевічах.

Калі тых кветак было мора і раптам не стала зусім, бо — карупцыя! — мне, кветкавай жанчыне, стала вельмі некамфортна. На дзяржаўныя экзамены ездзіла з лецішча — майго кветкавага Раю. Ранкам зразала кветкі і прывозіла ў аўдыторыю. Ставіла букеты. Пакуль мой мілы, мой бедны загадчык кафедры не атрымаў чарговую вымову (А ў якім стылі! А якой лексікай! А з якой інтанацыяй!) з-за гэтай невыноснай Петрушкевіч, што дазваляе сабе — кветкі, і слёзна прасіў: «Не прыносьце!»

Але маю прагу прыгожага ўсё ж не перамаглі. Ранкам зразала адну кветку, прывозіла ў аўдыторыю і ставіла яе перад сабою ў маленькі пудэлак ад вітамінаў. А яшчэ ўпрыгожвала кветкамі валасы. Студэнты памятаюць...

Кветкавай кабеце не месца там, дзе забараняюць кветкі.

## Пальчаткі? Зняць!

Шаноўная Данута Янаўна сурочыла. Глядзіць на мае строі: карункавая сукенка, мехавы каптанік, карункавыя пальчаткі, у валасах кветка з вуалькаю над вачыма — і кажа: «Ты і на працу так ходзіш?» — «Так.» — «І ніхто нічога не кажа?» — «А хто што можа сказаць?»

Сказалі. «Вы і на лекцыю ў пальчатках пойдзеце?» — «Так. А што?» — «Сказалі зняць». — «Хто?» Якое цяжкае пытанне! Уголас на яго адказваць нельга. Можна толькі кіўнуць у накірунку, адкуль той нехта кіруе. Мне стала так смешна! На кафедру прыйшла смеючыся. І там дружна пасмяяліся. Вечарам мужа рассмяшыла. Ён адрэагаваў адпаведна: «А тваю карункавую бялізну зняць не загадалі?..»

Гэта жахліва: большасць гарадзенак ад дваццаці да васьмідзесяці апрануліся ў чорныя споднi і не вылазяць з іх ні зімой, ні летам. Толькі кашулі мяняюць. Нейкая жудасная ўніформа. Пра гэта і сваім студэнткам гаварыла, вучыла: будзьце прыгожымі! Але ніколі жанчынам у чорных споднях не сказала зняць іх. Што ж яны да маіх карункавых пальчаткаў мелі?

Кабеце не месца там, дзе забараняюць пальчаткі.

## Што ўсё ж баліць...

Студэнтка-завочніца здае залік па маім (не таму, што чытала, а таму, што распрацавала і таму што да мяне яго на беларускай філалогіі ніколі не было) курсе «Літаратурная Гарадзеншчына ў постацях і лёсах». Здае са спазненнем, адна. Здае экстэрнам, сесію прапусціла. Нярэдкая з'ява для завочнікаў: дзесьці працуюць, дзетак раджаюць... Вось жа, пытаю: «Назавіце імя самай знакамітай сучаснай гарадзенскай паэткі». Падказваю: апошнім часам выдала тры празаічныя кнігі. Адказ упэўнены: «Людміла Кебіч». — «Адкуль Вы гэта ўзялі?» — «Яна прыходзіла да нас у школу, і нам казалі, шо яна самая знакамітая. І прозу яна таксама піша». «А імя Данута Бічэль Вам нічога не кажа?» — «?..»

На адну мяне з сяброў СБП, хто расказваў пра Дануту Бічэль, Юрку Голуба, Едруся Мазько, Юрыя Гуменюка, Юрася

Пацюпу, хто праводзіў імпрэзы па творчасці гэтых паэтаў і вадзіў туды студэнтаў, ажно чатыры сябры кафедры — члены СПБ. Гульня з ад пачатку няроўным лікам. Але тыя студэнты, якія «прайшлі праз мае рукі», ведаюць, хто ў Гародні — Паэты. Зараз будуць ведаць іншых, правільных. Бо яны ўсюды: у школах, у музеях, у бібліятэках. І ў нашай ВНУ. А нас няма нідзе. За рэдкім выключэннем.

## «Я была такой шчаслівай!»

Мае студэнты ведаюць, чые гэта словы. Так, Марыі Апанасаўны Багдановіч. Яна, па сведчанні Адама Ягоравіча, сказала іх перад самай смерцю. Я разважала над імі многа разоў. Шторазу прыдумвала новыя тлумачэнні. Бо незразумеласць, а то і абсурднасць іхняя відавочная. Чаму, паміраючы, маладая жанчына, якая так кахала свайго мужа, пакідае яго і так кажа? Чаму маці, якая так любіла сваіх дзяцей (памятаеце: мела адзіны грэх: лічыла, што яе дзеці самыя лепшыя ў свеце), пакідае іх, такіх маленькіх, у гэтым страшным свеце і так кажа? Прыходзіла да высновы: столькі шчасця ёй было адмерана, што мо’ ліміт ягоны быў скончаны? І яна гэта адчула? Мо яна адчувала, што ўжо выканала вялікае наканаванне — нарадзіла Вялікага сына, выканала сваю місію мацярынства, дзякуючы чаму застанецца на гэтай зямлі назаўсёды? Пакуль будуць тут беларусы. А мо каб перагукнуліся гэтыя словы з развітальным Максімавым: «Я не самотны...», у якіх, на першы погляд, таксама незразумелае...

У маім жыцці шмат містычнага. Жыву пад зоркай Багдановіча. З дзяцінства. Мая мама, якая прывіла мне любоў да Багдановіча і да Марыі Апанасаўны таксама, пайшла з жыцця ў той жа дзень, што і маці паэта. Апошняе, што яна паспрабавала ў жыцці, — трускаўкі (кампот, бо была восень: «Пахнуць мне трускаўкі, прывязі кампот з іх»). Як і Максім. Не палічыце, спадзяюся, што параўнанні некарэктныя ці нясціплыя. Мо бясконца разважаючы над словамі Марыі Апанасаўны, рыхтавала сябе да гэтага, паверце, нечаканага і

для мяне самой, сыходу. Мо ліміт майго выкладчыцкага шчасця закончыўся? Бо ўсяму бывае канец.

Напісала пра гэта зусім не дзеля таго, каб хтосьці мяне шкадаваў. Шкадаваць трэба няшчасных. Тых, што маюць толькі ўладу. Бо без яе нічога з сябе не ўяўляюць. Таму і трымаюцца за яе, бедныя, аберуч, мёртвай хваткай, адзінае і апошняе жыццё на дарэмнае трацячы.

І тых, хто сысці не можа.
А я — была такой шчаслівай.
І гэта застанецца са мной назаўсёды.
Бо назаўсёды мае студэнты застануцца маімі.
І мой універсітэт — маім.

*P. S.* На адным з нашых сайтаў у згадцы пра вечарыну Едруся Мазько карэспандэнт напісаў: «Паэтка і выкладчыца...». Адгукнулася ў маім сэрцы смуткам. Перапытала, аспрэчыўшы без словаў. На што мая мілая каляжанка ўпэўнена заявіла: «Гэта ваш прыжыццёвы статус». Відаць, так...

І апошняе, ад Аліны Паўлоўскай:

Вы ёсць. І пэўна будзеце заўсёды.
Бо не існуе смерці ў свеце гэтым.
Маліцьмуся на зорку адзіноты,
Каб Вас спаткаць на вуліцы Паэтаў.

Ды памятаю заўсёды: вучань здрадзіў Настаўніку тройчы за адну ноч.

## ЗМЕСТ

## Раздзел III. Люблю Купалу і Багдановіча



## Раздзел IV. І маіх сяброў, якія высока

## Раздзел VI. І свет, далёкі і блізкі

*Літаратурна-мастацкае выданне*

Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў
«Кнігарня пісьменніка»

Выпуск 74

**Кеда** Альжбета

**Пра тое, што люблю**

*Кніга прозы*

Адказны за выпуск Генадзь Вінярскі
Рэдактары Алесь Пашкевіч, Барыс Пятровіч
Вёрстка Ларысы Гарадзецкай
Карэктура Віктара Іванова

Падпісана да друку 22.01.2016. Фармат 84х108 1/32.
Рызаграфія. Папера афсетная. Ум. друк. арк. 15,33.
Ул.-выд. арк. 10,83.
Наклад 150 ас. Зак. 26.

ПУП «Кнігазбор».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы,
распаўсюдніка друкаваных выданняў № 1/377 ад 27.06.2014.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
**Тэл./факс (017) 207-62-33, тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.**
E-mail: bkniha@tut.by

Надрукавана з арыгінала-макета заказчыка ў ААТ «Аргбуд».
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы,
распаўсюдніка друкаваных выданняў № 2/167 ад 1.10.2014.
Вул. Берасцянская, 16, 220034, Мінск.